# ЗМЕСТ Крыніца

Я

# Сімяон ПОЛАЦКІ



*Писах в начале по языку тому,*
*Иже свойственный бе моему дому*





*Пра Мяне:*

# Simeonus, Jeromonachus Polocensis

Незайздросная доля ў таго, хто сядзіць у астрозе А калі звініш кайданамі, не ведаючы за сабой аніякай правіны, трываць пакуты шматкроць цяжэй Тады агортвае роспач, і ў душы нараджаюцца вершы-малітвы

*Призри оком милости на мене скорбяща*
*От неправедна мужа клевету терпяща*
*Их же ум мой не мыслил, он на мя клевещет,*
*А душа в невинности от страха трепещет*
*Крови моея хощет, пагубы желает*

Радкі гэтыя напісаў Самуіл Гаўрылавіч Пятроўскі-Сітняновіч, што ўвайшоў у гісторыю як славуты беларускі і расейскі пісьменнік, асветнік і філосаф Сімяон Полацкі Напісаў, калі яго па даносе кагосьці са зласліўцаў кінулі ў 1659 годзе ў вязніцу на Верхнім замку.

Вязень меў трыццаць гадоў Бацькам ягоным быў заможны палачанін Сітняновіч, але потым хлопчыка выхоўваў айчым, які і даў яму другое прозвішча – Пятроўскі Дакументы полацкай рэвізіі сярэдзіны XVI стагоддзя сведчаць, што Пятроўскія здавён жылі недалёка ад Скарынаў і, пэўна, таксама належалі да купецкага саслоўя.

Навуку малы Самойла пачаў з брацкай школкі полацкага Богаяўленскага манастыра Тут выкладалі мовы – лацінскую, грэцкую і славянскую, арыфметыку, рыторыку,

*ЗМЯЯ*

*Усё, што толькі вока бачыць можа,*
*Стварыў ты ў прыклад чалавеку, Божа.*

*Змяю ты змусіў поўзаць па зямлі,*
*Каб мы Тваёю воляю жылі.*

*Не даў змяі, апроч зямлі, апоры –*
*І ў ёй атруты меней, чым пакоры.*

*Жыве ў зямлі і корміцца зямлёй,*
*Як той Давід – за зло ў душы сваёй.*

*Саўецца ў кола – кола вечнасць значыць,*
*Знак вечнасці відушчы дух убачыць.*

*Хай б'юць яе і топчуць, як траву,*
*Адно змяя хавае – галаву.*

*Сцярпець усім нам, што яна сцярпела:*
*За Госпада не пашкадуйма цела!*

*Пакораю суцішыўшы натуру,*
*Сама з сябе змяя здзірае скуру.*

*Так нам прайсці праз цеснату віны,*
*Садраць са скурай пыхі лахманы.*

*І помніць: не ўвайсці ў нябесны дом*
*Атручаным смяротнае грахом.*

*Пакуль табе апораю зямля –*
*І нізкім будзь, і мудрым, як змяя.*

*ПЕСЕНЬКА*
*ПРА СМЕРЦЬ*

*Створаны гожым, падобным да Бога,*
*Ты бесклапотны, хоць лёс твой – трывога,*
*Хоць ад агню табе, ветру, вады –*
*Шлях на клады.*

*Ты ў маладосці – ручай веснавокі,*
*Ну дык зірні, як пад корань высокі*

# ЖЫЦЦЁ І СМЕРЦЬ У «ВИРШАХ» СІМЯОНА ПОЛАЦКАГА

**У вечным жыцці, якое абяцае чалавеку хрысціянскае веравучэнне, смерць – толькі прамежкавы момант Прыкладна так ацэньваў яе шанаваны ў заходняй дагматыцы Платон: «Смерць бывае цяжкаю і гвалтоўнаю толькі тады, калі надыходзіць ад хваробаў і ранаў; калі ж яна ў згодзе з прыродаю завяршае старасць... дык адбываецца хутчэй з задавальненнем, чым з пакутаю». Прыкметны ўплыў Захаду адчуваецца і ў тым, як вырашае традыцыйную тэму смерці Сімяон Полацкі.**

**У свядомасці еўрапейцаў XV–XVII стагоддзяў, паводле французскага гісторыка Ф.Арыеса, сцвердзілася ўяўленне, што лёс кожнага чалавека вырашаецца на смяротным ложы, вакол якога на тагачасных гравюрах з аднаго боку збіраюцца боскія сілы, а з другога – сатана з дэманамі. Бог прысутнічае тут хутчэй у ролі назіральніка, бо ад таго, як паводзіць сябе паміраючы ў сваю апошнюю хвіліну, залежыць, дзе апынецца яго-**

*Краскі на беразе косіць каса –*
*Дзе іх краса?*

*Кедры з дубамі і гнуткія травы*
*Часу няўмольнаму стануць патравай,*
*Цвёрдасць і гнуткасць іх – хітрасць пустая.*
*Час іх хістае.*

*Ну дык каму ты паверыў, чаму ты*
*Да небасхілу вачыма прыкуты?*
*Перад табой прасціраецца дол.*
*Смерць – гэта доўг.*

*Доўг спаганяючы, Енах аднойчы*
*Божым пасланнікам з'явіцца ўночы,*
*Скажа, каб клункі не браў ты ў дарогу, –*
*Што яны Богу!*

*З біскупаў ты, ці з паноў, ці з найпростых,*
*Нізкага ты, ці высокага росту,*
*Быў ты на троне, ці трону пабліз, –*
*Ты локці ўніз.*

*Роўна ўсіх мерае смерць, пад лапату.*
*Тая ж зямля каралю і салдату,*
*Той жа канец і ў канцы той жа знак –*
*Той жа чарвяк.*

*Скарбы сабраў ты, схаваў пад замкі?*
*Больш ты займеў хіба, чым жабракі?*
*Кучаю – скіпетры, мітры, кароны.*
*Кружаць вароны.*

*Сталіся роўнымі блазен і цар,*
*Кожнаму несці свой крыж, свой цяжар.*
*Кучаю – косці, і розняцца косці*
*Толькі па злосці.*

*Грэшных, святых – ад уцех і пакут*
*Бог прызаве на таемны свой Суд,*
*Дасць незалежна ад звання і роду*
*Узнагароду.*

*Там, на Судзе, ты паўторыш нанова*
*Кожную думку і кожнае слова,*
*Кожная справа паўторанай будзе –*
*Бойцеся, людзі!*

спевы. Побач ужо паўстагоддзя стаяў езуіцкі калегіум, куды прымалі і праваслаўных. Езуіты вучылі добра, прычым задарма Але Пятроўскія моцна трымаліся дзедаўскай веры і выправілі сына вучыцца ажно на Украіну, у Кіева-Магілянскую калегію Праваслаўныя лічылі яе найлепшай навучальнай установаю ва ўсёй дзяржаве і з гэтае прычыны называлі кіеўскімі Афінамі Там Самуіл вывучаў сем вольных мастацтваў, багаслоўе, мовы (да школьнага пераліку дадалася яшчэ і польская). На занятках па лаціне полацкі шкаляр быў выдатнікам, старажытнагрэцкая давалася цяжка

Рэктар калегіі прафесар Інакенці Гізэль, які здабываў асвету ў ангельскіх універсітэтах, чытаў студэнтам курс лекцый па натурфіласофіі Ён здагадваўся пра закон захавання матэрыі і энергіі, што пазней сфармулююць Лавуаз'е і Ламаносаў Самуіл Пятроўскі занатоўваў у канспекце, што «матэрыя існуе ў аднолькавай колькасці і аднаго віду ў целе дрэва, а потым у целе агню, які ўзнік з гэтага дрэва» Гізэль прытрымліваўся рэнесансавай думкі, што творца не адзін – іх тры· Бог, прырода і мастацтва

Наш зямляк слухаў на лекцыях такія, напрыклад, крамольныя разважанні «Шмат хто з філосафаў называе прычынаю руху зорак, а таксама марскіх прыліваў і адліваў дзеянні анёлаў Так вырашаць праблему сапраўды лёгка, але філосафу – сорамна». Рызыкуючы наклікаць на сябе гнеў багасловаў, рэктар нёс выхаванцам ідэі Каперніка «Сонца – планета, якая знаходзіцца ў цэнтры іншых планет і як бы ўзвышаецца на каралеўскім троне, уліваючы сваю сілу ў зменлівую прыроду».

У Кіеве пасталела паэтычная муза нашага суайчынніка 1648 годам пазначаныя першыя яго творы, якія захаваліся да нашых дзён – «Акафіст» і «Канон» Па іх ужо адчуваецца· на беларускую зямлю прыйшоў Паэт

Як шмат хто з выпускнікоў «Афінаў», ён паступіў у Віленскі універсітэт Маючы ахвоту, у Архіве старажытных актаў у Маскве можна пагартаць напісаныя на лаціне ўласнаручныя канспекты полацкага студэнта па розных навучальных курсах· «Багаслоўскія разважанні», «Палемічнае багаслоўе», «Разважанні Фамы Аквінскага» Рыторыку выкладаў вучоны з еўрапейскаю вядомасцю Жыгімонт Лаўксмін, курсы паэтыкі і антычнае культуры грунтаваліся на працах бліскучага новалацінскага паэта Мацея Казіміра

ная душа. у раі ці ў пекле[1]. З пункту гледжання Сімяона Полацкага, разважанні пра смерць дапамагаюць маральнаму ўдасканаленню «жития». (Адметным з'яўляецца знікненне смерці з карціны эмацыянальнага жыцця сучаснага грамадства. Смерць, зрабіўшыся табу, заняла месца табуіраванага ў сярэднявеччы сексу.)

Сярэднявечны чалавек глядзеў на смерць як на пераход у новую якасць існавання, вызваленне ад улады гэтага свету. Баяліся смерці іншай, пра якую апавядалася ў Апакаліпсісе, – знішчэння асобы на Страшным Судзе. Такая пазіцыя тагачаснага хрысціянства пярэчыць адроджанаму сёння паганскаму прынцыпу – «пра мёртвых або добра, або нічога», які бярэ свой пачатак у дахрысціянскай Грэцыі. (Вядомы закон Салона, які забараняў няславіць нябожчыкаў.)

Яшчэ ў Полацку Сімяон складае па-польску «Песеньку пра смерць», а ва ўкладзеную асветнікам у Маскве вершаваную энцыклапедыю «Вертоград многоцветный» уваходзіць яго ная нізка «Смерць» з пятнаццаці вершаў Найбольш глыбокае ўвасабленне смерці чытач сустракае ў творы пад назваю «Френы, или плачи на смерть царицы Марии Ильиничны».

Менавіта ў XVI XVII стагоддзях па Русі шырока разыходзіцца перакладзены з нямецкай літаратурны помнік «Прение Живота со Смертью», дзе паміж жыццём і смерцю адбываецца напружаны дыялог Ва ўсіх рэдакцыях «Прения» згадваецца, што душа «искочи от тела, яко птица от тенета». Гаворка ідзе пра смерць праведную: душу-птушку «краснии юноши взяша на руку свою и держаста»[2]. Цела – гэта толькі турма, «червей снедь і смрад»,





Сарбеўскага, які чытаў лекцыі і ў полацкім калегіуме. На той час Самуіл, апрача роднай беларускай, ужо настолькі дасканала авалодаў лацінай, царкоўнаславянскай і польскай мовамі, што пісаў на ўсіх чатырох вершы

Адукаваны палачанін зрабіўся прыхільнікам мірнага паяднання хрысціянскіх цэркваў Гэта прывяло яго ў грэка-каталіцкі ордэн базыльянаў. Вернасць Уніі ён пранёс праз усё жыццё Нават у праваслаўнай Маскве свае кнігі ён падпісваў поўным тытулам базыльянскага манаха (праўда, на лаціне, якую ў расейскай сталіцы амаль ніхто не разумеў) Адна з іх мае, напрыклад, такі надпіс: «Ex libris Simeonis Piotrowski Sitnianowicz Jeromonachi Polocensis Ordinis Sancti Basilii Magni Anno Domini 1670 Augusti 26 Moscovie» У перакладзе гэта значыць. «З кніг Сімяона Пятроўскага-Сітняновіча, полацкага іераманаха ордэна святога Васіля Вялікага Году Гасподняга 1670, 26 жніўня ў Маскве» Аўтограф закрэслівае спробы абвясціць знакамітага палачаніна праваслаўным

Чуючы ў сабе магутныя сілы, ён марыў прысвяціць жыццё літаратурным і навуковым заняткам Час не надта спрыяў Вайна Рэчы Паспалітай з Масковіяй не дала давучыцца. Летам 1655 года Самуіл стаўся сведкам штурму Вільні войскамі царскага ваяводы Чаркаскага і казацкага атамана Залатарэнкі. Царскія стральцы і казакі рабавалі храмы: здымалі званы, абдзіралі з абразоў каштоўныя аправы, нішчылі арганы. У кляштарах гвалцілі і забівалі манашак, выкідвалі з дамавінаў мерцвякоў Касцёл святога Міхала ўбачыў разбурэнне магілы канцлера Льва Сапегі. Заадно спалілі і праваслаўную царкву за Вострай Брамай Палова віленцаў загінула, астатнія ратаваліся, хто дзе мог

Самуіл падаўся ў Полацк.

Родны горад сустрэў нядаўнімі пажарышчамі і ліпучымі падазронымі паглядамі маскоўскіх стральцоў. Падарожнік палічыў, што самы надзейны прыстанак у такі час – сцены Божай цвярдыні Ігуменам Богаяўленскага манастыра над Дзвіною быў знаёмы па Кіеве прафесар вольных мастацтваў і таксама паэт Ігнат Іяўлевіч З яго прапановы Самуіл прыняў постryг і стаў Сімяонам

Выкладаў у брацкай школе, дзе некалі вучыўся, стварыў там тэатр, пісаў для яго п'есы Але галоўным захапленнем настаўніка-дыдаскала была паэзія. У манастыры

*Хай ты спасціг красамоўства законы,*
*Ці авалодаў навукай Платона,*
*Не дапамогуць мядовыя словы –*
*Суд канчатковы.*

*Лекар, які нас за грошы ўрачуе,*
*Марна хітруе, бо смерці не чуе,*
*Што, як змяя, падпаўзае да ног...*
*Сам сабе ён памог?*

*Дойліду, што ўсё ўзвышае палацы,*
*Не па такой бы патрэбе старацца,*
*А той дамок, у якім парахнець,*
*Зладзіць паспець.*

*Музы з Парнаса, гарэзы Камены,*
*Перапішыце свой плач на камені,*
*Каб вашы вучні пра смерць не забылі –*
*Богу служылі.*

*Жыў ты ў раскошы, душыўся грашыма?*
*Смерць не падкупіш, каб рушыла міма.*
*Суд справядлівы: займееш за грошы*
*Труп у раскошы.*

*Помні, жывы, што не вечна жывеш,*
*Што даясі, дагуляеш, дап'еш.*
*Станеш іржою, калі ты жалезны.*
*Суд непазбежны.*

*Ночы і дні, як за хвалямі хвалі.*
*Ранкам прачнешся: цябе пахавалі.*
*Дзень не настане з Боскае волі*
*Болей ніколі.*

*З Богам жыві, пакуль час не праб'е,*
*І ў порт нябесны душу не прыб'е*
*Хваля, што з бездані ўстане марской, –*
*Вечны спакой.*

*Дай нам, Хрыстос, зведаць змены і звівы*
*Свету, які мы пакінем шчасліва.*
*Толькі ў нябёсах Ты нас не пакінь,*
*Амінь.*

**Перастварыў**
**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ.**

часовы прытулак, вызваліўшыся з якога, душа атрымае вечнае жыццё: «не тело бо есть добро, но здание и цвет, иже от души шоры налагаются существу. Люби убо ону»[3]

Смерць цара Аляксея Міхайлавіча як бы «справакавала» два арыгінальныя літаратурныя творы, створаныя найвыдатнейшымі пісьменнікамі таго часу, якія ўзначальвалі супроцьлеглыя партыі. Адзін з іх за гэты твор заплаціў жыццём, другому ён прынёс вялікую славу.

Аўтары – пратапоп Авакум і Сімяон Полацкі.

Першы напісаў з ссылкі маладому цару Фёдару Аляксеевічу ліст, у якім з уласцівым яму тэмпераментам маляваў пакуты, якія церпіць у пекле царнябожчык Аляксей Міхайлавіч за падтрымку новаўвядзенняў патрыярха Нікана і пераслед стараабрадцаў Паводле Авакума, Нікан і гасудар Аляксей – непасрэдныя папярэднікі Антыхрыста. Пратапоп апавядаў, як да цара перад сконам прыходзяць пакараныя смерцю салавецкія старцы і «намелко» піляць «составы» яго цела. Неўзабаве пасля гэтага ліста духоўны правадыр расколу быў спалены жывым «за великия на царский дом хулы».

У тым самым 1676 годзе Сімяон піша манументальны вершаваны твор «Глас последний ко господу Богу царя Алексея Михайловича», дзе ад імя памерлага расейскага цара разгортвае перад сынам-спадкаемцам вялізную грунтоўна прадуманую праграму дзяржаўнай, грамадскай і асветніцкай дзейнасці (уключаючы, напрыклад, нават выдавецкую справу).

Зямное жыццё сваіх чытачоў Полацкі заўсёды імкнуўся падняць да «жития», запрашаючы



Псалтыр, Сімяонам Полацкім у вершы перакладзеная, яму (*Ламаносаву.*– Рэд.) адкрыла ў ім таемства прыроды, паказала, што і ён вершатворца.

Аляксандр Радзішчаў

Паэзія для яго была не забаваю, а сур'ёзнай і важнай справаю, якая служыла яму пастаянным сродкам асветніцтва ў даступнай для ўсіх форме. У Маскве пачаўся новы этап жыцця і дзейнасці Сімяона Полацкага, прыдворнага настаўніка, энергічнага царкоўнага дзеяча, пладавітага пісьменніка, асновапаложніка новых жанраў у старажытнай рускай літаратуры – паэзіі і драматургіі.

Аляксандр Коршунаў

Таленавіты паэт, гуманіст і асветнік, Полацкі з'яўляецца найбольш значным культурным дзеячам усходніх славян XVII стагоддзя.

Прыходзіцца толькі здзіўляцца таму, колькі мужнасці і сілы волі праявіў Сімяон Полацкі ў Маскве, калі ўпарта і паслядоўна вёў барацьбу з рэакцыйным лагерам, так званай «грэчаскай школай», якую ўзначальваў патрыярх Іакім. Полацкі, па сутнасці, стаў у Маскве арганізатарам і кіраўніком школы «лацціннікаў», людзей, якія глядзелі на свет вачыма не фанатычных царкоўнікаў, а прызнавалі значэнне свецкіх навук, былі за збліжэнне Расіі з Захадам.

Мікола Прашковіч

склаўся цэлы гурт таленавітых паэтаў Сам ігумен, іераманах Філафей Утчыцкі, выхаванец брацкай школы Васіль Яновіч і Сава Капусцін Манаства вызваляла ад матэрыяльных клопатаў, а ўадначас і ад абавязкаў перад сям'ёй і дзяржаваю Наконт шкоды свецкага жыцця для паэта і вучонага Сімяон выказаўся так.

*Ибо не будет мощно с книгами сидети,*
*Удалит от них жена, удалят и дети*
*Препятствие мудрости женитву вещает,*
*Ей неудобно книги довольно читати,*
*И хотение жены в доме исполняти*

Хутка надарылася магчымасць паказаць свой паэтычны дар самому цару. Дванаццаць вучняў маладога дыдаскала выступілі перад Аляксеем Міхайлавічам з чытаннем твора пад даўжэзнаю, сапраўды «мятроваю» назвай «Метры на пришествие во град отчистый Полоцк пресветлого благочестивого и христолюбивого государя царя и великого князя Алексия Михайловича, всея Великия и Малыя и Белыя России самодержцы и иных царств, и князств, и государств обладателя от отроков, знайдуючыхся во училище при церкве святых богоявлених монастыря брацкого полоцкого мовеные при привитаню пресветлого его царского величества, а наготованные през господинов отцов и братию тоеиж святой обители в лето от создания мира 7164, а от воплощения Божьего Слова 1656 месяца июля, 5 дня»

Хлопчыкі старанна дэкламавалі.

*Веселися, о царю пресветлый з востока,*
*Россом светячий светом от Бозкаго ока*

Гэтыя «Метры» Сімяон складаў у сааўтарстве з ігуменам і з Філафеем Утчыцкім, аднак на колькі дзён раней ён прымудрыўся з'ездзіць у Віцебск, дзе шкаляры чыталі цару яшчэ адны «Метры», ягоныя ўласныя

*Витаем тя, православный царю, праведное солнце,*
*Здавно бо век прагнули тебе души наши и сердце.*
*Витаем тя, царю, от востока к нам пришедшего.*
*Белорусский же от нужды народ весь освобождашаго.*

**іх да чытання, якое ён у традыцыях сусветнае культуры параўноўваў з працэсам яды – «съедания» кнігі і слова. У зборніку «Обед душевный» ён пісаў: «...ты, благочестивый читателю, приими любезно обед сей простоуготованный и яждь, здрав, во спасение ти душевное. Яждь, взимая рукама ума твоего, прежувай зубами разсуждения и поглощай в стомах памяти твоея и будет ти во ползу»[4].**

**Згодна са сведчаннямі сучаснікаў, шмат каму з «проетейших» рускіх людзей зборнікі казаняў «Обед душевный» і «Вечеря душевная» Сімяона Полацкага, выдадзеныя ў заснаванай ім Верхняй друкарні ўжо яго вучнем Сільвестрам Мядзведзевым, аказаліся не па зубах, хоць узоры Сімяонавага красамоўства высока цанілі звыклыя да схаластычна адукаваных прапаведнікаў, праваслаўныя воіны-запарожцы.<...>**

**Сімяон Полацкі падводзіў сваіх венцаносных слухачоў і чытачоў да разумення марнасці і бясследнасці жыцця, не пазначанага дабрачыннымі клопатамі пра асвету і будучыя пакаленні. Філосаф казаў пра туннасць зямной велічы і славы: «Где Александр пресильный, Криз богатый, Ир убогий, Демокрит, обругатель мира, Ираклит, оплакатель суетств его? Где Иулий премощный кесарь, Нерон мучитель, Аристотель любомудрейший, Демосфин, сладкоглаголивейший? Вси аки не бывше...»[5]**

**Асветнік супрацьпастаўляе сціпласць Хрыста пыхлівасці зямных валадароў. У адной з казаняў «Обеда душевного» ён адмыслова спыняецца на трыумфах вялікіх цароў: успамінае Кесара на калясніцы з запрэжкаю з сарака сланоў, Марка**





Для сяго-таго з сучасных гісторыкаў такія радочкі, вядома, знаходка. Цытуючы іх, яны захлынаюцца ад захаплення і заводзяць старую песню пра адвечнае імкненне беларусаў да ўз'яднання з братняю Руссю. Ды не будзем забывацца, што базыльянін Сімяон жыў у часы крывавага патопу і цудоўна ведаў, як цар і ягонае войска вызвалялі «от нужды народ весь» Крыніцаю звернутых да маскоўскага валадара вершаў было не натхненне, а . выдадзены на паўстагоддзя раней «Прасфонім», дзе такія самыя параўнанні адрасаваліся кіеўскаму мітрапаліту. Карацей кажучы, наш зямляк пісаў вітанні цару без творчага перанапружання.

Чаго ж тады Сімяон займаўся славаслоўем? Па-першае, трэба было спрыяць манастыру, што даў яму прытулак. Па-другое – і гэта галоўнае як чалавек разумны і праніклівы, ён шукаў мецэната, пад абаронаю якога ў тую жорсткую эпоху мог бы адносна спакойна служыць сваёй музе

*Видите меня, как я муж отраден.*
*Возрастом велик и умом изряден.*
*Ума излишком, аж негде девати,*
*Купи, кто хочет, а я рад продати.*

Паэт празмерна сціплы. Ён разумеў: знайсці такога апекуна ў тагачаснай Рэчы Паспалітай амаль немагчыма, і спадзяваўся, што пакупцом будзе не «кто хочет», а расейскі цар Тут наш суайчыннік быў паслядоўнікам славутага Макіявелі мэта апраўдвае сродкі.

Аляксей Міхайлавіч атрымліваў з Полацка новыя і новыя творы, тым больш, вялікіх намаганняў яны ад Сімяона не вымагалі Душу Сімяон адводзіў, пішучы вершаваную калядную драму «Беседы пастуския» Шчырасцю дыхаюць і радкі малітвы да святой Еўфрасінні Полацкай, якую паэт просіць хутчэй вярнуць вывезены ў Маскву цудадзейны абраз Багародзіцы.

А потым ягонымі героямі зноў рабіліся то маскоўскі патрыярх Нікан, то пастаўлены ім у абход царкоўных законаў (беларускія землі былі пад эгідаю патрыярха канстанцінопальскага) епіскап полацкі Каліст.

*Лобзаем тебе пастыру, нам об Бога даны,*
*От царя праваславна на сей сан избраны*

Сімяон Полацкі жыў і працаваў у эпоху, якая называецца «пераходнай». XVII стагоддзе спарадзіла ашаламляльную шматстайнасць артыстычных формаў, жанраў, стыляў, хоць тут ужо пачыналі праглядацца і дамінанты: напрыклад, у мастацтве Францыі галоўную ролю ўжо выконваў класіцызм, а ў Італіі, Нямеччыне, Польшчы і на Украіне прыярытэт у значнай меры належаў барока. У культуры Беларусі ў гэты час вельмі складана перапляталіся старажытныя традыцыі і новыя павевы... Тым большую значнасць у гэты перыяд барацьбы беларусаў за сваю самабытнасць набываюць людзі кшталту Сімяона, чыя творчасць – пры ўсёй яе чуйнасці да шмат якіх свецкіх матываў сучаснай пісьменніку польскай літаратуры, а таксама літаратуры схаластычнай, якую актыўна развівалі езуіты,– не ўпісваецца ў рэчышча эпігонскага «класічнага» барока.

Творчасць Сімяона Полацкага была неардынарнай, выдатнай культурнаю з'явай. Яна прыкметна паўздзейнічала на беларускую, рускую і часткова ўкраінскую літаратуру XVII – першай паловы XVIII стагоддзяў. Кнігі Сімяона Полацкага не засталіся незаўважанымі і паўднёваславянскімі пісьменнікамі XVIII і XIX стагоддзяў...

Сімяон садзейнічаў станаўленню нават не толькі ўласнай літаратурнай школы, а цэлага літаратурнага накірунку, які, паводле слоў акадэміка Д.С. Ліхачова, узяў на сябе функцыю «своесасаблівага рускага Адраджэння».

Віктор Былінін
Лола Званарова

**Антонія на львах, Аўрэліяна на аленях, егіпецкага цара Сесостра, чыю калясніцу везлі чатыры каранаваныя цары-нявольнікі.**

**Сімяон нагадвае чытачам, што да духоўнага адраджэння кожны прыходзіць праз пакуты і смерць, трагічнасць якой перамагае вера ў непазбежнае ўваскрасенне і вечнае жыццё. Таму, пераконваў ён, хрысціянін павінен пазбавіцца страху смерці: «Не страшит запад, яко восток прииде свыше»[6]. Але трагічнае знікае толькі ў трансцэндэнтным боскім свеце абсалютнае свабоды.<...>**

**«Вирши» і казані асветніка пераконваюць, што ў светапоглядзе выдатнага палачаніна спалучаліся сярэднявечны маральны рытарызм і рэнесансавы эстэтызм, энцыклапедычная вучонасць гуманіста і еўрапейская неасхаластычная філасофія «накладваліся» на каноны славяна-візантыйскага праваслаўя, а традыцыйная для славяна-беларускага менталітэту арыентацыя на прыярытэт агульнанародных інтарэсаў (згадайма тэзіс Францішка Скарыны пра грамадскую карысць) дапаўнялася напружаным адчуваннем каштоўнасці чалавечай асобы і зямнога быцця.**

**Лола ЗВАНАРОВА**

---

[1] Аросев А.Я. Реферат кн.. Ариес Ф. Человек перед лицом смерти// Идеология феодального общества в Западной Европе: проблемы культурных и социокультурных представлений Средневековья в современной зарубежной историографии. М., 1980. С. 181.

[2] Прения о жизни и смерти. С. 146, 157, 168. Цит. по: Елеонская А.С. Русская публицистика 2-й пол. XVII в. М., 1978. С. 196.

[3] Иоан Златоуст Беседы на евангелиста Матфея. М., 1664. Л. 428.

[4] Симеон Полоцкий. Обед душевный. М., 1681. Л.8.

[5] Прибавление к «Вечери душевной». М., 1683. «Слово на погребение честныя жены». Л. 125 об.

[6] Симеон Полоцкий. Обед душевный. Л.402.

*Тебе пастырем овец своим познаваем*
*И пастырску гласу твойму послушаем.*

Можна абурацца з непераборлівасці Сімяонавай музы, але, учытаўшыся, успрымаеш верш як з едлівую іронію Асабліва, калі ведаеш, што пазней паэт пісаў пра незаконнага ўладыку· «Гэты агіднік і п'яніца быў вялікі хабарнік, а не пастыр За то і пакараны 15 лютага 1663 года ўначы, з нядзелі на панядзелак, сорамна павесіўся»

Пэўна, тую іронію пачуў і сам епіскап. А мо ён проста зайздросціў манаху Сімяону, як ва ўсе часы нікчэмнасць зайздросціць вольнаму таленту Якраз услаўлены паэтам уладыка Каліст і прызначыў яму за нейкую правіну ганебнае пакаранне ў выглядзе працы ў хляве, а потым, скарыстаўшыся з даносу, пасадзіў у турэмную камору Нібы небяспечных злачынцаў, паэта і яшчэ пяцярых настаўнікаў брацкай школы вяла на Верхні замак варта з пяцідзесяці чужынскіх стральцоў Мо якраз тады ён і наважыўся ехаць у Маскву.

Зрэшты, да ад'езду падштурхоўвалі і іншыя падзеі Іяўлевіч, настаўнік і заступнік, ужо не быў ігуменам Раней ці пазней маскоўскія войскі пакінуць горад. Ніхто тады не будзе разбірацца, шчыра ці не пісаў ён прывітальныя вершы цару і патрыярху І яшчэ – няміласць праваслаўнага ўладыкі .

Увесну 1664 года Сімяон апошні раз глянуў з прыдарожнага пагорка на Полацк.

*Что я стяжу в дому? Что изучуся?*
*Лучше в странствии умом обогачуся.*

Разам з ім у Масковію ехалі маці і пляменнік. Таго самага года ён пісаў у лісце да сябра, што, як толькі дазволяць абставіны, вернецца на радзіму Лёс, аднак, вырашыў па-свойму· паэт развітаўся з родным горадам назаўсёды

Цар не забыўся на таго, хто калісьці лагодзіў ягоны слых мілагучнымі вершамі Сімяон (у Маскве ён пачаў падпісвацца Полацкім) адразу атрымаў адказнае даручэнне· стварыць у Заіконаспасаўскім манастыры лацінскую школу для царскіх людзей з Прыказа таемных спраў Выпускнікі школы паехалі з галавой Пасольскага прыказа баярынам Ардыным-Нашчокіным з дыпламатычнай місіяй у Курляндыю Так наш зямляк прыклаў руку і да развіцця расейскае разведкі

Ён ахвотна карыстаўся запрашэннем з'яўляцца ў царскі палац з любога ўрачыстага выпадку. Калі нарадзіўся царэвіч Сімяон, паэт паднёс усцешанаму бацьку свайго цёзкі нешта нябачанае дагэтуль ні царом, ні прыдворнымі· віншаванні мелі форму крыжа, васьміканцовае зоркі, ромба, сэрца, стужкі серпанціну Менавіта Сімяон Полацкі стаў у расейскай паэзіі пачынальнікам эксперыментаў з фігурнымі вершамі

Частыя сустрэчы вучонага палачаніна з царом не пайшлі марна На царкоўным саборы, што судзіў патрыярха Нікана і разглядаў пытанне пра раскольнікаў, Сімяон быў сакратаром і перакладчыкам двух усяленскіх патрыярхаў – александрыйскага і антыахійскага Выконваючы іх волю, ён напісаў трактат «Жезл правления», накіраваны супроць правадыроў расколу З адным з іх, вядомым пратапопам Авакумам, Полацкі меў па царовай просьбе гутарку

# «ПАМІЖ АДУКАВАНАСЦЮ І НЕВУЦТВАМ»

**Сімяон Полацкі. Гэтае прозвішча належыць не толькі першаму ў Расеі пісьменніку-прафесіяналу, але і першаму ў рускай літаратуры пісьменніку, чыё імя набыло міжнародную еўрапейскую вядомасць.**

**Выдатны ангельскі (оксфардскі) лінгвіст-галандзец Г.-В. Лудольф, які напісаў і надрукаваў першую ў Заходняй Еўропе «Рускую граматыку» (Оксфард, 1696), у прадмове да гэтай працы паведаміў адукаваным еўрапейцам пра з'яўленне ў Расеі першага пісьменніка, «манаха Сімяона», які пераклаў славянскімі вершамі Псалмы Давіда і выдаў іх, як і «шмат якія іншыя багаслоўскія кнігі». <...>**

**Крыху раней за Лудольфа жыхарам Заходняй Еўропы расказаў пра Сімяона Полацкага курляндскі Якуб Рэйтэнфельс, які таксама наведаў Маскву, дзе асабіста пазнаёміўся з пісьменнікам. У Італіі падарожнік**





Гэта была сустрэча двух выдатных асобаў эпохі і двух антыподаў, людзей з супрацьлеглымі поглядамі і жыццёвымі мэтамі

Пратапоп – рэлігійны бунтар, які хоча захаваць не сапсаваную адукацыяй маскоўскую старасвеччыну, «простоту души». Ён зняважліва казаў пра цара, што той «в жизни, яко козел, скача по холмам, ветер гоня» Выяўляючы не самыя лепшыя рысы расейскае натуры, ён пісаў, што «Христос не учил нас диалектики, а ни красноречия, потому что ритор и философ не может быть христианин Нынешних мы философов наречем разве песьими сынами» Сімяон – прыхільнік асвечанага абсалютызму Ён лічыць неабходным падымаць культуру расейскага народа, бо чым вышэй культура, тым вышэй чалавечая маральнасць. Нядзіва, што ён назваў Авакума невукам – «Се не умеет науки». А пратапоп пасля сустрэчы з ненавісным «лацціннікам» запісаў· «Зело было стязания много· разошлись яко пьяни, не мог и поесть после крику»

Яшчэ больш умацавалася становішча Полацкага, калі ў 1667 годзе яго прызначылі выхавальнікам і настаўнікам царскіх дзяцей Ён асабіста вучыў спадкаемцаў трона царэвічаў Аляксея ды Фёдара і царэўну Соф'ю, а таксама наглядаў за выхаваннем царэвіча Пятра. Палачаніну даручылі праэкзаменаваць дзяка Мікіту Зотава, каб высветліць, ці здатны той быць настаўнікам будучага расейскага імператара Для васьмігадовага Пятра Сімяон Полацкі выдаў лемантар з уласнай вершаванаю прадмовай Пра ролю Полацкага пры двары кажа апісанне аднаго з царскіх абедаў Вучоны манах сядзеў на ганаровым месцы недалёка ад Аляксея Міхайлавіча, бацькі дванаццаці дзяцей, якія пашанотліва называлі айца Сімяона настаўнікам Таемны базыльянін і ў Маскве імкнуўся служыць галоўнай мэце свайго ордэна – выхаванню і адукацыі моладзі.

Хоць паэт і вучоны быў пад абаронаю цароў – спачатку Аляксея, а потым свайго гадаванца Фёдара Аляксеевіча, – жылося яму ў Маскве зусім не соладка. Апрача канфлікту з патрыярхам Іаакімам Полацкага прыгняталі жорсткія маскоўскія парадкі У Рэчы Паспалітай барацьба рэлігійных плыняў ішла звычайна ў выглядзе літаратурнай палемікі і багаслоўскіх дыспутаў У Масковіі – каб не казалі ерасі – людзям выразалі языкі На вачах у Сімяона загінуў на вогнішчы вучань пратапопа Авакума, таксама таленавіты літаратар Аўраамій Пасля маскоўскага Меднага бунту сем тысяч чалавек пазбавіліся галоваў, а пятнаццаці тысячам адсеклі руку ці нагу. У Трубчэўскім манастыры стральцы закатавалі Сімяонава брата іераманаха Ісакія. Паэт у чалабітнай патрыярху з глыбокім смуткам пісаў, што гаротніка «били убийством смертным не вестимо, за какову вину, и покинули его за мертва. А за непризрением игумена Нектария без исповедания и причастия божественных тайн отошел из света сего»

Але і ў той задушлівай атмасферы палачанін мужна і аддана служыў богу асветы Ён стаў першым у Расеі прафесійным пісьменнікам Ён перакладаў з лацінскай ды польскай моваў і літаратурна апрацоўваў царкоўныя і свецкія творы, удзельнічаў у падрыхтоўцы поўнага перакладу расейскае Бібліі Ён адчыніў «в царских хоромах, против нижней стряпчей избы» сваю, незалежную ад патрыярхавай цэнзуры друкарню, першай кнігаю якой быў «Букварь языка славенскагa, сиречь начало учения детем хотящым учитися чтению писаний» (У друкарні працавалі аршанскія майстры, вывезеныя з Куцеінскага

**напісаў пра Масковію вялікую кнігу, выдадзеную спачатку на лаціне ў Падуі, а потым па-нямецку ў Нюрнбергу. Сярод сваіх маскоўскіх уражанняў Рэйтэнфельс з павагаю адзначаў, што «пісьменнік – манах Базыльянскага ордена, імем Сімяон, у высокай ступені поўны лацінскае вучонасці»[1] Прыналежнасць да гэтага манаскага ордэну, якую Полацкі не хаваў ад свайго замежнага суразмоўніка, але мусіў старанна хаваць ад рускіх, у тыя часы, каб пра гэта даведаліся, пагражала б у лепшым разе высылкаю куды-небудзь на Салаўкі. <...>**

**Сімяонава жыццё было поўнае калізіяў, кантрастаў і кампрамісаў, што адпавядала яго характару і тэмпераменту, працавітасці і кар'ерызму, а таксама заканамерна абумоўлівалася яго прыродным становішчам паміж еўрапейскім Захадам і Усходам, паміж каталіцызмам і праваслаўем, паміж адукаванасцю і невуцтвам, паміж беднасцю і багаццем. <...>**

**Літаратурнае барока на Захадзе, ва ўмовах Контррэфармацыі, паводле самой сваёй сутнасці, цалкам служыла ахове «ўсяленскай» царквы, г.зн. каталіцызму, ад усіх яе рэфармантаў і праціўнікаў. Гістарычныя абставіны склаліся ў Расеі так, што і тут у сярэдзіне XVII стагоддзя ў сувязі з ніканаўскай рэформай дзяржаўнай царквы найгалоўнейшай задачаю ўрадавай палітыкі стала змаганне з рухам «расколу», які паўстаў супраць ніканіанцаў. На**

[1] Рейтенфельс Яков. Сказания светлейшему герцогу Тосканскому Козьме Третьему о Московии. Падуя, 1680 //С лат пер. Алексей Станкевич. М., 1905. С. 160. У лацінскім выданні пра рэлігійную прыналежнасць Сімяона сказана: «guidem Basilianus», у нямецкім: «ein Basilianischer Mönch» (Нюрнберг, 1687 S. 209).

манастыра.) Ён напісаў праект першай у Расеі найвышэйшай навучальнай установы, паводле якога потым стваралася маскоўская Славяна-грэка-лацінская акадэмія. Яе студэнт Міхайла Ламаносаў па Сімяонавых творах упершыню пазнаёміўся з вершаскладаннем.

Полацкі стаяў ля вытокаў першага ў Расеі тэатра, створанага ў 1672 годзе пры двары Аляксея Міхайлавіча У трупу набралі дваццаць шэсць юнакоў і дзяўчат – амаль усе беларусы з Мяшчанскае слабады

Педагагічных, выдавецкіх ды іншых асветніцкіх клопатаў у Сімяона было, як кажуць, пад завязку, але, як сапраўдны паэт, ён жыў найперш творчасцю Ягоны маскоўскі вучань і сябра Сільвестр Мядзведзеў захапляўся працавітасцю настаўніка ў такіх словах: «На всякий день име залог писати в полдесть по полу тетради, а писание его бе зело мелко и уписисто». Інакш кажучы, Сімяон штодня пісаў дробным почыркам восем старонак – вершы, п'есы, прамоўніцкую прозу. Толькі паэтычная яго спадчына налічвае больш за пяцьдзесят тысяч радкоў

Наш суайчыннік стварыў велізарны і непаўторны свет, падарожнічаць па якім цікава ды пазнавальна Адзін з найбольш адукаваных людзей стагоддзя і, несумненна, самы адукаваны ў Масковіі, ён лічыў абавязкам несці людзям веды і ў літаратурных творах У яго ёсць вершаваная мінералогія, адкуль можна даведацца пра ўласцівасці магніту, крэмню, горнага крышталю А вось як паэт казаў пра тыпы чалавечага тэмпераменту·

*Юпитер – Венус полнокровных родит,*
*Веселы чада их по нивам ходят*
*Марс холериков вождем ся являет,*
*Биет, сечет, палит и войны свершает*
*Мерзко вещают, сами ся вешают*
*Меланхолици – от Сатурна, бают*

Уяўленне пра светабудову Сімяон даваў сучаснікам у трактаце «Венец веры кафолическия». Там сцвярджаецца, што ёсць тры небы самае высокае і нерухомае – эмпірэйскае, дзе знаходзяцца святыя і іншыя незямныя істоты, за ім – рухомае крышталёвае, потым – нябесная цвердзь, якая падзяляецца на пояс нерухомых зорак і рухомых планет Дапамагаючы уявіць астранамічныя адлегласці, асветнік піша, што, калі б мы ехалі ад Зямлі да эмпірэйскага неба з хуткасцю 80 міляў у гадзіну, дык вандроўка доўжылася б 650 тысяч гадоў. Зоркі ён апісваў так: «веществом чисты, образом круглы, количеством велики, явлением малы, качеством светлы, дольних вещей родительны» (значыцца, уплываюць на зямныя падзеі).

Захапляючыся астралогіяй, Полацкі быў майстрам вершаваных гараскопаў, якія складаў царскай сям'і і прыдворным вяльможам Вялікі поспех меў ягоны гараскоп царэвіча Пятра, уручаны бацькам у дзень хрэсьбінаў Як сведчаць палацавыя запісы, паэту шчодра аддзячылі· «Наставнику старцу Симеону поднесено с царского стола четыре головы сахару весом по три фунта голова, два блюда по полфунту, сахаров зеренчатых блюдо, ягод винных фиников по фунту на блюде, трубочку корички .. да полоса арбузная, другая дынная»

Ён складаў оды, элегіі, гімны, панегірыкі, эпітафіі, загадкі, «плачи», «утешения» . Сваімі сатырычнымі і павучальнымі вершамі ён змагаўся з дзікімі расейскімі забабонамі У «Поучении против суеверий» паэт абураўся такой папулярнай маскоўскай методай лекавання, як мазанне дзяцей граззю ад сурокаў

Як і яго славуты папярэднік Скарына, Полацкі ўсё жыццё цікавіўся медыцынай Выступаючы супроць чараўнікоў і шаптуноў, ён паважліва ставіўся да традыцыйных народных сродкаў «Естественных врачеств не пренебрегайте», – вучыў ён і з сімпатыяй пісаў у адным з вершаў пра мудрую лекарку, што ратавала хворых настоенымі на віне зёлкамі Чалавека асветнік параўноўваў з горадам, які – па колькасці органаў пачуццяў – мае пяць брамаў. Дбаючы пра гэтыя «брамы», ён прапаноўваў рацыянальную сістэму харчавання – раіў не злоўжываць тлушчамі, бо «похоть умножают», але не ўхваляў і пастоў, бо «плоти изнемогший ум не добр бывает» Ён пакінуў натхнёныя радкі пра віно, што «сердце утверждает и возвеселяет» і ўадначас з агідаю пісаў пра жлуктаў

Жывучы ў сталіцы жорсткай краіны, дзе штодня кагосьці каралі смерцю, Сімяон не баяўся павучаць самога цара

*Мало есть правды царю мудру быти*
*И подчиненных мудрости лишити.*
*Вели и рабом мудрости искати,*
*И того тебе будут работати.*
*От искусных муж ищи совета*
*И от разумных вопроси ответа.*
*Милостив буди, и скор оставляти,*
*Косен казнити, а готов слушати.*

Шырокую славу прынёс нашаму земляку пераклад Псалтыра, па якім тады звычайна вучыліся чытаць. Пераклад, зразумела, быў зроблены вершамі і выдадзены з цудоўнымі гравюрамі ў Сімяонавай друкарні. Аўтар прызначаў твор для сямейнага чытання «в домах часто ю (яе) читати или сладкими гласы воспевати» Гэтая «Псалтырь рифмотворная» зрабілася ў адукаваных месцічаў папулярным спеўнікам Яе называў сярод трох кніжак ягоных «врат учености» – Ламаносаў.

Абдзеленыя прамоўніцкім талентам святары, дзякуючы Сімяону Полацкаму, атрымалі два падручнікі – зборнікі царкоўных «словаў» і казаняў пад назвамі «Обед душевный» і «Вечеря душевная» У кожным болей за паўтары тысячы старонак, на якіх – узоры высокага красамоўства, што прыводзяць на памяць «другога Златавуста» Кірыла Тураўскага.

Большасць сваіх вершаваных твораў паэт сабраў у аб'ёмістыя рукапісныя кнігі «Рифмологион, или Стихослов» і «Вертоград многоцветный», якія з яго размешчанымі ў алфавітным парадку вершамі быў своеасаблівай энцыклапедыяй. Чытач мог атрымаць звесткі з гісторыі, геаграфіі, заалогіі, паразважаць над царкоўнай прыпавесцю, пасмя-

**гэтым шляху першым выпрабаваннем «службы» Сімяона цару Аляксею Міхайлавічу была яго чынная літаратурна-палемічная дзейнасць у абарону дзяржаўнай царквы і прыдворнай ідэалогіі наогул... Што да самой нацыянальна-рускай «старой веры», дык яна, як і ўся звязаная з ёю старажытная культурная традыцыя, была для Сімяона глабока чужая і варожая. <...>**

**У маскоўскім асяроддзі ён быў іншаземцам: гаварыў па-руску з акцэнтам, не адразу навучыўся пісаць кірыліцай (напрыклад, лацінкаю пісаў пратаколы Свяшчэннага сабору 1666 – 1667 гадоў). Але «польская» мода, як і ўсякая замежная мода пры каралеўскіх еўрапейскіх дварах, пачынала ўваходзіць у свае правы і пры царскім двары. Таму і ўсё аблічча адзначанага царскай міласцю Сімяона магло выклікаць адначасова з непазбежнай непрыязнасцю і вострую цікаўнасць. Адсюль і ўзнікла прозвішча, што падкрэслівала яго іншаземнае паходжанне – «Палачанін», потым «Полацкі». Адсюль і непасрэднае рэлігійнае абвінавачанне яго ў каталіцызме з боку Авакума, які адразу назваў яго «рымлянінам», што нібыта прыехаў з «Рыма» (г.зн. з каталіцкага рэгіёна). Пры ўсім гэтым становішча Сімяона магло ўнушаць і страх, бо ягоная школа з лацінскаю мовай знаходзілася ў ведамстве першай таемнай паліцыі – Прыказа тайных спраў. <...>**

**Заваяваўшы вялікі аўтарытэт, ён вырашыў ажыццявіць зусім нечаканую для Масквы справу – адчыніць прыватную друкарню. Калі на польскіх, украінскіх і беларускіх землях такія самастойныя друкарні існавалі пры манастырах і школах, бюргерскіх цэхах і магнацкіх палацах, то ў Расеі асабістая друкарня магла быць толькі ў цара. Сімяон Полацкі натхніў свайго вучня, маладога цара Фёдара Аляксеевіча, на стварэнне (1679 г.) якраз такой, уласнай і, галоўнае, незалежнай ад дзяржаўнага Друкарскага двара (а значыць, і ад цэнзуры патрыярха Іаакіма) Верхняй (палацавай) друкарні. Тут Сімяон з надзвычайнай хуткасцю і энергіяй разгарнуў кнігавыдавецкую дзейнасць, што мела наватарскі (г.зн. барочны) характар. Каб мець правільнае ўяўленне пра значнасць гэтага недаўгавечнага Сімяонавага пачынання (у 1683 годзе, за царэўнай Соф'яй друкарня была зачыненая), трэба адзначыць, што ў Расеі колькасць друкарняў падвоілася (замест адной стала дзве). У Рэчы Паспалітай у XVII стагоддзі гэты паказчык скараціўся болей чым у два разы (замест 134 засталося 44), прычым такая велізарная розніца ў стане кніжнае справы працягвала трываць яшчэ вельмі доўга. <...>**

**Багацце і гнуткасць унутраных магчымасцяў барока значна паскорылі не толькі зараджэнне класіцызму, але і ўвесь поступ рускай літаратуры XVIII – пачатку XIX стагоддзя. Ля пачатку гэтага надзвычай хуткага, у параўнанні з заходнееўрапейскімі ўмовамі, руху прыгожага пісьменства стаяў Сімяон Полацкі са сваёй школай.**

Андрэй РАБІНСОН.
***Симеон Полоцкий и его книгоиздательская деятельность. М., 1982.***

яцца з анекдота і скарыстацца з карыснай парады. Сярод герояў энцыклапедыі антычны філосаф Дыяген, персідскі цар Артаксеркс, біблійны волат Самсон

Полацкі належаў да заўзятых аматараў паэтычных эксперыментаў Мабыць, яны кампенсавалі «натхненне», з якім складаліся даўжэзныя прыдворныя оды Апрача фігурных вершаў ён ствараў са сваіх радкоў цэлыя архітэктурныя спаруды, якія можна і чытаць, і разглядаць, як цікавы малюнак. У прысвечаным цару «Орле российском» пасярэдзіне ззяла сонца, ад яго разыходзіліся сорак восем промняў, куды былі ўпісаныя царовы дабрачыннасці. Вакол месціліся знакі Задыяку, а ўся кампазіцыя трымалася на слупе з вершаў

У спадчыне нашага суайчынніка часта сустракаюцца ўзоры макаранічнай паэзіі, калі верш складаўся адразу на дзвюх ці на трох мовах з чаргаваннем «славянскіх», польскіх і лацінскіх радкоў Такой творчай метадаю ён напісаў колькі твораў, адрасаваных баярыну Багдану Мацвеевічу Хітрова, які доўга і падазрона разбіраў велягурыстыя пажаданні вучонага «заходніка».

Сучасныя паэты могуць пазайздросціць ягонаму ўменню пісаць у жанры «рэха», калі ў строфах дасягаецца эфект гэтай прыроднай з'явы

*Рцы, Щасте, кому служыш, кто ест сей? – Алексей*
*Чыя кров? – Сын Михайлов. Государев? – Царев.*
*Кто саном? Цар роксаном Коли дуж? – Храбрый муж.*

Полацкі не шкадаваў сябе ў працы, часта хварэў, і 25 жніўня 1680 года Маскву абляцела вестка пра ягоную смерць. Адных яна засмуціла, другіх усцешыла Цяжка сказаць, каго было болей – асветнік нашмат апярэджваў свой час

Развітаўся з гэтым светам Сімяон у яснай свядомасці, загадзя пакінуўшы запавет, які сведчыць, што ў апошнія дні жыцця ён шмат думаў пра Беларусь. З пакінутых сямісот рублёў срэбрам і шасцісот золатам сваю долю, згодна з запаветам, атрымалі беларускія манастыры ў Полацку (Богаяўленскі), Віцебску, Воршы (Куцеінскі), Дзісне, Мёрах, Менску і Вільні

Выхаванец асветніка цар Фёдар загадаў скласці эпітафію і «на двух каменных таблицах вырезать, позлатить и устроить над гробом иеромонаха Симеона своею государскою казною, из Приказа каменных дел». Пісаў надмагільныя вершы Сільвестр Мядзведзеў Цар так шанаваў свайго настаўніка, што зацвердзіў толькі пятнаццаты варыянт эпітафіі, які высеклі над магілай у маскоўскім Заіконаспасаўскім манастыры (Надмагільная пліта захавалася да нашых дзён у Спасаўскім саборы згаданага манастыра на вул Нікольскай )

Пасля Сімяона засталася найбагацейшая ў Маскве бібліятэка, вопіс якой гаворыць пра энцыклапедычныя веды і захапленні гаспадара. Творы Цыцэрона, Фамы Аквінскага, Эразма Ратэрдамскага, айцоў царквы. Граматыкі, слоўнікі, зёльнікі, медычны трактат XIII стагоддзя «Книга преудивительная таинств женских, еще о силах трав, каменей, зверей, птиц и рыб».. Дзяку, што рабіў вопіс, не заўсёды хапала адукацыі, каб прачытаць і перакласці назву таго ці іншага фаліянта, і ён запісваў «книга о каменнях различных, творение Андриана Тулия, латинская», або проста «книга всего мира описание»

Сімяон пакінуў пасля сябе цэлую школу расейскіх паэтаў Пакінуў друкарню, дзе ўжо пасля ягонае смерці выйшлі «Обед душевный», і «Вечеря душевная» Галоўнае ж багацце, што засталося нашчадкам, – літаратурная спадчына асветніка і паэта Яна была патрэбная не толькі асобам знаным ды асвечаным, але і паспалітаму люду У 1693 годзе маскоўскі патрыярх атрымаў ад запарожцаў просьбу прысланць у іхнюю царкву зборнікі казаняў вучонага палачаніна Напэўна, асабліва прываблівала казацтва надрукаванае ў «Вечере душевной» узнёслае «Слово к православному и христоименитому запорожскому воинству»

Казакі не ведалі, што праваслаўная царква ўжо абвясціла Сімяонавым творам анафему і забараніла згадваць іх, як ератычныя

**Уладзімір АРЛОЎ**



# Алесь РАЗАНАЎ

МЫ



*Дабро цябе вучыцца*
*Разумець,*

*І зло*
*Над табою не мае*
*Улады.*

*Роўнавялікі свету,*
*Пераўзыходзіш*
*Умовы свету –*

*Геній самаспазнання.*

# КАМЕНЬ

1

Шукаем:
Я – камень,
А камень – мяне.

Я –
На сваёй паверхні,
Ён –
У сваёй глыбіні.

Так проста
Было б аб'явіць:
«Ты тут!..» –
І адчуць
Шурпатую глыбу,
Намацаную рукамі.

Але не гэтак
Адшукваецца чалавек,
І камень
Адшукваецца не гэтак.

2

Мусім з табою лічыцца,
Але не ведаем,
Як.

Уводзім цябе
У сваё жытло,
А жыць па-твойму
Не ўмеем.

Чакаем,
Што ты загаворыш,
Аднак
Самі змаўкаем.

Падзея –
Якой не можам
Прыняць,

Падзея –
Якой не можам
Аспрэчыць.

3

Кратаў спачатку
Камень рукамі,

Пасля,
Адышоўшы,
Мераў паглядам:

Пераканаўся,
Які ён груваскі
Ў сваім цяжары,
Які ён ёмісты
Ў сваёй форме.

Пара
Выпрабоўваць каменем
Думку
І думкаю – камень.

4

Рух,
Што ўвасобіўся
У нерухомасць,

Агонь,
Што схаваўся
У холад,

Святло,
Што памкнулася ўнутр
І супала са змрокам, –

Камень
На раздарожжы
Усіх стагоддзяў,

На скрыжаванні
Усіх шляхоў.

5

Не адпускаючы анікуды
Сябе ад сябе,
Папярэднічаеш прычыне
І апярэджваеш вынік.

Гэтым трывалы
І гэтым існы,
Адлегласць,
Якая зычачвае чалавека
І дазваляе
Яму заставацца
Заўсёды тым самым,

Трымаеш
У паслушэнстве.

6

Упісаны ў наваколле,
Нібы ў скрыжалі
Слова закона,
Вартуеш
Час наваколля –

Каб ён не скамечыўся
І не ўцёк,
А дазволіў
Насельнікам наваколля
Зрабіцца сваімі
І ўспадкаваць
Утрыма́нае...

Вечны:
А не стары,

Сённяшні:
А не новы.

7

На небе – аблокі,
А на зямлі –
Камяні.

Прастора,
Пранятая плынным
І нерухомым,
Уцягваецца ў падзеі
І ўрошчваецца ў краявід.

Такі недакладны
Вынік –
А ён абумоўлівае наступнасць,

Такі выпадковы вобраз –
А ён усталёўваецца
І жыве.

8

Разам з табой
Падымаюся на вяршыню
І разам
Падаю долу:

Спробы,
Што спалучаюць
Нябеснае і зямное

І, зноўку
Вяртаючы новаю раніцай
Чалавеку
Тое, што ён учора
Пакінуў,
Настойваюць,

Што ён – бог.

9

Самы тутэйшы:

Прысутнічаеш цяпер,
Існуеш заўсёды.

Усё ў цябе склалася,
Як у людзей
Складсціся нават
За безліч вякоў

Не можа,

І ўдакладняцца
Не мае патрэбы.

А людзі
Жывуць напавер,
І наступнасць
Ім вытлумачвае,
Што было
Некалі

З імі.

10

Тое,
Чым ты выяўляешся,

Вылучае
Цябе з чарады
Разнаісных рэчаў
І пазбаўляе
Месца ў нятоесным
Асяродку.

Зоркі
Запальваюцца і згараюць,
Кружачы над табою,

А месяц
Мяняецца ў тварах,
Гадаючы,
Ці далёка
Той час,
Калі свет замкнецца
І адамкнешся ты.

11

Так з чалавекам
Здараецца:

Варта яму
Адкрыць сваё месца
І ўгрунтавацца
Сваім існаваннем –

Тут жа
Яго пачынаюць
Прываблівваць і купляць
Новыя месцы.

Але калі,
Захоплены многім,
Ён траціць адно,

Ад яго
Тады адступаецца
Камень,

І рэчаіснасць
Тады адварочваецца
Ад яго.

12

Хто большы
І хто дужэйшы? –
Бесперастанку
З нечым змагаемся,

Быццам нешта
Нас выклікала на бой
І нам перамогі зычыць.

Але ўсё адно
Апынаемся ў пустцы
І, вязні-валадары,
Чакаем у ёй,
Што нешта
Нас знойдзе
І нам адкрые
Нанава шлях.

Знянацку
Нам аб'яўляюцца
Весткі.

І камяні





У нас пераймаюць
Нашы імёны,
Што нас і не памятаюць
Амаль.

13

Быццам падважваюць
Камень
І падсыпаюць,
Падважваючы,
У яму,
Ім вылежаную,
Зямлі,
Каб змог
Ён аб'явіцца ўсёй постаццю
Неўзабаве, –

Сябе самога
Скіроўвае чалавек
У сваю,
Ім задуманую,
Рэчаіснасць;

І ў волю
Ўкладае вагу,
І мае
Апірышчам і прыпынкам
Усякі раз вышыню,
Адоленую перад гэтым.

14

Цябе надзяляюць
Чыімсьці імем
І адымаюць
У рэч –

І рэч
Жыве тваёй смерцю,
Як ззянне
Жыве смерцю свечкі...

І гэтак
Ты свеціш і дагаджаеш
Бяздомным
Дням.

15

Перашкода
Нас прымушае выходзіць
За межы сябе
І збірацца
З новаю моцай
На новым месцы,

Якое б
Не прыгнятала
І не знявечвала,
А было,
Як раніца,
І навырост,
І ўпору...

Той моцай,
Якою адужваем камень,
Камень
Адужвае нас.

16

Нас яшчэ
Быццам няма:

Ад нас
Адхіляюцца сутнасці,
З намі
Не раяцца сілы,
І скарб,
Які нам належыць здаўна,
Не даецца ў рукі.

Ліем,
Каб нечаму дагадзіць,
На камень
То малако,
То кроў,

І прымаем
Вобразы сваіх думак
За знакі,
Што аб'яўляюцца нам.

17

Звёў
І ўвабраў у сябе
Наваколле,

І аддаеш
Змест,
Які здзейсніўся,
Нанава наваколлю.

Але каб знікаць –
Не знікаеш,
Каб меншаць –
Не меншаеш
І не бяднееш:

Сонца –
Прыцягнутае зямлёю,
Зямля –
Цяжарная сонцам.

18

Ці свет нахіліўся –
І стаў н а х і л
Сутнасцю чалавека?!.

Ці стала жыццё
Няўтульным,
Што чалавек
Па́дае безупынна
За небасхіл рэчаіснасці,
А з ім разам
Усё, што назваў ён
Сваім?!.

І толькі
Шэры,
Няўклюдны,
Нічыйны камень,
Адно толькі ён трымае
І беражэ

Раўнавагу?!.

19

Што с п а с ц і г а е ц ц а
Чалавекам –

Як сцежка,
Вядзе яго ў глыб
Невядомасці,
Каб, урэшце,
Сам-насам
Пакінуць яго
З таямніцай,

Хоць чалавек
І сведчыцца і м штодзённа,
І да я г о
Мае штодзённа доступ,

Як да пагорка,
Да каменя
Альбо дрэва.

І чалавек
Даступнае адпускае,
А за адпушчаным паслухмяна
Ідзе

Услед.

20

Растане
Світальны туман –

А з ім
Растануць развагі,
Што ўчора
Здаваліся слушнымі,

Пастановы,
Якім немагчыма было
Запярэчыць,

Намеры,
Што бачылі ў буйных
І ў дробных рысах
Будучы дзень, –

І зноў
Апынецца свет
Незасвоеным і нічыйным...

Ды выявяцца
Камяні.

21

Усечаны ў камень
Прыступкі –

І дасягненне
Адрозніваецца на крок
Ад наступнага дасягнення,

І шлях
Выбірае праўдзівае...

Распазнае́
І сведчыць,
Не хібячы,
Камень,
Дзе я цяпер
І хто.

22

Хацеў назаўсёды
Цябе мінуць,
Каб мерай
Тваёю не мераць
Ні веку свайго,
Ні абсягу.

Але, мінуўшы,
Нешта забыў,
А што –
Не ўдавалася ўспомніць.

І я заблудзіўся
Ў знаёмых днях,
І я ў краявідах знаёмых

Згубіўся.

23

Як цябе
Ні кладзі,
Што з табой
Ні рабі,
Табе ўсё аднолькава
Добра.

Сніш свае сны –
І ў іх
Лунаеш сярод анёлаў
І не звяртаеш
Увагі на пастку,
Што за табою
Цікуе –
Нібы трымае
Цябе на нябачнай нітцы, –

На свой забыты
І над табою не ўладны
Зусім

Цяжар.

24

Да каменя прытулюся,

Каменем паклянуся,
На камень наткнуся
І спатыкнуся
Аб камень...
Прастора,
Якая ўяўлялася простай
І аднастайнай,
Хавае ў сабе,
Неўпрыкмет
Аказаўшыся побач,
Не ўлічаныя вымярэнні,

Што перайначвацца
І спрашчацца,
Як чалавек,

Не могуць.

25

Рэчы прысутнічаюць.

Але сутнасць,
Якой уласцівы
Рэчы,
Укладваецца ў адлегласць,
Нібы ў магнітнасць
Магніт.

А што
Апрадмечваецца
І падыходзіць
Заблізка да чалавека
У нецярплівым памкненні
Тут задаволіцца
І завалодаць
Падобным сабе –

У тым
Губіцца неба
І застаецца,
Пакінуты без увагі,

Бяздомным бог.

26

Мінае паціху
Дзень,
Як мінуў
Учора і пазаўчора,

І адвячорак
Яго ўжо сцірае
З памяці і з увагі...

Але ў імгненне,
Падобнае трэшчынцы
На шчыце
Чыстай паверхні,
Нас нечакана
Кране адчуванне,
Што мы
Ходзім над безданню –

А глыбока,
На дне,
Унізе,
Уводзячы бездань
У наваколле,
Шарэюць
Вунь тыя
І гэтыя

Камяні.

27

Мы н е ч ы м забыты.
І нават калі адкрываем,
Што думаць
І як разумець –

Гэта не мае
Уплыву
На самі рэчы,
І камень,
Умешчаны ў круг размовы,
Нібы мы нічога
Яшчэ не значым,

Не чуе нас.





28

Не адкасаешся ні ад чога,
Не прыхінаешся ні да чога,
Ні з кім не прыязнішся
І не варагуеш...

Дабро цябе вучыцца
Разумець,

І зло
Над табою не мае
Улады.

Роўнавялікі свету,
Пераўзыходзіш
Умовы свету –

Геній самаспазнання.

29

Аблічча,
Што нас ужо выказалі
І што нам
Ужо не цікавы,
Нас акружаюць знаўкола...

І камень
Іх аддае,
І завулак,
І двор...

Так многа паўтораў
У аднастайнай
Гульні люстэркаў,

А што настае,
Не хоча
Ўсталёўвацца,
Як мясціна,
А вабіць насустрач –
Як вестка

І як вясна.

30

Што прыгнятала
І мела вагу,
Займее
Сваім прыстанішчам
Яму;

А тое,
Што мела вагу
І само трывала,

Узыдзе...

Хвіліны,
Якія раздвойваць нас,
Абцякаюць
З абодвух бакоў,
Раздваіўшыся самі,
Камень.

31

Як птушкі,
Лунаюць думкі
У маляўнічых аблоках,

Як рэчы –
Прывязваюцца да людзей,

Аднак
Самая пільная думка
Шукае камень,
Які яна абмінула,

Каб запытацца,
Ці сапраўды
Яна ёсць.

32

Думны без думак,
Чысты без чысціні,
Тойсамы

Знутры і знадворку,
Утульваешся ў нябыт –

І смак,
Якім насычае праяўленае
Усе рэчы,
Цябе не п’яніць
Жыццём,

Цябе не цвярэзіць
Смерцю.

33

Свет,
У які немагчыма
Ўвайсці самому,
А – усім светам;

Дом,
Што заняў,
З’яднаўшы,
Розначасовую рэчаіснасць,
Дзе кожны
Істотны сабой настолькі,
Наколькі істотны
Усімі:

Я – на парозе,
А за парогам –
Бог,
А перад парогам –
Камень.

34

Слухаеш споведзі
І бярэш
На сябе ўсе віны –
Абы
Лягчэй было
Чалавеку.

І водгукам,
Што напоўніў
Цябе да краю
І захаваўся ў табе,
Не разліўшыся,
Вызначаеш,

Як споведзі спавядацца
І колькі важыць
Віне.

35

Быццам заснулі яны,
Займелі
Рэчы сваё бытаванне,
А сутнасці рэчаў –
Сваё.

І ніяк не можа
Супасці наноў
Чалавек з сабою,

А тое, што ёсць,
З тым, што мае

Быць.

36

Пачатак чагосьці,
Што паспяшалася
Спраўдзіцца
І не змагло
Ўтрымацца на камені...

Пазычае
У вечнасці чалавек
І веліч сваю,
І ўладу,
Але спусташае вечнасць,

І не вядзе
Ніводная сцежка
Ў пачатак.





Ды камень –
Тут.

37

І ключ,
І замок –
Сам сябе замкнуў
І адмыкацца
Не хочаш.

Расколюць –
Нічога ў табе няма,
Апрача
Зацятай каменнасці,

Ды табою
Высокімі робяцца
Горы,

І бездань
Бярэ ў цябе
Глыбіню.

38

Точацца ў цемрадзі
Карані,
Тоячы ад цікаўных
Вачэй паверхні
Існіну каранёў;

І, ведаючы пару,
Адкрываецца з-пад кары
Пярэдадня кветка.

Такія
Розныя долі,
А імі
Лучыцца свет,

І камень
Злучаны імі.

39

Нешта парушылася –
Быццам камень
Скрануўся ў падмурку
І запярэчыў
Таму, што на ім
Грунтавалася
І што мела
Яго падставай сваёй, –

І ў свеце,
Населеным рэчамі
І людзьмі,
Апынулася лішнім:

І гэта –
Ўвесь свет.

40

То карацеючы,
То даўжэючы,
Цень
Вандруе наўкола цябе;

І рэчы,
Змяняючыся ў абліччах
І ў вартасцях,
Гэтаксама
Уцягнуты ў не дасягальны
Староннім адлікам
Кругазварот,
У цэнтры якога
Няма нічога,
А сам ён,
Нібы без каменнасці
Камень,

Ёсць.

41

Вандроўнік выпытвае

У наваколля:
Дзе сцежка,
Дзе камень,
Дзе дом?
І па іх
Знаходзіць самога сябе.

Не ўдаецца
Зроку адразу ўбачыць,
А розуму зразумець,
Што ёсць.

Але трэба
Таму, хто ідзе –
Супадаючы з бачным
І зразуметым
І выпадаючы, –
Каб хто-небудзь
Прысутнічаў і пытаўся:

Куды ідзеш?

42

Нібы адваёўваем свет
У свету,
Прастору – ў прасторы
І ў часу – час,

Знаходзім у сэрцы
Сутнасць,
А ў ёй – айчыну,
Дзе акружаюць
Нас простыя рэчы

І асвячае
Сваёю прысутнасцю камень
Наш дзень
І век.

43

Надыдуць
Прыкрыя дні –
І грунт
Парушыцца пад нагамі,
І гвалт
Займее ключы
Ад радовішча сілы,
І зман
Угнездзіцца ў розумах...

З кім
Загаворыць вякі?
За каго
Заступіцца камень?

44

Глыбіні з табою
Знаходзяць паразуменне
І далячыні –
Мову.

І чалавек
Вучыцца жыць
У цябе,
Не хаваючы
Думкі сваёй
Перад богам
І не змяняючы мэты,
Накрэсленай ім.

Яшчэ
Яго захапляе поспех
І засланяе ўдача –

І камень,
Які ён мінуў,
Чамусьці
Зноў апынаецца
Перад ім.

45

Круг перасёкся
З кругам,
Але не супаў –
І зняволены раптам
Камень
Судакрануўся
(Але не супаў)
З разняволеным чалавекам.

У доўгіх
Марудных днях
І ў імклівых гадах
Спрабуе
Паразумецца адна
Вечнасць з другою.

46

Хто чалавеку скажа:
Так не рабі,
Хто наставіць:
Так не кажы,
Хто выправіць:
Так не думай?!.

Чужое
Уточваецца ў краявід,
А сваё
Затуляецца ў згадку.

Але на шалях
Вялікай –
Зямлёю і небам
Ухваленай –
Раўнавагі
Нячулы,
Нямы,
Безаблічны камень
Узважвае ўчынкі
Жывых людзей.

47

Камень застаўся
Каменем,
Поле – полем,
Нябёсы – нябёсамі
І чалавек – чалавекам.
Але нібыта
Змянілася раптам
Надвор'ем надвор'е,
Парою пара
І змяніла,
Супаўшы з кожнай істотай
І з кожнай з'явай,
Істоту і з'яву –

Адбеглася поле,
Схмурнела неба,
Зацяўся камень,
А чалавек
Пачаў сам сабе
Задаваць пытанні
І не знаходзіць

Адказу.

48

Мо вырваліся
На паверхню
З падземных вязніцаў
Духі пярэчання,

Мо адпала
Ад вышыні,
Ацяжэўшы,
Ніжэйшае неба –

Зблыталася на зямлі,
Што нізка,
А што высока,
І заняла
Зямныя абшары
Прыцемная часіна:

Калі разбіваюцца
Камяні,
Калі разбіваюцца
Аб камяні,
Калі забіваюцца
Камянямі.

49

Целам
Не тоесны духу,
А духам – целу,
Нашу ў сабе
Тую далечыню,
Дзе дух
Становіцца новым
Целам,
А цела –
Спрадвечным духам...

Там камень
Ужо не мёртвы,
А чалавек
Не жывы.

50

У пошуках скарбу,
У намаганнях здабыць
Тое, што нас выяўляла б

І не мінала...

Але калі
Зямлю адужае неба
І скарб,
Аб'явіцца з-пад шурпатай
Кары паверхні,

Таму, хто валодаў бы ім,
Самому
Трэба адшукваццa
І ў камянёў
Выпытваць свае прыкметы.

51

Перажываю
Нанава жыцці
Людзей,
Што жылі калісьці:

Усе яны – пошук,
Усе – памкненне,
Усе – намаганне...

І дзіўна
Мне сёння бачыць,
Быццам удзельнічаць
У таемстве,
Як узнікаюць

З пошуку – постаць,
З памкнення – выснова
І з намагання – камень.

52

Сустрэтае –
Навідавоку.

А тое, што мае
Сустрэцца з намі,
Аказваецца за кругам
Года і дня.

Бы словы
Гаворкі незразумелай,
Што раптам
Прамовіліся і аціхлі,
Мусім успомніць
Сябе

І камень.

53

Свет разнасцежыцца
Галасамі
І захвалюецца плынню –

Вабны і маляўнічы.

Жаданне –





Яно мяне забярэ,
Уцеха –
Яна мяне зменіць.
І толькі шкада,
Што камень
Тады застанецца навек,
Тады застанецца навек

Знямелы.

54

Мяжа небасхілу
Адсоўваецца,
Перад сабой
Трымаючы,
Нібы прадмет,
Чалавека.

А камень настойвае,
Што чалавек
Сам на мяжы
І жывы мяжою...

Няўхільны,
Няўступлівы,
Пільны міжбой
Між тым,
Чым становіцца чалавек,
І тым,
Што становіцца
Чалавекам.

55

Узор,
Што заўсёды навідавоку,
Але які
Пераняць немагчыма;

Мудрасць,
Якая няспынна вучыць,
Але якой

Навучыцца нельга:

Спрадвеку ўваходзіш
У век чалавека,
А чалавек
Спрадвеку выходзіць з яго,

Каб аднойчы
Вярнуцца богам.

56

Быццам разгортваецца
Спружына,
Каб, разгарнуўшыся,
Страціць сілу,

Самога сябе
Выштурхоўвае чалавек
У вобраз –
Якім ён
І знаны,
І знакаміты,

А вобраз,
Каб ён не знікаў, –
У камень;

І завяршае
У гэтым свеце
Гэтак
Свой шлях.

57

Той, хто пакінуў
У полі камень
І, вольны, падаўся,
Куды захацеў,

Нідзе
Самога сябе
Не знойдзе.

З каменем цяжка:

Але затое
Узнагародаю –
Кожны вечар,
Мэтаю –
Кожны дзень.

58

Напружаны
Восі свету,

І аддаецца
Увага свету
Таму, што намерваецца
Збудавацца.

Яшчэ не закладзены
Камень,
Аднак ужо
Яму адгукаецца

Завяршэнне.

59

Цяжкі і мулкі,
Ляжаў у мяне
На душы –

І болеч,
Якой мне балеў,
Убіраў у сябе,

І горыч,
Якою гаркоціў,
Усмоктваў,
І смутак,
Які́м напаўняў мяне,
Піў,
І паглынаў пакуту...

А потым адпаў.

Падамся
Сваёю дарогай,
А ты ўсё адно
Заўважыш мяне
Заўсёды,

А я заўважу
Цябе.

60

Нібыта вяртаюся
З доўгай вандроўкі
Дамоў,
Знаходжу
У вобразах і ў прыкметах
Нешта сваё,

І з кожным
Наступным разам
Бліжэйшым
Робіцца дом

І знаёмейшым –

Камень.

# Уладзімір КОНАН

ТЫ



*Усё памірае ў свой час —
людзі і дзяржавы.
Несмяротныя толькі Дух,
які ад Бога,
і культура,
створаная народамі.*

З Уладзімірам КОНАНАМ
гутарыць Валянцін АКУДОВІЧ

## СУСВЕТНАЕ ДРЭВА

*Пра Уладзіміра КОНАНА*

## ТРЫКСТЭР

*З Табой:*

# З Уладзімірам КОНАНАМ гутарыць Валянцін Акудовіч

**– Паважаны спадар Уладзімір Конан, дазвольце пачаць нашу гаворку з пытання, на якое, здаецца, не можа быць пэўнага адказу... Філасофія – гэта што: род інтэлектуальнай дзейнасці, прафесія, мысленне ў сістэме тых ці іншых катэгорый, стыль думання... усё гэта разам ці нешта зусім іншае?**

– Мы пачынаем нашае сумоўе з «акадэмічнага» пытання Але грунтоўны «фундаментальны» акадэмізм, усялякая «класіка», навуковасць сёння не модныя, а на ўзроўні масавых формаў культуры сталі ледзьве не лаянкай І нічога тут не зробіш, бо як той казаў: усяму свой час, і час усякай рэчы пад небам

Але мяне турбуе пытанне: а ці ўмацуецца нашая абноўленая «Крыніца» на акадэмічным фундаменце? Давайце не будзем цурацца публіцыстыкі, парадоксаў старажытнага жанру прагностыкі

Дык вось, філасофія – гэта свайго роду Пратэй класічнай, а сёння, мабыць, і масавай культуры. Ёсць у яе здольнасць набываць прыкметы ўсяго, да чаго яна дакранаецца. Трапляючы ў кантэкст роздуму пра быццё, яна становіцца анталогіяй; вызначаючы межы і ўмовы пазнання, пераходзіць у гнасеалогію; яна – эстэтыка ў якасці філасофіі мастацтва і рэфлексіі над прыгажосцю; сацыялогія, калі прэтэндуе на вызначэнне заканамернасцяў грамадскага жыцця. Філасофія ў дадатак яшчэ аксіялогія, бо шукае вечныя каштоўнасці, тэалогія, калі хоча рацыянальна спасцігнуць боскі ўзровень быцця; герменеўтыка, бо імкнецца выявіць скрыты, сімвалічны сэнс «пражытых» этапаў культуры і актуалізаваць яе страчаныя звенні.

Філасофія ў пэўных грамадска-палітычных умовах можа стаць прафесіяй. у тым выпадку, калі грамадства прад'яўляе попыт на філасофскую асвету ды філасофскае абгрунтаванне пэўных каштоўнасцяў Урэшце, філасофія калі не дыктуе, то дакладна адлюстроўвае стыль жыцця і стыль культуры. У свой час О Шпэнглер (1880 – 1936) даказаў, што кожная вялікая цывілізацыя, эпоха, урэшце, кожны народ мае сваю самабытную матэматыку, і яна выконвае стылятворчую функцыю ў сістэмах нацыянальных культураў Тым больш на такую ролю мае правa філасофія

**– Прафесійная (у сучасным значэнні) філасофія на Беларусі, а тым болей беларуская філасофія – гэта мара аднаго-двух летуценнікаў, ці ўсё ж такі вам бачыцца ў нашай духовай сутнасці нешта, з чаго мы маем падставы меркаваць аб магчымай належнасці беларусаў да «філасофскіх» народаў?**

– Шчыра кажучы, я не падзяляю вашага энтузіязму наконт прафесійнай філасофіі Як на мой густ, было б нават смешна, калі б прафесійная філасофія ўяўлялася гэткай Лаурай або Беатрычай рамантычных летуценнікаў.

Лацінскае слова professio абазначае занятак, тое, што ў нас завецца пасадай Першымі прафесійнымі філосафамі былі сафісты старажытнай Грэцыі, платныя настаўнікі мудрасці (па-грэчаску «sophia») філасофіі, палітыкі, матэматыкі, аратарскага мастацтва. Як бачыце, у прафесійных філосафаў – добры, хоць двухсэнсавы радавод. Але задоўга да сафістаў у той жа Грэцыі былі філосафы-аматары, якія паглыбляліся ў рэфлексію «для душы» і для вузкага кола выбраннікаў· Фалес, Анаксімен, Анаксімандр, Парменід, Зянон Элейскі, Анаксагор, Геракліт, Дэмакрыт Нават Сакрат і Платон поруч з сафістамі выглядалі аматарамі-дзівакамі

У эпохі пазнейшыя (сярэднявечча, рэнесанс, барока) прафесійных філосафаў звалі схаластамі – настаўнікамі і прафесарамі філасофіі (ад лацінскага schola – школа, scholasticus – вучоны), іх сучаснікі – матэматыкі і фізікі Лейбніц, Дэкарт, Ньютан, Бэкан ды інш. у філасофіі выступалі аматарамі Аматарам філасофіі быў шліфоўшчык аптычнага шкла Б.Спіноза. У Расіі такімі ж аматарамі філасофіі былі літаратары М Радзішчаў, В Бялінскі, П.Чаадаеў, М.Дабралюбаў, Дз.Пісараў, М Чарнышэўскі, лекар К.Лявонцьеў, даследчык прыроды М.Данілеўскі Не ўдалася філасофская кар'ера Ул Салаўёва, а М Бярдзяеў, здаецца, нават не імкнуўся да яе, ва ўсякім выпадку да сваёй эміграцыі з Расіі

А цяпер мяркуйце самі· хто з гэтых філосафаў запісаны на скрыжалях культуры? Відавочна, найбольш філосафы-«аматары» Выключэнне – нямецкая філасофія· у немцаў асноўныя філасофскія адкрыцці належаць «школьным» філосафам-прафесіяналам. Хоць і тут ёсць выключэнні: Я.Бёме, А.Шапэнгаўэру, Л.Феербаху, Я.Дзюрынгу філасофская кар'ера не ўдалася. Але нямецкі філасофскі феномен толькі засведчыў агульнае правіла развіцця сусветнай культуры як «сімфоніі» самабытных «галасоў» нацыянальных культураў: кожны гістарычны народ ярка выяўляе сябе ў адной ці некалькіх сферах творчасці, застаючыся часам вечным студэнтам ці эпігонам у іншых яе галінах.

Мы з вамі, здаецца, дамовіліся, што ёсць два бакі альбо нават полюсы філасофскага

# З РЫБІНАЮ Ў РУКАХ

**Да Уладзіміра Конана не дужа стасуецца гэтая лічба – 60. Хутчэй стасуецца нешта метафізічна-амбівалентнае, накшталт 600 і 6 – патрыяршае і дзіцячае, дасведчанае і наіўнае.**

**Магчыма, лічба юбілею, дый наогул чалавечага ўзросту, паводле нейкай іншай, скажам, духоўнай матэматыкі і павінна быць такою – двайною.**

**«Боская і людская мудрасць» – так, амбівалентна, назваў Уладзімір Конан сваю нядаўнюю кніжку пра Скарыну.**

**І ў Бібліі, любімай кнізе Уладзіміра Міхайлавіча, у якой узроставыя адзнакі неад'емныя ад этычна-духоўных, высноўваецца амбівалентнае стаўленне да рэчаіснасці: «Будзьце мудрыя, як змеі, і простыя, як галубы».**

**Юбілей не арганізоўваецца, ён творыцца сам – як адказ «боска-людскага» кантынуума на словы і справы творцы, як сэнсавае рэха.**

**З імем Уладзіміра Конана з'яднана моцнае, шматстайнае, амаль харавое рэха. Айчынная філасофія, этыка, эстэтыка, літаратуразнаўства, крытыка, культуралогія, фальклярыстыка, міфалогія, мастацтвазнаўства, рэлігіязнаўства – усюды Уладзімір Конан стаўся сваім, усюды сказаў сваё слова, усюды выявіў непаўторныя прыкметы адзінай сістэмы.**

**Здзейсненае ім – вось юбілей, які не мінае, вось тое свята, «якое заўсёды з табой».**

**Мастак Тодар Копша, малюючы партрэт Уладзіміра Конана, увёў яго ў стыхію вады і ўклаў яму ў рукі чырванапёрую рыбіну.**

**Уладзімір Конан – рыбалоў, а разам з гэтым і рыбіна: ён ловіць, аднак і тое, што ловіцца, – ён таксама.**

**Шырокая навуковая эрудыцыя, уменне акумуліраваць веды, інтэгральна-сінкрэтычны характар творчасці – усе тут названыя і не названыя якасці, якія выклікаюць захапленне і здзіўленне ў калег, – адгэтуль, з глыбіні і таямніцы яго прыроды.**

**Гэта яна, сама яго прырода, шукае і знаходзіць, дзе яна можа найлепш і найпаўней выявіцца, шукае і знаходзіць ва ўсёй разнастайнай матэрыі тоеснае сабе і такім чынам арганізуе гэтую разнастайную матэрыю ў цэласнае, у тэкст**

**Як рыбалоў Конан – сістэматык, як рыбіна – імправізатар; як рыбалоў – слухаецца логікі, як рыбіна – інтуіцыі; як рыбалоў – упісваецца ў людскія хаўрусы, як рыбіна – хаваецца ў невядомасць; як рыбалоў – здабывае ступені і званні, як рыбіна – вольны ад іх; як рыбалоў – прысутны, як рыбіна – сутны.**

**«Хлеб наш штодзённы дай нам сёння», гаворыцца ў «ойчанашай», самай народнай, малітве. Хлеб – сімвал народнага жыцця. Гэта Уладзімір Конан ведае, але, апроч таго, памятае: дзе жыта, там мусяць быць і васількі, дзе хлеб, там мусіць быць і рыба.**

**Аб нашым духоўным спажытку, аб нашай штодзённай рыбе ў нястомнай сваёй рупнасці моліцца да Богаайца беларускі інтэлігент нязменна першага пакалення, адраджэнец, мысляр, здзейснік-падзвіжнік Уладзімір Конан.**

**«...Ісус сказаў ім: не трэба ім ісці; вы дайце ім есці. Яны ж кажуць Яму: у нас тут толькі пяць хлебаў і дзве рыбіны» (Мацвей, 14:16 – 17).**

**Алесь РАЗАНАЎ**

і ўсякага іншага прафесіяналізму: сацыяльны і духоўны. Першы – «з нізіны», ад людзей, грамадства, дзяржавы, другі – з узвышшаў, ад неба, ад Бога, наканавання Нават у першым, сацыяльным сэнсе беларусы мелі развітую прафесійную філасофію Маю на ўвазе неасхаластыку канца XVI – першай паловы XVIII стст і марксісцка-ленінскую філасофію XX стагоддзя У першым выпадку былі магістры, дактары і прафесары філасофскіх навук, а ў другім – нават акадэмікі.

Узнікае пытанне· у якой ступені неасхаластыка і марксізм-ленінізм выраслі з беларускай культурнай традыцыі, наколькі яны фармавалі беларускі тып культуры, яе стылістыку і ў якім кірунку ўплывалі на беларускі менталітэт? Мяне цікавіць не толькі інтэнсіўнасць гэтых уплываў (колькасныя характарыстыкі), але ў першую чаргу іхні вектар, накіраванасць (якасныя характарыстыкі). Бо калі яны не ўплывалі наогул альбо паўплывалі ў дэструктыўным кірунку, то можна казаць пра пэўную «філасофскую інтэрвенцыю» на культурнай прасторы Беларусі, а не пра беларускую філасофію, якая паводле сваёй сутнасці павінна была б выконваць інтэгральную функцыю ў сістэме нацыянальнай культуры

Тут важна мець на ўвазе, што гутарка наша праходзіць на тэарэтычным і філасофскім, а не на эмпірычным ўзроўні. А гэта значыць, што маецца на ўвазе беларускі тып культуры і тыпалагічная беларуская ментальнасць, а не эмпірычныя факты наяўнай культуры, якія сёння часта-густа зусім не беларускія, а часам і антыбеларускія.

Несхаластычная філасофская традыцыя даследавалася ў нас фрагментарна Але і гэтага дастаткова, каб зрабіць выснову, што яна тут пазітыўна паўплывала на фармаванне лагічнасці думкі і правасвядомасці, затое аказалася амаль нейтральнай у сэнсе нацыянальнай самаідэнтыфікацыі беларусаў, часткова нават садзейнічала іх дэнацыяналізацыі, асабліва на сацыяльна-палітычным узроўні, дзе прывівалася фальшывае ўяўленне пра жыхароў канфедэратыўнай Рэчы Паспалітай як выключна «польскім» народзе

Марксізм як палітычна-эканамічная, сацыялагічная і філасофская тэорыя ўзнік на перыферыі прафесійнай (універсітэцкай) філасофіі. Калі ж ён стаў у былым СССР дзяржаўнай, манапольнай дактрынай, то перайшоў у казённую сафістыку (усё, што выгадна) і схаластыку (погляд на догмы «заснавальнікаў» і дырэктывы дзяржаўнай партыі як крытэрыі ісціны)

Адным словам, філасофскі прафесіяналізм у першым (сацыяльна-палітычным, афіцыйным) сэнсе, як кажуць, «меў месца», але вырадзіўся, бо аказаўся недастаткова ўкаранёным у нацыянальныя быццё і культуру У другім жа, творча-духоўным сэнсе беларускі народ мае сваю самабытную філасофію· яна прыхавана ў невычэрпных рэсурсах фальклору, іншых формах аўтэнтычнай народнай творчасці, у творах асветнікаў і пісьменнікаў ад Кірылы Тураўскага і Францішка Скарыны да Янкі Купалы і Максіма Багдановіча

Такі «традыцыйны» адказ, відавочна, не задаволіць ні вас, спадар Валянцін, ні нашых чытачоў. Бо, здаецца, і вы, і нашыя чытачы за крытэрый «філасафічнасці» прымаюць так званую еўрапейскую філасофію Але паняцце «еўрапейская філасофія» ёсць скарэй вынік гісторыка-філасофскай тыпалогіі, чым факт духоўнага быцця Усе «філасофскія народы» Еўропы маюць сваю філасофію, не падобную да іншых. У немцаў гэта анталогія, логіка і дыялектыка, у англічан – гнасеалогія і прагматызм, у французаў – сацыялогія і культуралогія, у італьянцаў – тэалогія і эстэтыка, у амерыканцаў – эканоміка і г.зв. «інструменталізм» (крытэрый ісціны – эмпірычны «поспех»). У беларусаў, як мне здаецца, – культуралогія і сацыяльная этыка.

Адносна будучыні я мог бы прапанаваць вось такі прагноз пасля таго як беларусам пашэнціць вярнуцца да сваёй спрадвечнай беларускасці, стварыць сваё грамадства і нацыянальную дзяржаву, яны скажуць сваё слова ў культуралогіі і герменеўтыцы. Мне здаецца, што тэарэтычная і практычная герменеўтыка «увядзенне» нацыянальнай традыцыі ў сучасны культурны кантэкст і «перакадзіроўка» іншанацыянальных культур у сістэму сваёй культуры – стане асноўнай філасофіяй XXI стагоддзя.

Мой аптымізм адносна беларусаў грунтуецца на двух відавочных ісцінах:

1. Гераічная эпоха гістарычных народаў Еўропы, гэта значыць іхняя барацьба за нацыянальнае самасцвярджэнне і іхняе самавыяўленне ў агульнаеўрапейскай культурнай прасторы, закончылася; у той час як у беларусаў тут яшчэ наперадзе – кульмінацыя і развязка. А гэта азначае, што ў Заходняй Еўропе і ЗША наступіла пара «жніва» і час спажывання, а беларусам трэба яшчэ «рыхтаваць глебу», сеяць і гадаваць свой плён.

2. Для мяне, як беларуса, расіец, немец, паляк, англічанін, француз – «празрысты», бо мне вядомая іх гісторыя і культура; а для іх беларус – «непранікальны», бо яны не ведаюць (а галоўнае, ведаць не пажадалі) беларускай гісторыі і культуры І як некалі (XVII – пач XIX стст ) англічане, французы, італьянцы, іспанцы жылі, тварылі гісторыю і культуру, а немцы, жывучы у раздробленай Германіі і рэфлексуючы над гэтым быццём, стварылі вялікую філасофію, так і беларусы XXI стагоддзя маюць шанец сказаць сваё слова ў герменеўтыцы

**– Кіркегар неяк сказаў пра Гегеля, што той – «прафесар філасофіі, а не філосаф». З гэтага і маё наступнае пытанне: Уладзімір Конан – філосаф ці доктар філасофскіх навук?**

– Сёрэн Кіркегар (1813 1855) памыляўся Гегель быў дасканалым філосафам і пакінуў нам узоры філасофствавання, стварыў філасофскую метамову і філасофскую стылістыку Ягоны крытык С Кіркегар быў скарэй тэолагам новай фармацыі, пісьменнікам-эстэтам, папярэднікам экзістэнцыялістаў, якія наблізілі філасофію да мастацкага пазнання Тым не менш, калі новая філасофія адраджаецца ў рэчышчы фенаменалогіі і экзістэнцыялізму (Э.Гусэрль, К.Ясպэрс, М Хайдэгер і інш.), то заснавальнікі гэтых плыняў, па сутнасці, антыгегелеўскіх, не пазбеглі ўплыву гегелеўскага метаду і стылю

Прыкметай філасофскага метаду і стылю ёсць адыход ад апісання эмпірычнай рэальнасці і пераход да паняційнага сінтэзу, тыпалогіі жыцця і культуры Аднак

# ЛЁС НАКАНАВАЎ...

**30 гадоў таму, у сакавіцкім нумары часопіса «Весці Акадэміі навук БССР» за 1964 год, пабачыла свет адна з першых дысертацыйных публікацый маладога ды дужа сур'ёзнага беларускага эстэтыка...**

**У той час, калі сярод раўналеткаў Уладзіміра Конана ў асаблівай пашане былі ваенныя вучылішчы і політэхнічныя інстытуты, вясковы хлапец з Наваградчыны скончыў перш гістарычны факультэт БДУ, а затым, папрацаваўшы колькі ў школе, паступіў у аспірантуру АН БССР, на спецыяльнасць «эстэтыка». Напэўна, сам лёс скіраваў Уладзіміра Конана на той «эстэтычны» шлях. Дый дзіва што: шлях быў непрацярэблены. Першыя крокі ў эстэтычным кірунку тады рабілі і М. Крукоўскі, і Э. Дарашэвіч, і С. Майхровіч, іншыя даследчыкі.**

**Уладзімір Конан узяўся даследаваць гісторыю эстэтычнай думкі ў Беларусі ў 20 – 30-я гады. Кандыдацкая дысертацыя па тэме «Развіццё эстэтычнай думкі ў беларусі ў 1917 – 1934 гг.» была абаронена ў 1964 годзе ў Інстытуце філасофіі АН БССР (навуковым кіраўніком дысертанта быў, дарэчы, сам акадэмік К. К. Атраховіч – К. Крапіва). У 1968 годзе на аснове дысертацыі ў выдавецтве «Навука і тэхніка» выйшла першая манаграфія У Конана з такою ж назвай. Як на мой погляд, і сёння тая першая кніжка Уладзіміра Конана захоўвае сваю свежасць, дынамізм думкі, прынамсі, яна вылучаецца сярод пазнейшых яго прац, якія, здавалася, павінны быць «лепшымі» за першую работу. Ды справа тут у тым, што ўжо ў першай кнізе У Конана выразна выявіўся той чарадзейны аўтарскі «магічны крышталь», які сарганізаваў тэкставую матэрыю ў адно цэлае, даў адчуць аўтарскае «я», напружаны пульс думкі. Менавіта той «магічны крышталь» ужо ў тыя часы дазволіў аўтару ўбачыць развіццё беларускай эстэтычнай думкі панарамна, цэласна, без ідэалагічнай аднабаковасці Напрыклад, разгледзець, паміж іншага, эстэтычныя погляды К. Малевіча, Я. Барычэўскага, І. Замоціна, А. Вазнясенскага... – усіх тых, хто не вельмі шанаваўся афіцыйнай навукай і тады, і пазней, скрозь да 90-х гадоў.**

**Апроч таго, у першай кнізе дэталёва разгледжана літаратурна-крытычная і філасофская думка дзеячаў суполак «Маладняк», «Узвышша», «Полымя», «Беларускай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў», газет «Савецкая Беларусь», «Звязда», «Дзянніца», тагачасных часопісаў. Ужо тады ў рэчышчы пошукаў У Конана выявіліся найбольш важныя для яго кірункі: «нашаніўская» пара, эстэтыка і творчасць Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, публіцыстыка і крытыка 20-х гадоў. Усе гэтыя кірункі праз гады будуць набываць новую якасць асэнсавання, а творчасць даследчыка – увенчвацца новымі творамі (кнігамі «Адам Бабарэка», Мн., 1976; укладанне твораў Л. Гмырака, Мн., 1992; «Святло паэзіі і**

стваральнікі класічных філасофскіх сістэмаў не адмовіліся ад «практычнага» пазнання – спасціжэння сутнасці эмпірычнай рэальнасці.

Мая спецыяльнасць – эстэтыка (доктарская дысертацыя – «Станаўленне і развіццё эстэтычнай думкі Беларусі: X ст – 1917 г ») і гісторыя філасофіі. Эстэтыка карыстаецца філасофскімі метадамі, але аб'ект яе даследавання – эстэтычныя каштоўнасці і мастацкая культура. Эстэтыка набліжаецца да мастацтвазнаўчай навукі (у гісторыі беларускай эстэтыкі важнае месца займалі літаратура і фальклор, мне прыйшлося прафесіяналізавацца ў літаратуразнаўстве і фалькларыстыцы), а гісторыя філасофіі да канкрэтнай гуманітарнай навукі і герменеўтыкі.

Пад філасофіяй у былым СССР разумелі дыялектычны і гістарычны матэрыялізм, навуковы камунізм і «навуковы» атэізм. У гэтым сэнсе я – не філосаф, хоць доктар філасофскіх навук. Але і ў шырокім кантэксце я прадстаўляю скарэй «практычную філасофію» (паводле тэрміналогіі Канта), а не філасофію «чыстую». Сёння мой навуковы кірунак – гісторыя і тыпалогія беларускай культуры ў кантэксце сусветнай культуры трыдцыці

Мая філасофская кар'ера не ўдалася. І я ўдзячны лёсу за гэтую няўдачу. Ёсць свая скрытая дыялектыка ўзаемапераходу ўдачы і няўдачы. Я не ўпісваюся ў афіцыйны, па сваёй сутнасці небеларускі філасофскі кантэкст Сёння гэты кантэкст дыктуецца акадэмікамі і прафесарамі філасофіі, якія не захацелі альбо не змаглі ўпісацца ў традыцыю нацыянальнай культуры. У нас была свая Беларуская Акадэмія Навук да ейнага бальшавіцкага пагрому ў 1930 – 1933 гг. Сёння мы маем Акадэмію на тэрыторыі Беларусі. З корпусу філасофскай прафесуры, здаецца, толькі адзін Мікалай Крукоўскі, лінгвіст і эстэтык, сёння прадстаўляе беларускую культуру на вузаўскім «філасофскім фронце».

**– Калі коратка, не ў трактатах, а ў тэзах, то які ён – ваш вобраз (феномен) сусвету і ваш вобраз (феномен) чалавека?**

– Калі прыняць за пастулат бясконцасць Сусвету (Сусвет нельга абмежаваць і закончыць – логіка не дазваляе), то ягоны вобраз можа быць толькі сімвалічным. У аўтэнтычнай міфалогіі космас прыпадабняецца Сусветнаму Дрэву (гэтай тэме прысвечаны мой артыкул у «Крыніцы») Але бясконцасць можа быць толькі сімвалічна апісана ў матэматыцы. Аб'ектам даследавання ёсць толькі тая частка Сусвету, якая засвоена нашым непасрэдным вопытам, навуковым эксперыментам, гэта значыць, канечныя і адносныя велічыні. Яшчэ філосаф Кант даказаў, што пазнавальны розум, выходзячы за межы вопыту (феномену) у сферу «рэчы ў сабе» (ноўменаў), становіцца антынамічным, супярэчлівым, бо аднолькава даказваецца тэзіс (сцвярджэнне) і антытэзіс (яго адмаўленне) Апошняе філасофскае слова адносна бясконцасці сусвету сказаў Гегель. сусвет уяўляўся яму як бясконцы творчы працэс – Бога і чалавека.

Усе дарогі вядуць да храму а думкі – да Бога. Паводле хрысціянскай філасофіі,

**цені жыцця. Лірыка Максіма Багдановіча», Мн., 1991; нарысам «Антон Луцкевіч: філасофія і эстэтыка нацыянальнага Адраджэння», «Голас Радзімы», NN 10 – 14, 1994).**

**Мне здаецца, ад першай кнігі У. Конан сцвердзіўся у трох, дзіўным чынам спалучаных у адной асобе, іпастасях· як філосаф у шырокім сэнсе слова, мысліцель, як архівіст, даследчык беларускіх перыядычных выданняў і кніжнай спадчыны XX стагоддзя; і як «журналіст» – у сэнсе «пішучы», актыўны аўтар друкаваных публікацый. Напэўна, ад спалучэння гэтых трох якасцяў – і вартасць конанаўскага радка: строгая выверанасць паняццяў і тэрміналогіі, бездакорнасць фактalogii, паслядоўнасць і аб'ёмнасць выкладу думкі. Артыкул – даследаванне, даследаванне – эсэ, эсэ – прыпавесць... Такія ўзаемапераходы жанраў уласцівы яго пяру.**

**Што да «філасофскасці», дык для беларускай гуманістыкі гэта якасць увогуле рэдкая і па сённяшні дзень; што да архіўных пошукаў, дык Уладзіміра Конана па сутнасці трэба называць гісторыкам беларускай журналістыкі і крытыкі· па яго дысертацыях і кнігах студэнты могуць вывучаць такія выданні як «Минский листок» (1886 – 1902), «Северо-Западный край» (1902 – 1905), «Наша Доля» (1906), «Наша Ніва» (1906 – 1915, 1920), «Савецкая Беларусь» (1920 – 1933), «Звязда» (20-я гады), публіцыстыку і журналістыку Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча.**

**У 70-я гады Уладзімір Конан пайшоў у глыб гісторыі беларускай стэтыкі: у эпоху Адраджэння, сярэднявечча, старабеларускага часу. Плён даследаванняў – «Нарысы гісторыі эстэтычнай думкі Беларусі» (у сааўтарстве з Э. Дарашэвічам, на рускай мове, 1972), этапная для філосафа кніга «Ад Рэне-**





матэрыяльны сусвет абмежаваны ў часе і прасторы, а бясконцасць – атрыбут Бога. Але гэты пастулат супярэчыць хрысціянскаму ж догмату ўсеагульнага ўваскрэсення не толькі ў Духу (па-за часам і прасторай), але і ў пераўтвораным («преображенном») целе Але ж цела не існуе па-за часам і прасторай Значыцца, матэрыяльны Сусвет на больш «тонкім» узроўні, верагодна, у вобліку святла ўсё ж вечны ў часе і бясконцы ў прасторы.

Нялёгка таксама мадэліраваць вобраз чалавека Ягоным сімвалам у біблейскага прарока (Данііл 4:1 – 13; 22 – 24), у Евангеліі (Мацв 3:10; Лк. 3:9) служыць Сусветнае Дрэва. Бог стварыў чалавека па вобразе і падабенстве Сваім Але грэшная матэрыя чалавека не здольна змясціць Бога У выніку – зло, грэхападзенне, злачынства Каінавае і як вынік – «расцяжэнне» акту тварэння дасканалага чалавека на ўсю прастору гісторыі. Чалавек як вобраз Бога – не ў пачатку гісторыі, а ў яе канцы Міфалагема Сусветнага Дрэва дакладна сімвалізуе касмічную веліч прызвання чалавека· ягоныя «карэнні» ў зямлі (Хтонас), а «каронаю» (галавою) ён цягнецца да неба.

**– У больш паэтычным, чым філасофскім, эсэ Ігната Канчэўскага «Адвечным шляхам» была канчаткова сфармаваная ідэя «беларускага шляху» як папярэчнага і Усходу і Захаду. Ваша разуменне Беларусі, яе сакральнай ролі і быційнага прызначэння?**

– Літаратурна-філасофскае эсэ Ігната Абдзіраловіча (1921 г.) ёсць падагульненне духоўнага вопыту беларускай культуры ад Францішка Скарыны да Янкі Купалы, урэшце, палітычнага вопыту Вялікай няўдачы незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі (1918 – 1920). Яго твор – пра шлях беларусаў да сваёй «мужыцкай» праўды ў шырокім сэнсе гэтага нашага «мужыкоўства» Але гэта не значыць, што беларускі шлях, альбо беларуская ідэя існуе цяпер, так сказаць, у апошняй інстанцыі Эсэ І.Канчэўскага «Адвечным шляхам» напоўнена пафасам няспыннага тварэння новых формаў грамадскага быцця і культуры, формаў, якія прынцыпова павінны быць незакончанымі, адкрытымі новым творчым імпульсам Для беларусаў «усходам» была найперш Расія, а «захадам» – Польшча Нас, казаў І.Канчэўскі, прыхіляла да сябе шчырасць і праўдашукальніцтва Усходу, але адначасова – аб'ектыўнасць і цярпімасць да іншадумання Захаду.

Але сінтэз пазітыўных плыняў двух тыпаў культур не адбыўся І.Канчэўскі яшчэ ў пачатку нашага стагоддзя прыкмеціў іншую тэндэнцыю – экспансіянізм з Усходу і Захаду, мешаніну далёка не лепшых бакоў «усходняй» і «заходняй» цывілізацый, якія ўжо тады гублялі свой маральны грунт традыцыйнага народнага жыцця Адсюль яго заклік да тварэння самабытнай беларускай цывілізацыі, хрысціянскай у сваёй аснове. Бо шлях да яе не праз гвалтоўную негацыю зла, а на дарозе яго «зняцця» дабром

Крыху пазней гэтую этычную філасофію творчасці развіваў Суліма (Ул Самойла) у эсэ «Гэтым пераможаш!» (1923 г.)

**санса да класіцызму (Станаўленне эстэтычнай думкі Беларусі ў XVI – XVIII стст.)» (на рускай мове, 1978). Першае ў беларускай гуманістыцы даследаванне эстэтычных поглядаў Ф. Скарыны, С. Буднага, М. Гусоўскага, Л. Зізанія, М. Сматрыцкага, М. Сарбеўскага, Сімяона Полацкага легла ў аснову абароненай у 1981 годзе ў Маскве, у Інстытуце філасофіі АН СССР доктарскай дысертацыі «Станаўленне эстэтычнай думкі Беларусі (X ст. – 1917 г.)». Аўтарам дысертацыі ўпершыню зроблена навуковая перыядызацыя беларускай эстэтычнай думкі ад X стагоддзя і да нашых дзён.**

**Але ўсё-такі, як здаецца, лёс наканаваў Уладзіміру Міхайлавічу іншае галоўнае выпрабаванне: навуковае станаўленне ў 60-х – 80-х гадах было для яго, па сутнасці, падрыхтоўкай, прыступкай да іншага змагання – змагання сярэдзіны і другой паловы 1980-х гадоў, да высілку нашых дзён. І гэта, як бачыцца, ёсць галоўным выпрабаваннем ўвогуле для ўсяго пасляваеннага, «філалагічнага» пакалення беларускіх літаратараў і навукоўцаў, тых, хто распачынаў наша чацвёртае Адраджэнне ў 60-я гады. Іменна намаганнямі гэтага пакалення беларускай інтэлігенцыі, чыю філасофскую «галаву», кажучы вобразна, і прадстаўляе Уладзімір Конан, у другой палове 80-х ажыццёўлена навуковая і факталагічная сістэматызацыя і фіксацыя здабыткаў беларускай культуры, навукі і мастацтва. Выдадзены «Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі» (5 тамоў), «Гісторыя беларускага мастацтва» (6 тамоў), скончана выданне «Беларускай Савецкай Энцыклапедыі», падрыхтаваны энцыклапедычныя даведнікі «Янка Купала», «Францішак Скарына і яго час», выдадзена факсіміле «Бібліі» Скарыны, распачата**

Не толькі філосафам і пракорам у сваёй айчыне быў І.Канчэўскі, а яшчэ практыкам-энтузіястам беларускага кааператыўнага руху Для яго быў гэта свой шлях беларусізацыі эканомікі, народнаю сцяжынаю між Сцылай капіталізму і Харыбдай бюракратычнага сацыялізму Напачатку XX стагоддзя кааператыўны рух сялянскай Беларусі быў зусім рэальным Калі хочаце, у гэтым быў эканамічны сакрэт беларускай ідэі.

Але сягоння, калі адбылося гвалтоўнае «рассяляньванне» народа і такая ж гвалтоўная дэнацыяналізацыя, цяжка сцвярджаць Боскую місію духоўна дэфармаванай і нацыянальна апаганенай Беларусі Усім нам, паводле слоў Выратавальніка, патрэбна нарадзіцца нанава, каб здзейніцць сваё прызначэнне ў Сусвеце

Калі ж прыпусціцца з духоўных узвышшаў у нізіны сацыяльнага быцця, то можна прагназаваць новы тып хрысціянскай цывілізацыі – поруч з ужо здзейсненым, рамана-германскім, альбо еўра-амерыканскім тыпам. Для такой міссіі недастаткова не толькі адной Беларусі, але і такой звышдзяржавы, як Расія. Новая цывілізацыя магла б узнікнуць на вялікай прасторы славянскіх і балтыйскіх народаў з уключэннем у яе іншых нацыянальнасцяў вялікага макрарэгіёну Уласна кажучы, былы СССР і былая «сацыялістычная сістэма» – гэта няўдалая, «крывая» (бо не ад Бога) спроба будавання альтэрнатыўнай (у процівагу германа-раманскай) цывілізацыі На жаль, няўдача камуністычнага «раю» дэмаралізавала слабыя душы (а слабыя – заўсёды бальшыня), скрывіла нашую перспектыву і кінула натоўпы ўчарашніх будаўнікоў камунізму ў абдымкі свайго былога «антыподу» Лідэры славянства – Польшча, а за ёю Расія, мабыць, ад адчаю, пачалі з татальнага плагіяту – перайманне еўра-амерыканскага ладу жыцця. У кожным арыгінале ёсць святло і цені, мёд і палын – усё ўраўнаважана. А нашыя плагіятары чэрпаюць пабольш твані, бруду ды палыну-чарнобылю

Сёння ў так званым посткамуністычным свеце ўтварылася расколіна. адны рвуць на сабе кашулю, плачучы над рухнуўшай Вавілонскаю Вежаю; другія не знайшлі нічога лепшага як аплёўваць уласную гісторыю, спісваючы свае беды і сваё духоўнае жабрацтва на рахунак «нябожчыкаў» Вось тут дарэчы будуць два афарызмы прадвесніка нашага трагічнага стагоддзя· «Тое, што не ўдалося, паважаць тым болей, што яно не ўдалося, гэта найперш належыць да маёй маралі» І яшчэ. «Ніводзін народ не мог бы выжыць, не ствараючы сваіх каштоўнасцяў· хто хоча ўтрымацца, той не павінен ацэньваць не так, як ацэньвае ягоны сусед» (Ф Ніцшэ).

**– Беларусь – чыннік хрысціянскай цывілізацыі. Пасля таго, як «Бог памёр» (натуральна – Ніцшэ), многія сталі лічыць, што ў гэтай цывілізацыі, як хрысціянскай, няма перспектывы. Вашае меркаванне на гэты конт?**

– Бог несмяротны, гэта мы, людзі, духоўна паміраем, калі адыходзім ад Бога У філасофіі хрысціянскага экзістэнцыялізму ёсць паняцце «богапакінутасць» Гэты стан душы і духа адчувалі паэты філасофіі эпохі крызісаў антычнага свету, калі казалі: памёр Вялікі Пан – душа прыроды, і жыццё людское страціла сэнс. Такі крызіс язычніцкай цывілізацыі адбыўся ў эпоху позняга эленізму, на памежжы старой і новай эпохаў. Нешта падобнае перажываем мы напрыканцы другога тысячагоддзя. Тайна Богаўвасаблення – уваходжанне Бога ў гістарычнае быццё людскае ёсць выратаванне чалавека, вяртанне яму сэнсу жыцця І адначасова – духоўнае пераўтварэнне космасу, прыроды. Але за амаль двухтысячагадовае жыццё так і не ўдалося ўвацарквіць грамадства, дзяржаву ў яе шматлікіх мадыфікацыях. На сацыяльна-палітычным узроўні чалавецтва засталося скарэй язычніцкім, чым хрысціянскім.

Сучасная еўра-амерыканская цывілізацыя не толькі не пайшла дарогаю з Хрыстом, але нават зруйнавала духоўныя набыткі, што ствараліся традыцыйным грамадствам, – ад сярэднявечча да XX стагоддзя У кароткай гутарцы немагчыма аргументаваць такую радыкальную ацэнку сучаснай цывілізацыі Але ж і без доказу відавочна. ні Біблія (Майсееў закон, Другі Закон, Пракорі), ні тым больш Нагорны Запавет евангельскі не сталі імператывамі сучаснага заканадаўства, масавай маралі, грамадска-палітычнага жыцця. Яны, па сутнасці, засталіся духоўным набыткам выбраных. І штодня мы чуем усё той жа голас гукаючага ў пустыні: «Прастуйце шлях Госпаду»

Дазволю сабе адзін прыклад. Мы, хрысціяне, ведаем, што ўсе словы і ўчынкі боскага Настаўніка – гэта парадыгмы і архетыпы будучай хрысціянскай цывілізацыі. Вось, напрыклад: «. І ўвайшоў Ісус у Ерусалім, і знайшоў у храме прадаваўшых валоў, авечак, галубоў, і сядзелі тамакам мянялы. І зрабіўшы біч з вяровак, выгнаў з храма ўсіх <. .> ды грошы мянялаў рассыпаў і сталы іх абярнуў» (Іаан 2:13 – 16) Для чаго? Каб не рабілі «дому Айца Майго домам гандлю». Домам Божым у шырокім сэнсе ёсць не толькі Царква, але і хрысціянская дзяржава, грамадства, прырода, космас. А між тым сёння гандляры і «мянялы» (банкіры) – гаспадары жыцця; усе іншыя, як кажуць, – толькі пры іх.

Бедныя евангельскія гандляры авечкамі, галубамі ды іхныя мянялы! Бог даруе ім грахі няцяжкія. Поруч з сённяшнімі нашчадкамі і пераемнікамі іх гандлярскіх справаў яны – як тыя авечкі і галубы перад ваўкамі і шакаламі. Пэўная абмежаваная колькасць гандляроў і «мянялаў» як слугаў грамадства і цывілізацыі павінна быць. Але жператварыць у «дом гандлю» ўвесь свет, «атаварыць» не толькі матэрыяльныя і духоўныя каштоўнасці, самога чалавека, яго душу, талент, жаночую красу і дзявочую цнатлівасць, легалізаваць гомасексуалізм і сутэнёрскае рамяство – да гэткай ганьбы не даходзілі нават язычнікі эпохі ўпадку

Маё перакананне перспектывы няма не для хрысціянскай цывілізацыі (яе трэба яшчэ тварыць – на Камені, адкінутым «будаўнікамі»), а для урбаністычнага радыкальна-ліберальсцкага грамадства.

**– Сёння і духоўна і сацыяльна-эканамічна мы знаходзімся ў нейкім невыразным, неакрэсленым, разбэрсаным стане. Дзе тое апірышча (і ў чым яно), якое б дазволіла нам стуктуравацца, набыць пэўныя рысы і, урэшце, самаідэнтыфікавацца, як трансцэндэнтна, так і рэчаіснасна?.. Ці вось гэтая невыразнасць і ёсць наш натуральны стан, наш сапраўдны вобраз?**

**падрыхтоўка «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі»... А таксама – закладзены Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны, Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны, Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне»...**

**У рэчышчы гэтай фундаментальнай работы высілкі Уладзіміра Конана займаюць асаблівае месца. Па-першае, чыста «аб'ёмна» ён прысутнічае вельмі заўважна ва ўсіх пералічаных выданнях; у «ЭЛіМБеле» дык увогуле яго пяру належыць ці не трэцяя частка матэрыялаў. Па-другое, гэткая – з неабходнасці – навукова-асветная журналістыка У. Конана выяўляе паняцце, думку, з'яву ў найбольш сціслай, ёмістай, а праз тое – даходлівай форме. Праз «журналістыку энцыклапедый» Уладзімір Конан вырабіўся ў сапраўднага, класічнага публіцыста, палеміста і нават памфлетыста. З аднаго боку – кніга «Ля вытокаў самапазнання: Станаўленне духоўных каштоўнасцяў у святле фальклору» (1989), з другога – 15 – 20 ёмістых публіцыстычных публікацый у год. А яшчэ – штогадовыя (да пяці) навуковыя канферэнцыі і сімпозіумы, «круглыя сталы» і анкеты ў «Нёмане», «Мастацтве», «ЛіМе». Прагледзеўшы гадавікі нашых часопісаў і «ЛіМа» за апошнія гадоў сем, можна пераканацца, што У. Конан – вядучы (і памерам, і якасцю) аўтар і «Мастацтва» (эстэтыка), і «Нёмана» («Гісторыя. Культура. Нацыя»), і «ЛіМа» (крытыка, падсумаванне дыскусій і анкет). І на старонках расійскай «Литгазеты» Уладзімір Конан прадстаўляе беларускую думку годна, на сучасным еўрапейскім узроўні мыслення... Вось ён, сённяшні кон беларускага філосафа – журналістыка.**

**І палітыка. Бо хіба гэта не наканаванне нашым лепшым розумам – рабіць журналістыку, публіцыстыку, асветніцтва, заміж таго каб займацца выключна сваёй справай, «горнімі сферамі»?..**

**Але «філасофія» і эстэтыка ў яго тым часам ніколі не перапыняліся. У Скарынаўскім цэнтры, дзе Уладзімір Міхайлавіч ад пачатку ўзначальвае аддзел гісторыі і тэорыі культуры, пад яго кіраўніцтвам распачата тыпалагічнае даследаванне беларускай культуры, яе важнейшых складнікаў. І справы тут – метадалагічнай, тэхнічнай і практычнай – непачаты край. Чым і заняты сёння філосаф.**

**P S. ...Мусіць, не ў кожнага філосафа стане смеласці (досведу?) тлумачыць жыццё – жыццё напрыканцы XX стагоддзя – II тысячагоддзя асабліва. Сучасныя палоннікі «любові да мудрасці» зніякавела маўчаць, уражаныя тою рэальнасцю, у якой мы існуем. Што ГЭТА: баль перад Апакаліпсісам, выпрабаванне перад Прышэсцем?..**

**Пытанняў, прынамсі, болей, чым адказаў Але пытанні – гэта ўжо прага ідэалу. У гэтым сэнсе мы прагнем Беларусі ідэальнай. Дзе яна? Калі найбольш зразумелая для нас сённяшніх – дык перадусім у Максіма Багдановіча. Памятаеце: «Нам з вамі адна дарога... да ясных зор»?**

**Ці даляцім? «Ці хваце нам сілы?..»**

**Духоўнае ўзыходжанне – ад каранёў, Зямлі – да Неба – наканавана кожнаму народу, якому-кольвек давялося існаваць пад сонцам. На думку Уладзіміра КОНАНА, у тым і сэнс біблейскай прыпавесці пра вавілонскую вежу.**

Юрась ЗАЛОСКА

– Найперш невыразным і бесструктурным уяўляецца мне займеннік «мы». Гэта, скажу я, – з лексікону эпохі пралеткультаў Сённяшнія сродкі масавай інфармацыі зноў паўтараюць. Мы, мы, мы! «Мы ўсё яшчэ рабы», – кажа адзін газетны аглядальнік, упікаючы «адсталую» Беларусь за адставанне ад ліберальнай Расіі. Але хто яму дазволіў запісаць мяне і вас у сваю каманду? «Перш за ўсё не блытайце мяне з іншымі!» – казаў некалі адзін філосаф і паэт Гэта гіра «Нас» было прароцтва: «Не мір прыйшоў Я прынесці, а меч і разлучэнне».

Газета «ЛіМ» (1994, 26 жн ) паведаміла аб рэгістрацыі 26-ай па ліку «Усебеларускай партыі народнага адзінства і згоды» Назва дваццаць шостага «раздзялення» ўспрымаецца як іронія, бо ніводная эпоха не перажывала такога ўзаемнага несумяшчальніцтва, як нашая, калі сапраўды «ворагі чалавеку хатнія яго»

Хрысціяне-вернікі прымяняюць толькі Меч Духоўны, бо паднятыя меч для забойства ад мяча загінуць Як дакладна сказаў наш паэт і асветнік Сімяон Полацкі: «Мечь і азь, подражая Христу Господу, от устъ моихъ испущаю, не человеки убивающій, но злобы ихъ, и лукавства ихъ посечающій, сухія ветви от древа отрезающій, да прозябнуть зеленыя ..»

Не пра гэта, здаецца, спадар Валянцін, вы пытаецеся Мабыць, пад «мы» маеце на ўвазе Рэспубліку Беларусь і яе грамадзянства як нейкі сацыяльны «агрэгат» У такім выпадку я скажу: дарэмна хваліцца «свет» (маецца на ўвазе еўра-амерыканская «грамадскасць») тым, што не ведае Беларусь і ведаць не вельмі жадае, залічыўшы яе да «адсталых» рэгіёнаў Дарэмна неафіты нацыянальнага адраджэння самаапляўваюцца, сцвярджаючы, быццам Беларусь дазволіла «зрабіць сябе такой духоўна прыніжанай, нацыянальна адсталай і культурна недаразвітай» («ЛіМ», 1994, 26 жн.).

Беларусь, будучы раздзеленай і нават палярызаванай нацыянальна, культурна, эканамічна і палітычна, усё ж не дазволіла сабе вырашаць свае праблемы шляхам грамадзянскай вайны А паглядзіце, што робіцца на прасторы былога СССР? Расійскія лібералы гвалтоўна разагналі сваю даволі памяркоўную парламенцкую апазіцыю, а ўпартых расстралялі разам з Белым Домам – сімвалам новарасійскай дэмакратыі. Вайна ў Закаўказзі, Сярэдняй Азіі, а ў Расіі «войны, глады і моры па месцах» Дадайце сюды спарадычныя, але даволі рытмічныя гвалты ў ЗША, партызанскую вайну ў Паўночнай Ірландыі Я ўжо не кажу пра Афрыку, Палестыну, Азію, Паўднёвую Амерыку. Да «рэгіянальных» і грамадзянскіх войнаў там, здаецца, даўно прызвычаіліся.

І сярод гэтага мора гвалтоўнага «вырашэння» дзяржаўных і прыватных амбіцыяў – нацыянальна абрабаваная, знявечаная, пагарджаная, але мірная Беларусь. Пагадзіцеся, усё ж гэта – «беларускі феномен»! Як на маю думку, ён тлумачыцца шматвяковай традыцыяй беларускай прававой і дэмакратычнай дзяржаўнасці І яшчэ хрысціянскай традыцыяй беларускай нацыянальнай эліты, бо яна помніць запавет: «Хто сцерпіць да канца, той выратуецца»

Але чаму ў такім выпадку дэнацыяналізаваныя абывацелі і люмпены (па-нашаму, басякі) спяць і сны бачаць расійскія? Ды вельмі проста: спадзяюцца, што Расія іх накорміць і напоіць. А новая буржуазія спадзяецца падзяліць звышпрыбыткі сваіх расійскіх хаўруснікаў. Цяперашні расійскі ўрад змог адносна стабілізаваць сваю грашовую сістэму пры дапамозе замежных банкаў і крэдытораў, але найбольш праз «нацыяналізацыю» (скарэй прыхватызацыю) былых агульнасаюзных фондаў і структураў ды праз сваю манаполію на энергарэсурсы. Пры татальнай прывязцы эканомікі Беларусі да Расіі нашая сельская і лёгкая прамысловасць будзе працаваць на чужога «дзядзьку». А для Расіі спадзявацца толькі на прыродныя рэсурсы – безнадзейная справа. У недалёкай перспектыве новыя альтэрнатыўныя і аднаўленыя традыцыйныя энерганосьбіты вызваляць прыбалтыйскія дзяржавы ад манапалістычнага ціску Там жыццёвы ўзровень наблізіцца да сярэднееўрапейскага. Вось тады жыхары Беларусі не захочуць і надалей трэсці торбамі ды насіцца з талонамі. Ім давядзецца перадаць уладу нацыянальна-адраджэнцкаму ўраду Тады і адбудзецца сапраўдная нацыянальная самаідэнтыфікацыя Беларусі і беларусаў.

**– Кагадзе ў нас было за апрыёры: «матэрыя першасная, дух другасны». Як вы лічыце, на чым палягаюць прыярытэты быцця: эканоміцы, палітыцы, культуры (у сукупнасці ўсіх сваіх чыннікаў)? А можа, увогуле на нечым ірацыянальным, што можна вызначыць адно ў катэгорыях містыцызму?**

– Сярод шматлікіх канцэпцыяў адносна «духу і матэрыі» і сёння застаецца аптымальнай гегелеўская сістэма і дыялектыка. Дух вечны ў тым сэнсе, што ён адначасова ёсць творчы пачатак і канчатковая мэта, выток і ўток. Матэрыя вечная ў іншым сэнсе. яна спрадвеку творыцца духам як свая аб'ектывізацыя, сваё «іншабыццё». Але сэнс аб'ектызаванага быцця, у тым ліку чалавечага грамадства, – што яно праз творчасць рэалізуецца ў культуры. Гістарычнае, гэта значыць рэалізаванае ў часе і прасторы, быццё вялікіх цывілізацый не пакінула пасля сябе нічога, апрача культуры ў шырокім значэнні гэтага паняцця. У перспектыве зямной і касмічнай цывілізацый культура, гэта значыць духоўна пераўтворанае быццё, у тым ліку самога чалавека, ёсць мэта, а матэрыя, грамадства, эканоміка, палітыка – толькі сродак. Што ж датычыцца ірацыяналізму і містыкі, то яны – толькі феномены нашай, асабовай ці калектыўнай душы і, як такія, не ўваходзяць у вынік, ва ўток чыстую духоўнасць і логіку культуры.

**– Сёння мы ўсе палоннікі сродкаў масавай інфармацыі, якія з прыроды сваёй існасці разлічаныя не на асобу, а на нейкага сярэднестатыстычнага, масава прысутнага суб'екта. Такая рэальнасць была сфармаваная «паўстаннем масаў» (Артэга-й-Гасэт) у XX стагоддзі, і тут, як кажуць, нічога не паробіш. Але ўсё ж такі, няўжо ў гэтай сітуацыі для асобы (як від а) няма ніякай перспектывы выжыць, застацца, быць мерай усяго і ўсяму.**

– Сродкі масавай інфармацыі ўжо паводле самога свайго паняцця ёсць масавая, а

# ЧАЛАВЕК РЭНЕСАНСУ

*(Некалькі рысаў да творчага партрэта Уладзіміра Конана)*

**Шмат ужо гаворана ў нас пра неабходнасць адраджэння беларускай нацыянальнай культуры і пра тое, што толькі пры гэтай умове стане рэальнасцю і беларускі дзяржаўны суверэнітэт. З тым пагодзіцца сёння, пэўна, кожны сумленны наш інтэлігент, за выключэннем, можа, толькі самога Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь (вось парадокс!) ды ўзначальваемага ім урада. Гаварылася не раз і пра філасофію як пра душу і ўнутраны пафас такога адраджэння. Тут, аднак, думаецца, і цяпер яшчэ не ўсё для нас ясна. Па няшчаснай расейскай традыцыі філасофію, быццам нейкія заморскія прыправы, заўсёды прывозілі да нас з-за мяжы. Нездарма ж і Барыс Пастарнак параўнаў неяк філасофію з хрэнам. Нават у Пушкіна «из Германии туманной привез учености плоды». А пазней адтуль жа на свае і на нашы галовы Пляханаў з сябрамі занеслі марксізм. Ну, а ўжо нам, правінцыялам-беларусам, быццам халопам «с барского стола», у цыркулярным парадку дасылаліся філасофскія аб'едкі толькі з Масквы. За жалезную заслону нас увогуле не выпушчалі. Таму і выпрацаваўся ў нас такі рабскі рэфлекс перад аўтарытэтамі маскоўскай пробы. Варта было толькі каму-небудзь атрымаць адабрэнне з Масквы ці, тым болей, маскоўскі чын, як у нас станавіўся ён на ўзровень ледзь не самога Платона. «Філасофія ад Платона да Сцёпіна» – прачытаў я неяк у адным сур'ёзным кантэксце і рассмяяўся з горыччу: да чаго ж мы ўсё-такі халопы...**

**Але знікла вось, нарэшце, жалезная заслона, і перад намі адкрылася ва ўсёй сваёй складанай супярэчлівасці заходняя цывілізацыя. І што ж? Гнемся мы зараз і перад заходняю цывілізацыяй, хапаючы адтуль усё, што трапіцца, зусім як калегі-камерсанты з нашых кіёскаў. Хапаем прычым пераважна тое, што там даўно ўжо перасталі насіць. Як быццам і не было папераджальных сведчанняў аб заходняй цывілізацыі такіх аўтарытэтных яе прадстаўнікоў, як Шпэнглер, Тойнбі альбо Сарокін. Асабліва ж упадабаўся чамусьці нашай філасофскай моладзі Жак Дэрыда з яго ным шакіруючым «дэканструктывізмам». Нам сапраўды цяпер зусім не пашкодзіла б добрая порцыя дэканструктыўнага скептыцызму, каб урэшце вызваліцца ад жывучых марксісцка-ленінскіх догм, але ж не ў такім глабальна-абсалютным дэрыдоўскім маштабе. Як сказаў неяк Зянон Пазняк, каб пазбавіцца ад тараканаў, не трэба ўзрываць дынамітам печ. Філасофскі нігілізм a la Jacques Derrida для нашае культуры і яе, так бы мовіць, светапогляднага суверэнітэту, меў бы цяпер проста забойчае значэнне. Нам і ад свайго дамашняга нігілізму ніяк не адкараскацца. Барані нас Бог, каб беларускае мыленне стала такім! Калі ўжо глядзець на Захад, дык там куды больш прыгоднай для нас аказалася б філасофія неатамізму і персаналізму, якая прапаноўвае і пазітыўны ідэал і да якое, між іншым, усё больш і больш хінецца цяпер сучасная заходняя інтэлігенцыя. Філасофія тая**

не асабовая, тым больш элітарная культура. Да гэтай апошняй яны падключаюцца фрагментарна, праз літаратурна-мастацкія і навуковыя часопісы, газеты, радыё – і тэлеперадачы. У апошнія гады масавая культура імкнецца адсунуць элітарную на другі ці нават трэці план. Да гонару беларускамоўных газетаў і часопісаў, большыня іх засталася ў рэчышчы беларускага адраджэнцкага руху· там, дзе гартуецца душа і дух асобы і нацыі. Масавая культура не ёсць мэта, а толькі сродак запаўнення душэўных пустэчаў масавага чалавека. У гэтым сэнсе яна не вечная, забываецца адначасова са смерцю (духоўнай і біялагічнай) яе носьбітаў і «спажыўцоў». Але ў масавай культуры ёсць не толькі камічны, але і злы, дэманічны аспект «Чалавек нараджаецца на пакуты, як іскры, каб паднімацца ўвышыню», – дакладна сказана ў Бібліі. А дэманічная пухліна масавай культуры апускае яго нават не на зямлю, а пад зямлю – на ўзровень ніжэйшых арганізмаў. Тут ёсць вялікая спакуса, небяспека і бяда Калі не прымяніць хірургічную аперацыю, то пухліна дасць метастазы па ўсяму целу народнаму – з абавязковым лятальным зыходам

Пра «паўстанне мас» раней і больш дакладна сказаў Ф.Ніцшэ. Перавага нямецкага паэта і філосафа ў тым, што ён вызначыў перспектыву духоўнага адраджэння чалавецтва праз вяртанне духу рыцарства, аднаўленне вялікай трагічнай культуры і праз вяршынства звышіндывідуальных каштоўнасцяў, сімвалічна абазначаных вобразам Звышчалавека.

**– У звязку з папярэднім пытаннем пра масы і асобу... Уладзімір Конан, натуральна, асоба. Але як ён сам лічыць, ці рэалізаваў ён сябе ў той меры, якую Бог яму «адпусціў»? А калі не рэалізаваў, то хто «вінаваты»: Бог, людзі ці – Уладзімір Конан?**

– Чалавек – прынцыпова «незакончаная сістэма», калі можна так сказаць. Большыню адмераных яму лёсам гадоў ён траціць на фармаванне сваёй асобы і толькі меншую частку жыцця – на арыгінальную творчасць. Нават падняўшыся на духоўную вышыню, ён не паспявае сказаць адтуль сваё апошняе слова. У гэтым – трагізм чалавека духоўнага Трагічны канфлікт элітарнага быцця і творчасці, дакладна выяўлены лацінскай прымаўкай «ars longa, vita brevis», здымаецца духоўнай пераемнасцю пакаленняў.

Калі такая пераемнасць знікае, то народ як нацыя марнее і ўрэшце гіне.

Мая асабістая драма, як і шмат іншых беларускіх даследчыкаў і літаратараў, інтэлігентаў у першым пакаленні, яшчэ і ў тым, што шмат намаганняў, псіхічных і духоўных, мы страцілі на пераадоленне «зямнога прыцягнення». Мы яшчэ перажылі вялікія катастрофы XX стагоддзя Але тут я – прыхільнік экзістэнцыялісцкага імператыву: кожны чалавек выбірае свой лёс, а сваёй экзістэнцыяй, сваімі ўчынкамі і думкамі фармуе сваю сутнасць. А значыцца, сам ёсць «віной» свайго жыцця – добрага альбо дрэннага.

**знаходзіць там і практычнае стасаванне ў ідэалогіі хрысціянскае дэмакратыі, вельмі прыгоднай, дарэчы, і для цяперашняй палітычнай сітуацыі ў нас. Мы неяк зусім забыліся пра Бога. Захапіўшыся таямніцамі зорнага неба над намі, выкінулі з-пад увагі маральны свет унутры нас, аб небяспецы чаго папярэджваў яшчэ Кант. А тым самым пакінулі і катэгарычны імператыў служэння свайму народу і сваёй культуры, у якім бы няшчасным стане яны ні былі. Філасофія сцыентызму, прывёўшая да цяперашняе дэструкцыі, у якую, быццам страусы, хавалі мы ў свой час непакорныя нашы галовы, была спачатку нядрэнным сховішчам ад мярцвяцкай задушлівасці афіцыйнага марксізму-ленінізму. Але сховішча гэтае мела выхады ў розныя бакі. З яго можна было своечасова выскачыць, каб зрабіць бліскавічную афіцыйную кар'еру ў той жа цэнтрапупскай Маскве, а можна было, адкінуўшы ўбок сціплыя ўласныя амбіцыі, паціху адточваць лагічны свой інструментарый у надзеі, што калі-небудзь ён усё ж такі спатрэбіцца для ганаровай справы.**

**Але быў яшчэ адзін, куды больш высакародны і варты глыбокай павагі шлях, які раней, прызнаюся, і сам я не вельмі бачыў і які ў сапраўднасці быў самым сумленным і самым прыдатным да высокага звання філосафа, вернага свайму маральнаму імператыву. У беларускай мастацкай літаратуры аналагічны шлях сімвалізавала магутная асоба Васіля Быкава, якая сфармавала вакол сябе такую ж магутную групу маладых беларускіх палітыкаў на чале з Зянонам Пазняком. Не бяруся ацэньваць гэтых людзей: тое зробіць сама гісторыя. Як ска-**





# СУСВЕТНАЕ ДРЭВА

Гэтая міфалагема вядомая многім народам, рэгіёнам і цывілізацыям, шматгранна выявілася ў фальклоры і сусветнай літаратуры, урэшце, у народным дэкоры і ўжытковым мастацтве набыла значэнне цэнтральнага кампазіцыйнага элементу. У сваёй натуральнай форме яна ўяўляецца вялікім дрэвам, карэнні якога пранікаюць праз зямлю ў апраметную (на «той свет»), а карона ўзнімаецца да неба. Традыцыйная герменеўтыка тлумачыць Сусветнае Дрэва як універсальны сімвал анталагічнага зместу· гэта – міфалагічная мадэль космасу, падзеленага на тры вертыкальныя зоны· верхняй зоне адпавядае карона, сярэдняй – ствол, а ніжняй – карэнні пад зямлёй. Так па вертыкалі Сусвет дзеліцца на тры часткі· неба, зямлю і апраметную Зааморфнымі адпаведнікамі мадэлі Сусвету ёсць адпаведна птушкі на верхавіне дрэва, капытныя (алені, коні ці інш.) ля яго ствала, нарэшце змей і яго метамарфозныя пераўтварэнні ля карэнняў· першыя сімвалізуюць неба, другія – зямлю, трэці – падземнае іншацарства.

Шматлікія варыяцыі Сусветнага Дрэва і прыпадабненні да яго (Сусветная Гара, Лесвіца да неба, Сусветная Вось і да т.п.) з адпаведнымі зааморфнымі сімваламі трох вертыкаляў космасу – ад натуралістычных да ўмоўна-геаметральных выяваў – набылі значэнне кампазіцыйнай дамінанты ў аўтэнтычным народным мастацтве і ў рэшце рэшт стылізаваліся ў сучасных плынях прафесійнай творчасці. У гэтым міфалагічным архетыпе Сусвету, на першы погляд, як быццам бы выпадае завяршальнае звяно боскага светатварэння чалавек, якога, паводле біблейскай гісторыі, Бог паставіў гаспадаром расліннага і жывёльнага свету (Быццё I: 26-30). Такі «пропуск» сведчыць пра архаічнасць міфалагемы, бо чалавек у ранняй міфалогіі яшчэ не выдзеліўся з прыроды, уяўляўся ў сінкрэтычным адзінстве з ёю, меў свайго зааморфнага «продка» – змяю, жывёлу, птушку Пазней у народнай творчасці сутнасць міфалагемы нярэдка трансфармавалася ў адпаведнасці з іншай ідэалогіяй і сістэмай каштоўнасцяў; аднак і там яна набывала значэнне традыцыйнага сюжэту і кампазіцыйнай асновы, станавілася фактарам стылістычнай адметнасці і перадавалася новым пакаленням творцаў па законах пераемнасці.

Уяўленні пра Сусветнае Дрэва і ягоныя персаніфікацыі вельмі разнастайныя, але ёсць у іх нешта інварыянтнае, устойлівае, нязменнае і ў славянскім рэгіёне, і на далёкіх ціхаакіянскіх выспах. Ключом для разгадкі гэтай сімвалічнай міфалагемы могуць паслужыць як архаічныя індаеўрапейскія, мангольскія і іншыя міфы, непасрэдна альбо ўскосна звязаныя з ёю, так і мадэрнізаваныя, у антрапалагічным і духоўна-творчым кірунках яе варыяцыі ў Бібліі, у тым ліку ў Новым Запавеце

**заў некалі Шпэнглер, на вялікае трэба глядзець з арлінай перспектывы. У філасофіі той шлях цяжэй было ўбачыць, але і там ён быў у вернасці сваёй нацыянальнай культурнай глебе: мове, гісторыі, фальклору, народнаму мастацтву і самому нацыянальнаму яе духу, духу не толькі горада, але і вёскі. Апошняе здаецца мне, дарэчы, вельмі важным, бо пазбавіцца нам вясковых каранёў – гэта тое ж самае, як пякуча-вобразна напісаў Юрась Залоска, што здзерці з самога сябе скуру. А ангельскі культуролаг К. Доўсан увогуле лічыў, што ўсе цывілізацыі, пачынаючы з антычнасці, гінулі, як толькі горад пачынаў прыдушваць вёску.**

**Калі сцыентысцкі напрамак у філасофіі прыводзіў у беспаветраную пустэчу дэструктыўнага касмапалітызму, які яшчэ М. Бярдзяеў акрэсліваў як пустую і шкодную ўтопію і ў якім заставалася альбо засохнуць, альбо прадаць сваё нацыянальнае першародства за сачывічную поліўку афіцыйных акадэмічных званняў, то нацыянальны шлях даваў магчымасць няспынна рухацца наперад, сілкуючыся здаровымі жыццёвымі сокамі народнае эмпірыкі. Толькі на гэтым шляху, на гэтай глебе і магло вырасці, зусім як у Гётэ, зялёнае дрэва жывой нацыянальнай філасофіі, – у адрозненне ад шэрага шкілету абстрактнага навукападабенства. Дрэва тое ў нашай філасофіі сапраўды было цяжэй убачыць, і не столькі таму, што яно яшчэ не распуцілася і не зацвіло, колькі таму, што і глядзелі мы на яго не з арлінай, а з жабчынай перспектывы. Яшчэ Хрыстос горка скардзіўся, што няма прарока ў сваёй айчыне, так што падобная перспектыўка, як бачым, існавала і ў часы Хрыста. А ў**

Пачнем з ірана-персідскай міфалогіі і ведыйскай (індуісцкай), бо яна ўжо ў імёнах часткова раскрывае сваю семантыку. Паміж сямі акцыдэнцыяў (увасобленых выяўленняў) вярхоўнага бога Ахурамазды («несмяротнасць») ёсць Амертат, дух вечнага жыцця, гаспадар крыніцы жывой вады, якая выцякае з-пад карэнняў Сусветнага Дрэва На ягонай верхавіне жыве прарочая птушка Сімург, што ўзгадавала ў гняздзе немаўля Заля, будучага асілка, бацьку народнага героя Рустама Здольнасць Сімурга лекаваць смяротныя раны і хваробы – водгалас архаічнага еўраазійскага міфа пра арла, які прынёс на зямлю галінку нябеснага Дрэва Жыцця

Шматлікія ўскладнёныя варыянты мадэлі Сусветнага Дрэва – метафарычныя абазначэнні Брахмы, найвышэйшага бога індуісцкай рэлігіі. У ведыйскай міфалогіі аналагам гэтай міфалагемы з'яўляецца Ашваттха («конская стаянка») – сакральнае фігавае дрэва, пра якое распавядаецца ў Рыгведзе і Упанішадах. У Рыгведзе ёсць згадка пра сонца і месяц, дзень і ноч. дзве злучаныя разам птушкі хінуцца да аднаго дрэва. адна з іх дзяўбе салодкі плод, а другая толькі глядзіць на яго. Складаным па кампазіцыі і семантыцы аналагам Сусветнага Дрэва будыйскай міфалогіі з'яўляецца Мандала – універсальная мадэль сусвету У міфах жыхароў выспы Калімантан (Заходняя Інданезія) бог дэміург Махатала, які выяўляе дуалістычнае адзінства з багіняй ніжняга царства Джатай, стварыў Сусветнае Дрэва са сваёй алмазнай дыядэмы. На галінкі дрэва спусціліся дзве птушкі-насарогі – самец і самка (увасабленне верхняга і ніжняга светаў). Ва ўзаемнай барацьбе яны загінулі, разбурыўшы і Сусветнае Дрэва; але з іх целаў і рэшткаў Дрэва ўзніклі першалюдзі і элементы ландшафту Мангольскі варыянт Сусветнага Дрэва – вечназялёны Галбурвас, сімвал урадлівасці і адраджэння жыцця Паводле калмыцкага міфу яно расце ў Сусветным Акіяне, апавітае Сусветным Змеем.

У алтайскай міфалогіі ёсць вобразы Цер-Су («зямля-вада») – добрыя духі, якія жывуць на снежных гарах, у цэнтры зямлі, ля гіганцкай елкі, якая сваёй каронай узнімаецца да жытла вярхоўнага бога Ульгеня Цікавай алюзіяй на Сусветнае Дрэва з'яўляецца інданезійскі бог Лаваланґі – крыніца жыцця, святла, дабра, ды яго антаганіст Латурэ Дане – бог ніжняга свету, землятрусу і смерці Латурэ Дане нарадзіўся без галавы, а Лаваланґі – без ніжняй часткі цела, і толькі разам яны складаюць цэлае. Паводле міфаў батакаў, што жывуць на выспе Суматра, Мула Джадзі («пачатак станаўлення») – трыадзіны стваральнік свету· у вобразе дэміурга ён кіруе небам, у аблічы страшыдлы ў драўлянай клетцы, прывязанай да галінаў Сусветнага Дрэва, гаспадарыць на зямлі, а ў аблічы змея Нага Падоха – у падземным свеце

У індуісцкай міфалогіі балійцаў, яванцаў і малайцаў ад Сусветнага Дрэва (Нагасары) нараджаюцца першапродкі людзей У кітайцаў гэтай міфалагеме адпавядае Паньтао (Лінтао, Сяньтао) – персік несмяротнасці, Цзяньму – цудадзейнае дрэва, не мае ценю, цэнтр неба і зямлі У карэйцаў святое дрэва называюць Сіндансу. У міфах нагайцаў, арачэяў, удагейцаў культурны герой Хадаў (Ходай, Хадо) знаходзіць на Сусветным Дрэве шаманскія атрыбуты і закладвае пачатак шаманства. У тыбецкай міфалогіі яно

**савецкую «эпоху» яна яшчэ і свядома насаджалася зверху, каб усіх нас звесці на ўзровень філасофскіх жаб. Варта толькі глянуць, як мы ацэньваем працу сваіх калегаў і як нашы ўлады ацэньваюць нас, пасылаючы аж дагэтуль нашы рукапісы на рэцэнзію ў тую ж самую Маскву. Ну а там нас дык зусім ужо не заўважаюць. Але Бог існуе, як кажуць, і на гэтым шматпакутным шляху зазелянела, нарэшце, і ў нас. І сярод маладога, стракатага пакуль яшчэ парасніку выразна бачыцца сёння магутны сілуэт сапраўднага беларускага філосафа-адраджэнца Уладзіміра Конана. Менавіта Конан, думаецца, можа сёння служыць своеасаблівым арыенцірам для тых блудных сыноў беларускай культуры, што не знайшлі яшчэ шляху да храма ісціны. Гэткім арыенцірам паслужыў ён, дарэчы, некалі і для мяне. Хаваючыся ад усевідушчага вока вартавых чысціні «марксісцка-ленінскай тэорыі» ў недаступнай іх курыным крылам стратасферы абстрактна-лагічнага аналізу і рызыкуючы пры гэтым згубіць поўнасцю зямныя арыенціры, я заўсёды са здаровай зайздрасцю паглядваў на высокае кананаўскае філасофскае дрэва, якое вяршыняю свабодна дасягала тых жа туманна-блакітных вышыняў, але знізу трывала стаяла на глебе здаровай эмпірыкі роднай нацыянальнай культуры, глыбока ўкаранііўшыся ў самыя нетры яе. літаратуру, мастацтва, гісторыю. Менавіта гледзячы на раскідзістае і высокае кананаўскае філасофскае дрэва, бачылася ясна, што і са́маму, так бы мовіць, чыстаму філосафу не трэба губляць сувязі з сакавіта-пачуццёваю глебай канкрэтнай фактарыкі. Без гэтага ён так ці гэтак рызы-**





ўяўляецца ў выглядзе гары альбо лесвіцы, якая ўздымаецца над Сусветным Акіянам. Паводле эвенскіх і нанайскіх міфаў, душы людзей і жывёлін да нараджэння жывуць у вобразе малых птушак на галінках Сусветнага Дрэва.

Адносна больш позняга паходжання адпаведныя еўрапейскія міфалагемы. У скандынаўскіх міфах (увайшлі ў эпас «Старэйшая Эда») распавядаецца пра гіганцкі ясень Іггдрасіль, які злучае неба з зямлёю і падземным царствам. На ягонай верхавіне жыве мудры арол, а яго карэнні грызуць змеі і дракон Нідхёгг. Іх сварку перадае наверх вавёрка на ствале, на сярэднім жа ўзроўні ясеня пасвяцца чатыры алені і каза Тры карані ясеня пранікаюць у падземнае царства смерці, там уладараць веліканы. З-пад карэнняў цякуць тры крыніцы, ля адной з іх жывуць жаночыя боствы (німфы) норны, якія вызначаюць людскі лёс. Рускім легендам і беларускім народным загаворам вядомы Алатыр (Латыр), альбо бел-гаруч-камень, «усім каменням камень», які асацыіруецца з алтаром – цэнтрам сусвету пасярод акіяна на выспе Буяне. Там расце Сусветнае Дрэва, з-пад яго расцякаюцца па ўсёй зямлі рэкі гаючай вады. Паводле ўсходнеславянскіх міфаў, Сусветнае Дрэва расце сярод рая, туды адлятаюць на зімоўку птушкі Матыў «адмыкання раю» і вяртання птушак, што прыносяць на крыллях вясну, захаваўся ў беларускіх песнях вясенняга цыклу Абрадавым сімвалам Сусветнага Дрэва, яго прыпадабненнем служыць вясельны каравай (мае фігуркі з цеста ў вобразе каровы, быка, птушачак, зверху ўпрыгожваецца зелянінай)

Не абышлася без гэтага фундаментальнага сімвалу першая сусветная кніга – Біблія Завяршыўшы светатварэнне, Бог пасадзіў для чалавека сад-рай· «І вырасціў Бог з зямлі ўсялякае дрэва, прыгожае на від і карыснае для яды, і дрэва жыцця пасярод раю, і дрэва пазнання дабра і зла» (Быццё 2 9) Калі да гэтай боскай карціны дадаць, што з Эдэма раю – выцякала рака, дзялілася на чатыры рукавы, каб напаіць усю зямлю, то атрымоўваецца закончаная тапаграфія Сусветнага Дрэва, універсальнага сімвалу быцця і культуры. Дарэчы, у Эдэме яно раздвойваецца адпаведна сваім функцыям – анталагічным, гэта значыць быційным, і антрапалагічным, чалавечым, бо прызначэнне чалавека ёсць адухаўленне быцця праз маральную аснову культуратворчасці – пазнанне дабра і зла.

Дарага каштавала такое адкрыццё чалавеку: пазнанне дабра і зла і яго вынікі – свабода выбару паміж імі, куплена цаною адпадзення ад улоння Божага, стратай нявіннасці і адзінства з прыродаю Але ў канчатковым выніку гістарычнай драмы ў гэтым пазнанні, у тварэнні культуры – выратаванне чалавека, вяртанне да Творца праз адухаўленне быцця, асвятленне «цёмнай» матэрыі Гэтая трагедыя пазнання і драма людской гісторыі выявілася ў яшчэ адным архетыпічным біблейным сімвале Сусветнага Дрэва. Маю на ўвазе прарочы сон Якуба (Іякава)· «І ўбачыў у сне· вось лесвіца стаіць на зямлі, а верх яе датыкаецца неба, і вось анёлы Божыя ўзыходзяць і сыходзяць па ёй...» (Быццё 28·12). Праваслаўныя экзегеты (А. П. Лапухін і яго вучні) тлумачылі Якубаў сон-архетып як знак нястрачанай сувязі зямнога жыцця з Богам· чалавек не поўнасцю апускаецца ў стыхію прыродных сілаў, ён «мае доступ да неба і абарону ад неба».

**кує стаць бясплоднай біблейскай смакоўніцай. Філосаф увогуле не павінен лётаць, як лермантаўскі лісток, пад павевамі капрызнай філасофскай моды, а спакойна расці сабе стройным кіпарысам усё вышэй і вышэй, не губляючы апоры ў роднай зямлі.**

**Перайшоўшы з метафар на логіку, можна пацвердзіць, што філасофія сапраўды можа быць жывой, толькі калі яна цэльная, усеадзіная філасофія. У гісторыі яна часта змушана была распадацца на «лінію Дэмакрыта» і «лінію Платона» і нават трапляла ў розныя, згодна Энгельсу, «лагеры», але гэта ёй заўсёды вельмі шкодзіла. Калі яна імкнулася па лініі Платона толькі ўверх і спрабавала супернічаць з рэлігіяй, канчалася тым, што так ці гэтак яна ператваралася у ancillae theologiae, служанку тэалогіі. У нябесных сферах, дзе чалавек кантактуе з Богам, розум становіцца, як тое ведаў ужо Кант, бяссільным, і далейшы палёт там магчымы адно на крылах веры. Апірышчам для крылаў розуму могуць быць толькі факты. Калі ж філасофія саслізгвала па лініі Дэмакрыта ўніз да эмпірычнай навукі, яна станавілася звыклай метадалогіяй, як паказаў усё той жа Энгельс, г.зн. зноў-такі траціла свой уласны твар і ператваралася у ancillae scientiarum, у служанку прыкладной навукі, а то проста бруднай палітыкі, як у нас. Мы ведаем ужо, на жаль, як матэрыялізм прыводзіць да Чарнобыля і да Курапат...**

**Але заўсёды жыве яна, калі не адрываецца ад асяроддзя роднай, нацыянальнай культуры. Бываюць у гісторыі цывілізацыі ўзлёты, калі і філасофія, і рэлігія, і навука, і мастацтва ідуць, быццам родныя сёстры, побач і пры гэтым самі растуць і квітнеюць. Узлё-**

Сваё тлумачэнне гэтай праблемы, блізкае да экзістэнцыялісцкага трагічнага матыву богапакінутасці, прапанаваў расійскі пісьменнік Дз.Меражкоўскі ў элегічным маналогу эпізадычнага героя неаплатоніка Ямвліка: «Усе мы былі некалі ва ўлонні Бога Айца, у святле невячэрнім. Але паглядзелі аднойчы з вышыні на цёмную мёртвую матэрыю, і кожны ўбачыў у ёй свой уласны вобраз, як у люстэрку. І душа сказала сама сабе: «Я хачу і магу быць вольнаю. Я падобна Яму. Няўжо ж я не рызыкну адлучыцца ад Яго і стаць усім?» Душа, як Нарцыс у крыніцы, зачаравалася красою ўласнага вобразу, адлюстраванага ў целе. Хацела адпасці дарэшты, аддзяліцца ад Бога навекі, але не магла: ногі чалавека смяротнага датыкаюцца зямлі, а чало – вышэй неба высокага. І вось, па вечнай лесвіцы нараджэння і смерці, душы ўсіх істотаў узыходзяць і сыходзяць да Яго і ад Яго. Спрабуюць адысці ад Айца – і не могуць. Кожнай душы хочацца быць Богам, але дарэмна: яна смуткуе без улоння Айца. Няма ёй спакою на зямлі, бо хоча вярнуцца да Адзінага <. .> Прыслухайся. хіба ж не чуеш, што ўсё тужыць без Яго» (Мережковский Д. Смерть богов: Юлиан Отступник – Роман. М., 1991. С. 42 – 43).

Відавочна, Лесвіца Якуба – гэта ўжо рафінаваная мастацкая стылізацыя вобразу Сусветнага Дрэва, форма медытацыі, знак журбы па Богу і сімвалічны мост паміж небам і зямлёю. Ёй папярэднічала архаічнае пераўвасабленне гэтага сімвалу ў вобразе Вавілонскай Вежы. Маю на ўвазе біблейскі сюжэт вавілонскага стаўпатварэння. Перадаю гэты эпізод па выданню Біблії нашым першадрукаром Ф. Скарынаю: «Была же естъ земля языку единаго и речи едностайное <...> И рече единъ каждый ко другу своему: Пойдемо й наделаймо плит и спалимо е огнемъ. И быша имъ плиты в каменя место й клеи в мелу место. И рекоша. подьте и счинимо собе градъ и столпъ, его же верхъ да досягаеть до небеси· и вчинимъ славно имя наше, первей нежели розыйдемь ся по всехъ земляхъ. И ступилъ естъ Господь видети градъ и столпъ, еже чиниша сынове Адамовы. И рече: Се едины суть людие, и единостайный естъ язык всемъ <...>. Сего для пойдите ступмо и смесимь тамъ языкъ ихъ, да не поразумеетъ каждый гласу ближнего своего. И тако розделилъ естъ ихъ Господь с того места по всехъ земляхъ. И престиша ставити градъ. Сего ради названо естъ имя граду тому Смешение (у сучасным перакладзе – Вавілон. – *Ул. К.*), понеже ту смесился естъ язык всея земли.. » (Быццё 11·1 – 9).

Адзін з праваслаўных экзэгетаў наблізіўся да разгадкі гэтага фундаментальнага сімвала людской гісторыі, калі напісаў: «Змяшаннем моваў і рассеяннем плямёнаў сама сабою разбуралася варожая Богу справа, якая мела за мэту палітычнае аб'яднанне народаў пад уладаю аднаго з іх, прытым бязбожнага. . Гэтым ставілася мяжа ўсеагульнаму разліву бязбожжа і распусты з аднаго цэнтру... Калі б існавала сусветная сталіца як цэнтр бязбожжа і распусты і калі б усюды панавала адна мова, тады б увесь свет стаў бы тым, чым пазней зрабілася Ханаанская зямля, мярзотамі сваімі вычарпаўшая доўгацярпенне Госпада» (Толковая Библия. Т.1. С.81). Як на мой погляд, гэта было правільнае, хоць і толькі рэтраспектыўнае тлумачэнне, звернутае ў мінуўшчыну Між тым архетып Вавілонскай Вежы быў першым прароцтвам пра богапраціўнасць і няўдачу ўсіх магчымых сусветных імперыяў, якія пажадаюць сусветнага панавання і зробяць выклік Небу. Ужо нядаўна нараджалася яшчэ адна «Вавілонская Вежа», будаўнікі якой абвясцілі бязбожжа і антыхрысціянства сваёй ідэалогіяй і, між іншым, спрабавалі злучыць тое, што разлучыў Бог, – «слить» народы ў адзін «советский народ» і навязаць ім адзін «великий язык», навязаўшы ім моўны сурагат аднаго вялікага народу

У кнігах прарокаў міфалагема Сусветнага Дрэва трансфармавалася, набыла антрапалагічны сэнс. Яе архетыпічная прырода раскрылася ў прарочым сне вавілонскага цара Навухаданосара, разгаданага правідцам Данііламі. Сон гэты – дакладнае яе апісанне як сімвалу сувязі паміж Небам і Зямлёю: «. .Я ўбачыў: вось сярод зямлі дрэва вельмі высокае Вялікае было яно і моцнае, і вышыня ягоная дасягала да неба, і відаць яго было з усіх краёў зямлі. Лісце яго прыўкраснае, і пладоў на ім мноства, і яды на ім хапае для ўсіх. Пад ім знаходзілі цень звяры палявыя, а на кароне яго гнездаваліся птушкі нябесныя, і жывілася ад яго ўсё жывое» (Данііл 4:1 – 13). Паводле разгадкі Данііла, дрэва – гэта цар вавілонскі, вялікасць якога дайшла да неба, а магутнасць – да краёў зямлі. А прыказанне Святога з неба – «ссячыце дрэва, абсячыце галіны яго <...>, але галоўны корань пакіньце ў зямлі.. » – азначала, што Навухаданосара часова пазбавяць улады і адлучаць ад людзей

У Новым Запавеце звычайнае дрэва сталася метафарычным сімвалам чалавека. Пра фарысеяў і садукеяў, якія няшчыра прыйшлі каяцца і хрысціцца, Іаан Хрысціцель сказаў: «Ужо і сякера пры карэннях дрэваў ляжыць: усякае дрэва, якое не прыносіць добрага плёну, ссякаюць і кідаюць у агонь» (Мацв. 3:10). Дрэвам няплодным Хрыстос называў усіх тых людзей, хто сваёй прагавітасцю і славалюбствам пазбавіліся дароў духоўных. Для гуманістаў і мастакоў эпохі Рэнесансу міфалагема Сусветнага Дрэва паслужыла мадэллю духоўна актыўнага чалавека-творцы: ён моцна стаіць на зямлі свайго народу, а галавою ўпіраецца ў неба. Узнік вобраз «духоўнай лесвіцы» як сродка сублімацыі псіхічнай энергіі чалавека, пераводу яе на духоўнатворчы ўзровень. Адначасова адбывалася геаметрызацыя архаічных і натуралістычных вобразаў Сусветнага Дрэва значэнне універсальнага сімвала выхаду чалавека з-пад улады натуральных сіл і яго сустрэчы з Богам набыў крыж – сімвал пакуты і ўваскрэсення

Цікавая адбылася трансфармацыя крыжовай сімволікі ў беларускай і агульнаславянскай народнай творчасці, асабліва ў чарадзейных казках. Іхняя фабула, як правіла, уключае ключавы эпізод «крыжовага выбару» на ростанях – перакрыжаваннях дарог. Ёсць ягоны ўзор у зборніку А. Сержпутоўскага: «Вось едуць яны (героі казкі. *Ул. К.*) ды едуць і пад'язджаюць, аж растанцы на дарозе, і стаіць слуп, а на ім штосьці напісана < >· хто паедзе направа, той дабудзе сабе славу, хто налева – знойдзе багацце, а хто проста, таго спаткае смерць». Самы смелы і праведны герой едзе проста, перамагае сваіх антаганістаў, церпіць страты, нават памірае, але ўваскрасае для новага жыцця

Стваральнікі фальклору тут не адставалі, а ў шмат якіх рэгіёнах нават апярэджвалі прафесійных пісьменнікаў і мастакоў, як гэта адбылося, напрыклад, у нас на Беларусі Народныя казачнікі і мастакі пераасэнсавалі міфалагічныя сюжэты, вобразы і матывы для вольнай інтэрпрэтацыі паводле законаў мастацкай творчасці. Тады і адбылася трансфармацыя міфалагемы Сусветнага Дрэва. яно набыло іншы сэнс, стала сімвалам

там такім быў Рэнесанс, перыяд Адраджэння еўрапейскай культурнай прасторы, калі фармаваліся еўрапейскія нацыянальныя культуры і калі ў складзе Вялікага княства Літоўскага квітнела і старабеларуская культура. Менавіта Рэнэсанс, як рэакцыя на глыбокі крызіс сярэднявечнай транснацыянальнай, лацінізаванай культуры, даў пачатак адраджэнню нацыянальных культур на мовах сваіх народаў і са сваімі ж уласнымі філасофіяй, рэлігіяй і мастацтвам, культур, аб'яднаных у той жа час вялікай ідэяй агульначалавечага гуманізму. Мы таксама перажываем аналагічны крызіс і павінны цяпер уступіць у перыяд адраджэння нацыянальнай беларускай культуры. Аналогія поўная і не толькі ў знешнегістарычным аспекце. Пацвярджаецца яна і наяўнасцю рэнесанснага тыпу людзей, што і цяпер ужо вылучаюцца сваёй адраджэнцкай шматбаковасцю, цэльнасцю і энтузіязмам. Да такога шчаслівага тыпу людзей несумненна адносіцца і Уладзімір Конан, і гэта яшчэ раз упэўнівае, што і ў нас Рэнесанс адбудзецца, Рэнесанс у тым ліку і ў філасофіі. Будзе і ў нас беларуская філасофія, як бы там з'едліва ні квакалі мясцовыя філасофскія жабкі. Таму і феномен Конана трэба разглядаць і ацэньваць толькі ў перспектыве арлінай. І толькі ў гэтай жа высокай перспектыве ўбачым мы, спадзяюся, шчаслівы дзень, калі наш славуты кліч «Жыве Беларусь!» загучыць ужо ў цяперашнім граматычным часе. Не як рамантычны заклік, а як сцверджанне, спакойнае і ўпэўненае ў сабе, як выраз не толькі дзяржаўнага суверэнітэту, але і суверэнітэту нашай народнай самасвядомасці.

Мікола КРУКОЎСКІ

# УНІВЕРСАЛЬНАСЦЬ ТАЛЕНТУ

Пісаць і разважаць пра асобу і творчасць Уладзіміра Конана можна доўга і шмат. І, здаецца, усё роўна наўрад ці магчыма дасціпна выказаць і асэнсаваць яго дзейнасць да канца альбо, як кажуць, да апошняй кроплі. У такіх выпадках заўсёды застаецца тое нешта таямніча-няўлоўнае, метафізічнае, што практычна немагчыма спасцігнуць рацыянальна і апісаць вербальна. Менавіта таму, гаворачы пра Конана, увесь час перад вачыма застаецца як бы своеасаблівая «terra incognita», да асэнсавання і спасціжэння якой варта імкнуцца, нягледзячы на немагчымасць яе поўнай разгадкі. Зыходзячы з гэтага, паспрабуем (зразумела, не прэтэндуючы на вычарпальнасць) высветліць найбольш істотныя, глыбінныя рысы творчай дзейнасці нашага знанага навукоўца-даследчыка.

Найперш хацелася б звярнуцца да такой, безумоўна, дадатнай асаблівасці творчасці Уладзіміра Конана, як універсальнасць, усеабдымнасць. У сваёй апошняй (па часу апублікавання) кнізе пра лірыку Максіма Багдановіча Конан зрабіў слушную выснову аб тым, што менавіта універсальнасць таленту геніяльнага песняра збліжае яго з паэтамі і мастакамі эпохі еўрапейскага Адраджэння. На мой погляд, ёсць адпаведныя падставы прымяніць падобную характарыстыку і да самога Конана.

антрапалагічнага і духоўнага зместу У аснове сюжэтаў беларускіх чарадзейных казак праглядваецца фабульная схема ўзыходжання героя па Сусветным Дрэве· ягоная біяграфія пачынаецца з цудадзейнага нараджэння, працягваецца шпаркім ростам, зыходам «праз вогненную раку» на «той свет» (табуіраваная назва апраметнай), перамогай над валадаром царства смерці змеем (драконам, Кашчэем Бессмяротным, Бабай Ягой), узыходжаннем (пералётам на чароўным кані, ваўку-памочніку, птушцы-арле, на пчале) у трыдзесятае царства (фальклорна-міфалагічны вобраз рая), шлюбам з царэўнай (сонечна-нябесны сімвал), урэшце, пасадам героя на царства. У пазнейшых варыянтах беларускай чарадзейнай казкі адбылася сацыяльная канкрэтызацыя гэтай фабулы: сялянскі сын, салдат, Іванька-дурань, наогул, былы ізгой разам з рукою і сэрцам царэўны атрымоўвае і самае царства, каб клапаціцца пра бедных і абяздоленых людзей.

Чалавеку, такім чынам, наканавана ўзнімацца па Сусветным Дрэве пачынаць ад зямлі – ягонага падножжа, апускацца пад зямлю, у апраметную, каб перамагчы яе ўладара – змея (паводле тэорыі архетыпаў Карла Юнга, чалавек носіць у падсвядомасці сваю ўласную апраметную і свайго «змея»), і ўзнімацца па «дрэве» (у чарадзейнай казцы яно трансфармуецца ў высокую гару, лесвіцу і да т.п.) да неба, каб спасцігнуць сэнс жыцця, спазнаць дабро і зло сваім уласным драматычным лёсам. Так у фальклоры адбылася трансфармацыя Сусветнага Дрэва, яго гуманістычная мадыфікацыя: з міфалагічнай мадэлі сусвету яно пераўтварылася ў лесвіцу духоўнага станаўлення чалавека, архетыпічны сімвал фенаменалогіі духа.

Вялікі корпус беларускага казачнага эпасу – гэта фенаменалогія мастацкая, выяўленая праз кантрастныя вобразы, прыгодніцкія фабулы, канфліктныя сюжэты. Стваральнікі чарадзейных казак выкарысталі апорныя архетыпы дыферэнцыраванай міфалогіі (культурны герой, ягоныя памочнікі і антаганісты, метамарфозы, матывы жывой вады і г.д.), каб стварыць мноства варыянтаў па сутнасці аднаго касмічнага сюжэта, універсальнай мадэллю якога паслужыла міфалагема Сусветнага Дрэва Як сузор'е Лебедзь і Паўночная зорка на небе начным паказваюць шлях караблю, так і гэты кампазіцыйны матыў народнага мастацтва сімвалізуе высокае прызначэнне чалавека – яго ўзыходжанне ад хаосу калектыўнай падсвядомасці і падзямелля сваёй уласнай душы да нябеснага святла – розуму, пазнання дабра і зла.

Хтанічныя істоты, з якімі змагаецца і якіх перамагае герой чарадзейнай казкі (у архаічнай міфалогіі яны мелі амбівалентны, дваісты характар, увасаблялі адначасова параджальную сілу зямлі і смяротную сілу апраметнай), трансфармаваліся ў аб'ектызаваныя пачвары архаічнай падсвядомасці. Яны абцяжарваюць душу, цягнуць яе ў бездань. Перамога над імі казачнага героя ёсць, па сутнасці, перамога над хаосам апраметным, узвышэнне духоўнага, боскага пачатку быцця над яго зямной, неасветленай розумам матэрыяй Вось чаму агульным эпіграфам да гісторыі мастацтва і, шырэй, – культуры мог бы стаць афарызм адной з самых глыбокіх кніг Бібліі: «Так не з пылу выходзіць гора, і не з зямлі вырастае бяда; але чалавек нараджаецца на пакуты, як іскры, каб узнімацца ўгору» (Іоў 5:6 – 7). Па сутнасці, уся Біблія ёсць сімвал драматычнага

**Сапраўды, яго шматлікія грунтоўныя працы ў галіне розных навуковых дысцыплін (філасофіі, культуралогіі, літаратуразнаўства і інш.), выступленні ў перыядычным друку, на навуковых канферэнцыях і семінарах яскрава пацвярджаюць гэтую думку. Амаль ва ўсіх сваіх даследаваннях Конан пераканаўча дэманструе сваю універсальнасць, living рознабаковасць, шырокую эрудыцыю і дасведчанасць у многіх складаных філасофскіх, гістарычных, эстэтычных, культуралагічных пытаннях.**

**Для Конана, здаецца, практычна не існуе такіх праблемаў, якія былі б яму зусім незразумелыя і недаступныя. Яго універсальна-сінкрэтычнае мысленне філосафа ў звязку з добра развітай інтуіцыяй і абвостранай пачуццёвасцю «вынаходніка» дазваляюць яму глыбока раскрываць нават самыя нераспрацаваныя і шматаспектныя тэмы. Прыкладам тут могуць служыць наватарскія распрацоўкі Конанам такіх праблем, як духоўная спадчына нашых продкаў, іх менталітэт, светапогляд, беларуская ідэя, а таксама распачатае філосафам тыпалагічнае даследаванне беларускай культуры. Дарэчы, апошні накірунак навуковага пошуку ўпершыню быў сфармуляваны самім Конанам, прычым яму воляй лёсу прыйшлося стаць адначасова галоўным «заказчыкам», выканаўцам і распрацоўшчыкам гэтай тэмы. Грунтоўнае даследаванне падобных пытанняў якраз і патрабуе ад вучонага глыбокіх ведаў гісторыі нашай Бацькаўшчыны, яе багатай шматвяковай культуры, рэлігійнага, духоўнага, палітычнага і эканамічнага жыцця беларусаў. Увесь цяжар вырашэння гэтых праблем фактычна лёг на плечы аднаго, так бы мовіць, універсаліста-наватара Конана, які, між іншым, шчыра спадзяецца, што менавіта гэтая тытанічная праца ў недалёкай будучыні пачне складаць адметную «беларускую**





станаўлення духоўнага чалавека, сукупнасць архетыпаў яго ўзыходжання па Сусветным Дрэве ад цемры падзямелля да нябеснага святла.

Паводле законаў народнай сінкрэтычнай эстэтыкі ўзнёслае і высокае заўсёды суседнічае з нізкім альбо камічным, яны ўзаемадзейнічаюць, мяняюцца месцамі, нават сінтэзуюцца. Там, дзе выступае герой, ёсць і ягоны камічны дублёр, так званы трыкстэр. Вось казка са збору М. Федароўскага «Як дзед з бабаю боб сеялі»· «Пасеялі яны пад лаваю. Вырас боб пад лаву, восць і кажа баба. «Дзеду, дзеду, скінь гэту лаву, няхай боб большы расце» Так і рос боб, прабіваючы столь, страху, урэшце вырас да неба. Калі ж боб паспеў, дзед з бабаю, збіраючы стручкі, знячэўку падняліся аж на неба. Далей у стылі народнага карнавальна-гратэскавага смеху распавядае казачнік аб прыгодах герояў на небе У другой казцы да неба дайшоў па сцяне адстаўны салдат Яго там прылашчылі. Але самотна сталася салдату ў раю· вядома ж, там вяселляў не спраўляюць, гарэлкі не п'юць, нават люльку закурыць забараняюць. І пайшоў салдат у пекла· там хоць цяжка, затое весела.

Далейшы аналіз міфалагемы Сусветнага Дрэва, на маю думку, дасць падставу сфармуляваць высновы, якія могуць паслужыць пастулатамі тыпалагічнага даследавання нацыянальнай культуры. Вось толькі папярэднія думкі да іх:

1. Архаічная міфатворчасць – гэта «родавыя мукі» людской духоўнасці. Яе плён – «зародак» культуры, у ім закладзены сімвалічныя першафеномены ўсяго гістарычнага «дрэва» культуры і нацыянальнага менталітэту.

2. Аўтэнтычны фальклор – дзяцінства і юнацтва народнай душы, ствол Дрэва культуры, у якім ужо выявіўся характар нацыянальнага генія У творча-псіхалагічным плане фальклор ёсць мастацкая аб'ектывізацыя архетыпаў міфалогіі, свабодная «гульня» яе вобразамі, матывамі, сюжэтамі. У духоўным плане ён – узыходжанне душы з нізін уласнага хтонасу па ўзвышшы пазнання дабра і зла.

3. Класічная літаратура і класічнае мастацтва нацыі – гэта карона Дрэва культуры, «птушка» народнай душы, духоўны аналаг яе быцця ў свеце. Класічная культура вечная не толькі ў гістарычным плане, але і ў надгістарычным, трансцэндэнтным сэнсе. Яна ёсць золата, здабытае з глыбіні нацыянальнага духу, прынесенае ў ахвяру небу за грахі гісторыі.

4. Мадэрнізм у сваёй пазітыўнай плыні (яе пачатак – «Сцвярджальнікі новага мастацтва», альбо «УНОВИС» Казіміра Малевіча) ужо самарэалізаваўся ў дызайне, рэкламе, электронна-тэхнічных сурагатах мастацтва. Дэструктыўныя ж тэндэнцыі мадэрнізму трансфармаваліся ў сваю процілегласць – постмадэрнізм Гэты апошні не пазбег хваравітага спрашчэння культуры, дазволіў сабе пагрузіцца ў хаос матэрыі На ўзроўні постмадэрніцкіх дэкларацый гэта як быццам вяртанне да архаічнай міфалогіі Але такому вяртанню не хапае шчырасці, затое ёсць звыклая стылізацыя.

Перад цывілізацыяй паўстае здань свае, мабыць, багатай, але старэчай фазы, калі шмат хто імкнецца перавярнуць Сусветнае Дрэва культуры, каб апусціцца па ім ад неба да зямлі і глыбей – у спрадвечны хтонас.

**плынь» у філасофіі і культуралогіі (якая ў нас, на жаль, дагэтуль не сфармавалася). Аднак Конан справядліва лічыць, што даследчык у першую чаргу павінен звярнуцца да спрадвечных вытокаў, каранёў беларускай культуры, што ідуць ад аўтэнтычнага нацыянальнага фальклору, ад дзейнасці Скарыны і яго паслядоўнікаў, ад класічнай літаратуры, «Нашай Нівы» і, нарэшце, ад філасофскіх прароцтваў І. Абдзіраловіча (Канчэўскага), Сулімы (У. Самойлы), Ф. Шантыра і інш. Менавіта тыпалагічнае даследаванне беларускай культуры, разгорнутае ва ўсёй яго шырыні і рознабаковасці, можа даць нам своеасаблівы ключ да лепшага разумення гістарычнага шляху Беларусі з яго надзвычайным трагізмам і неадназначнасцю, да глыбіннага спасціжэння беларускага духу, ментальнасці, што, у рэшце рэшт, павінна прывесці да сапраўднага адраджэння і аздараўлення ўсяго беларускага народа.**

**Яшчэ адной адметнай рысай жыцця і творчай дзейнасці Конана можна лічыць яго адзінства, непадзельнасць са сваім Народам, з беларускай зямлёй. Інакш кажучы, уся яго жыццятворчасць «ідзе» Ад Народа, і ў той жа час яна існуе Для Народа. Менавіта аб такой непарыўнай «злучнасці» Конана з Народам, з Людзьмі і з усім Соцыумам сведчыць найперш ужо сам яго жыццёвы лёс. Нарадзіўшыся ў сялянскай сям'і, ён з дзяцінства добра ведаў і паважаў нястомную працу простага чалавека – селяніна, пры гэтым сам досыць рана навучыўся ўпраўляцца на зямлі. Выйшаўшы з сапраўдных «народных глыбінь», у далейшым Конан абраў для сябе няпросты шлях навукоўца-філосафа дзеля таго, каб, з аднаго боку, самому глыбей зразумець сутнасць грамадскага жыцця, а з другога боку, каб данесці сваё асабістае бачанне розных актуальных праблем да многіх**

# ТРЫКСТЭР

Людское пазнанне пачынаецца з паслядоўнага раздваення цэлага на палярныя часткі. Быццё-космас у сваёй абстрактнай усеагульнасці ўяўляецца абсалютна цэлым. Пра гэта ведаў старагрэцкі мудрэц Парменід, заснавальнік элейскай філасофскай школы (каля 540 – 480 гг. да н.э.). Але ўжо з першай рэлігійнай ідэі ці міфалагемы пачынаецца аналіз, дзяленне быцця на матэрыю і дух, прыроду і Бога, аб'ект і суб'ект Паводле Біблейскай кнігі Быцця, боскае светатварэнне якраз пачынаецца з дыхатаміі – раздваення: «В начале сотвори Бог небо и землю. Земля же бе неплодна и неукрашенна, и тьмы были поверху бездны <...> И рече Бог· да будеть светъ. И бысть светъ. И виде Бог светъ яко добро, и разлучи межу светом и межу тмою. И нарече светъ день и тму нощъ. .» (пераклад у рэдакцыі Ф Скарыны).

Гісторыя культуры – пераўтварэнне матэрыі па чалавечых, духоўных мерках. Адухаўляючы быццё, чалавек узгадоўвае сваю ўласную духоўнасць. Гэты рух знізу ўверх, ад зямлі да неба, адбываецца на гераічных і класічных этапах гісторыі. Але ў часы заняпаду пачынаецца сусветная драма: на масавых узроўнях узнікае стыхійнае жаданне апусціцца ў цялесны, матэрыяльны ніз, прымераць да чалавека толькі адну, зямную мерку Душа спакушаецца інерцыяй руху ў напрамку Хтонасу, забываецца пра нябеснае, астральнае прызначэнне жыцця.

Між тым людства спрадвеку мае ад Бога і Прыроды дакладныя знакі руху жыццёвай плыні – зорнае неба над намі і маральны закон у нас (I. Кант). Ёсць касмічныя арыенціры для мараходаў і падарожнікаў· дзённае сонца і начныя зоркі, Сузор'і Лебедзь і Воз з Палярнаю зоркаю. Ёсць, урэшце, дакладны компас для падарожжа ў будучыню і плавання па жыццёвым моры – просты і натуральны, зразумелы і для дзіцяці: дрэва ды ўсялякая расліна. Яны пачынаюцца ад зямлі, вызваляюцца з гэтага цёмнага, але жыццядайнага палону, імкнуцца да нябеснага святла. Урэшце завяршаюцца плёнам – пачаткам новага, памножанага жыцця. Невыпадкова міфалагема Сусветнага Дрэва (пра яе ішла гаворка ў папярэднім нарысе) набыла сэнс універсальнага сімвалу і архетыпу жыцця і культуры.

Акрамя Сусветнага Дрэва – ключа для разгадкі сэнсу жыцця – ёсць яшчэ адзін фундаментальны сімвал, які раскрывае дынаміку гэтага культурна-гістарычнага руху. Маю на ўвазе міфалагемы Дэміурга і ягонага антаганіста, пазней трансфармаваных у вобразы культурнага героя і яго дэманічнага альбо камічнага дублёра – трыкстэра. Апошняму не пашэнціла: навука толькі ўскосна закранула гэты скразны вобраз быцця і культуры, не раскрыўшы ні сутнасці і паходжання, ні пратэяўскай шматаблічнасці гэтага антыгероя ўсіх эпохаў і рэгіёнаў. Энцыклапедыя «Мифы народов мира» (М., 1982) упамінае яго ў артыкуле пра культурнага героя, а «Мифологический словарь» (М., 1991) – у даведніках пра асноўныя міфалагічныя тэрміны і матывы. Мабыць, беларуская міфалогія, наш фальклор і нашая сучасная грамадская і палітычная рэаліі, разгледжаныя ў кантэксце сусветнай міфалогіі і гісторыі, дазволяць пранікнуць у таямніцу гэтага знаёмага незнаёмца. Пачнём ад каранёў.

### 1. Трыкстэр у міфалогіі

Дыхатаміі тыпу верх – ніз, правы – левы, ёсць пачатак пазнання дабра і зла, станаўленне культуры, выдзяленне чалавека з прыроды. На міфалагічным узроўні яны выявіліся ў палярызацыі выходных архетыпаў – Бога і ягонага антаганіста. У архаічных рэлігіях гэтая палярызацыя нябеснага верху і зямнога нізу даволі адносная, раннія паганскія багі ды іх антыподы амбівалентныя, бо разам сімвалізуюць розныя фазы кругазвароту прыроды. Паводле егіпецкай міфалогіі, бог сонца Ра ўзняўся на неба з кветкі лотаса, што вырас з першабытнага воднага хаосу Нуна. Пазней бог сонца ўступіў пяршынства богу замагільнага свету і параджальных сіл прыроды (гэта значыць зямлі, Хтонасу) Асірысу, які выконваў функцыі культурнага героя – адкрыў земляробства, навучыў здабываць ды апрацоўваць металы, будаваць гарады, лячыць хваробы. Старажытнаіндыйскі вярхоўны бог Індра, які перамог хтанічнага дэмана ў вобразе гіганцкага змея Врытру, сімвалізуе пераход ад хаосу да космасу У індуісцкай міфалогіі бог-дэміург Брахма сілаю думкі з самога сябе стварае сусвет, бог Вішну захоўвае, альбо ўтрымлівае яго, а Шыву адначасова стварае і разбурае гэтыя космасы. Дэміургу і добраму богу Ахурамуздзу ў іранскай міфалогіі на нізавым полюсе быцця процістаіць бог зла Ахрыман, які пазней набыў воблік дэмана Ангро-Майнью.

Рэшткі гэтага сінкрэтызму верху і нізу, Дэміурга і ягонага антаганіста яшчэ да канца не элімінаваныя ў найбольш архаічных міфалагічных вобразах і матывах. Як вядома, у рэлігійных уяўленнях іудаізма і хрысціянства антаганістам Бога і добрых сілаў нябесных з'яўляецца Сатана, цёмны валадар пекла і начальнік над усімі нячысцікамі (д'ябаліядай і чартаўшчынай). Тут ужо няма, як у архаічных язычніцкіх міфах, уяўленняў пра нячысціка як амаль роўнага па сіле з Дэміургам. Сатана ў біблейскай версіі – не хтанічны бог, а ўсяго толькі стварэнне Бога, горды анёл, які адпаў ад боскай волі, увасобіў злы пачатак духоўнай магутнасці. Але ў Бібліі ён яшчэ застаецца як бы нявольным інструментам боскага прадвызначэння. Паводле слоў Гётавага Фаўста, Сатана творыць дабро, усяму жадаючы зла.

Адным словам, Сатана прыўносіць момант рэлятывізму ў раздвоенасць добрага і злога пачатку быцця, застаючыся дэманічным, а не камічным персанажам. А фактычна, незалежна ад багаслоўскай дыдактыкі, Сатана і ягонае воінства (шматлікі род нячысцікаў) прыўносяць у створанае быццё момант дынамікі, бо яны правакуюць разгортванне быцця ў сусветна-гістарычную

**людзей, найперш да сваіх чытачоў. Таму і не выпадкова, што Конан у асобных працах звяртаецца непасрэдна да аналізу народнай спадчыны беларусаў, бачачы ў ёй першародную, чысцюткую крыніцу духоўнасці, высокай маральнасці і чалавечнасці.**

**Імкненне да спасціжэння прыхаванага сэнсу жыцця народа, яго цяжкавытлумачальнай Экзістэнцыі прывяло вучонага да слушнай думкі аб тым, што аўтэнтычная народная творчасць з'яўляецца звычайна важным фактарам захавання «экалагічнай раўнавагі» ў сучаснай духоўнай культуры. Пры гэтым Конан яскрава даказаў, што высокі мастацкі прафесіяналізм і вытанчаны эстэтычны густ стваральнікаў нашай аўтэнтычнай фальклорнай класікі значна пераўзыходзіць дылетантызм сучасных формаў масавай культуры. Падобную выснову можна лічыць у пэўным сэнсе прарочай, бо, як паказала практыка апошніх дзесяцігоддзяў, мы ў сваім жыцці практычна поўнасцю «адарваліся» ад жыватворных народных крыніц, страціўшы пра гэтым многія станоўчыя рысы нацыянальнай ментальнасці, псіхалогіі (напрыклад, павагу да роднай «зямлі-карміцелькі», да сваёй мовы, культуры і інш.), і адпаведна набылі абсалютна супрацьлеглыя якасці. У выніку росквіт аднабокай, нівеліруючай індывідуальнасць і нацыянальнае «Я» чалавека гарадской цывілізацыі прыводзіў да заняпаду народнай творчасці і пашырэння найчасцей неглыбокай і малакаштоўнай «эрзац-культуры», разлічанай пераважна на непатрабавальнага (у эстэтычным сэнсе), «уніфікаванага» масавага спажыўца. Такім чынам, своеасаблівы заклік Конана да захавання і адраджэння нашай багатай народнай спадчыны можа небеспадстаўна разглядацца як адзін з магчымых шляхоў да духоўнага аздараўлення ўсяго грамадства.**

**Акрамя «скіраванасці» на Народ, на людзей, працы Конана маюць і немалое выхаваўчае значэнне, бо яны ўяўляюць сабой яскравы прыклад глыбокага ведання і ўдумлівага асэнсавання гістарычных здабыткаў беларускага народа, а таксама шчырай павагі і замілавання да роднага слова, да самабытнай народнай культуры. Творчасць сучаснага адраджэнца Конана так ці інакш аб'ектыўна спрыяе паглыбленню нацыянальнай самасвядомасці беларусаў, выхаванню сярод іх самаадданых патрыётаў сваёй Бацькаўшчыны, якія і ў самыя складаныя, неспрыяльныя часы павінны рабіць усё магчымае дзеля свайго народа, дзеля яго лепшай будучыні. Пры гэтым варта адзначыць, што практычна ўсе працы Конана маюць светлую, пазітыўную энергетыку, што дазваляе казаць аб іх, так бы мовіць, псіхатэрапеўтычным эфекце. Пазбаўленыя ўсялякіх адмоўных, агрэсіўных пачуццяў і думак, яго творы маюць значны стваральны патэнцыял, нясуць людзям святло і адчуванне радасці перад адкрыццём непараўнальнага хараства народнага мастацтва. Аб гэтым жа сведчаць нават і самі назвы яго кніг, у якіх найлепшым чынам праявіліся сапраўдныя жыццёвыя якасці Конана-даследчыка і чалавека: «Ля вытокаў самапазнання: станаўленне духоўных каштоўнасцяў у святле фальклору», «Святло для людзей», «Боская і чалавечая мудрасць», «Святло паэзіі і цені жыцця: Лірыка Максіма Багдановіча» і інш. На мой погляд, зусім не выпадкова, бадай, галоўным словам у гэтых назвах з'яўляецца «Святло», бо апошняе якраз і адлюстроўвае склад душы філосафа, яго ўпэўненасць у неабходнасці «прыўнясення» ў наш грахоўны свет Святла для людзей, якое ў рэшце рэшт павінна перамагчы ўсю Цемру жыцця.**

**Эдуард ДУБЯНЕЦКІ**

драму пазнання дабра і зла, без якой гісторыя была б немагчымаю, а чалавек застаўся б на ўзроўні тварнай нявіннасці, без надзеі падняцца да свядомай духоўнасці па Дрэве Жыцця і Дрэве Пазнання, сімвалічна пазначаных міфалагемай Сусветнага Дрэва. Парадокс біблейскай спрэчкі паміж Богам і Д'яблам – у тым, што абодва сказалі першачалавеку праўду, але кожны – свой аспект праўды – боскі і д'ябальскі. Верагодна, грэхападзенне Евы і Адама – не ў веданні дабра ды зла, і не ў імкненні да богападобнасці. Успомнім боскі план і яго рэалізацыю паводле Кнігі Быцця: «Сотворимо человека по образу и подобию нашему <...> И створилъ есть Богъ человека по образу своему и подобию. По образу Божию сътворилъ и, мужа и жену створилъ ихъ» (пераклад Ф. Скарыны).

Зразумела, Бог ёсць чыстая духоўнасць і не мае «вобразу» ў зямным разуменні гэтага слова, хіба толькі ў сімвалічным сэнсе. Богападобнасць чалавека – духоўны, а не матэрыяльна-пластычны параметр і мае на ўвазе духоўны аспект набліжэння чалавека да Бога. Да найважнейшых аспектаў боскага прыпадабнення належыць свабода волі і, як вынік яе, свабода выбару паміж дабром і злом, немагчымая без пазнання гэтых двух планаў быцця – боскага і д'ябальскага. Правакатарства (правакатар, падбухторшчык – адно са значэнняў арамейскага слова д'ябал) – не ў свабодзе чалавека (ён створаны свабодным), не ў пазнанні дабра і зла (у пазнанні для дабра ягонае прызначэнне), урэшце, не ў імкненні да неўміручасці (чалавек створаны для неўміручасці), а ў спакусе атрымаць усе гэтыя найвышэйшыя дары жыцця адразу, несвоечасова, без асабістай пакутлівай драмы пазнання і, галоўнае, без Бога, а па сваім самавольстве. Д'ябал-трыкстэр у абліччы змея (сімвал хітрасці і падступнасці) быў, кажучы моваю сацыялогіі, першым «рэвалюцыянерам» ля самых вытокаў нашай гісторыі. Але ж праз ягоную правакацыю пачыналася і працягвалася гісторыя. Райскае жыццё самадастатковае: яму непатрэбныя ўдасканаленне, развіццё; яно дасканалае ад пачатку паводле сваёй сутнасці. М. Бярдзяеў меў права сказаць. «Свет пачаўся, таму што Бог захацеў свабоды». А свабода ёсць магчымасць выбару паміж дабром і злом. Без свабоды для зла не было б гісторыі, бо чыстае дабро, без «злой альтэрнатывы» ёсць яе завяршэнне, а не пачатак[1].

Біблейская апазіцыя Бога-Дэміурга і ягонага антаганіста, дэманічнага трыкстэра Д'ябла, даўно канфесіянавалася, набыла рэлігійны і містычны сэнс, страціла прыкметы пластычнай, народнай міфалогіі. Каб зразумець сутнасць гэтай палярызацыі некалі двух бакоў універсальнага і амбівалентнага сімвала быцця і культуры, патрэбна звярнуцца да антычнай класікі. Самыя ўдзячныя для гэтай тэмы міфалагічныя сюжэты: апазіцыі Геракл – Антэй, Ахіл – Тэрсіт, Праметэй – Эпіметэй. Іхнія «біяграфіі» дайшлі да нас у жанры эпічных паданняў, моцна апрацаваных мастацкай фантазіяй паэтаў і казачнікаў. Аднак захавалі фрагменты аўтэнтычных міфаў, якія дазваляюць узнавіць драматычную гісторыю станаўлення макракосмасу і мікракосмасу, прыроды і культуры.

Каб зразумець сімволіку гэтых апазіцыяў, заглянем на хвіліну ў радавод антычных багоў. Маці-зямля Гея нарадзілася ад неаформленай матэрыі Хаоса, сама з сябе нарадзіла Урана-неба і ўзяла шлюб з ім. Ад іх нарадзіліся тытаны і першы з іх Кронас (ад Хронаса – сімвала плыні, быцця,

## ЧАЛАВЕК, ЯКІ АДПАВЯДАЕ СВАЙМУ ПРОЗВІШЧУ

**Конан, несумненна, перайначанае грэчаскае: kanon. Інакш кажучы, правіла, сістэма, норма, паводле якое арганізуецца мастацкі твор. Паняцце гэтае з адценнем устарэласці, бо мы жывём у эпоху знарочыстага адмаўлення ўсіх і ўсякіх правілаў, патрабаванняў, умоў. Магчыма, дзеля таго, каб адчуць іх у першастворанасці, у нерушнай чысціні.**

**Многія, ідучы ў літаратуру з «ніжэйшых нізоў» жыцця-быцця, пачынаюць як сапраўдныя рэвалюцыянеры духу менавіта з адмаўлення-сцвярджэння ўзаконенных папярэднікамі нормаў, з эксперыменту на ўдзірванелым выпрабавальным полі, каб адкрыць ужо адкрытае. Уладзімір Конан, адзін з нямногіх, хто зайшоў у літаратуру з супрацьлеглага боку, пачаўшы з «грэчаскае залы», дзе выстаўлены ўзоры высокага мастацтва. «Эстэтыка», «эстэтычнае» па частаце ўжывання ў яго асабовым слоўніку займаюць першае месца. Ён дапамог нашай моцна закамплексаванай літаратуры, якая баялася больш за ўсё папрокаў у правінцыялізме, адолець пакрысе страх перад чыстай тэорыяй, даводзячы, што ў гісторыі беларусаў ёсць шмат сувымернага з класічнымі ўзорамі.**

**Праўда, спускаючыся з Парнаса агульначалавечай культуры да паднoжжа, дзе віруе натоўп жадаючых трапіць у завоблачныя вышыні, У. Конан у апошніх сваіх артыкулах, дакладах, аглядах гатоў па-чалаве-**





часу) і Рэя, якія ў сваю чаргу спарадзілі Зеўса, вярхоўнага бога верхняй іпастасі космасу, і Геру-другую, таксама багіню зямлі. Ад шлюбу Зеўса і Геры нарадзіліся ўсе багі, першыя людзі і героі. Зеўсам і Герай канчаецца станаўленне космасу і пачынаецца тварэнне антропасу – гісторыі і культуры. Працэс гэты адбываўся праз драматычную барацьбу чалавека і прыроды, духу і матэрыі, добрага і дэманічнага пачаткаў быцця. Драматызм барацьбы набывае трагічны аспект, калі героям прыходзіцца перамагаць сваю ўласную прыроду, сваю матэрыю і тварыць з яе культуру – быццё аформленае і адухоўленае. Антычная міфалогія ёсць першая сістэма архетыпаў гэтай драмы, якая пазней ва ўсёй сваёй бяздоннай глыбіні раскрылася ў Бібліі.

Тры антрапалагічныя ўвасабленні космасу падзялілі валадарства над сусветам: Зеўсу дасталася неба, Пасейдону – водныя прасторы, Аіду – падземнае царства. Салярныя (сонечныя) і астральныя багі лічыліся непасрэднымі альбо сімвалічнымі бацькамі культурных герояў, а хтанічныя боствы – іх дэманічных антаганістаў альбо дублёраў. Шматлікія міфалагічныя сюжэты пра змаганне герояў з хтанічнымі істотамі ёсць антрапалагічная сімволіка фенаменалогіі духа, станаўлення культуры, выдзялення ейнага носьбіта чалавека з прыроды як аўтаномнай асобы.

Драматызм гэтай барацьбы адлюстраваўся ў подзвігах Геракла, першага найвялікшага культурнага героя, які разам з тым насіў у сабе хтанічныя прыкметы (нарадзіўся ад нябеснага Зеўса і зямной жанчыны Алкмены), што прыўносілі ў ягоную натуру раздвоенасць (адлюстравалася ў эпізодах шаленства, пад час якога ён забіваў блізкіх да сябе людзей). Апошнім дванаццатым подзвігам Геракла быў паход у падземнае царства Аіда, дзе ён перамог пачвару Цэрбера. Гэты матыў перамогі над хтанічным дэманам у шматлікіх варыянтах ёсць у чарадзейных казках беларусаў, іншых еўрапейскіх народаў. Урэшце, міф пра сутыкненне Геракла з хтанічным волатам Антэем, сынам Геі-зямлі, засведчыў перамогу Антропаса над Хтонасам, прыярытэт культурнага пачатку над прыродным пачаткам. У эпічных паданнях пра Геракла яго ваенныя подзвігі, што адлюстравалі ідэалы гераічнай пары антычнай гісторыі, зацямнілі яго змаганне з дэманічнымі дублёрамі, якім быў і Антэй. Аднак апошнія эпізоды міфалагічнай біяграфіі Геракла (перамога над кентаўрамі, пакуты ад ядавітай «кашулі Неса», і ў фінале – самаспаленне героя ды ягонае ўзнясенне на неба), па сутнасці, ёсць язычніцкі архетып асноўнага біблейскага сюжэта, – драматычнае станаўленне духа, перамога Логаса над Хтонасам. У гнастычнай традыцыі ўзнясенне Геракла з вогнішча на неба сімвалізавала, на мой погляд, пераход быцця з зямнога эона на эон вогненны, пераход ад «цёмнай» матэрыі на ўзровень святла.

Утаймаванне хтанічных страшыдлаў і асабліва архетып «Аўгіявых канюшні», якія ачысціў Геракл, набліжае яго да тыпу культурнага героя, хоць паводле сваіх перамогаў над дэманічнымі двайнікамі ён бліжэй да эпічнага персанажу. Тыповым культурным героем антычнай гісторыі быў Праметэй, прадвеснік і сімвал цывілізацыі, урэшце, усякага багаборства, сацыяльнай і тэхнічнай рэвалюцыі. У тэалагічным плане Праметэй – язычніцкі правобраз біблейскага Бога-Дэміурга (выляпіў першых людзей з зямлі і гліны), Ноя (па яго парадзе ягоны сын Дэўкаліён у дні Зеўсавага патопу пабудаваў каўчэг і аднавіў чалавечы род), Хрыста (за сваю любоў да людзей, якім гэты тытан даў агонь, веды і рамёствы, Зеўс прыкаваў яго да скалы, дзе арол дзёўб яму пячонку).

**чы пашкадаваць таго-сяго і, змякчыўшы жорсткасць конкурсных вымог, прапусціць праз «чорны ход». Можа, таму і схаваў патрабавальнае «kanon» пад больш зразумелым «конанам»: стаўце фігуры на кон, магчыма, і выйграеце, выцыганіце ў вечнасці перад сконам якую-небудзь паблажку, накшталт прэміі, звання, пасады... Сам ён да вонкавых прыкмет грамадскага прызнання досыць абыякавы: быў шараговым навукоўцам, стаў загадчыкам, «знялі» за чужыя грахі, «панізілі» ў пасадзе, цяпер зноў загадчык... У Акадэмію, у гэты Храм Навукі, ён ходзіць у касцюме пад гальштукам, акадэмічнай уніформе, але... у кірзавых ботах і ў салдацкай шапцы-аблавушцы. Не, не дзеля дэманстрацыі, да чаго давялі ўлады беларускую навуку, бо хадзіў гэтак і ў часы «поўнай перамогі сацыялізму». Форма павінна адпавядаць зместу, а змест нашай навукі нават у самых сваіх дасканалых узорах, як і ўсё іншае ў нашым грамадстве, моцна мілітарызаваўся за 70 год перманентнай вайны «ўсіх супраць усіх».**

**Ваенізаваная наша псіхалогія – толькі адно з адгалінаванняў еўрапейскай думкі, дуалізм якое, заснаваны на павярхоўна засвоеных хрысціянскіх пастулатах, уласцівы і У. Конану як філосафу, эстэтыку, культуролагу, сыну сваёй эпохі. Класічная яснасць, дакладнасць вызначэнняў (душа-цела, святло-цемра, дабро-зло, праўда-крыўда), вядома, дапамагаюць арыентавацца ў свеце, бачыць стратэгію руху, прарабіць папярэднюю карлалінееўскую класіфікацыю здабыткаў нацыянальнай культуры, чым У. Конан працяглы час і займаўся. Што ж, сам час вымагаў цярплівай працы збіральнікаў усяго, што засталося ад былога вячыстага збудавання беларускай дзяржаўнасці, франтальнага агляду, ацэнкі і пераацэнкі забытых скарбаў эстэтычнай, філасофскай, грамадскай думкі! Гэта была эпоха ідэйнай падрыхтоўкі будучых зменаў, і абрысы заўтрашняга дня**

Урэшце, пакуты Праметэя – пластычная антычная сімволіка драмы людскіх ведаў і творчасці. Ілюстрацыя да крылатых слоў Эклезіяста: «У вялікай мудрасці шмат самоты, і хто множыць веды, той множыць і пакуты».

У кантэксце нашай тэмы праметэеўскі архетып культурнага героя цікавы тым, што яго дапаўняе і адцяняе камічны дублёр, ягоны брат-няўдачнік. Імёны братоў – семантычныя апазіцыі: Праметэй – па-грэчаску прадбачлівы, правідзец, а Эпітэмей – той, хто думае пасля факта, падзеі альбо ўчынку Адным словам, «моцны заднім розумам» Гэты антыгерой-трыкстэр пачаў з таго, што няўдала ажаніўся з Пандорай. Яна – антычная Ева, якая, па задуме ейнага стваральніка Зеўса, павінна была прынесці людзям спакусы і няшчасці. Так і сталася: з-за свайго непаслухмянства і празмернай цікаўнасці Пандора адчыніла скрынку, у якой Зеўс замкнуў усе людскія хваробы, заганы і беды, увасобленыя ў абліччах розных гадаў; яны распаўзліся па ўсёй зямлі і запаланілі людзей. Відавочна, тут яшчэ прыкметны архаічны, дэманічны аспект трыкстэра. Смешным жа Эпітэмей становіцца як тыповы няўдачнік, «партач», які псуе даручаную справу Так, ствараючы жывёлаў і людзей, ён першых надзяліў прыроднаю сілаю і спрытнасцю, а на чалавека ў яго не хапіла творчае сілы. Праметэю прыйшлося зрабіць выклік багам: узяць у алімпійцаў агонь, рамёствы і веды, надзяліць імі бездапаможных ад прыроды людзей.

У «Іліядзе» Гамера ёсць антаганіст цара Агамемнона, баязлівы воін і балбатлівы дэмагог Тэрсіт, які надзелены прыкметамі камічнага двайніка гераічнага Ахіла. Пасля сваркі Ахіла з Агамемнонам ён намаўляе грэкаў адступіць ад Троі, пры гэтым спрошчана паўтарае выкрывальніцкую прамову Ахіла супраць эгаізму і хцівасці цара. Аднак эпічныя паэты гераічнай эпохі, здаецца, яшчэ не ўмелі маляваць камічны вобраз, не валодалі сродкамі універсальнага і амбівалентнага народнага смеху Гамераўскі трыкстэр атрымаўся не смешным, а брыдкім калекам-гарбуном, зайздроснікам. Яго «ўтаймоўвае» Адысей, б'е «залатым скіпетрам» па храбту Тэрсіт плача, «з вачэй яго пырснулі буйныя слёзы», раздаецца салдафонскі смех язычніцкіх герояў Хоць, паводле хрысціянскай маралі, гэты няшчасны «паўстанец» хутчэй варты жалю, чым смеху.

Беларуская, дарэчы, як славянская і ўся новаеўрапейская, язычніцкая міфалогія не мае такой складанай, пластычна дакладнай і тэатралізаванай генеалогіі, якой славіцца міфалогія антычная. Гэта тлумачыцца выцясненнем паганства хрысціянствам, у рамках якога развіваліся фальклор, літаратура, выяўленчае і тэатральнае мастацтва постантычнай цывілізацыі. У выніку хрысціянскай ідэалагічнай і аксіялагічнай дамінанты абсалютны верх, нябесныя сферы ўзнёслага, гераічнага і трагічнага занялі Боская Тройца, святыя і мучанікі, ангельская іерархія. Язычніцкія багі і героі аказаліся апушчанымі з неба на зямлю і глыбей, пад зямлю, набылі прыкметы хтанічных (зямных, водных) міфалагічных істотаў. Язычніцкі пантэон у рамках хрысціянскага светапогляду аказаўся нейкім калектыўным трыкстэрам, набыткам ніжэйшай, альбо народнай міфалогіі. Самое імя паганец стала сінонімам нізкага, злога пачатку

Аднак укаранёная ў глыбіню народнага быцця традыцыя не знікае назаўсёды: па законах пераемнасці адбылася кантамінацыя язычніцкіх і хрысціянскіх вобразаў, сюжэтаў і матываў прарок Ілля набыў воблік грамавержца-Перуна, а Ян Хрысціцель – Яна Купалы. Урэшце, хрысціянскія святы і абрады «паклаліся» на адпаведныя язычніцкія архетыпы: Ражство Хрыстова стала Калядамі, Светлае Хрыстовае Уваскрэсенне – Вялікаднем, Стрэчанне – Грамніцамі, вясновы Юрый (Георгій Пераможца) супаў з воблікам Ярылы, Антыпасха і Памінальны дзень – Радаўніцай і Дзядамі, Тройца альбо Духаў Дзень – Сёмухай і Русальчыным тыднем. Рэнесансны гуманізм рэабілітаваў антычную культуру на афіцыйна высокім узроўні і прызнаў язычніцкую міфалогію ў якасці яе сімвалаў і алегорыяў Культура эпохі барока і класіцызму пераўтварыла гэтую традыцыю ў адпаведнасці з маральна-эстэтычнымі імператывамі свайго часу Урэшце, эстэтыка і аксіялогія мадэрнізму і постмадэрнізму вяртаецца да міфалагічнай традыцыі, прыдаючы ёй значэнне спрадвечных архетыпаў быцця і культуры.

У народнай творчасці быў свой рэнесанс, свой сінтэз хрысціянскай духоўнасці і язычніцкай міфалогіі. Ужо само ўяўленне пра Бога са святымі і Д'ябла з нячысцікамі – добрых і злых духоўных існасцяў – як пластычна выяўленых антрапаморфных героях ды іхніх камічных дублёрах – ёсць пранікненне паганскай міфалогіі ў хрысціянскі спірытуалізм. У выніку так званага бытавога прыпадабнення апазіцыя героя і трыкстэра змякчылася, нябесныя персанажы, будучы апушчанымі на зямлю, набылі некаторыя камічныя прыкметы.

Яшчэ ў мінулым стагоддзі ў беларусаў захавалася памяць пра Белабога і Чарнабога, верагодна, ад архаічных язычніцкіх вераванняў. Белабог, альбо Бялун, уяўляўся богам неба, бацькам Перуна. У вобліку белабародага дзеда, у белай вопратцы і з вярэнькаю ў руцэ ў сонечны дзень ён ходзіць па жытнёвым полі. Белабог любіць дапамагаць жнеям у іхняй працы, у цёмным лесе асвятляе сцежкі і выводзіць вандроўнікаў, якія заблудзіліся. Але і тут не абышлося без лагоднай травестацыі, бяскрыўднага смеху Сустрэўшы добрую работніцу альбо бедняка, Бялун падманьвае іх да сябе рукою і просіць уцерці яму нос. Як толькі тыя дакрануцца да носа рушнікам, з Белуновага мяшка пасыплецца золата. Пра такога шчасліўца гаварылі: «Мусіць, ён пасябраваў з Белуном»[2]

Тут нябесны дзед-прабог раздвойваецца на культурнага героя і лагодна-камічнага двайніка-трыкстэра. Але сталым трыкстэрам адносна Белабога, пазней Перуна, выступае Чарнабог – архаічны папярэднік больш позняга чорта ды іншых хтанічных персанажаў народнай міфалогіі. Пярун – бог грому і маланкі: седзячы на вогненнай павозцы, ён раз'язджае па небе і страляе вогненнымі стрэламі ў нячысцікаў – дэманічную дружыну Чарнабога. Ёсць падставы думаць, што Чарнабог у архаічныя часы ўяўляўся богам падземнага царства (славянскі Аід), пазней пад уплывам хрысціянства трансфармаваўся ў Люцыпара, Сатану, альбо Д'ябла – дэманічнага двайніка-антаганіста Бога-Дэміурга. Паводле этнаграфічных апісанняў, ён хутчэй агідны і страшны, чым смешны, нечым нагадвае Левіяфана, хоць мае ўсе прыкметы гратэскавага вобраза: адзнакі ягонай годнасці – прыбітая цвікамі да галавы жалезная карона, магутныя кіпцюры на пальцах і вілы ў руках замест скіпетра (прыкмета антычнага Пасейдона). Ён запёрты ў пекле дванаццаццю замкамі і прывязаны дванаццаццю ланцугамі, адтуль кіруе падпарадкаванай яму нячыстай сілай[3]

ўзнікалі спачатку ва ўяўленні такіх кабінетных вучоных і пісьменнікаў, як У. Конан. Яны на працягу дзесяцігоддзяў мацавалі, ахоўвалі, бераглі фундамент нацыянальнай культуры, вярталі на сваё ранейшае месца вялізныя камяні забытых, занядбаных, забароненых імёнаў, і ў гэтым сэнсе сапраўды былі, калі выкарыстоўваць адно з азначэнняў самога У. Конана, беларускімі фундаменталістамі.

Але што такое беларускі фундаменталізм як сістэма пэўных ідэй і каштоўнасцяў? Гэта спроба тварыць і надалей, услед за папярэднікамі, легенду аб гераічным мінулым народа, сцвярджаць мадэль нацыянальнага космасу, у якой мы жылі, жывём і будзем жыць, бо яна адпавядае навакольнай прыродзе і нашаму менталітэту. Тут не абысціся без свядомай ідэалізацыі і нават апалагетызацыі рэшткаў старадаўняга крывіцка-беларускага паганства, вяртання-ўзыходжання да вытокаў фальклорнай свядомасці, пошукаў адказу на пытанне, што ёсць беларускага ў беларусах. За гэтымі працэсамі бачыцца вялікая літаратурна-філасофская традыцыя, тыя апрабаваныя за вякі каноны ўстойлівай, унармаванай мастацкай сімволікі, семантыкі, стылістыкі, што прыўносіліся нашымі адраджэнцамі і ў многіх выпадках могуць быць пазначаны персанальна імёнамі першаадкрываўцаў. У Конан акцэнтаваў нашу ўвагу на архетыпах нацыянальнай мінуўшчыны, дапамог іх усвя-доміць і засвоіць, спалучаючы тым самым у сваёй творчасці навуковы пошук з асветніцкай дзейнасцю. З яго дапамогай мы набліжаемся, набліжаліся да вобраза Маці-Беларусі, што, як міраж, мройліва плыве наводдаль, вабячы да сябе, напаўняючы душу надзеяй. Сфера запамежнага? Звышмэта? Так, але яе не дасягнеш без такога актыўна-валявога сцвярджэння нацыянальнай мадэлі мастацкай культуры, якое знаходзім у Уладзіміра Конана.

Міхась ТЫЧЫНА

# ПОСТАЦЬ У ГУРЦЕ

Адразу зазначу, што я па сваёй натуры не вялікі прыхільнік літаратуразнаўчай ды іншай навуковай творчасці доктара Конана, як яго цяпер шаноўна называюць на розных адраджэнскіх і культуралагічных імпрэзах.

Канстытуцыя ў мяне не такая ці што, хоць цікавіць нас як бы адно і тое ж, але, скажам, з розных бакоў... Урэшце, гэта не так важна.

Пэўна, і не пісаў бы я гэтага, каб не даўняя згадка, якая і правакуе мяне на адзін мімаходны, магчыма, неабавязковы штрышок да абрысу акрэсленай тут іншымі постаці Конана.

Яшчэ ў глухаманнай вёсцы Вароніна, пачынаючы свае дылетанцкія практыкаванні ў «літаратурнай крытыцы» – больш молада-шчырыя, чым молада-досведныя, – я быў справядліва *абазнаны* ім як «правінцыйны філосаф».

Пакрыўдаваўшы для самасці гонару, але запамятаўшы тое, я ўсё ж даўмеўся *вызнаць* сваю інтэлектуальную слабіну, і паволі стаў *выцягвацца* з вясковай аглабельшчыны да пачаткаў тэарэтычнай і практычнай філасофіі, каб надалей ужо не быць відавочна прымітыўным, і «двойчы не наступаць на адны і тыя ж граблі»...

Конан мяне (і ці толькі мяне) *засцярог* ад блукання ў цемры,

Нячысцікі ў беларускай міфалогіі набылі ўсе прыкметы камічнага трыкстэра. Як усякі дэман, чорт умее пераўвасабляцца, прымаць воблік жывёл, нярэдка «па-нямецку» апранутага пана (сацыяльная канкрэтызацыя антаганіста). Аднак спецыфічнае ягонае аблічча застаецца гранічна гратэскавым: чорны, казланогі і рагаты, пакрыты поўсцю. Пад уплывам хрысціянства чорт у народнай дэманалогіі заняў месца антаганіста анёла-ахоўніка, ягонага самазванага злога «дублёра»

Варыянтам добрага трыкстэра ў беларускай міфалогіі з'яўляецца дамавік – кантамінацыя архаічнага духу продкаў і фалькларызаванага дублёра гаспадара хаты (хатнік). У велікодную ноч па заклiку «прыйдзі такі, як я сам» з'явіцца ягоны двайнік – «чалавек таго ж росту, складу, у такой самай вопратцы»[4]. Перад намі – фалькларызацыя міфалагічнага сюжэту, дасціпны прыклад камізму здвоеных персанажаў

**2. Трыкстэр у народнай творчасці**

Архаічная міфалогія ўсіх рэгіёнаў мае агульную прыкмету: эстэтычны сінкрэтызм, адсутнасць выразнай палярызацыі катэгорыяў прыгожага і агіднага, узнёслага і нізкага, трагічнага і камічнага, амбівалентнасць дабра і зла, светлага і цёмнага пачаткаў быцця. Гэты эстэтычны і этычны рэлятывізм часткова захаваўся ў дасканалай антычнай міфалогіі. У ёй адсутнічае кантрастная апазіцыя «верху» і «нізу», «правага» і «левага», высокага і нізкага. У антычнай тэагоніі няма Д'ябла. Валадар падземнага царства Аід – алімпійскі Бог, брат Зеўса. Эстэтычная дыферэнцыяцыя па сутнасці абмяжоўваецца палярызацыяй прыгожага і агіднага. Толькі ў класічным антычным мастацтве (Эсхіл, Сафокл, Арыстафан) узнікаюць кантрасты трагічнага і камічнага, аднак і тут захавалася амбівалентнасць высокага і нізкага, дабра і зла. У гэтым сінкрэтызме даследчыкі новага часу бачылі «рэалізм» антычнага эпасу і старагрэцкай літаратуры.

У полі зроку хрысціянства паганская міфалогія ёсць алегорыя духоўнага хаосу язычніцкай цывілізацыі, дзе святло і цемень, дабро і зло, краса і агіда перамешаны паміж сабою. Тварэнне новай цывілізацыі і новага духоўнага космасу, паводле хрысціянскага светапогляду, пачалося з прарочых слоў Біблії: «І сказаў Бог: няхай будзе святло. І сталася святло. І ўбачыў Бог, што святло ёсць дабро, і аддзяліў Бог святло ад цемры.. » (Быццё 1:3 – 4). Маральным сімвалам гэтай палярызацыі стала Дрэва пазнання дабра і зла, падняцца па якім і есці плады яго, каб стаць нароўні з багамі, можна толькі на шляху духоўнай эвалюцыі. Не ў пачатку, а ў канцы трагічнай драмы чалавецтва.

Хрысціянская праграма духоўнага ўдасканалення занадта цяжкая, каб чалавек мог несці яе ўсё жыццё без спачыну. «Праклята зямля за цябе, – сказаў Бог нашаму прабацьку Адаму пасля ягонага і Евінага грэхападзення. – У скрусе будзеш жывіцца ад зямлі ва ўсе дні жыцця твайго <...> У поце твару твайго будзеш есці хлеб, пакуль не вернешся ў зямлю, ад якой ты ўзяты...» (Быццё 2:17 – 19). Кананічная хрысціянская эстэтыка ведае толькі высокае і нізкае, прыгожае і агіднае. У

**хоць да святла і не вывеў. Бо як ні паглядзі, а няма ў ім усё ж той прарочасці ці таго свяцейшага апостальства, каб скіраваць увагу (і сваю, і сваёй паставы) не на рэтраспектыву, а на перспектыву нацыянальнай культурна-філасофскай уявы, і замінае яму ў гэтым аднаверная паства, якая патрабуе неадкладнага вырашэння злабадзённых праблемаў, зыходзячы з кананічнага вопыта мінуўшчыны.**

**Таму асобнай постаццю сёння ён мне не бачыцца, хутчэй – адной з постацяў у свядомым нацыянальна-адраджэнскім гурце (у самым добрым сэнсе гэтага слова), адкуль ён нічым неардынарным *не выасабляецца*, хоць і пачувае там сябе адзінока, рэфлексуючы ў палоне свайго традыцыйнага выраку. Аднак і *не вызваляецца* з таго палону, бо куды ісці вызваліўшыся – свет па-за тым гуртам яму чужы і нязнаны...**

**І ўсё ж, мне здаецца, калі б ён выпадкова адтуль выпаў, то гурт многае страціў бы без яго, перафразуючы А. Платонава – стаў бы няпоўным («Без меня народ не полный»).**

**Конан з майго тылавога, зацененага пункту гледжання (я яго бачу, а ён мяне – не) ёсць таленавіцейшы педагог-асветнік, які добраахвотна вартуе пакуль што зрэбны набытак нашай культуры. *Узбагачаць* яе ён можа толькі сумеснымі высілкамі, гуртавым метадам, падсабляючы ў агульнай справе накаплення і захавання нацыянальнай свядомасці...**

**Ці не здрабніў я, ці не прыземліў постаць? Ну, не! Яе ж *падвышае* той гуртавы розгалас, які ўзмацняецца і голасам Конана, і дзякуючы якому чуецца намі, хоць, безумоўна, кожным з нас па-свойму ўспрымаецца...**

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**





ёй няма сярэдняга звяна – камічнага, як няма ў хрысціянскай этыцы адноснасці і амбівалентнасці дабра і зла. Але чалавек займае якраз сярэдняе звяно на вертыкалі Сусветнага Дрэва: «сваімі «карэннямі» ён павязаны з зямлёю, але імкнецца да неба. Адпаведна гэтаму становішчу найбольш «лёгкім» для ягонай душы станам з'яўляецца перажыванне камічнага. Смех, за якім хрысціянства не прызнала эстэтычнай каштоўнасці, стаў «галоўным героем» народнай культуры ад ранняга сярэднявечча да нашага часу Тут народная эстэтыка апярэдзіла элітарны Рэнесанс, нават паўплывала на хрысціянства: яно, у рэшце рэшт, дапусціла «лёгкі грэх» – святочны (калядны і велікодны) смех пасля вялікіх пастоў

Травестацыя ўсяго афіцыйнага, празмерна сур'ёзнага, страшнага, агіднага і нават трагічнага, іх перанос у камічны, матэрыяльна-цялесны ніз – вось асноўны «творчы метад» аўтэнтычных карнавалаў, якія моцна паўплывалі на фальклор – абрадавую паэзію, чарадзейную казку, народны тэатр і скамарохаўскае мастацтва. Адпаведна гэтаму метаду трыкстэр адцясніў культурнага героя на другі план, заняў яго цэнтральнае месца ў народнай смехавай культуры.

Камічныя дублёры героя былі папулярнымі ў неафіцыйным, «нізавым» мастацтве старажытнай Грэцыі і эпохі элінізму Але толькі сярэднявечная народная культура пашырыла сферу гратэскавага смеху на ўсю іерархію сацыяльнага быцця і «сур'ёзнай» культуры, у тым ліку на свецкую і царкоўную ўлады, афіцыйныя абрады, урэшце, на Святое Пісанне, афіцыйную навуку, літаратуру, палітыку, эканоміку Народны смех гратэскавага тыпу набывае светапогляднае значэнне як сродак татальнага катарсісу – вызвалення людскіх душ ад страху перад невядомымі сіламі прыроды і гістарычна абмежаванымі формамі сацыяльна-палітычнага быцця. Носьбітамі гэтай смехавай культуры былі ў нас стваральнікі фальклору, скамарохі, пазней казачнікі, бахары, майстры смехавых сцэнак народнай абрадавасці, блазны пры дварах князёў і магнатаў, урэшце, камедыёграфы і аўтары ананімных твораў у жанры травесці.

Гратэскавыя формы смеху ў заходнееўрапейскай народнай культуры карнавальнага тыпу даследаваў М. Бахцін[5] Аналагічныя пласты беларускага фальклору аналізуюцца мною ў кнізе «Ля вытокаў самапазнання»[6] У гэтых манаграфіях сутнасць і функцыі трыкстэра не выдзяляюцца ў асобную тэму даследавання. Аднак яны могуць паслужыць зыходнай асновай для аналізу дыялектыкі ўзаемапераходу культурнага героя і ягонага камічнага дублёра як цэнтральных вобразаў культурнай традыцыі і яе трансфармацыі ў сучасным быцці і мастацтве.

Як ужо адзначалася, характэрны для культуры карнавальнага тыпу гратэскавы смех ёсць абсмейванне не толькі штодзённага і нізкага (гэта было б занадта банальна), але і высокага, гераічнага, нават святога – найвышэйшай зямной і нябеснай улады, гераічнага эпасу, Святога Пісання, літургіі ды іншых формаў абраднасці, царкоўнай, сацыяльнай і дзяржаўнай іерархіі («Вячэра Кіпрыяна», «Літургія п'яніцаў», «Запавет асла», іншыя творы неафіцыйнай літаратуры эпохі сярэднявечча і Рэнесанса). Гэтая карнавальная традыцыя арыгінальна выявілася ў беларускім фальклоры, асабліва ў адносна позніх казках і легендах, апублікаваных А.Сержпутоўскім. Тут ёсць вясёлая травестацыя касмаганічных і этыялагічных міфаў, у тым ліку біблейскай Кнігі Быцця.

Вось як выглядае светатварэнне паводле казачніка Лявона Лебедзіка: «Стварыў Бог неба і

# Зваба метауніверсалізму

**«Усё ёсць поўнае тым, чым яно ёсць». Гэтая універсальная формула статычнага свету, вынайдзеная Парменідам, уяўляецца бездакорнай у межах непатаемнага, калі непатаемнасць прымаецца за вызначальную адзнаку існасці быцця. З такога гледзішча свет цэласна адзіны сваёй наяўнасцю і універсальна паяднаны гэтым Адзіным, як мяжой наяўнага існага. Але як толькі паўстае пытанне пра канстытуцыйныя вымярэнні Адзінага, то адразу выяўляецца, што на прасторы Адзінага быццё дзеіцца, як незлічоныя множнасці быцця, вэрхал супярэчнасцяў якога не вытрымлівае ні адна Універсалія, і не толькі статычная, як у Парменіда, але і дынамічная, як, скажам, у Геракліта ці ў Гегеля. Тым не менш, звабай універсалізму прасякнута ўся гісторыя мыслення і нават напрыканцы XX стагоддзя, калі большасць мысляроў, пакрыўджаных непадступнасцю звабы, робяць выгляд, што не звяртаюць на яе ўвагі, – застаецца яшчэ даволі тых, хто не стамляецца наноў шукаць гэтую папараць-кветку метафізікі ці трымаецца нейкай раней натрызненай, часам інтэрпрэтуючы яе па-свойму, або ствараючы адмысловую кампіляцыю з некалькіх, тымсамым спрабуючы надаць «маральна зношаным» новую якасць.**

**Няма патрэбы даводзіць – бо гэта навідавоку, – што Уладзімір**

зямлю, паставіў ясна сонейка, каб яно свяціла ўдзень ды грэла зямлю і ўсялякае жыўёла ды расліну. Свеціць ды грэе й радуе ўсялякае стварэнне». Але вось чорт вылез з пекла і ўсё папсаваў: напляваў у пчалінае дупло, і там вывеліся шэршні і восы; парассякаў іх і нарабіў рознае машкары; павырываў дрэвы, зрабіў горы, выжарыны і балоты; запаганіў ваду і забрудзіў зямлю пустазеллем. Урэшце, пачаў грызці месяц: застаўся толькі маленькі агрызачак. З той пары месяц, каб выратавацца ад нячысціка, памаленьку адступае да сонейка: тое пахукае на яго, нагрэе і адновіць. Вось месяц «дзве нядзелькі расце ды набіраецца сіл, а дзве нядзелькі барукаецца з чортам»[7].

Асобны цыкл легендаў і казак распавядае пра паходжанне балотаў на Палессі, дзе чорт таксама выступае ў ролі камічнага дублёра Бога-Дэміурга. Іх агульны змест пераказаў казачнік Рэдкі: «Балота ды ўсялякую тхланю ды нетру зрабіў чорт Ён падгледзеў, што Бог сее зямлю, от ён схапіў трохі зямлі ды й схаваў яе ў горла. Азірнуўся Бог ды й пытае, што ён есць. Чорт, каб адперціся, праглынуў тую зямлю. Бачыць чорт, што зямля распёрла яго, от ён давай рыгаць. От дзе толькі чорт рыгнуў, там зрабілася балота ды такая нетра, што там і да тых час толькі й жывуць чэрці»[8]

Этнографы пазітывісцкага і сацыялагічнага кірункаў бачылі ў гэтых сюжэтах веру, забабоны альбо перажыткі паганства. Аднак структурна-стылістычны аналіз беларускіх народных казак і легендаў этыялагічнага зместу дае падставу бачыць у іх чыста мастацкі, інтэнцыяльны змест, своеасаблівую літаратурную сублімацыю карнавальнай культуры, аналагічную тым яе пластам, якія аналізуюцца М. Бахціным.

Беларускі казачнік са Случчыны Рэдкі расказваў А.Сержпутоўскаму казку «Музы́ка і чэрці» – народную інтэрпрэтацыю арфічнага архетыпу. Ягоны зямляк адказаў казкай-травесціі «Цыган-музыка». Цыган, як і «жыд», у беларускім фальклоры – тыпалагічныя гратэскавыя стандарты. У гэтай тыпалогіі не абыдзены і «беларус». Маю на ўвазе вобраз Несцеркі: «Жыў-быў Несцерка, было ў яго дзетак шэсцярка, рабіць ляніцца, а красці баіцца»[9]. Герой казкі «Цыган-музы́ка» – тыповы трэкстэр. «Быў адзін цыган <...>. Нічога ён не дбаў, толькі на скрыпачцы іграў<...>. Тая скрыпачка так іграе, так выразна вымаўляе, што здаецца: душа з целам растаецца <...>. Што цыган захоча, скрыпка плача і рагоча». Рыфмаваная проза акцэнтуе камізм прадажы чорту душы хітрага музыканта, якому «купец» плаціць «лісцямі з вярбы», выдаючы іх за дукаты[10]

Шматлікія беларускія казкі і легенды, дзе аснова сюжэта – перавод біблейскай і ўсёй нябеснай гісторыі ў зямныя «каардынаты» штодзённага побыту, вызначаюцца тэатральнасцю з трыкстэрам у ролі галоўнага «героя», а хутчэй – антыгероя. Мастацкую ўмоўнасць фабулы акцэнтуе казачнік, калі пачынае свой твор з камічнага зачыну ў скамарохаўскім стылі, набліжаючы сам сябе да пазіцыі трыкстэра: «Так сабе, у некаторым царстве і ў некаторым гасударстве, ці можа, у том, што мы жывём...» Альбо яшчэ: «Гэта не казка, а прыказка. Казка будзе заўтра, пасля абеда, як наемся мяккага хлеба». Ёсць і больш дасціпная: «А хто гэтаму не ўверыць і скажа, што гэта няпраўда, то няхай паправіць кабылі хвост і годзе» Ёсць і смялейшыя гратэскі: «Кончылась казка, прыбегла свінка ад батвінка, ср...а бокам, ідзі, пане, пазбірай, будзе пышка-каравай»

Сярод персанажаў беларускага фальклору ёсць каларытныя камічныя дублёры біблейскіх

Конан належыць якраз да тых мысляроў, якія не мысляць сабе мыслення без апірышча на нейкую універсалію. Апошнія працы (тое ж «Сусветнае дрэва») яшчэ раз пацвердзілі і з дадатнай выразнасцю акрэслілі ягоную схільнасць да сістэматызацыі веды пра існае – цяпер ужо на аснове метауніверсаліі Сусветнага Дрэва, якое ахоплівае ўсю прастора-часавую рэальнасць і знітоўвае сабой усе пазнейшыя універсаліі: ад біблейска-хрысціянскай да рэнесанснай і далей – Новай і Найноўшай пары.

Аднак мы не будзем разглядаць стасункі ўсіх, пазначаных Уладзімірам Конанам, універсальных міфалагем і канцэпцый у кантэксце метауніверсаліі Сусветнага Дрэва, а спынімся адно на біблейска-хрысціянскай міфалагеме, бо для дэманстрацыі нашага разумення праблемы, здаецца, будзе даволі і гэтага. Тым болей, што і сам Уладзімір Конан менавіта ёй надае дамінуючае значэнне ў агульным полі сваіх развагі. («Па сутнасці, уся Біблія ёсць сімвал драматычнага станаўлення духоўнага чалавека, сукупнасць архетыпаў яго ўзыходжання па Сусветнаму Дрэву ад цемры падзямелля да нябеснага святла».)

У сваю пару як універсалія Сусветнага Дрэва, так і універсалія Хрысціянства былі запар базавымі для еўрапейскага чалавецтва і шмат у чым вызначылі абрысы ідэалагемы ў першым выпадку – паганскай, у другім – хрысціянскай эры. Таму, калі кіравацца логікай гісторыка-часавай паслядоўнасці, не выглядае наўмысным іх паяднанне ў адным тэарэтычным дыскурсе, але калі яны зводзяцца ў агульную сінтэзу (як у Уладзіміра Конана), то адразу паўстае пытан-





герояў. Вось, напрыклад, травестацыя вядомага сюжэта аб прароку Іоне. Выкінутага ў мора царскага сына Івана прыглынула вялізная рыбіна. Наш герой не разгубіўся: расклаў у рыбіным жываце цяпельца, настругаў мяса і падсмажвае; рыбе моцна прыпякло, яна адхаркнула яго на бераг мора («Іван Беларасійскі»). Герой казкі «Круці не круці, а трэба памярці» – тыповы трыкстэр адносна біблейскага шматпакутнага Іова. Ёсць у нашых казках камічныя дублёры Аўрама, Ісака, Майсея. Не пазбеглі гумарыстычна-гратэскавай травестацыі евангельскія сюжэты. У цыкле легендаў пра вандроўкі Ісуса Хрыста ў ролі трыкстэра звычайна выступаюць ягоныя спадарожнікі – апосталы Пятро і Павел, святыя Мікола, Ілля, Юрый, Касьян і Дзям'ян, Іван Залатавус (Златавуст), Праскоўя Пятніца[11].

Карнавальна-гратэскавая прырода народнага смеху выявілася ў яго нацэленасці не толькі на сацыяльную, культурную ды рэлігійную іерархію, але і на самога сябе, на казачніка і ягонага alter ego – галоўнага героя. Вышэй ужо гаварылася пра скамарохаўскую маскіроўку казачнікаў пад трыкстэра. Такім жа камічным дублёрам Дэміурга і культурнага героя міфалогіі, гэта значыць самога сябе, нярэдка выступае казачны народны герой, часцей за ўсё Іван-дурань альбо «трэці дурань». Іванька-дурань можа быць і царскім, зрэдку панскім альбо купецкім сынам. Але часцей за ўсё яго біяграфія пачынаецца з апазіцыі афіцыйнай іерархіі – цара, пана, героя і да т.п. Звычайна ён – сын дзеда і бабы (вагітная старая – традыцыйны архетып гратэскавага смеху), нярэдка нараджаецца ад кабылы, каровы, сучкі ў якасці камічнага дублёра царскіх дзяцей, жывога сімвала паніжэння і непазбежнай рэдукцыі ўсіх афіцыйных каштоўнасцяў

Выдатная па закончанасці фабулы і эпізодаў чарадзейная казка «Таратурка» распаведвае пра героя-выратавальніка, які перамог усе варожыя сілы, сцвердзіў справядлівасць і стаў царом. А нарадзіўся ён самым гратэскавым чынам: ад з'едзенай рыбы-вокуня «з адным бокам, з адным вокам», і не багіня альбо царыца яго нарадзіла (так нараджаліся героі класічнай міфалогіі), а дваровая сучка. У самым ягоным імені ёсць падвойная насмешка: Таратурка паводле народнай семантыкі – гэта балбатун, аматар небыліц, які да таго ж носіць родавае імя Сабачы сын: агульнавядомая народная лаянка. А ў якасці антаганіста Таратуркі выступае, так сказаць, звыштрыкстэр, імя якога самаадмаўляе свайго носьбіта: Юда-анціюда Беззаконная галава. Часам герой казкі – скамарох і камічны дублёр да самога сябе: «Быў сабе мужык, і быў у яго саламяны язык...» Вось ён збіраецца ехаць да цара: «не браў ні каня, ні харошай цялегі, а ўзяў старыя калёсы, што навоз вазілі, запрог мядзведзя ў карэнь, чорта на прысцяжку»[12]

Карнавальна-гратэскавы смех народнай казкі і легенды, маскарадны воблік герояў, «саматрыкстэрызацыя» аўтарскага «Я-героя» – усё гэта мае універсальны светапоглядны, эстэтычны і маральна-філасофскі сэнс. Тут ёсць вядомая па Гегелевай «філасофіі права» дыялектыка пераходу раба ў пана-гаспадара і наадварот – пана ў раба. Але ёсць нешта і вышэйшае, боскае, нябеснае, пра што сказаў Іаан Хрысціцель, выкрываючы кніжнікаў і фарысеяў· «І не думайце гаварыць у думках сваіх: бацька ў нас Аўраам, бо кажу вас, што Бог можа з каменняў гэтых падняць дзяцей Аўрааму. Ужо й сякера ля караня дрэваў ляжыць. кожнае дрэва, якое не дае пладоў, ссякаюць і кідаюць у агонь» (Мацв. 3:9 – 10).

не: наколькі гэтая лагічная (у гісторыка-часавым значэнні) паслядоўнасць дазваляе нітаваць у нешта супольнае дзве розныя універсаліі, кожная з якіх паўстала са сваёй прычыны існасці быцця?..

Вось на гэты момант у эстэтычнай і быційнай сістэме Уладзіміра Конана і хацелася б звярнуць увагу і выказаць сваё разуменне тых кардынальных супярэчнасцяў, якія мусяць з'яўляцца кожны раз, калі робіцца спроба паяднаць некалькі універсальных мадэляў у структуры адной логацэнтрычнай канструкцыі.

Усякая Універсалія ўсеабдымная і самадастатковая (на тое яна і Універсалія) настолькі, што не трансфармуецца ў іншую, – калі не браць пад увагу магчымасць трансфармацыі яе асобных фрагментаў, – і, больш за тое, не мае ў сабе механізма, праз які магла хаця б суладна стасавацца са сваёй папярэдніцай ці наступніцай. Эвалюцыйнае перацяканне міфалагемы Сусветнага Дрэва ў корпус біблейскіх міфаў і далей – у міф хрысціянскі, прапанаванае Уладзімірам Конанам, базуецца на пераемнасці тых ці іншых элементаў, але, здаецца, не ў поўнай меры ўлічвае тую кардынальную змену функцый, якую набываюць гэтыя элементы ў выніку трансфармацыі (а ў рэшце рэшт – трансмутацыі) у варожай для іх прасторы новай Універсаліі. Ужо ў біблейскай міфалагеме, па часе найбольш блізкай да пары міфалагемы Сусветнага Дрэва і фактаграфічна (але не ідэалагічна) яшчэ зусім паганскай, Сусветнае Дрэва «нагружана» наскрозь адмоўнай функцыяй, якая павінна была дыскрэдытаваць яго (канчаткова і назаўжды) як вечную і крыштальна чыстую крыніцу жыццядайнай субстанцыі.

### 3. Трыкстэр у літаратуры

Гэтую глыбінную тэму тут можна толькі абазначыць у агульнай форме, спаслаўшыся на асобных пісьменнікаў, іх творы і вобразы. Тым больш, калі гутарка ідзе пра мастацкую культуру наогул. Камічны дублёр і самазванец – цэнтральныя фігуры камедыёграфаў І не толькі іх: трыкстэр па кантрасту акцэнтуе вышыню цароў і герояў у эстэтычным свеце класіцызму і барока, выступае пад імем адмоўнага героя ў рэалізме крытычным і сацыялістычным. Ён жа выконвае ролю «галоўнага героя» на сцэне мадэрнісцкай і асабліва постмадэрнісцкай творчасці, калі можна казаць пра «гераізм» гэтай дэгераізаванай плыні ў сучасным мастацтве.

Архетыпы трыкстэра ёсць у Кнізе кнігаў – у Бібліі. Вось філістымляне звязалі героя Самсона лейцамі і вядуць на страту. Але зышоў на яго Дух Гасподні, парваліся кайданы на ім: «І знайшоў ён свежую асліную сківіцу і, апусціўшы руку сваю, узяў яе, і забіў ёю тысячу чалавек». Праспяваўшы кароткую хвалебную песню ў гонар свае перамогі, Самсон кінуў сківіцу, назваўшы зямлю гэту Кінутая Сківіца. З яе пацякла крыніца (Суд. 15:13 – 17).

Сімпатычная і працавітая цяглавая сіла асёл стаў сімвалам крайняга нізу, універсальным сродкам абсмейвання. А тут яшчэ не ўвесь і не жывы асёл, а сківіца мёртвага асла. Максімум гратэскавага камізму! Гэтая асліная сківіца ператварыла тысячу ваяроў у камічных дублёраў – трыкстэраў Але і пераможца, эпічны і этыялагічны герой Самсон, заразіўся ад іх прыкметамі трыкстэрства. Па закону эстэтычнага судачынення. Альбо паводле прымаўкі: «З кім павядзешся, ад таго і набярэшся» Пазней кухар з расійскай казкі пабіў трыкстэрскі рэкорд Самсона: узброіўшыся апалонікам, палову варожага войска паклаў[13].

У кожнага пісьменніка, мастака, артыста і рэжысёра ёсць свой трыкстэр як мастацкі набытак – дэманічны альбо камічны.

Ён – адзін з ключавых вобразаў, наяўных альбо скрытых, усёй творчасці: ад міфалагічнай да сучаснай постмадэрнісцкай. Аналіз гэтай тэмы ў беларускай мастацкай культуры можа стаць прадметам фундаментальнага даследавання. Тут яна закранаецца толькі фрагментарна, для выяўлення сутнасці самага паняцця і ягонай гістарычнай дынамікі.

Сімяон Полацкі на раздарожжы паміж Бацькаўшчынаю і Масквою напісаў шарж на самога сябе – верш «Стихи утешные к лицу единому» (пачатак 1660-х гадоў). Аўтар выдае сябе за камічнага дублёра біблейскіх герояў, малюе свой партрэт іранічна-гратэскавымі сродкамі.

Кто хощет людей на свете познати,
Изволь о умных мене вопрошати.
Сам я не дурак, да блюдусь сказати,
Что б мене вверх не хотели взяти.
Видете мене, как я муж отраден,
Возрастом велик и умом изряден?
Кто ся со мною может поровнати

**Да біблейскіх падзей Сусветнае Дрэва ўяўляла сабой абсалютную формулу бясконцасці жыцця, але пасля таго як на ім выспелі атрутныя плады «ведання дабра і зла», з-за якіх чалавек і па сёння мае столькі пакут і ў канчатковым выніку заўсёднае гібенне, – Дрэва апынулася ў подзе прычыны татальнага панавання смерці.**

**Зрэшты, было б нават дзіўным, каб ідэалогія новай (хрысціянскай) Універсаліі не паспрабавала зганьбіць былую – дыскрэдытацыя, як інструмент адмаўлення, куды больш дзейсная за рытарычна-дэкларатыўнае «не», а адмовіць значэнне Сусветнага Дрэва ў якасці адзінай падставы існавання існага было зусім неабходна, паколькі далей прычынай свету мусіў быць ужо не сам свет (Сусветнае Дрэва), а штосьці другое, нейкая старонняя ўсяму існаму сіла, якая стварае існае сама з сябе, але не як свой працяг, а як нешта інакшае і ў пэўнай меры нават самадастатковае...**

**Натуральна, у гэтых двух універсаліях (паганскай і біблейскай) можна шукаць і знаходзіць тыпалагічна агульныя прыкметы, толькі нішто іх не зможа зніТаваць у нейкую еднасць, бо паміж імі разлом не ў форме быцця, а ў спосабе мыслення, якое на тую пару рашуча выламвалася з манагалічнай цэласнасці непатаемнага ў дыялог з патаемным.**

**Дарэчы, калі забыцца на рэвалюцыйны перарахунак інтэлігібельнай сітуацыі, то быційна паганская і біблейская цывілізацыі яшчэ не далёка разышліся між сабой, чаму сведчаннем і сам біблейскі Бог, які хаця ўжо і «злез» з Сусветнага Дрэва (як некалі злезла з дрэва дарвінская малпа), але яшчэ не намацаў сабе прытулку ў сутонні трансцэндэнтнага і таму мясціўся недзе бліз чалавекаў і народаў. Адсюль Ягоная заангажаванасць жывым жыццём: Ён то песціць, то ненавідзіць чалавека, і робіць гэта ў тут-быцці ды «ўласнаручна», а не праз памагатых у нейкай там апраметнай катавальні, як тое будзе адбывацца потым. – Ён яшчэ непасрэдна прычыняецца да ўсіх чалавечых справаў, творыць лад і бурыць бязладдзе, нішчыць амаль усё жывое і аднаўляе яго наноў – адным словам, прысутнічае як рэальны суб'ект у рэальнасці чалавечага бытнавання. Верагодна, з гэтай блізкасці да канкрэтыкі жыцця Ягоныя адносіны да зганьбавання ім жа Сусветнага Дрэва застаюцца пакуль досыць памяркоўнымі. Бо хаця Ён і адпрэчыў прэтэнзіі Сусветнага Дрэва на валоданне ўсім зместам і сэнсам Сусвету, але літасціва пакінуў Дрэву магчымасць заставацца ў якасці перыферыйнай падзеі, якая поўніць акаляючую чалавека прастору пабытовымі значэннямі...**

**Затое *трэці* Бог (за *першага* палічым Сусветнае Дрэва) – Бог святога Дабравесця, паставіўся да Сусветнага Дрэва куды больш варожа. Нябачны, няўлоўны, нямоўны – ён ужо зносіцца з людствам не непасрэдна, а праз досыць складана распрацаваную сістэму «знамёнаў» (знакаў-сімвалаў), як бы падкрэсліваючы сваёй адсутнасцю ў тут-быцці ягоную, тут-быцця, нявартасць, умоўнасць, усяго дадатнасць да трансцэндэнцыі, якая адно і ёсць тым месцам, дзе *ўсё* знаходзіць і вартасную, і сакральную меру ды вагу. Адсюль смяротная варажнеча *трэцяга* Бога да Сусветнага Дрэва, як да альтэрнатыўна супрацьлеглай ідэалагемы, сістэма каштоўнасцяў якой палягае на сумернасці чалавека і тут-быцця і тым самым**





Разве из мёртвых Голиафу встати?
Ума излишком, аж негде девати, –
Купи, кто хочет, а я рад продати.
Вся глава умом велми ся наткана,
А мозгу мало, что места не стало.
Времем сквозь нас розум вытекает,
Да Семён умён – языком приймает.
А сколько силы – не можно сказати:
Лва на бумагу мощно мне роздрати,
Другий то Сомпсон, да нет с кем побиться:
Кого вызову – всяк мене боится...[14]

Відавочна, што наш першы прафесійны літаратар Сімяон ведаў еўрапейскую карнавальна-гратэскавую літаратурную традыцыю, магчыма, чытаў раман «Гарганцюа і Пантагруэль» Ф Рабле. Пра гэта сведчыць яго гратэскавы твор, у назву якога ўведзены камічныя тытулы царкоўнага іерарха ў вобліку трыкстэра: «Виншоване имени преосвященному его милости господину отцу Амфиногену Крыжановскому, епископу Корельскому, Ивангородскому, Финскому, Ливонскому, Ингомерданскому, всего Поморья, Вечернего ы Полуночного океана, архимандриту Назаретскому, протосынгелевы Гомелейскому, опатови Рымскому, пробшчови Гданьскому и Кролевецкому, кустошови Денембарскому, игуменови Дисенскому. В день 6 священному Амфиногена офяроване. Року 1661»[15]

Паэтычнае вальнадумства ў кантэксце позняга еўрапейскага Рэнесансу Верш гэты, які мае тыповую скамарохаўскую канцоўку, – смех над уласнай асобай («Друг твой в пиве, в горелце, в тобаце, // Если тя выдал, налай, як собаце!»), засведчыў, у якім кірунку мог бы пайсці паэт Сімяон Полацкі, каб не папаў у «Трэці Рым», асеў у Вільні, бліжэй да рэнесанснай культурнай прасторы.

Пранікненне гратэскавага камізму ў беларускую літаратуру ў XVII – XVIII стст сведчыла пра змену мастацкіх плыняў: барока з ягонай эстэтычнай дасціпнасцю цяпер прэтэндавала на годнасць стылю эпохі. Камічны дублёр адцясніў эпічнага героя на другі план (ананімная літаратура ў жанры травесці, «Ліст да Абуховіча»). Класіцызм канца XVIII – пачатку XIX стст. у літаратуры і тэатральным мастацтве з яго іерархіяй стыляў зноў адвёў камічнаму нізкую ступеньку; альбо, кажучы сучаснаю моваю, «апусціў» жанры камедыі і народнага апавядання на ўзровень масавай культуры («Камедыя» К.Марашэўскага, «Доктар па прымусу» М.Цяцерскага, інтэрмедыі школьнага і прыватнага тэатраў).

Рамантычная іронія і рэалізм з іх крытычным пафасам адрадзілі гратэскавыя формы мастацтва ў XIX стагоддзі. Найвялікшым і найдасціпнейшым майстрам гратэскавага рэалізму быў Мікалай Гогаль. Празарлівым вокам геніяльнага мастака артыстычнага складу ён разгледзеў прататыпы шматаблічнага трыкстэра ў рэальным жыцці Расійскай імперыі і дасканала выявіў іх у сваіх творах – драматургічных, празаічных і філасофска-публіцыстычных. М.Гогаль апярэдзіў

свой час на цэлае стагоддзе і, мабыць, на мяжы XXI тысячагоддзя ягонае гратэскавае бачанне свету паслужыць у якасці архетыпаў для адраджэння вялікай камедыі, што дапаможа чалавецтву са смехам расстацца з панаваннем камічных дублёраў нашай эпохі.

Новая беларуская літаратура пачыналася не толькі з літаратурнага этнаграфізму (творчасць Яна Баршчэўскага, Яна Чачота), але адначасова з ананімных твораў у жанры травесці. Маю на ўвазе гратэскава-парадыйныя паэмы «Энеіда навыварат», «Тарас на Парнасе» Смех аўтараў гэтых твораў – карнавальна-святочная гульня, перанесеная ў літаратуру, блізкая адначасова да гогалеўскай і сваёй чарадзейна-казачнай традыцыі. Аднак яны нічога не бяруць гатовым, ствараюць свой гратэскавы свет, у аснове якога – кантамінацыя антычнага і хрысціянскага светаўспрымання (Энеі спявае «Ойча наш» і «Възбранной воеводе»), алімпійскага пантэона і сялянскага кірмашовага свята, пекла і рая. Героі гэтых твораў – не аўтэнтычныя богі старажытных грэкаў і рымлян, а іх беларуска-сялянскія камічныя дублёры. Дарэчы, М. Бахцін у артыкуле «Рабле і Гоголь» заўважыў: «Традыцыі гратэскавага рэалізму на Украіне (як і ў Беларусі) былі надзвычай моцнымі і жывучымі»[16].

Гратэскавыя, фальклорныя і літаратурныя традыцыі арыгінальна пераўтвораны ў камедыйных творах заснавальнікаў новай беларускай літаратуры. Яны характэрныя творчасці Ф. Багушэвіча, а папярэднік ягоны ў літаратуры В. Дунін-Марцінкевіч стаўся заснавальнікам вадэвілю ў нашай драматургіі. Янка Купала здолеў сінтэзаваць гэтыя жанры: у камедыях «Паўлінка», «Прымакі» і трагікамедыі «Тутэйшыя» спалучыліся гэтыя дзве формы камічнага. Купалавыя Адольф Быкоўскі і Мікіта Зносак – гэта не толькі таленавіта выпісаныя тэатральныя персанажы, але і адбітак дэнацыяналізаваных камічных дублёраў калісьці слаўных, нацыянальных паводле менталітэту шляхцічаў і месцічаў

На ўсіх этапах беларускага нацыянальнага Адраджэння гераічная драма і трагедыя дапаўнялася камедыяй з яе антыгероем-трыкстэрам. У гэтай дыхатаміі сацыяльнага быцця і культуры патрэбна адрозніваць два тыпы камічнага: амбівалентны смех карнавальна-гратэскавага тыпу, які выяўляе матэрыяльна-целесны, зямны аспект усякага быцця і ўсёй культуры, у тым ліку іх узнёслых і гераічных узроўняў, і, калі можна так сказаць, смех пахавальны, вясёлыя хаўтуры па аджыўшых, закасцянелых, рэдуцыраваных і таму бесперспектыўных звеннях ды фрагментах грамадскага быцця і дагматызаванай культуры.

Жывая дынаміка культуры не ёсць банальная барацьба «новага» са «старым», як гэта ўяўлялі сабе разносчыкі папулярнай «дыялектыкі». Бо ў «пражытых» этапах культуры заўсёды застаецца нейкі боскі пачатак, тая «духоўная закваска», без якой немагчымы «хлеб» будучыні. З другога боку, не ўсякае «новае», паводле гегелеўскай дыялектыкі, «сапраўднае», а толькі тое, якое грунтуецца на імператывах практычнага розуму і апраўдваецца духоўнымі крытэрыямі. Беларуская «ўзвышанская» літаратура канца 20-х – пачатку 30-х гадоў дакладна разгледзела дэманічны аспект камічных дублёраў так званага «новага чалавека» камуністычнай утопіі (аповесць «Запіскі Самсона Самасуя» А. Мрыя, драма В. Шашалевіча «Апраметная», паэзія Ул. Дубоўкі, лірычныя прароцтвы іншых паэтаў). У трагічныя 30-я гады паміралі не толькі героі, але і камічныя дублёры, якім не хапіла гнуткасці і шчаслівага выпадку.



Недзе з 60-х гадоў карнавальна-гратэскавы смех паволі адраджаўся ў нашай паэзіі. Сярод яе набыткаў – папулярны «Сказ пра Лысую гару». Каб не паўтарацца, спашлюся на свае нататкі ў цыкле публікацыяў часопіса «Крыніца», прысвечаныя «лысагорскай» тэме. Нядаўна трыкстэр 20-х гадоў Самсон Самасуй вярнуўся ў беларускую літаратуру пад больш лагодным абліччам Самасея. Маю на ўвазе аповесць беластоцкага пісьменніка Сакрата Яновіча.

Апошнім часам на старонках літаратурных твораў і тэатральный сцэне з'явіліся камічныя дублёры творцаў беларускай гісторыі. Самы прыкметны з іх – трыкстэр-двайнік Ф. Скарыны ў камедыі М. Адамчыка і М. Клімковіча «Vita brevis, альбо нагавіцы святога Францыска», пастаўленай Дзяржаўным тэатрам-лабараторыяй нацыянальнай драматургіі (прэзентацыя адбылася 23 сакавіка 1994 г.). Недахоп гэтага твору (пры яго бясспрэчных вартасцях) – будуарна-эратычны ўхіл гратэскавага антыгероя. На зусім «законную» травестацыю празмерна сур'ёзнай акадэмічнай біяграфіі нашага асветніка накладваецца незапланаваная аўтарамі пародыя на Дон-Жуана. Нічога тут не паробіш: натуралістычная інтэрпрэтацыя донжуанаўскіх комплексаў – хранічная хвароба постсавецкай культуры. Я мог бы нават паспачуваць нашым аўтарам: на травестацыі Скарынавай тэматыкі пакуль што не набудзем ні творчых, ні тым больш банальных капіталаў Бо жыццёвая і творчая драма Ф. Скарыны ў нашай краіне не стала масавай легендай. Зусім лагічна, што і ейная мастацкая травестацыя пакуль што цікавіць толькі нешматлікую нацыянальную эліту

І тут узнікае новы матыў: трыкстэр у грамадскім жыцці і палітыцы. Тэма нашага чарговага нарысу

---

[1] Бердяев Н. Смысл истории: Опыт исторической судьбы. Париж, 1968. С. 39, 72.

[2] Древлянский П. (Шпилевский П.М.). Белорусские народные поверия // Прибавления к Журналу Министерства Народного Просвещения на 1946 г. Отделение литературное. 1946. С. 4 – 25; Киркор А.К. Следы язычества в празднествах, обрядах и песнях // Живописная Россия. Т.3. Ч.2. Белорусское Полесье. СПб., 1882. С. 272.

[3] Никифоровский Н.Я. Нечистики. Свод простонародных в Витебской Белоруссии сказаний о нечистой силе. Вильня, 1907. С. 33 – 35.

[4] Тамсама, с. 48 – 53.

[5] Бахтин М.М. Творчество Франсуа Рабле и народная культура средневековья и Ренессанса. М., 1965 (2-е выд. М., 1991).

[6] Конан У. Ля вытокаў самапазнання: Станаўленне духоўных каштоўнасцяў у святле фальклору. Мн., 1889. С. 67 – 118.

[7] Сержпутоўскі А. Казкі і апавяданні беларусаў з Слуцкага павету. Л., 1926. С. 19 – 20.

[8] Сержпутоўскі А.К. Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў. Мн., 1930. С. 24.

[9] Сербов И. А. Белорусы-сакуны. П., 1915. С. 177

[10] Сержпутоўскі А. Казкі і апавяданні беларусаў з Слуцкага павету. С. 169.

[11] Легенды і паданні. Мн., 1983. С. 114 – 140.

[12] Шейн П.В. Материалы для изучения языка и быта русского населения Северо-Западного края. СПб., 1887 – 1900. Т.2. С. 19.

[13] Афанасьев А.Н. Народные русские сказки. М., 1957. Т 1. С. 137.

[14] Симеон Полоцкий. Вирши// Сост., подгот. текстов, вступ. ст. и комм. В.К. Былинина, Л.У. Звонарёвой. Мн., Маст. літ. 1990. С. 25 – 26.

[15] Тамсама, с. 65 – 67.

[16] Бахтин М.М. Творчество Франсуа Рабле и народная культура средневековья и Ренессанса. 2-е изд. М., 1991. С. 528.

---

адмаўляе трансцэндэнтнае і ягоную прычыну – хрысціянскага Бога.

Вынікам гэтай смяротнай варажнечы сталася тое, што Хрыстос «ссёк» Дрэва і на самай сярэдзіне існага, дзе раней трымаў нябесныя шаты магутны галамень Сусветнага Дрэва, замацаваў, выштукаваны з гэтага Дрэва, – Крыж.

Ва ўсе папярэднія часы *дрэва* паслугавала толькі жыццю і само было гэтым жыццём. Калі яно і ссякалася, то каб будаваць хаты, вялічыць ляда, масціць гаці, майстраваць калыскі і вазы – адным словам, зноў жа здзяйсняць волю волі да жыцця, якое такім чынам церабіла сцежку ў наступнасць. І толькі хрысціянства, абсёкшы *дрэва* на *крыж*, ператварыла яго ў нашчынне смерці, з чаго Сусветнае Дрэва Жыцця набыло значэнне Дрэва Смерці, пад засенню якога чалавек чакае раптоўнага покліку з там-быцця, каб, перасягнуўшы мяжу патаемнага, атрэсці з сябе жыццё як смерць і далучыцца да смерці як вечнага жыцця.

Заакцэнтуем яшчэ: у сістэме каардынатаў хрысціянскай ідэалогіі Сусветнае Дрэва Жыцця было перайначана менавіта ў Дрэва Смерці, а не ў «метафарычны сімвал чалавека», як тое высноўвае Уладзімір Конан, зыходзячы з некаторых эпізодаў Святога Дабравесця, дзе «дрэва», – сапраўды так, – згадваецца ў якасці антрапаморфных метафар.

«У Новым Запавеце звычайнае дрэва сталася метафарычным сімвалам чалавека. Пра фарысеяў і садукеяў, якія няшчыра прыйшлі каяцца і хрысціцца, Іаан Хрысціцель сказаў: «Ужо і сякера пры карэннях дрэваў ляжыць: усякае дрэва, якое не прыносіць добрага плёну, ссякаюць і кідаюць у агонь» (Мацв. 3:10). Дрэвам няплодным Хрыстос называў усіх тых людзей, хто сваёй прагавітасцю і славалюбствам пазбавіліся дароў духоўных» (Уладзімір Конан).

Нават з гэтага кароткага ўрыўка добра бачна, як варагуе хрысціянскі тэкст з *дрэвам*, замыкаючы яго ў аблогу варожага кантэксту – «сякера», «агонь», «няплоднасць»... І таму нічым іншым, акрамя як адвечнай звабай мысляроў – метауніверсалізмам, не растлумачыць, з чаго Уладзімір Конан прамінае ўвагай тую магутную энергію адмаўлення Сусветнага Дрэва, якой літаральна насычана ўся Біблія. Гэтая энергія адмаўлення (з якой хрысціянства і ўзнялося як *новая* Вялікая Універсалія) найперш і паўстае пытаннем да ўсёй адмысловай сістэмы, што ладзіць беларускі філосаф, спрабуючы паяднаць разбэрсаныя феномены быцця і прыгажосці метауніверсаліяй Сусветнага Дрэва.

***

Ссечанае на Крыж Сусветнае Дрэва так ужо ніколі і не адродзіцца ў сваім значэнні. Не адродзіцца нават тады, калі сам Крыж, пабіты шашалем, зваляць буралломы XX стагоддзя, і ён перастане замінаць Дрэву выпырскнуць новым парасткам у сярэдзіне Сусвету...

І справа тут зусім не ў тым, што «парасткаў» Дрэва не засталося ці на подзе «сярэдзіны» паўстае нешта зусім іншае і ад Дрэва і ад Крыжа...

Няма ўжо самой *сярэдзіны*.

Сусвет яшчэ быццам ёсць, а сярэдзіны яго ўжо няма; як няма цэнтру, перыферыі, мяжы. На іх месцы цяпер дыскурс, які ўвогуле не ведае, што такое універсалія (хай сабе і такая вабная, як метауніверсалія Сусветнага Дрэва).

Хаця , магчыма, я і памыляюся: пэўна ж – ведае, але толькі як адзін з мноства сімулякраў (словы, што не адпавядаюць ніякім значэнням у змесце рэальнасці), якімі чалавецтва так доўга бавілася, выбудоўваючы рознага кшталту логацэнтрычныя канструкцыі.

Валянцін АКУДОВІЧ

# Барыс ПЯТРОВІЧ



*Ніколі не думаў, што жыццё мае мне некалі спатрэбіцца...*

# СПЕЦКАР

## *Аповесць з аповедаў*



## ЦНОТА НА ЗАЎТРА

– Вставайте, граф, вас ждут великие дела!– сказаў Федзя, растурхаўшы Максіма.– Уставай, уставай – прыехалі...

**Федзя** – Максімаў сусед па крэслах у аўтобусе, аказаўся дужа гаваркім і ўсю дарогу забаўляў рознымі байкамі і показкамі. І толькі перад самым гарадком – мэтай паездкі, Максім заснуў, як у яміну праваліўся

– Пойдзем да мяне,– прапанаваў у дзвярах Федзя,– што табе ў гатэлі нудзіцца? А ў мяне, пад чарку, пасядзім, пагаворым

«Не,– падумаў Максім,– яшчэ гадзіну тваіх размоў я не вытрываю»,– і заапраўдваўся

– Мне трэба будзе абавязкова патэлефанаваць дадому, а ты ж казаў, што ў вашай вёсцы адзін тэлефон і той у Мікітавай каровы на шыі..

– Ага: дзын-дзын-дзын . ха-ха-ха!– зарагатаў Федзя, прыгадаўшы сваю показку – Ну, тады добра. Ты, дарэчы, калі ад'язджаеш?

– У пятніцу збіраюся

– То, можа, і разам паедзем Аўтобус тут адзін да Мінску ходзіць, так што не размінемся Ну, бывай.

Гарадок сустрэў Максіма рахманаю цішай. Забудаваны трох- і пяціпавярховікамі, быў ён маленькім, вяскова-сваім, і ўмяшчаўся ў квадрат кіламетр на кіламетр Ад аўтавакзала да гатэлю, што стаяў на супрацьлеглай ускраіне, Максім ішоў усяго хвілінаў пяць. Толькі што праімжэў спорны летні дожджык, і ўмыты гарадок блішчэў пад вечаровым сонцам ярка-зялёным лісцём дрэваў, роснаю травою, мокрым, у рэдкіх лужынах асфальтам. Свежае паветра было п'янкім, як у помным дзяцінстве, надавала лёгкасць нагам І падалося Максіму, што патрапіў ён у нейкі райскі куточак, з ягонаю першароднаю чысцінёю, нявіннасцю, ад якіх адвык у вялікіх і заўсёды брудных гарадах.

Сустрэчныя прымалі Максіма за свайго і віталіся Бабулькі спыняліся, паглядалі яму ўслед, быццам прыгадваючы. «Чый жа гэта? .» Парачкі праходзілі чынна і няспешна. Кот паважна перайшоў дарогу, стаў, паглядзеў Максіму ў вочы і пасунуўся далей Музыка, што даносілася з недалёкага расчыненага вакна, была вясёлаю і павольнаю – нейкі вальс. І Максім нават крыху прыцішыў крок, каб патрапіць у рытм жыцця гарадка.

Ля крамы Максіму махнуў рукою: «Хадзі сюды!» мужчына ў выцвілай майцы і падкасаных спартыўных штанах. Максім, мажліва, і прайшоў бы міма, аднак перапыніў яго вялізны валасаты жывот мужчыны, які вылузаўся з майкі і гаспадарліва азіраў наваколле Мужчына скарыстаў момант, падышоў бліжэй і запытальна прамовіў:

– Мне да пляшкі трыццаці капеек не хапае, мо скінемся?

Ён не прасіў і не патрабаваў, ён прапаноўваў І хіба мог Максім яму адмовіць?

З кішэні дастаўся рубель. Мужчына прасвятлеў:

То я зараз, хуценька. Пачакай. У мяне тут блат – жонка працуе, – і ўплішчыўся, як не здзёршы жывот, у напалову расчыненыя дзверы крамы

Максім не стаў чакаць яго і тым, пэўна, вельмі пакрыўдзіў мужчыну Але яму, стомленаму сямігадзіннай яздою ў аўтобусе і балбатнёю Федзі, было не да новых знаёмстваў. Хацелася хутчэй патрапіць у гатэль, ра-зуц-ца, прылегчы на ложак... І праз колькі хвілінаў ён ужо стаяў у сваім нумары перад шырокім вакном і ўзіраўся ў краявід, што адкрыўся з чацвёртага паверху. Малюнак той не цяжка аднавіць. Ён просты: над лёгкаю няроўнаю палоскаю лесу за возерам – палова вялізнага сонца. І ягоны чырвоны адбітак-след праз усё возера цягнецца да Максіма..

Хутка цямнела З запаленымі фарамі да гатэлю моўчкі падкаціўся бела-чырвона-белы «Ікарус», на якім Максім прыехаў Аўтобус завуркатаў і, пыхкаючы чарнейшым за вечар дымам, пачаў нервова тыцкацца туды-сюды, выбіраючы месца супынку на ноч Нарэшце ён заціх і замоўк. І адразу з яго выскачыў чалавек з дужа знаёмым Максіму тварам каменданта універсітэцкага інтэрната нумар два. Праўда, той быў юрыстам, а не шафёрам. Падціскаючы калені і падгінаючыся, кіроўца кінуўся да бліжэйшае яліны і сцішыўся ў ейным цені недацягнуў да прыбіральні, небарака. Зверху добра было відаць, як паступова пачала расслабляцца ягоная постаць, а потым заазіралася па баках

галава. Шафёр асцерагаўся выпадковых мінакоў і зусім забыўся пра насельнікаў гатэлю, сярод якіх не адзін Максім назіраў за ім. Аднекуль знізу пачуўся дзявочы смех і голас: «Во дае мужык, во цурболіць!»

Натуралізму, відаць, якраз і не хапала ў гэтай гарадской (альбо вясковай) ідыліі, бо Максім толькі цяперака прыгадаў, што абяцаў жонцы, прыехаўшы, адразу патэлефанаваць. Каб не хвалявалася

Мінск доўга не адгукаўся Нарэшце ў слухаўцы пачуўся заспаны голас цешчы:

– Што? . Лена? Яе няма.

– Як няма, Паліна Пятроўна? – разгублена перапытаў Максім.

Цешча пазнала яго і зразумела, што ляпнула нешта лішняе. Магла б схлусіць: спіць, маўляў.

– Гэта ты, Максік? Лена пайшла да сяброўкі. Толькі што тэлефанавала, сказала, што ўжо выходзіць. Не турбуйся А як ты даехаў?

– Добра Я яшчэ пазваню. .

Максім ажаніўся толькі месяц назад. Гэта была ягоная першая далёкая камандзіроўка. Раніцаю жонка, развітваючыся, ледзь не плакала, казала, што будзе чакаць званка, і вось на табе Выкінула нумарочак, вырвалася на волю. .

Максім сядзеў у цемры пакоіо і пазіраў у вакно. На вуліцы было крыху святлей, мажліва, ад возера, якое блякла-шэраю плямай расплылося па наваколлю і выдавала яшчэ большым, чымсьці ўвечары Пра тэлефонную размову ён стараўся не думаць, аднак на душы ўсё адно было паскудна, як з перапою. Святло запальваць не хацелася. Здавалася, варта ўключыць яго – і ўвесь пакой запоўніцца жоўтым, адчувальна ватным рэчывам, у якім і рухацца, і думаць будзе цяжка.

Так прайшла мо гадзіна, а мо і ўсяго пяць хвілінаў: Максім страціў адчуванне часу Ён не ведаў, як пазбавіцца назойлівых думак пра жонку, што зноў і зноў, нібы мухі на мёд, зляталіся ў галаву Нарэшце вырашыў запаліць святло і пачытаць. Пстрыкнуў уключальнікам – нічога не змянілася, вакол не жоўта і не ватна, толькі ў пакоі стала яшчэ больш няўтульна. Пуста і цесна, як у труне

Кніжка, узятая ў дарогу, не чыталася. Літары разбягаліся і з цяжкасцю збіраліся ў словы, словы – у сказы, а сказы адразу забываліся. Максім злавіў сябе на тым, што не памятае, пра што чытае, і адклаў кнігу Сеў за стол, дастаў паперу і асадку, стаў пісаць нешта накшталт дзённіка. На стале ў такт літарам, спачатку ціха, а потым гучней і гучней пачала бразгацець і дзынькаць шклянка на спадачку ля графіна. Гэткае агучванне рухаў рукі раздражняла і злавала Максіма. Ён нервова схапіў шклянку і паставіў на вакно. Але цяпер ужо адна прысутнасць яе тут, у пакоі, адцягвала ўвагу і выводзіла з сябе. І таму пісаць ён не мог Расчыніў фортку і шпурлянуў шклянку далёка ў цемру. Пастаяў, пакуль не пачуў глухі звон разбітага шкла.

Але, як казаў класік, настрой быў сапсаваны і пра сапсаваны настрой пісаць не хацелася, каб не сапсаваць яго канчаткова. Максіма раздражняла і злавала цяпер усё: і фіялетавы, ядавіты атрамант асадкі, і дробныя турэмныя клетачкі паперы, і тая змяіная цішыня, што стаяла наўкола, і гэты тупат, што пранёсся толькі што з канца ў канец калідора. Тупат такі незвычайна гучны, быццам у таго, хто бег, ступні былі даўжэйшыя за цела: лясь, лясь, лясь! Максім высірнуў за дзверы. У блізкім канцы калідора, ля цёмна-люстранога вакна, стаяла дзяўчынка гадоў дзесяці-дванаццаці ў кароценькім ружовым халаціку Дзяўчынка ветла і смела паглядзела на Максіма Гэтак ветла і адкрыта, што па нейкіх, невядома якіх, нормах маралі моўчкі схавацца за дзверы яму не выпадала. Хоць бы дзеля прыліку з дзяўчынкаю трэба было пагаварыць. Максім падумаў гэтак і спытаў першае, што прыйшло ў галаву·

– Ты адна тут ці з мамай? – быццам была яму нейкая справа да ейнае маці.

– І з мамаю, і з татам.

Адпачываць прыехалі на возера?

– Не, мы тут жывем.

– У гатэлі?

– Так, у гатэлі Але бацькоў зараз няма дома. Яны пайшлі ў кіно

Маўчанне Яго перапыніла дзяўчынка.

– А можна я да вас зайду? На хвілінку. Сумна тут

– Заходзь. Заходзь, калі ласка.

Максім упусціў дзяўчынку ў пакой, сеў на крэсла ля стала, а яна прымасцілася на





краі ложка. Дзіўна, але настрой Максімаў пачаў жвава паляпшацца, з'явіліся нават гарэзлівасць, лёгкасць і нязмушанасць, якія бываюць пры размовах з дзецьмі.

– Ты ведаеш колькі зараз часу?

– Ведаю

– А чаму ж не спіш?

– Мне сумна адной у пакоі і страшна. Я не тушу святло, але ўсё роўна мроіцца абы-што Мы жывем на чацвёртым паверсе, а мне здаецца, што нехта ў акно лезе, стукаецца і шкрабае.

– Ты ўжо такая вялікая, а баішся ўсялякіх глупстваў

Дзяўчынцы відочна спадабаліся апошнія Максімавы словы Яна нават какетна, гэтак па-дарослаdensамy, зірнула на яго. «Любяць дзеці, калі з імі гавораць на роўных»,– падумаў Максім і спытаў·

– І даўно вы тут жывяце?

– Другі год. Мы з Азербайджана прыехалі. Тату звольнілі ў запас, а тут кватэру паабяцалі

Такая размова. пытанне – адказ, доўжылася яшчэ колькі хвілінаў, і тут Максім раптам заўважыў, што крысо халаціка зусім спаўзло з ног дзяўчынкі і што пад ім нічога няма – голае дзіцячае цела... Ён адвёў позірк да вакна, а потым, зноў глянуўшы на госцю, упэўніўся ва ўбачаным раней· яна была без трусікаў, прычым халацік яўна споўз невыпадкова. І дзяўчынка, пэўна, даўно чакала, як зрэагуе ён на гэта. «Наіў . Знайшла спосаб.. Німфетка мясцовая.. », – тэлеграфна, абрыўкамі думаў Максім – «Таксама мне – Лаліта... Дарэчы, як яе завуць? Не, не трэба чапляцца. Што ж мне з ёю рабіць?»

Ён не знаходзіў выйсця. І нарэшце, нахабна зрабіўшы выгляд, што нічога не заўважыў, сказаў:

– Позна ўжо, ідзі да сябе Бацькі зараз прыйдуць.

– Яны не прыйдуць. Яны мяне саромеюцца.

– Як гэта?

– Пакой у нас адзін. Вось такі. І ложкі побач. Яны лічаць, што я ўжо вялікая і ўсё разумею. Калі ночы цёплыя, як сёння, яны прыходзяць дадому толькі пад раніцу

– Вось як.

– Можна, я застануся ў вашым пакоі яшчэ на трошкі? Мне туды вяртацца страшна.. Ой, нешта ў мяне галава закружылася. Я прылягу,– і дзяўчынка пачала павольна, артыстычна, спінаю апускацца на ложак. Гэта ўжо выходзіла за межы дзіцячае непасрэднасці і хітрасці Максім рашуча ўстаў:

– Не, прабач, ідзі дамоў! Ідзі!.

Але дзяўчынка ляжала на ложку такая безабаронная, што ён раптам падумаў: навошта гэтая злосць, мажліва, ёй і сапраўды дрэнна Максім хацеў падаць вады, аднак прыгадаў, што шклянку выкінуў.

– Я выклічу дзяжурную,– сказаў ён і памкнуўся да дзвярэй.

Дзяўчынка ў адказ весела засмяялася.

– Ага, ага, паклічце. – і села на ложку

– Што ж ты тады прыдурваешся?

– А быццам вы не разумееце нічога, быццам не здагадаліся, чаму я прыйшла да вас голая,– сказала яна і буркнула сама сабе:– Невядома, хто з нас больш прыдурваецца...

«Рэзонна»,– падумаў Максім і спытаў·

– І даўно ты гэтак ходзіш?

– А з першых дзён, як у гатэлі пасяліліся, прыдумала. Думала-думала і прыдумала.

– Так ужо і прыдумала. Трэба было табе гэта. .

– А можа, і трэба. Можа, мяне яшчэ ў ваенным гарадку салдаты ўсяму навучылі. Злавілі ўвечары ўтрох.. а потым я і сама да іх бегала.

– Колькі ж табе гадоў?

– Трынаццаць. . Хутка будзе чатырнаццаць.

– І ніхто не адмаўляецца тут?

– Ты вось першы не кінуўся супакойваць.

– І колькі бярэш за... сеанс?

– Тры рублі, а хто і больш дасць.

Максім дастаў грошы

– Не, я так не бяру. Я чэсная.

– Ну дык не задарма ж я табе даю. За стрыптыз . Сёння я з дарогі, стомлены, прыходзь лепш заўтра. Я сюды надоўга прыехаў,– казаў Максім, а ў самога заірдзела піянерска-камсамольскае мінулае: «Узяць бы зараз папругу ды выбіць з цябе дурноту гэтую.. »

– Што ж, тады пакедава, – дзяўчынка, як падалося, нехаця злезла з ложка, абцягнула свой ружовы халацік і выйшла.

Максім яшчэ раз агледзеў яе. ну горкае дзіця І нехта ж карыстаецца яе паслугамі. Ён шмат ездзіў у камандзіроўкі, начаваў у гатэлях, бачыў рознае, але з падобным абслугоўваннем сутыкнуўся ўпершыню «Хуткімі, аднак, тэмпамі, проста стаханаўскімі, рухаемся мы да заходніх нормаў «маралі» і «свабоды»...» – падумаў ён То загаварыў у ім журналіст былое партыйнае газеты.

Але трэба было патэлефанаваць дамоў.

– Лена толькі што званіла, – паведаміла цешча,– і сказала, што заначуе ў сяброўкі,– яна націснула на слова «сяброўка», аднак гэта не ратавала сітуацыю – Позна ўжо, – дадала цешча ціха, – дабірацца праз увесь горад, сам разумееш, як небяспечна...

Максім разумеў. Ён усё разумеў. Нават занадта, празмерна шмат разумеў Мажліва, жонка і сапраўды проста заначавала ў сяброўкі. Мажліва.. Аднак думалася Максіму зараз зусім пра іншае. І мроілася д'ябал ведае што. Ён доўга не мог сябе супакоіць. Уяўленне малявала малюнкі адзін выразней другога. Максім скрыгатаў зубамі, круціўся ў ложку і колькі разоў парываўся ўстаць, сабрацца і паехаць у Мінск, да той сяброўкі. Смешна. Але то была не проста рэўнасць, альбо не толькі рэўнасць. То была злосць, альбо прага помсты, якія бываюць пасля падману, альбо пасля здзеку, альбо пасля здрады... Максім прыгадаў тую дзяўчынку і, грэшнай справай, пашкадаваў, што адпусціў яе, адпусціў дзеля чыстага сумлення, дзеля званка дамоў, адпусціў, каб зараз пакутаваць, а не спаць супакоенаму і натомленаму

Заснуў ён, калі адспявалі свае песні гарадскія (пэўна, балконныя) пеўні, калі ўжо зусім развіднела, калі ад возера пацягнула свежасцю і прахалодай Падумаў, што трэба зачыніць фортку, і заснуў.

Раніцай Максім першай справай кінуўся да тэлефона

– Лена пайшла на працу, – прагундосіла цешча, – прасіла ў цябе прабачэння, казала, што ўсё растлумачыць, прасіла, каб не хваляваўся дарэмна, каб не думаў нічога дурно.

Максім павесіў слухаўку.

«Самае хрэновае, што прыехаў ты, Макс, у гэты горад працаваць, а не на пагулянку, – падумаў ён, – а цяперака б табе напіцца ды разбіць самую вялікую вітрыну мясцовага універмага, альбо патрэбу справіць пад галоўным помнікам на плошчы, альбо пабіцца з кім-небудзь насмерць...» Паскудна было на душы, але і сапраўды – трэба было працаваць. Максім намацаў у кішэні сваё карэспандэнцкае пасведчанне і выйшаў з гатэлю. У рэдакцыі, у ягоным аддзеле, колькі месяцаў праляжаў ліст ад бабулькі з гэтага гарадка, якая скардзілася, што яе, падпольшчыцу і партызанку, з-за недарэчнага паклёпу пазбавілі звання ветэрана вайны, усіх ільготаў і цяпер не пускаюць у ветэранскую спецкраму. Адчуваючы «тэму», «свяжак», загадчык аддзела прыберагаў гэты ліст для сябе, але ў рэшце рэшт, перад адпачынкам, адшкадаваў яго Максіму· «На, з'ездзь, маладажон, дапамажы бабульцы. Зрабі добрую справу. .»

Удзень гарадок падаўся Максіму не такім ужо і маленькім, і не такім утульным. Куды падзеліся ягоныя ўчарашнія – вячэрнія – акуратнасць, чысціня і дагледжанасць. Мажліва, у гэтым быў вінаваты кепскі Максімаў настрой, бо погляд ягоны раз-пораз выхопліваў абшарпаныя дамы, выбітыя дзверы пад'ездаў, тэлефоны-аўтаматы без слухавак, шчарбатыя плоцікі, зламаныя дрэўцы і надпісы, надпісы на сценах Сярод сустрэчных пераважалі п'яныя, хоць час быў ранні, рабочы. Жанчына, якую Максім спыніў, каб перапытаць, ці правільна ідзе, ні з таго ні з сяго паслала яго проста ў сябе і злосна цвыркнула слінай між рэдкіх зубоў; мужчына доўга стаяў і думаў, закочваў вочы пад лоб і нешта мармытаў, а потым сказаў:

– Нічога не саабражаю.. Ты вот ідзі, тут за вуглом рыгалаўка. Там Шурык-бармен Ён табе ўсё распіша..

Адысці Максім не паспеў. Заграбастая рука п'янага, як клюшня, упілася яму ў плячо, да болю сцісла яго і прыцягнула да сябе. П'янаму трэба быў суразмоўнік, яму трэба было паспавядацца:

– Я пшыкнуў з балончыка тры разы, – дыхнуў ён на Максіма смярдзючым перагарам, з якога патыхала нейкімі лекамі. – Слухай, тры! – паказаў на пальцах. – На бакал піва – якраз, цюцелька ў цюцельку Не першы раз А Колька-Перац кажа чатыры Кажа: на што чатыры разы пшыкнуў! І ў морду мне, у морду. Во так..

П'яны хацеў паказаць на Максіме, як біў яго Колька, замахнуўся, але не ўстояў на нагах, нябачная сіла пацягнула яго назад, і ён спіною пляснуў у кусты Не даслухаўшы ягоных матаў і праклёнаў, Максім пайшоў далей, больш нікога не пытаючы «Райскі куточак паказаў мне свае зубы, – падумаў ён, стаў на чатыры лапы, загырчэў і ледзь не кінуўся кусаць.. Так Першае ўражанне заўсёды падманлівае. Хоць, мажліва, «першае» ёсць не тое ўчарашняе, а якраз цяперашняе »

Зрэшты, дзяжурная ў гатэлі дакладна апісала Максіму дарогу і ўсе павароты, і ён, без нічые дапамогі, здолеў дабрацца да дома, дзе жыла бабулька На першым паверсе яго быў гастраном Максім зайшоў, няспешна папіў таматнага соку з соллю, яшчэ раз прыгадаў змест ліста Гастраном быў пусты. ні чэргаў, ні тавараў, акрамя хлеба ды малака. Толькі тры прадаўшчыцы сустрэлі і правялі Максіма сваімі позіркамі, як змей Гарыныч адначасна і аднолькава паварочваючы ўслед яму галовы, нібы і сапраўды недзе там, пад падлогаю, было ў іх адно на ўсіх цела.

Бабулька доўга не адчыняла дзверы, пыталася, хто і чаму прыйшоў Потым з-за ланцужка папрасіла паказаць пасведчанне Узяла яго, зачыніла дзверы, быццам панесла некуды на экспертызу Праз хвілю адчыніла дзверы, здавалася, зусім іншая бабуля – лагодная, прыветная

Я і не паверыла адразу, што вы карэспандэнт з Мінску Малады вельмі. Я думала – не прыедзе ніхто. Так, адчапнога, напісала Вунь па тэлевізары кажуць – жніво, бітва за ўраджай. . У вас і без мяне клопатаў хапае. Каму мая бяда старэчая трэба. Заходзьце.

Зблізку бабулька падалася Максіму зусім не бабулькай, а моцнай яшчэ, рухавай жанчынай гадоў за пяцьдзесят Дробненькія рысы твару, востры носік, хуткія вочы. . Гэта якраз пра такіх ходзіць показка «Калі твая жонка падобная да рашпіля, то мая – да напілка. . Чаму? – Уедлівая вельмі, драбней бярэ. .» Дарэчы, звалі бабульку (хай усё ж застаецца бабулькай) Ганна Аўдзееўна

Бабуля правяла Максіма ў пакой, да стала, на якім былі раскладзены нейкія паперы.

– Сабралася вось у іншую газету пісаць. Вельмі крыўдна мне за што несправядлівасць такая? Іншыя ў магазін для ветэранаў ходзяць, без чаргі, па льготах, купляюць усё, а ў мяне – пасведчанне адабралі І хто б напісаў – суседкі былыя, сяброўкі вясковыя

– Валянціна і Галіна Кантаровічы вашыя суседкі? – перапытаў Максім

– З адной вёскі мы.

– Я з ліста гэтага не зразумеў Прабачце, раскажыце, калі ласка, пра ўсё па парадку

– Добра Але, можа, вы з дарогі, можа, я паесці збяру, можа, выпіць?

– Не-не, дзякуй, я паеў Я ўчора прыехаў.

– Тады я выпіць дастану Халодненькай, з халадзільнічка..

– Дзякуй, я не ўжываю,– схлусіў Максім Бо не піў ён некалі. А як пачаў ездзіць у камандзіроўкі – навучыўся Кожная паездка звычайна заканчвалася невялікім сабантуйчыкам, на якім не выпіць – смяртэльна пакрыўдзіць гаспадароў. Але аднаму правілу Максім стараўся не здраджваць. не піць са сваімі героямі адразу пасля знаёмства, каб не быць ад пачатку абавязаным ім.

Бабуля пачала свой блытаны расказ пра вайну, пра падполле І Максіму давялося добра напружыць галаву, каб разабрацца і скласці лагічны ланцужок падзей Падчас вайны Ганна Аўдзееўна, трынаццацігадовае дзяўчо, дапамагала партызанам Але пра гэта ніхто не ведаў – канспірацыя. Утойвала нават ад роднай маці, бо ў той язычок быў ох які! Пры немцах іхняй сям'і паслабка была, як пацярпелай ад Савецкай улады – дзеда рэпрэсавалі. І таму ёй можна было смела хадзіць у суседнія вёскі, дзе стаялі нямецкія гарнізоны Сувязной была да самага вызвалення Дакументаў ніякіх тады не давалі за гэта. Ды і не трэба яны былі – не за дакументы ж змагаліся. У сорак пятым паехала ў Мінск працаваць. Дамоў вярнулася толькі дзесяць гадоў назад. Глядзіць з яе вёскі ўсе пасведчанні падпольшчыкаў ды партызан паатрымлівалі Знайшла яна тады двух партызан, якія яе ведалі, яны далі пацвярджэнне, што дапамагала ім як падпольшчыца, што сувязной была, і на гэтай падставе выпісалі ёй пасведчанне вэтэрана А Валька і яшчэ некаторыя даведаліся пра тое, панапісвалі паклёпаў усюды. Прыехалі людзі з ваенкамата і з райвыканкама, наладзілі следства і адабралі пасведчанне. Нічога не

даказала яна, бо акрамя тых двух партызан ніхто не ведаў, што сувязной яна была, ніякіх дакументаў з вайны не захавалася . І колькі яна ні пісала – ніякага толку, няма справядлівасці... А з газеты Максім вось першы прыехаў.

«Ну і дурань...» – абазваў Максім сябе, бо зразумеў, што даказаць нешта яму будзе яшчэ цяжэй. Без дакументаў і сведак – проста немагчыма. Аднак ён усё яшчэ быў у палоне жадання дапамагчы несправядліва пакрыўджанаму чалавеку Але як? І ён схапіўся за саломінку· доказам маглі быць праўдзівыя бабульчыны ўспаміны, канкрэтныя выпадкі з вайны, з дапамогі партызанам Гэта можна было б эфектна падаць у артыкуле

Бабуля ажыла, быццам толькі і чакала гэтае ягонае просьбы.

– Мне яшчэ ў дзяцінстве запалі ў душу словы Паўкі Карчагіна· «Жыццё трэба пражыць так, каб не было пакутліва балюча за бязмэтна пражытыя гады. » І таму, калі прыйшлі фашысты, я адразу стала памагаць партызанам.

Максім слухаў бабулю, і зноў агарнула яго здзіўленне· на гэты раз яе ўспаміны былі надта «літаратурнымі» і падрабязнымі. Яна памятала нават, як сурова шумеў лес, як трапяталі лісцейкі асіны і трывожна кугукаў пугач, калі йшла яна на заданне Максіму падалося, што недзе нешта падобнае ён чытаў Ці не ў кнізе «Піянеры-героі»? Ён ледзь не спытаў у бабулі – ці не пісалі пра яе ў кнізе, аднак своечасова спахапіўся: тады не трэба было б ёй сёння нічога даказваць.

Бабуля тым часам скончыла адзін выпадак, пачала казаць другі Максім запісваў І сумненняў у яго ўсё большала.

– Аднойчы цёмнаю зімняю ноччу я несла бінты і медыкаменты партызанам. Непадалёку ад Семкава, дзе быў моцны нямецка-фашысцкі гарнізон, мне неабходна было перайсці рэчку ўброд (зімою?) І тут з недалёкае (?) вышкі мяне заўважыў часавы (цёмнаю ноччу?) І пачаў страляць у мяне з кулямёта. Чарга за чаргою кладзіся побач са мною. Усё бліжэй і бліжэй Я хутка дабегла да лесу і скрылася ў кустах. Паднялася трывога. Па маім следзе на снезе кінуліся немцы з сабакамі Але я адарвалася ад іх і даставіла цэнны груз партызанам. Успамінаю, і зараз валасы на галаве ад страху падымаюцца Вось у такую гісторыю патрапіла я

Валасы на галаве ў бабулі не падымаліся, а ў «гісторыю» хутчэй патрапіў Максім. І чым далей, тым ясней ён гэта разумеў. Бабуля, між тым, зноў вярнулася да галоўнага для яе:

– З пасведчаннем я шэсць гадоў жыла. Чалавекам сябе адчула. Хай з гвалтам і лямантам, але ўсюды без чаргі пускалі. І мяккі куток вось гэты, і сыну сценку, і дачцы шмат што купіла. . А ў магазін ветэранскі і цяпер сасіскі прывозяць... Але Валька пра пасведчанне даведалася і панапісвала абы-куды .. Трэба было не аддаваць. Што б яны зрабілі .

– А дзе цяпер Валька, Валянціна Іванаўна, жыве?

– Ды тут, у нашым горадзе

Максім падзякаваў бабулі і сабраўся ісці Як вучылі на журфаку, трэба было выслухаць усе бакі канфлікту.

– Ну дык ці дапаможаце вы мне? – у лоб спытала бабуля

Максім замяўся Што ён мог сказаць?. Бабуля надта скептычна паглядзела на яго, ёй хацелася нейкіх гарантый, абяцанняў, а тут – цішыня.

– Вы ж разумееце – справа няпростая, дакументаў і сведак няма... – пачаў казаць Максім.

– Навошта такіх маладых карэспандэнтамі прызначаюць. . – прабурчэла бабуля, зачыняючы дзверы. Сэнс гэтых словаў Максім зразумеў пасля, калі праз тыдзень пасля вяртання з камандзіроўкі рэдактар паклікаў яго ў свой кабінет і зачытаў ліст ад бабулі, у якім яна ўсяляк лаяла «зялёнага» карэспандэнта, які нічога не разабраўся, а толькі «пропьянствовал три дня и проблядствовал с местными женщинами.. »

Максім ужо трохі арыентаваўся ў гарадку і хвілінаў праз пяць званіў у дзверы кватэры Валькі. Дома нікога не было. І ён выйшаў у двор да дзвюх бабулек, што сядзелі на лаўцы каля пад'езда.

– Вы не скажаце, як знайсці Валянціну Іванаўну і Галіну..

– Гэта мы і ёсць, – не даўшы яму дагаварыць, адказалі бабулькі разам. Максім ніколі не сказаў бы пра іх, што гэта сёстры, настолькі рознымі былі яны знешне. Валянціна Іванаўна была трохі маладзей і жвавей.





– Ой, не смяшыце мяне, – сказала яна, – Ганка – падпольшчыца? Ганка – сувязная? Дык такіх, як яна, падпольшчыц у нас цэлая вёска. І болей заслужаных. Партызаны да ўсіх прыходзілі. І хлеб ім усе пяклі. А вось Цімошыкаў – баяліся. У іх, у Ганкі, дзеда перад вайною раскулачылі. Іх усе баяліся, каб не помсцілі, каб немцам нас не прадалі

А можа – канспірацыя. Падполле ўсё ж. .

– Якое там падполле Хіба ў маленькай вёсцы схаваешся? Усё навідавоку. Гэта цяпер напрыдумалі: канспірацыя, паролі, подзвігі А тады мы жылі як жылі, як цяпер. . І немцаў мала бачылі. А да каго партызаны прыходзілі і хто іх заданні выконваў – усе ведалі. Што я памагала – ведалі. У мяне і дакументы ёсць, і медаль... Я вось што скажу: вы папытайце лепш, хто і як ёй тое пацвярджэнне даў, што сувязная яна Мы калі расследаванне праводзілі, прыстыдзілі тых хлопцаў, і яны прызналіся Аднаго напаіла яна, бо ахвочы да чаркі, а другому .. ой, сорамна мне вам, маладому, казаць... другому яна дала... разумееце? . Той, катораму дала, памёр, а другі, Мікіта, жыве. Тут, побач, у нашай вёсцы. Кіламетра ад горада не будзе Схадзіце Можа й раскажа.. Каго яму цяперака саромецца...

Праводзячы Максіма да дарогі ў вёску, Валянціна Іванаўна павінілася·

– Я, можа, і не пісала б нікуды Але вельмі ўжо Ганка са сваім ліпавым пасведчаннем паперад усіх усюды лезла. А потым, дурная, асмялела і хваліцца пачала, як пасведчанне купіла. І не вытрымала я. не для таго людзі кроў пралівалі, гінулі, каб такія вось іх ільготамі карысталіся ды гразёю іх аблівалі .

Сцяжына, што вілася ўздоўж возера, вывела Максіма якраз да хаты дзеда Мікіты. Ён абіраў апошнія вішні Тут жа, пад дрэвам, прыселі і пагаварылі. Пасля размовы дзед запісаў у Максімавым блакноце «Па прозбе журналіста аўтарыцетна прызнаюся і чэсна што па сваёй слабасці даў падтвярждеціе Анне Цімошык што была ана маёю связною в атрадзе Суворава так як ана прывезла мне паўлітровую банку самагону і вельмі прасіла на калені ўпала даць. Я напісаў думаўшы ніхто не знае як было і дакументаў нікакіх не асталася. У тым і распісуюсь – Мікіта Сямёнавіч Ганчарык»

Развітваючыся, дзед скінуў рукою слязу і сказаў:

– Паўлітровую банку прывезла. . Я, хоць і выпіць любіў, а, паверце, не выпіў. Так сорамна стала, калі паехала яна... Людзі кроў пралівалі, а я. І калі прыйшла камісія – адразу прызнаўся – Дзед, не саромеючыся ўжо, адкрыта заплакаў· – Хай Бог даруе мне слабасць маю..

Артыкул разваліўся, так і не склаўшыся Рассыпаўся на цаглінкі, з якіх нават прыбіральню не збярэш, не тое што паўнацэнны дом.. З аднаго боку – дапамагчы бабулі Максім не мог. З другога – не хацеў пісаць «на тэмы маралі» пра тое, як і за што купляла яна ліпавае пасведчанне ветэрана. «Няхай дажываюць яны ўсе гэтак, як ёсць, кожны ў мяху свайго сумлення, – падумаў Максім, – і хай кожны перажывае за мінулае па-свойму.. Як кажуць. не судзіце і не судзімы будзеце»

Але вяртацца з камандзіроўкі з пустымі рукамі (у сэнсе – блакнотам) не выпадала. Трэба было хоць бы дзеля прыліку нешта напісаць з гэтага гарадка. Ідучы да дзеда берагам возера, Максім бачыў, як плылі па ім, весела перагукваючыся, хлопцы і дзяўчаты на байдарках. Пэўна, спартсмены. І ён вырашыў схадзіць да іх і папытаць пра «поспехі і праблемы»

Дзённы гарадок быў ціхім Відаць, усе, каму карцела напіцца, ужо напіліся, а астатнія працавалі. Толькі каля універмага, перад адкрыццём яго пасля абеду, сабраўся натоўп. Максім падышоў бліжэй. Натоўп шумеў, натоўп шаптаўся «Бялізну даваць будуць, але мала прывезлі .. мала... мала. мала » Раз за разам пакупнікі грукалі ў дзверы: адчыняйце. Нарэшце за дзвярыма нешта пстрыкнула і яны ўвагнуліся ўсярэдзіну. Піск, крык, гвалт, трэск ірванай вопраткі . і голас дзяжурнай па гатэлю. «Пусціце! Пусціце! Да нас карэспандэнт з Мінску прыехаў. Я яму пажалуюсь... Пусціце!» Дзяжурную ўпусцілі, а Максім пайшоў далей.

Трэнеры сядзелі за пляшкай у цяньку праставалосае вярбы За імі на беразе жоўтымі жыватамі ўверх ляжалі некалькі байдарак.

– Карэспандэнт! – абрадаваўся адзін з трэнераў – Дык ты вось з Сяргеевічам пагавары, ён у нас алімпійскі чэмпіён па грэблі.

– Па грэблі не па грэблі, а па е... точна, – сказаў Сяргеевіч, – грэбля – то маё хобі сядай, вып'еш?..– Падняў пустую пляшку і расзлаваўся. – І дзе той гаўнюк так доўга бегае..

Сяргеевіч, як выявілася потым, і сапраўды быў алімпійскім чэмпіёнам і вядомым у рэспубліцы трэнерам. У гэты гарадок, на вяслярную базу, алімпійскага рэзерву, ён прывёз з Мінску сваіх выхаванцаў. Дзеці плавалі, трэнеры выпівалі Сяргеевіч знешне быў прыемным ва ўсіх адносінах сэрцаедам з блакітнымі вачыма і саламянымі валасамі. Такіх, як ён, жанчыны любяць. Яго напарнік, Мішка – дырэктар вяслярнай базы – быў палешуком, з выцягнутым тварам і доўгім носам.

І дзе ён, бл..., столькі бегае . – хваляваўся Сяргеевіч. – Я сына ў магазін паслаў,– патлумачыў ён Максіму, агледзеў бераг і ажывіўся: – А хто гэта кіль з байды не зняў? Чыя гэта лодка? Ці не Светкі? – ён лёгка, як хлапчук, падхапіўся на ногі і падбег да байдаркі Зняў кіль і, радасна паляпваючы ім па руцэ, вярнуўся назад: – Ох і пакажу я ёй увечары, ох і пашукае яна яго ў мяне ў штанах. .

Тым часам прыбег з пляшкаю сын Сяргеевіча. Прапанавалі выпіць за знаёмства і Максіму. І ён не адмовіўся. гары яно гарам усё. Абавязковую праграму ён адбыў.

Сяргеевіч дастаў аднекуль з травы шклянку, працёр яе ўказальным пальцам ад бруду і засохлага лісця, наліў гарэлкі і падаў Максіму Закусілі белым налівам, мусіць, з абабранага спартсменамі блізкага саду.

– Ты знаеш, – казаў Максіму праз нейкі час Сяргеевіч, паказваючы на бераг возера, – тут няма ніводнага кусточка, пад якім бы я з бабай не ляжаў. Ты прыезджы? А, я й забыў Дык ты не знаеш, якія ночы тут цудоўныя! Як там у Гогаля?. Хоць і хахол, а добра пісаў: «Ціха ўкраінская ноч, празрачна неба...»

– Гэта не Гогаль, а Пушкін, – паправіў яго сын.

– Ну і хер з ім . Якая розніца...

Сяргеевіч раптам утаропіўся ў Максіма страшным, адчайным поглядам п'янага Максіму стала не па сабе.

– Я бачу, карэспандэнт, цябе перасмыкае пасля маіх матаў. Бачу, думаеш з дзецьмі працуе, а мацюкаецца, як сапожнік. А мне по хер, што пра мяне думаюць такія, як ты. Жыву, як хачу .. – ён зноў разліў, не мінуўшы і сына. А ты, карэспандэнт, часам, не пісьменнік? Не .. А то вы тут усе сціплыя, усе ідэйныя, а як за бугор вырвяцеся – матперамат. Я вось нядаўна Лімонава «Эта я, Эдзічка» пачытаў – дык што мне пасля яго саромецца? Чытаў? Пачытай .. А зараз знаеш, што чытаю? – Ён дастаў з задняе кішэні джынсаў маленькую пацертую кніжку. – «Тропік рака» Тое ж самае – толькі пасля першае літары тры кропкі стаяць. Я гэтую кніжку якраз у Светкі забраў і цяпер усім бабам цытую перад тым, як пачаць. Дык кажаш Пушкін? – павярнуўся ён раптам да сына, – маладзец! На вось табе кіль ад Светчынае байды. Карыстайся. Сёння ўвечары яна твая .. – І зноў да Максіма: – Малы-малы, а бацьку пераплюне, с-сыночак..

Да берагу прыткнулася колькі байдарак і каноэ. Хлопцы выскачылі хутчэй і дапамаглі дзяўчатам выцягнуць лодкі. Нічым не паказваючы свае адносіны да таго, што робіць трэнеры, прайшлі міма. І бачна было па няроўнай паходцы дзяўчат і па абсмактанай, чырвонай палосцы вакол вуснаў, што трэніроўкі ў іх сапраўды працягваюцца і ноччу

– Знаеш, – праводзячы вачыма дзяўчат, сказаў Сяргеевіч, – пакуль зборы-спорыюніёры, – яны ўсе перспектыўныя. А ў вялікі спорт ісці няма каму Ды і куды ісці, калі ў іх па тры аборты на рыла. Пасля шаснаццаці застаюцца адзінкі, часцей хлопцы, і то тыя, хто калоцца не баіцца, ды дзеўкі, што да трэнера прысохлі... Такі вось у нас спорт, карэспандэнт. Напішаш? Не, не напішаш, лакіроўшчык сучаснасці. А ты праўду напішы, напішы, як піў з трэнерам, з алімпійскім чэмпіёнам, п'яніцам і ё

Пляшка хутка апусцела.

– Пойдзем у рэстаран, – прапанаваў Сяргеевіч, – такую сустрэчу трэба адзначыць. Раз у сто гадоў да нас карэспандэнт прыехаў

Дарогаю працягвалася пачатая размова.

– Ты не думай, што мы такія гады тут – казаў Сяргеевіч, – што мы дзяўчынакмалалетак схіляем і трахаем. Яны і самі каго хочаш трахнуць. Ты дзе жывеш, у гасцініцы?

– Так.

– Ну дык Ірку, пэўна, знаеш.

– Якую?

– А дзяўчо такое ходзіць па пакоях і з мужчынамі за тры рублі трахаецца Знаеш?

– Не, – схлусіў Максім

– Ну дык будзеш знаць. Не праміне. Увечары прыйдзе. Вакол мяне, бачыў, колькі персікаў маладых ходзіць, але калі яна свой паказала – не стрымаўся, пакаштаваў Я кітайца аднаго, Лао Шэ, нядаўна пачытаў Дык ён піша, што найлепшымі выхавацелямі для дзяўчынак з'яўляюцца салдаты, а для хлопчыкаў – прастытуткі.





Сяргеевіч аказаўся надта дасведчаным у сэксспраўах і літаратуры І ўвесь вечар у рэстаране чытаў лекцыі пра гэта. І падмацоўваў прыкладамі з уласнага вопыту Тое, што ён расказваў, была не пахвальба, а праўда, і разам з тым, ад самага пачатку, ад першых словаў пра бераг возера – пахвальба перад незнаёмцам сваімі мужчынскімі подзвігамі. Міша маўчаў, слухаў і падміргваў, ківаў Максіму: ты напішы, напішы . Максіма ж, пасля першых выпітых грамаў, агарнула гэтакая абыякавасць, што яму было ўсё адно, што слухаць, абы маўчаць самому, абы не лезлі да яго з размовамі пра палітыку і «абстаноўку ў свеце», маўляў, «ты ж, як карэспандэнт, усё ведаеш »

З рэстарана яны выйшлі апошнімі

– Пойдзем да мяне,– прапанаваў Сяргеевіч Максіму, – выбераш сабе бабу, якую захочаш. Скажу – любая будзе твая .

Гэта была ўжо не першая прапанова. Гучала яна перыядычна на працягу ўсяго вечара. Пэўна, гэтак, па-эскімоску, Сяргеевіч разумеў гасціннасць. І быў момант, калі Максім, прыгадаўшы ўчарашні вечар і сваю жонку, ледзь не згадзіўся Але стрымаўся Як і на гэты раз

– Не, дзякуй Я ж не ад'язджаю яшчэ. Заўтра прыйду. Будзе час.

Добрае слова. «заўтра» – не пайшоў, але быццам і не адмовіўся На тым і разышліся. Праз паўсотню крокаў Максіма дагнаў Міша:

– Слухай, ты ж толькі пра згарэлую базу не пішы

– Якую базу?

– Вяслярную, маю Яна пазаўчора згарэла З лодкамі. Ты папялішча бачыў?

– Бачыў, але ж я не ведаў .

– А мы падумалі – цябе спецыяльна прыслалі Ну дык глядзі ж, не напішы! А то мы цябе пад зямлёю знойдзем.

– Што я – свіння, ці што.

– Тады добра Мы ж з табою, бачыш, па-чалавечы – Міша павярнуўся йсці, потым прыгадаўшы ранейшую размову, дадаў: – Заўтра прыходзь. На вугроў з'ездзім, як дамаўляліся. Еў? Пакаштуеш.. – і віхляючыся, мусіць, гэтаксама, як і Максім, пайшоў даганяць Сяргеевіча.

У гасцінічным пакоі Максім, як і ўчора, стаяў і паглядаў на возера. Ён ужо ведаў, што ніякое гэта не возера, а вадасховішча. Дакладней – адстойнік для вады, адпрацаванай на ДРЭС. Тут яна астывала і зноў бралася ў працу. Замкнуты цыкл. З вакна, калі трохі высунуцца, з правага боку, зусім недалёка, была відаць і сама ДРЭС – буйнейшая на Беларусі. Учора Максім яе і не заўважыў, а тое, што ведаў пра яе раней і пра гарадок энергетыкаў са школьнае геаграфіі, – забыў і перад камандзіроўкай не прыгадаў Сёння вецер дзьмуў на горад і ад ДРЭС цягнуліся па небу да гатэлю жоўта-шэрыя дарогі дыму . Максім адчуў нават, як казыча ён у носе, як уядаецца ў лёгкія. «Вось табе і райскі куточак, – скептычна падумаў ён, прыгадаўшы ўчарашні гэтакі самы вечар,– усё тут прагніло, усё прасмердла. А норавы, а людзі Не, ніколі, пэўна, не пабудаваць рай на зямлі, хто б ні браўся гэта зрабіць. Хрыстос, Ленін, альбо Рэрых.. Не пабудаваць, покуль не перастанем мы шукаць збаўленне і шчасце на небе, у светлай будучыні, у сусвеце, покуль не зразумеем, што Зямля ў нас адна і жывем мы на ёй адзін раз... І пражыць гэтае жыццё трэба так... – але тут прыгадаў Максім бабульку-«падпольшчыцу» і ціха засмяяўся з самога сябе: хвілосаф называецца. – Не, рай на зямлі ніколі не пабудаваць, бо занадта шмат тут спакусаў для людзей, бо занадта шмат у іх, людзей, ад д'ябла і мала ад Бога. .»

У дзверы нехта лёганька пастукаў Потым зноў Максім не адгукнуўся, не адчыніў Прыйсці магла хіба што – як яе? – Іра Максім прыгадаў жонку і вырашыў, што сёння званіць ёй не пойдзе.

Цемра апусцілася на гарадок. У гэты час у Мінску далёка чуваць віск тралейбусаў, грукат трамваяў, гул аўтобусаў Тут жа была ціша. Не гарадская, але і не вясковая. Не крумкалі жабы, не трымцелі цвыркуны, не гаўкалі сабакі Цішыня, ад якой станавілася млосна. Цішыня, як на могілках... Райскі куточак. . «Суцэльныя расчараванні . » – падумаў Максім і лёг спаць.

**Барыс ПЯТРОВІЧ**



# «Я – МАДАМ БАВАРЫ»

Дзверы застагналі і ляснулі Раптоўна і рэзка, як выстрал Максім ажно падхапіўся на ложку У пакой не ўвайшоў, а ўскочыў невысокі, рухавы чалавек – чалавечак.

– Уладзімір Дарафеевіч, маю гонар. . назваўся ён з парогу, крыху схіліў галаву і стукнуў стаптанымі абцасамі чаравікаў.

Увесь пакой адразу напоўніўся ім. Чалавечак быў сам рух, сама імклівасць. Ягоныя даўгія, растрапаныя, даўно не мытыя валасы лёталі па невялікім пакоі гатэлю лёгкай хмаркай то абганялі твар і хавалі яго, то адставалі і адкрывалі вялікія «пародзістыя» вушы, рукі мільгалі ў паветры гэтак хутка, што магло падацца іх у яго чатыры, як у Шывы.. Чалавечак некуды збіраўся.

– Як-як вы сказалі. Ерафеевіч? – перапытаў Максім, каб хоць на хвілю перапыніць ягонае мільгаценне

Гэта і сапраўды дапамагло Чалавек спыніўся, угледзеўся ў Максіма, і твар ягоны расплыўся ў ласкавай усмешцы.

– Не блытай, – неяк вельмі лагодна і разам паблажліва прамовіў ён, – бацьку майго Дарафеем клікалі... А ты чаму ж не называешся?

– Максім.

– Гэта ты там дзяжурнай у вакенца пасведчанне сваё рэдакцыйнае тыцкаў· карэспандэнт, маўляў

– Давялося, каб пасялілі Не чакалі мяне тут..

– Тварам ты ў карэспандэнты не выйшаў Сюды зараз столькі рылаў панаехала уся гасцініца занятая Аблгасактыў называецца. Усе пры гальштуках, морды сытыя – аж блішчаць, без дулі не падыходзь. А ты – у джынсіках Я й сам табе не паверыў бы.

– І вам дакумент паказаць?

– Не, я жартую... Ты Лёху, часам, не ведаеш? Мікалаевіча Амаль графа Талстога-наймалодшага. Але прозвішча ягонае я забыў Конскае, трэба сказаць, прозвішча ..

– Аглабцоў? Ну як жа, ведаю.. Разам працуем, кабінеты побач.

– Ах ты кораш мой! Што ж ты раней не сказаў, што Лёху ведаеш? Да мы з ім не адным літрам спаяны Ну, калі ты Лёху ведаеш .. Усё Нікуды не йду Лярва пачакае, не спруцянее

Дарафеевіч зноў закруціўся па пакоі, схіліўся над сваім ложкам, пашоргаў рукою пад ім і дастаў вялізную пляшку віна «Золота осінь». Бухнуў яе, як не пабіў, на стол

– Фауст называецца. У вас пачуў Ну народ разумнік. Год думаў бы – лепш не прыдумаў Трапна ўлеплена. Як у сук.

Дарафеевіч кінуўся да тумбачкі пры ложку, дастаў з яе нешта неахайна закручанае ў пажаўцелую газету, прысеў да стала, прыгаворваючы.

– Калі ты сказаў, што Лёху ведаеш – Лёксу, як мы яго па-сяброўску завем, – я адразу зразумеў: свой хлопец. У дошку Таму адклаў свой паход і дзейнічаць стаў, – патлумачыў ён, ківаючы на стол, у нас з Лёксам размова заўсёды кароткая была: ёсць? – налівай!

Дарафеевіч тонкімі, «арыстакратычнымі» скрыглікамі рэзаў сыр Настолькі тонкімі, што праз іх, як праз мутнае шкло, можна было чытаць газету. Палешукі, – а прыехаў Максім у камандзіроўку на самае што ні ёсць Палессе, – гэтак далікатна не рэжуць. Крэмзаюць на кавалкі шах-шах – і гатова Што сала, што сыр Ды і знешне Дарафеевіч за мясцовага не выдаваў. Твар быў хоць і зўважна прапіты і пакамечаны жыццём, аднак інтэлігенцкі – панскі, сказалі б тут Максіму Дарафеевіч спадабаўся адразу. Першапачатковае раздражненне прайшло, і ён з цікавасцю назіраў за ягонаю мітуснёю, слухаў ягоную гаману. Максім нават зláвіў сябе на думцы, што яму прыемны гэты чалавек. Пакуль не зразумела чаму, не асэнсавана, не вытлумачана: проста прыемны, і ўсё.

Максім падняўся з ложку, дастаў з сакваяжу свае дарожныя прыпасы, падаў Дарафеевічу. Той яшчэ больш ажывіўся.

– О, сухая каўбаска! У такой глухамані! Вось з кім не думаў пабачыцца тут – дык гэта з ёю. Ну, прывет, дарагая. Адразу бачна. інтэлігент прыехаў Эх, каньячку няма! Вось чалавек – дурная жывёліна, уся на інстынктах, уся на пачуццях. Зусім нядаўна думаў заглушыць «фауст» дзе-небудзь за вуглом, рукавом закусіць і да лярвы падацца. А зараз да поўнага балдзяжу каньячку захацеў – Дарафеевіч гаварыў, а сам тым часам гэтаксама «арыстакратычна» – коса і тонка рэзаў каўбасу і прыгожа раскладваў на стале – Я Лёксу вось так, як і цябе, выпадкова, у гасцініцы сустрэў Заходжу ў пакой, а ён мне з парогу· «Піць будзеш?», «Чаму б не выпіць, кажу, калі нальеш », «Тагды сядай» Любіў ён балавацца гэтым слоўцам «тагды», дзе трэба і не трэба ўстаўляў. Што гэта я. «любіў», «устаўляў», як пра мёртвага – лю-юбіць! Пасядзелі мы з ім добра. Яго затарылі ў мясцовым калгасе пад завязку, і мы да раніцы ўсё асушылі Я – спаць, а ён – у райкам, інтэрв'ю ў першага браць. Здаровы мужык!

Лёха ў Максімавай рэдакцыі быў жывою легендаю, героем шматлікіх показак і надзвычайных здарэнняў Максім мог бы Дарафеевічу расказаць зараз не адзін дзесятак Лёхавых «подзвігаў» І свежанькіх. Узяць хоць бы апошні як расклаў ён у сваім кабінеце на стале практыкантку-студэнтку журфака, а дзверы не замкнуў І застаў яго за «практычнымі заняткамі», у самыя салодкія хвіліны, рэдактар. Іншы б змаўчаў, а потым па-мужчынску пагаварыў, толькі не гэты. Заверашчаў, раскрычаўся. Лёху хоць бы што, з яго як з гусі вада, а дзяўчына ў той жа дзень знікла, адпрактыкавалася... Кагосьці за такое сто разоў звольнілі б, Лёху ж усё сыходзіла з рук. Бо пры ўсім пры тым быў ён журналістам ад Бога. Талент, што і казаць. Калі трэба было тэрмінова «забіць дзірку» на першай паласе, адказны сакратар ішоў да яго «Трыццаць радкоў? – перапытваў Лёха, бу'зроблена. Тры хвіліны. .» Замалёўку ён мог напісаць з простай біяграфічнай даведкі, без гутаркі з «героем», і складна, прыгожа, чытэльна. Фельетоны ён шрайбаў адной левай з двух-трох фактаў рэйду народных кантралёраў. Праўда, «залятаў» пры гэтым вельмі часта. То лысага старшыню калгаса, якога, зразумела, у вочы не бачыў, прычасацца прымусіць у палёце сваёй фантазіі, то бязрукі яго па плячы паляпае.

Максім задумаўся, а стол тым часам быў гатовы. Атрымаўся ён на славу і на дзіва святочны. З нічога Кажуць. умела баба гатаваць, ды не ўмела падаваць. Дарафеевіч якраз падаць умеў І сыр, і каўбаса, і гуркі, і яблыкі былі вабна на стале раскладзены і самі прасіліся ў рот. Бачна было па гэтым, што бывалі некалі ў Дарафеевіча і лепшыя часіны, што не ўсё жыццё праседзеў ён у раённых гатэлях на нішчымніцы.

– З месяц назад я ў Мінск ездзіў па справах, – гаварыў між тым Дарафеевіч. – Як звычайна – усе гасцініцы занятыя· «мест нет и не просите» Званю Лёху «Ты хто?» – пытае. Нагадаў «Тагды ляці ў «Свіслач», скажы, ад мяне – паселяць. А вечарком я зайду». Так і зрабіў Так і было. Ну, сядай за стол Як кажуць – чым багаты .. – Дарафеевіч зірнуў на Максіма ласкава, як на сына, і поглядам паказаў на крэсла.

Пасля першай шклянкі і без таго гаваркі Дарафеевіч зрабіўся яшчэ весялейшым. Словы так і сыпаліся з яго. Максім, не перабіваючы, слухаў Ён упітваў у сябе гэтага чалавека з надзеяй, што ягоная каларытнасць і неардынарнасць калі-небудзь, дзе-небудзь яму спатрэбяцца. Як выявілася, прыехаў Дарафеевіч у гэты райцэнтр на «шабашку» Удвух з сябрам яны ў недалёкім ад горада калгасе пракладвалі кароценькую электралінію. «Мантажнікі мы, так сказаць, высотнікі» Сябар паехаў на выхадныя жаніцца, ды пакуль не вярнуўся «У дзевяты раз жэніцца, засранец...» «Як гэта? – перапытаў Максім. – У нас жа, здаецца, забаронена». «А ён на адной і той самай Нап'ецца – развядуцца. А потым зноў сходзяцца Увесь пашпарт у штампах. І не першы ўжо. .» І вось цяпер, з-за напарніка, у Дарафеевіча прастой· «Адзін у полі не воін»

– Але час дарма не гублю. Я пісаваю патроху Прозу. Пісьменнік, як кажуць. Хоць і гучыць гэта ў сіх сценах смешна, мусіць. Можа й чытаў што маё Бацян прозвішча не знаёмае? Не Шамякін, аднак.. Пару кніжак выдаў ужо. У Маскве па маім сцэнарыі фільм паставілі

«Бацян, Бацян » – закруцілася ў галаве ў Максіма. Хоць і цяжка было яму паверыць, што перад ім сядзіць жывы пісьменнік – надта ж непрэзентабельны выгляд меў Дарафеевіч, – аднак прозвішча гэтае было яму знаёмае У дзевяты клас да іх прыйшоў навічок. Воўка восем гадоў адвучыўся ў школе-інтэрнаце, а потым маці забрала яго да сябе дамоў, і ў дзевяты клас ён пайшоў у звычайную школу. Воўка да ўсіх хлопцаў звяртаўся аднолькава. «Бацян»: «Закурыць няма, Бацян?», альбо «Дай спісаць, Бацян.. » І, натуральна, клічка «Бацян» прыліпла да яго. Аднойчы ў школьнай бібліятэцы Максім выпадкова натыкнуўся на кніжку нейкага Уладзіміра Бацяна. Назву ён забыў. Воўка тую «цёзкаву» кніжку з бібліятэкі спёр, казаў, што чытае, і цікава...

– Пішу цяпер павястуху адну, – распавядаў Дарафеевіч, – «Суткі ля муроў»

называецца. Ох, і закруціў я сюжэцік! Мара... Пачаў ад Вялікага княства і заканчваю Вялікай Айчыннай Байцы ў часе вайны заселі ў старым замку і ад немцаў адстрэльваюцца, а сотні гадоў назад такая сітуацыя ўжо была: вoі нашыя ад крыжакоў тут адбіваліся. Падзеі адбываюцца ў мяне паралельна, і героі амаль адны і тыя ж, і жанчына замешана. . Горы гістарычнай літаратуры перагарнуў, перш чым пачаць. Тут жа кожную адзежыну, кожную рэч трэба дакладна назваць. З героямі працей. я пераўвасабляюся імгненна. І пішу не ад сябе, а ад іх. Памятаеш, у Флабера. «Мадам Бавары – гэта я. »

Дарафеевіч падышоў да тумбачкі, дастаў з яе некалькі зялёных школьных двухкапейкавых сшыткаў – брудных і з заламанымі ражкамі

– Гэта чарнавікі, – патлумачыў ён, – я пішу толькі двойчы першы раз – чарнавік, а потым – набела. Сам на машынцы выстукваю Насабачыўся Танней, чым машыністцы аддаваць, атрымліваецца Да таго ж, друкуючы, сёе-тое паправіш. друкаванае слова, яно відней Але, не бойся, чытаць зараз не буду. Як-небудзь потым Вып'ем лепш за творцаў. За безыменных, як аўтар «Слова аб палку Ігаравым», альбо «Лысай гары», і вядомых... За пісьменнікаў і журналістаў Нялёгкі ў нас хлеб. Хто не ведае – той зайздросціць. А тут – сядзіш начамі хвіліны вольныя ад жыцця адрываеш, здароўе гробіш, а толку . Ні чытача, ні ганарара, ні славы... Цьфу!

Выпілі. Дарафеевіч узяў кавалачак каўбасы, паклаў у рот і, прыплюшчыўшы вочы, пачаў з бачнай асалодай жаваць. То была не гульня, не акцёрства, зразумеў Максім Гэты чалавек, відаць, навучыўся ад жыцця браць усё па максімуму У кожны пэўны момант І знайшоўшы ў нечым задавальненне, аддаваўся яму цалкам, да канца. Бо так мала ў гэтым жыцці радасцяў і так рэдка яны надараюцца. Асабліва, калі не шукаць іх вакол сябе, а чакаць няведама чаго.

– Я сюды капейчыну зарабіць прыехаў, – сказаў нарэшце Дарафеевіч, – каб зімою быць вольным і пісаць. Наогул, я не люблю грошай Але толькі яны могуць даць у нашым грамадстве хоць бы ўяўную свабоду А свабода – гэта не нешта абстрактнае, гэта тое жыццё, пра якое ты марыш Адзін, займеўшы грошы, нап'ецца, другі купіць машыну, хай сабе і пральную, сценку, альбо чыёсьці каханне . Я ж за грошы купляю волю. Хоць на колькі месяцаў. І пішу Бо вельмі шмат гадоў страціў на ўсталяванне «нармальнага» жыцця, каб быць «як усе», як жонка хацела.. А потым у адзін дзень паляцела ўсё ў тартарары, раз-ва-лі-ла-ся .

Дарафеевіч наліў сабе і Максіму, стукнуў сваю шклянку аб Максімаву так, што тая дзынкнула, нібы войкнула, задраўшы галаву, выліў віно ў рот. І пачаў расказваць пра сваё жыццё-быццё. Нарадзіўся ён у Гомелі, куды ягоныя бацькі-расейцы прыехалі ў трыццатыя гады на камсамольскую будоўлю – «Гомсельмаш». Былі яны інтэлігентамі сярэдняй рукі: бацька – інжынер на заводзе, маці – бібліятэкарка. З першага разу ва універсітэт ён не паступіў, а таму пайшоў у войска. Служыў у Казахстане. Аднойчы кінулі іх на вучэнні. Толькі потым даведаўся ён, што прысутнічаў пры гістарычнай падзеі – узрыве першай савецкай атамнай бомбы: «Апранулі нас у гумавыя боты, далі гумавыя рукавіцы, супрацьгазы, вымазалі нейкім тавотам і – айда, хлопцы, напшуд. Ідзем. Глядзім, грыб нейкі з пылу і дыму наперадзе расце Загадалі класціся. Мы ўпалі А потым як пі-і. як лясне нас ударнай хваляй . І ўсё. Пахадзілі мы там яшчэ трохі Нічога асаблівага, каб прыгадаць, і не запомнілася...» Адслужыў Дарафеевіч, дамоў вярнуўся. Жонку ўзяў з Ружанаў, што ля польскай мяжы, ля Белавежскай пушчы. Там і пражылі гадоў колькі спачатку. У жонкі былі сваякі ў Польшчы. «Сто разоў хадзіў да іх: «Пан добже муве па-польску?», «Іле за то?..» Няшчасны народ. Без беларусаў, што на іх працавалі, прападаюць... Мясціны там – знакамітыя. Тышкевічавы, Сапегавы Адны муры замку чаго вартыя! Сама гісторыя . Палюбіў я Беларусь і цяперака адсюль – ні нагою, нікуды...» Пражылі яны з жонкаю дваццаць гадоў, а дзяцей няма. «Х... стаіць, а дзяцей – няма. Вось як узрыў той адгукнуўся.. Ну і кінула яна мяне за непатрэбнасцю... Цяпер вось валачуся адзін па свеце, па краіне любай. . Вольны казак...»

Ляпнулі дзверы. У пакой увайшоў нейкі ваенны ва ўсім чорным.

– А-а-а, марачок наш з'явіўся, – развёў рукі, быццам абрадаваўся, Дарафеевіч, – гуляеш? Дзеўкі тут харошыя Ну, сядай да нас. Ды бліжэй, бліжэй падсоўвайся Лейтэнант з Балтыкі прыбыў, – патлумачыў ён Максіму, – бульбу ў нас на свой карабель купляе. Але дзевак нашых упадабаў – прападае за імі. Ну, як Маруся?

Лейтэнант нешта прамармытаў у адказ. Не зразумець: задаволены ці незадаволены. Быў ён добра п'яны. Дарафеевіч падняў «фаўст» – толькі на самым дне плёскалася ў ім трохі віна – і ўсё, што было, выліў лейтэнанту: «Штрафная. Адразу і да дна». Марак зняў чорную фуражку (Максіму чамусьці здавалася раней, што ўсе маракі павінны насіць бесказыркі) і выпіў віно, разліўшы яго нягегла па барадзе. Пасядзелі ціха. Старая размова расклеілася, новая не завязвалася. І піць не было чаго.

– Ну што, марачок, нашае выпілі – даставай сваё, – сказаў Дарафеевіч, – пачастуй, так сказаць, гаспадароў, госць дарагі...

Марачок пачырванеў, закруціў галавою, нібы хацеў некуды схавацца і шукаў месца, агідна заблішчэла пад лямпачкай ягоная мокрая барада

– Гдзе ж я вазьму, – заапраўдваўся ён, – врэмя такое...

– Врэмя такое, што можна яшчэ збегаць – рэстаран працуе. Давай, давай. . Адна нага тут, другая там.

Але ўставаць і бегчы марачку вельмі не хацелася. Ён нешта гаварыў але выходзіла брыдка, бо разумнага апраўдання ён не знаходзіў Шкада было яму траціць грошы на першых сустрэчных, што набіваліся ў сябры Твар ягоны казаў пра гэта ясней за любыя словы. І таму Дарафеевіч, урэшце, супакоіў яго:

– Ну, нічога-нічога, сяброўскі банкет адкладзём на потым.

Марачок адразу захацеў класціся спаць. «Дзе тут у вас гальюн?» – спытаў ён. «Па калідоры – налева», – адказаў Дарафеевіч. І калі лейтэнант выйшаў, з крывой, пагардлівай усмешкай прагаварыў Максіму:

– Ну і жмінда. У нас такіх няма. Апошнім падзеляцца. А ў гэтага гарэлкі паўчамадана. Сам бачыў, як даставаў. Маскаль хрэнаў. Хай падавіцца, паскуда..

Лейтэнант вярнуўся ў нумар і ўклаўся спаць. Максім з Дарафеевічам прыбралі стол і таксама ляглі.

– Я калі-небудзь вазьму ды і апішу свае гасцінічныя сустрэчы і прыгоды, – прашаптаў Дарафеевіч Максіму, – нідзе людзі не раскрываюцца гэтак, як тут. Цікавыя, трэба сказаць, тыпы сустракаюцца. Ох, цікавыя. . – і падміргнуў у бок марачка

Ранкам Максім выправіўся ў райвыканкам, дзе яго зусім не чакалі. Бо камандзіроўка атрымалася непланавай. Учора рэдактар прыляцеў з нейкага паседжання і, не заходзячы нават да сябе ў кабінет, уварваўся ў сельгасаддзел: «Хлопцы, трэба тэрмінова падрыхтаваць рэйд пра ход уборкі бульбы. Загад адтуль...» – рэдактар падняў вочы ўгару. Загад дык загад, не прывыкаць. . Як маладзейшага і лёгкага на пад'ём, выправілі ў камандзіроўку Максіма. Бо трэба было ледзь не адразу бегчы на аўтавакзал і ехаць. Таму і не была загадзя арганізавана «бронь» у гатэлі, таму і забегалі цяпер у райвыканкаме рознага роду чыноўнікі, замітусіліся, нібы мурашкі ў патрывожаным мурашніку. Максім нават і не думаў, што рэакцыя на ягонае з'яўленне будзе настолькі моцнай. Запрасіў да сябе і старшыня райвыканкама. Пашкадаваў, што рэдка да іх завітваюць сталічныя журналісты, бо раён багаты на добрыя справы, асцярожна выпытаў: «Што прывяло да нас?» Паскардзіўся на надвор'е: «Падвяло яно нас сёлета, таму і адстаём трохі ў параўнанні з іншымі. Але навярстаем, навярстаем...» У аграпраме тым часам вызначыліся, куды везці журналіста: дзе браць крытыку, а дзе – перадавы вопыт, скалацілі «рэйдавую брыгаду» і яшчэ праз дзесяць хвілінаў «газік» з дробненькім, лысым карэспандэнтам раёнкі, чырванатварым, мажным аграномам райаграпрама і Максімам выязджаў за горад. Калега назваўся Астаповічам, аграном – Святловым. Максім перапытаў, як іх завуць, і запісаў у блакнот Пачыналася самая нецікавая частка ягонай камандзіроўкі.

За год працы ў газеце Максім выдатна ведаў «сістэму» правядзення гэткіх рэйдаў Яе адладзілі ягоныя папярэднікі· адзін калгас для крытыкі (ну як без гэтага!), другі – для выпіўкі... Ён ведаў, што пакуль яны ў дарозе – калгасы ўжо абзвонены, усе рыхтуюцца да сустрэчы. І ехаў ён проста «браць матэрыял»: запоўніць нейкімі лічбамі і прозвішчамі даўно накатаны ў галаве артыкул, які, дарэчы, «напісалі» для сябе ўжо і ў райвыканкаме, выпраўляючы карэспандэнта па гэтаму маршруту.

– ...«Шлях Леніна» сёлета моцна адстае на ўборцы, – казаў аграном, – трымаюцца ў зводцы на перадапошнім месцы Трэба, трэба іх падварушыць. Вось туды спачатку і паедзем.

Па дарозе раённы журналіст распытаў Максіма, хто ён і адкуль, і выявілася, што калега добра ведае Максімавага дзядзьку, рэдактара вядомага часопіса, з якім вучыўся на адным курсе. Гэта здзівіла Максіма: выпускнікі журфака звычайна ў раёне ў карэспандэнтах не заседжваліся. «Відаць, патрапіў у няміласць да раённых уладаў, вось і прыцiснулі.. » – падумаў Максім, бо на горкага п'яніцу Астапавіч падобны не быў.

На цэнтральнай вуліцы вёскі калгаса «Шлях Леніна» «газік» ледзь не збіў двух дзяцей. Яны раптоўна выскачылі са двара. Шафёр збялеў, а аграном зарагатаў:

– Раз дзеці бегаюць – значыць, вёска яшчэ жывая.

– Дзеці – добры прызнак, – дадаў Астаповіч.

У канторы рэйдавую брыгаду чакаў аддадзены райвыканкамам на «закланне», на крытыку, в.а. старшыні калгаса. Ён асабліва не супраціўляўся, не апраўдваўся. Пазіраў на Максіма, як мыш на пітона ў гарадскім тэрарыуме, і ціха гаварыў дрыжачым голасам:

– Што тут казаць: паліва не хапае, людзей засталося ў вёсцы – тры калекі. На камбайн няма каго паставіць – студэнтаў сёлета не далі...

В.а., відаць, выпіў трохі для смеласці, таму ад хвалявання твар ягоны пайшоў чырвонымі плямамі, ды і наогул увесь выгляд «заступніка» казаў: ну, аддалі мяне на «крытыку», дык бярыце, чаго вы яшчэ ад мяне хочаце?

Максіму чамусьці стала шкада яго, хоць і разумеў ён, што гэта «гульня» з пэўна вызначанымі правіламі і ролямі, што заўтра можа прыехаць іншы карэспандэнт – пісаць пра жывёлагадоўлю, і тады героем стане гэты в.а., а заікацца будзе іншы

Паглядзеўшы няўбраныя палі і камбайны «на прыколе», рэйдавая брыгада паехала ў суседні калгас «Ленінскі шлях». Мінуўшы бульбянішчы, «газік» прыткнуўся да канторы. Старшыня быў вясёлы і ветлівы, кінуў колькі жартаў аграному і карэспандэнту раёнкі, як знаёмым, і яны выправіліся паглядзець, як ідзе праца. Але з вёскі не выехалі.

– Час абедзенны, – сказаў старшыня, – заедзем, можа, спачатку да мяне, адпалуднуем, а потым – на поле..

«Усё, – падумаў Максім, – рэйду канец. .» Супраціўленне не мела сэнсу. На пачатку сваёй кар'еры ён спрабаваў адмаўляцца Але яго не разумелі, крыўдзіліся – жартам і ўсур'ёз – і, урэшце, угаворвалі. «так прынята, не намі заведзена – не нам і адмяняць...» Гэта быў таксама «абавязковы нумар» праграмы, які трэба было рана ці позна адбыць. «Лепш рана», – падумаў Максім, згарнуў блакнот і паклаў у кішэню.

Паехалі не ў калгасную сталоўку, не ў лес – «на прыроду», а дамоў да старшыні. На першым паверсе вялізнага катэджа – у зале – ужо стаяў накрыты стол, ля якога завіхалася некалькі жанчын. Ні адна з іх, падобна, не была жонкай старшыні.

– Летась да мяне прыязджаў сам Кротаў з «Праўды», – казаў старшыня, выціраючы рукі аб новы ручнік. – З тыдзень пажыў Рыбалачку мы яму, жанчыну арганізавалі... Чынчынаром. Паехаў. Месяцы тры я потым кожную раніцу пачынаў, як раіў Ленін, з газеты «Правда». Але так і не напісаў ён анічога..

– Яно й лепш, што не напісаў, – прамовіў Астаповіч, паглядваючы на стол і зглытваючы сліну Ён быў тут сваім і яму, як калегу, бачна было, даручылі абхаджваць Максіма, – а то колькі б пра нас ні пісалі сталічныя – смешна чытаць. Усё наскокам. Вечна назвы паблытаныя, прозвішчы перакручаныя. Несур'ёзна ставяцца таварышы... – Тут ён зразумеў, што сказаў нешта лішняе, і паправіўся: Менчукі хоць пазвоняць, перапытаюць, а маскоўцы – паехалі і трава не расці. Смешна потым чытаць. – Зноў пагледзеў на Максіма і рашуча дадаў: – Смешна.

Аграном лыпаў на баб, мацаў іх позіркам Была сярод іх адна маладзейшая з надта вабнымі формамі тоўстыя лыткі, крутыя клубы, поўныя грудзі.. Тым, каму за сорак, якраз такія асабліва падабаюцца.

– Святлана кім у вас зараз? – спытаў аграном у старшыні, кіўнуўшы на маладзіцу.

– Запомніў, га! пасміхнуўся старшыня і сказаў ціха, каб не пачулі жанчыны: – Яна ў нас малайчына – пад кім трэба, пад тым і працуе...

Селі за стол. Жанчыны пайшлі ў суседні пакой. Але размова ўжо была зачэплена. Да і пра што ў мужчынскай кампаніі, за чаркай, можа йсці размова, як не пра жанчын? Не пра ўборку ж бульбы гаманіць...

Аграном пачаў расказваць пра сваю нядаўнюю камандзіроўку ў абласны цэнтр на курсы павышэння кваліфікацыі Была ў яго там даўняя, вельмі блізкая, знаёмая. Завітаў да яе. Муж якраз у начную змену пайшоў. Слова за слова – заначаваў. Натаміліся па старой памяці і заснулі. Прахапіліся – сонца свеціць, муж вось-вось павінен прыйсці: «Ё-маё, накінуў я сяк-так адзенне, ногі ў туфлі, ды ўцякаць. Выбег на вуліцу, адсопся, адчуваю – нешта не так. Зірнуў на ногі: ё-маё, туфлі сорак пятага памеру і не мае – я сорак першы нашу... Мужа, значыць, яе абуў у спешцы. Што рабіць?.. Да яе вяртацца баюся: а раптам муж ужо дома... Пайшоў у краму, купіў новыя. А як там яна разбіралася з мужам – не ведаю...» – закончыў аграном пад агульны рогат.





– Жанчына, брат, яна ласку любіць, – сказаў Астаповіч. Разумна гэтак, з выглядам знаўцы І Максім зразумеў цяпер, чаму засядзеўся ён у раёне, чаму не «выбіўся ў людзі» Астаповіч быў хранічна тупым. Лепш бы ён маўчаў і не ўлазіў раз-пораз у гутарку са сваімі надта правільнымі высновамі, бо ад іх толькі перасмыкала і на хвілю ўсім рабілася няёмка

Сам Максім злёгку падтрымліваў размову, і тое часцей позіркам, кіўком, а не словам. Больш слухаў, застаючыся, тым не менш, у цэнтры ўвагі. Але быў ён тут чужым, і людзі вакол былі чужыя яму, не тое, што Дарафеевіч... «Я – Мадам Бавары...» – прыгадаў Максім і ўсміхнуўся. Яму здавалася, што нават са сваім кароткім вопытам ён наскрозь бачыў гэтых людзей, што сядзелі цяперака за адным сталом з ім, абходжвалі яго, былі зараз ягонымі лепшымі сябрамі, гатовымі пайсці за ім у агонь і ваду . Ён мог уявіць сябе хоць цяпер Астаповічам, альбо аграномам Святловым, альбо гэтым старшынёю па прозвішчы Карэнны; ён мог бы пасяліцца ў іхніх галовах і думаць гэтак, як думаюць, гледзячы на яго, яны; ён мог бы на час стаць кожным з іх.. Але – навошта? Заўтра, паслязаўтра яны забудуцца пра яго, а ён пра іх. «А Дарафеевіч не забудзецца, – падумаў Максім, – Дарафеевіч – асоба, а яны – слізні... Зрэшты, прасцей за ўсё кінуць працу, як зрабіў Дарафеевіч, перабівацца выпадковымі заробкамі, і быць воль-ным . Ім цяжэй. Дарафеевіч можа быць самім сабой, яны – не Бо яны належаць не сабе, а сістэме Як і я. Гэта я – слізень. Замест таго, каб сёння настаяць на сваім, пабачыць праўду і напісаць яе, я сяджу тут, п'ю і раблю выгляд, што так і трэба .. Каго падманваю? З кім гуляю ў хованкі? З самім сабою... са сваім сумленнем. .» Максім насупіўся, пахмурнеў Але, як звычайна бывае ў застоллях, – думкі гэтыя прыйшлі і пайшлі, хутка Максім забыў іх, а потым размяк, разняволіўся, і пад канец расказаў нават некалькі свежых показак.

За размовамі, смачнай закускай і добрай выпіўкай час праляцеў незаўважна За вокнамі пацямнела. Жанчыны некалькі разоў мянялі стравы, падаючы гарачае Пад сталом расла шарэнга пустых пляшак. Нарэшце, пачалі збірацца ад'язджаць. І тут «прыгадалі» толькі, што так і не пабывалі на палях.

– Нічога, – сказаў аграном, – заўтра я раненька пазваню вам у кантору і вазьму самыя свежыя лічбы і перадавікоў Я ведаю, што карэспандэнту трэба. Так? – спытаў ён у Максіма.

– Так. Лічбы і перадавікоў, – пацвердзіў Максім, сядаючы ў «газік».

– Зробім Не падвядзём Ік. – адказаў старшыня, які на правах гаспадара набраўся больш за ўсіх, і віскліва заспяваў: – Эх, палным-пална мая каробушка. – Ён быў задаволены сабою і ўвесь так і свяціўся радасцю. Зрэшты, задаволенымі былі ўсе Акрамя хіба, кіроўцы «газіка».

«Нялёгкая доля шафёрская... – думаў Максім, паглядаючы на яго Кіроўца выдаваў самым стомленым, хоць увесь дзень праседзеў у машыне – Начальства п'е, а ты сядзі, чакай, а потым развозь па хатах да паўночы» Нездарма ў іх рэдакцыі ніводзін шафёр не вытрымліваў у шэфа больш за год-паўтара. Атрымліваў кватэру і звальняўся Хоць уладу над рэдактарам кожны з іх меў большую, чым жонка, бо гэтулькі кампрамату на свайго «патрона» не меў ніхто.

У гасцінічным пакоі быў адзін Дарафеевіч. Ён расхаджваў з кута ў кут, быццам нешта абдумваў. Убачыўшы Максіма, ён абрадаваўся, падбег, паляпаў па плячы:

– Накачалі! До-обра накачалі . А мне «за губою» хоць грамулю прынёс? Эх, забыў пра сябра. . Мог узяць са стала, ніхто і не заўважыў бы. Мог бы на дарогу папрасіць, як Лёкса заўсёды робіць. Не апраўдвайся . Вось прыеду я да цябе ў Мінск. Нап'юся. А потым цябе паклічу Прыляціш? Ага. Прабач, скажу, спазніўся ты. Што ты пра мяне падумаеш?

– Ну, ты параўнаў.. Я тут не гаспадар. Але я думаў пра цябе. .

– Думаў, – перакрывіў Дарафеевіч, – я цябе можа, як Бога чакаю тут, як выратавальніка. А ты прыходзіш пусты Лёкса так не зрабіў бы. Эх, Макс-Макс...

– На, – дастаў Максім дзесятку, – схадзі сам. І не думай больш пра журналістаў дрэнна...

За ноч Максім разоў пяць прачынаўся. Дарафеевіч сядзеў за сталом і нешта пісаў у сваім сшытку. Побач стаяла распачатая пляшка «Русской» і шклянка. Дарафеевіч час ад часу браў шклянку, адпіваў маленькі глыток гарэлкі і зноў пісаў. Рука ягоная хадзіла па паперы хутка і рашуча, амаль не спыняючыся.

# ТОКСІК

«З-за вазы з кветкамі выбег таракан і спыніўся на краі стала. Паварушыў сваімі даўгімі вусамі, нібы прынюхаўся да чагосьці, і павярнуў назад. «Стой!» – у думках загадаў яму Андрэй і пагнаўся за ім Але кожны раз палец ягоны ўціскаўся ў тое месца, дзе таракан толькі што прабег. Урэшце таракан ускочыў у шчыліну між сцяною і падваконнем, стаў недасягальным і зарагатаў адтуль: «Ха-ха-ха-ха!..» Андрэй дакорліва паківаў яму пальцам, аднак, перахапіўшы здзеклівы позірк зэдліка, сумеўся, прыстыдзіўся, устаў з-за стала і адышоў убок.

Яго яшчэ трошкі пагойдвала – як дрэва пад нясмелымі павевамі ветру Кранаючыся сцяны, якая, нібы фіранка, лёгка адхіналася ад кожнага ягонага дотыку, Адрэй рушыў у суседні пакой, дзе спалі Воўка і Наташка. Падлога прагіналася пад ім, выслізгвала з-пад ног, а потым выпрасталася і балюча выцяла па твары. Андрэй асунуўся ў цемрыва. .

Сніўся яму даўні «мульцік»· ён – даўганогі конь, ходзіць па садзе і есць трускалкі Чырвоныя, ватныя, яны пакідаюць на губах сваю свежасць, свой пах і тонка хрумстаюць на зубах... А потым Андрэй сам носіцца на кані па бяскрайнім жоўтым лузе, халодны вецер абмывае ягоны твар, блытае валасы, яму смешна і радасна, яму весела і добра хі-хі-ха...ік...ік..

Нехта расчыніў вакно, расчыніў дзверы, і па Андрэю пакаціліся хвалі воглага ранішняга паветра. Ад холаду ён заікаў і прачнуўся. Падцяў пад сябе ногі, скурчыўся і сілай разняў непаслухмяныя павекі. Ля вакна стаяў і паліў нейкі мужчына Аднекуль здалёк, быццам гаварыла радыё ў суседнім пакоі, пачуўся голас, хутчэй за ўсё менавіта гэтага мужчыны

– Ну што, акрыяў троху? Уставай-уставай, разлёгся, панімаеш Зноў «Мінуткі» нанюхаўся? Цяжка, нябось? Мо, трыццаць капеек на апахмел даць, га? – І айчым, а гэта быў ён, памахаў перад носам Андрэя рублёўкай.

Жартачкі былі знаёмыя На большае айчыма не хапала. Андрэй з цяжкасцю ўстаў Галава цягнула ўніз, выварочвала за сабою ўсё нутро, ныла кожная костачка было так пагана, паскудна, што не хацелася анічога, не хацелася нават нешта рабіць, каб выгнаць з сябе гэты боль, выжыць гэтую «хваробу». Андрэй паціху пасунуўся ў свой пакой. Збоку магло падацца, што йдзе ён вельмі асцярожна, а на самой справе проста інакш ён ісці не мог Дацёгся да ложка, ватнай лялькай упаў на яго, засунуў руку пад падушку, дзе ляжала «заначка» – «НЗ», раскупорыў плямавыводнік, размазаў яго па краі коўдры, і прагна прытуліў да твару .

Што ж, токсік, рабіць будзем? – упёрся ў пакой айчым са сваім пытаннем. Ён ці то пабойваўся ўжо Андрэя, ці то лічыў сябе неадказным за ягонае выхаванне – бо сышоўся з яго маці нядаўна – і таму гаварыў ціха і тужліва. Маўляў, усё ведаю і разумею, але нічым дапамагчы не магу, дый і не хачу Андрэю даўно абрыдлі гэтыя ягоныя сціпласць і тактоўнасць. Ён напружыўся, адным рыўком саскочыў з ложка, са злосцю крыкнуў айчыму:

– А пайшоў бы ты на... – і выбег з кватэры...»

Максім рэзка адсунуўся ад стала і кінуў асадку на спісаны дробным почыркам аркуш «Не, гэта не надрукуюць. падумаў ён, – занадта не па-газетнаму выходзіць. Загадчык заўтра пакрэмзае ўсё і скажа· «Факты трэба, з фактаў пачынай, а не разводзь ад пачатку слюні і не займайся літаратуршчынай Ніхто ж чытаць не будзе . » Зразумела, на тое, што будуць чытаць і як сёння трэба пісаць, былі ў іх з Максімам цалкам супрацьлеглыя погляды – абсалютна несумяшчальныя, як полюсы магніта. Азначэнне «літаратуршчына» было для загадчыка ледзь не матам Стары газетчык, ён прызнаваў толькі факты, голыя факты, і не цярпеў ніякай апісальнасці. Прыроду, думкі герояў, дыялогі – выкрэсліваў з нейкай зласлівай радасцю... «Аднак, – падумаў Максім, – гэтым разам праўда будзе на ягоным баку Бо пісаць гэтак шырока можна хіба для часопіса, а не для газеты.. » Але душа прасіла палёту. Устыла Максіму шрайбаць аднадзёнкі Тым больш, тут якраз была нагода і магчымасць узняцца над матэрыялам: адна справа пісаць пра вывазку арганікі на палі і зусім іншая – пра таксікаманаў. Тэма





новая, незацяганая і да нядаўняга часу – забароненая. «А таму, – супакоіў сябе Максім, – як ні напішаш – пачытаецца. Прэч сумліў! Даеш факты!... – Ён падняў асадку... Але пачаць пісаць не змог – зноў набеглі ўспаміны пра сустрэчы падчас падрыхтоўкі артыкула. Было іх шмат. Асабліва запомнілася апошняе знаёмства, з якога ён і пачаў быў свой артыкул...

Загадчык аддзялення псіхіятрычнай бальніцы падаўся Максіму чалавекам хворым. Занадта насцярожаным і нервовым Ён паглядваў на Максіма падазрона, спадылба, быццам чакаў ад яго нейкага падвоху альбо ўдару знянацку. На пытанні адказваў не адразу. Маўчаў, як студэнт на іспыце, чакаючы аднекуль падказкі, а потым гаварыў нешта неістотнае, нецікавае і Максіму непатрэбнае. Максім вырашыў на колькі хвілінаў перавесці размову на іншую тэму.

– Вы адкуль родам? – спытаўся ён.

– З Урала. А што?

– Я думаў, вы тутэйшы. Прозвішча ў вас...

Урач не даў дагаварыць. Рэзка, як на спружыне, падхапіўся з-за стала і хуткімі маленькімі крокамі падбег да вакна. «Як Гітлер у кіно ..» – падумаў Максім Ён змоўк і здзіўлена сачыў за ўрачом

– Прозвішча як прозвішча, – торгаючы галавою ўслед кожнаму слову, сказаў урач, – у нас Юдавых – паўвёскі. З вёскі я родам, з Урала, хоць і Юдаў, хоць і ўрач.

Максім маўчаў. «Аказваецца, і ва ўрачоў-псіхіятраў ёсць свае комплексы, – думаў ён, – свае слабінкі, і трэба ж было патрапіць у самае яблычка ..» Слова «юда» Максім лічыў беларускім. Гэтак у іх мясцовасці называлі здраднікаў Магчыма, паходзіла яно ад біблейскага Юды, што прадаў Хрыста. Максім ведаў, што немцы гэтак называюць габраяў, але неяк не надаў таму ўвагі. Бо ўрач і сапраўды ніколькі не быў падобны да габрая. Тыповы русак, ну, беларус, у крайнім выпадку

Урач склаў рукі за спінай і стаў узірацца ў нешта далёкае за вакном. «Як Ленін » – падумаў Максім і ціха, як спакайней, прамовіў:

– З гісторыямі хваробы я пазнаёміўся, дзякуй. Правядзіце, калі можна, мяне ў аддзяленне, я хацеў бы пагаварыць з хворымі

Урач, падобна, зразумеў, што дарэмна даў волю нервам, засаромеўся, апусціў галаву і моўчкі пайшоў да выхаду

Аддзяленне пачыналася адразу за ягоным кабінетам. Клацнуў замок, расчыніліся краты, потым дзверы, і яны ўвайшлі ў звычайны бальнічны калідор, сцены якога да паловы былі пафарбаваны ў зялёны колер, а вышэй – у шэра-блакітны Падбегла медсястра.

– Пакажыце карэспандэнту Андрэя з трэцяй палаты, – загадаў урач і, нат не развітаўшыся, пайшоў назад.

Медсястра правяла Максіма ў нейкі хол Там сядзелі і глядзелі тэлевізар хворыя – хлапчукі ад дванаццаці да семнаццаці гадоў на выгляд. Дзіўнае для непрывыклага вока было гэта відовішча Побач з зусім нармальнымі знешне дзецьмі сядзелі шыракаротыя, слінявыя, з пукатымі вачыма... «Божа, як можна трымаць іх разам?» – падумаў Максім, гледзячы, як рагоча невядома з чаго, захлінаецца слінай круглатвары дзяцюк, а ягоны сусед у той жа час пазірае на экран абыякава, нібы павіннасць адбывае, а вочы ў яго – пустыя-пустыя... Андрэя не было тут, і медсястра кінулася клікаць яго з палаты

У вас будзе паўгадзіны, – сказала яна, вярнуўшыся з Андрэем, потым у нас прыём лекаў і ціхі час. Прайдзіце, калі ласка, сюды, – і яна ўвяла Максіма, а следам і Андрэя, у невялікі пакойчык за тэлевізарам, – тут вам ніхто не будзе перашкаджаць. Калі закончыце размову раней – пастукайце мне, і я адчыню, – дадала яна і выйшла

Толькі цяпер Максім заўважыў, што ў дзвярах няма ручкі Андрэй перахапіў ягоны недаўменны позірк.

– Яны тут ручкі ў кішэнях носяць, – патлумачыў ён, – каб ніхто з палаты не мог сам выйсці.. Хітрасць на ўзроўні такіх, як там, у холе.

– Давай прысядзем, Максім кіўнуў у бок століка, ля якога стаялі два кухонныя зэдлікі Краем вока ён вывучаў Андрэя. Нягледзячы на паношаную, абвіслую бальнічную апратку, падаўся ён звычайным хлопцам. Кароткая модная стрыжка, рысы твару – прыемныя, нават гожыя Да такіх хлопчыкаў дзяўчаты ліпнуць самі. Андрэй выглядаў крыху старэй за свае чатырнаццаць гадоў, але слядоў хваробы на твары не было відаць. Максім прыгадаў нядаўнюю сустрэчу ў аддзяленні міліцыі з толькі што затрыманым

наркаманам. Уразілі ягоная незвычайная худоба і бледнасць, сіня-чорныя з жаўцінёю мяшкі пад вачыма, паколатыя рукі «Тут і калоць не трэба, паказаў міліцыянер, – сцішнеш руку – і вена сама адкрываецца .» На стале ляжалі забраныя ў наркамана брудна-карычневыя, як іржавыя, шпрыцы, макавая церуха-саломка, некалькі ампул, і ён сваё віны не адмаўляў. Адно – не хацеў выдаваць сяброў-саўдзельнікаў... Не, да хворага Андрэй падобны не быў Зрэшты, у пакоі было цемнавата і добра разгледзець яго Максім не мог Але менавіта паўзмрок і зрабіў іх гутарку больш шчырай

Звычайна, каб разгаварыць суразмоўніка, Максім прасіў яго расказаць трохі пра сябе. А потым, па ходу, пачынаў задаваць пытанні.

– Што сказаць? – задумаўся Андрэй – Жыццё як жыццё... Вучуся ў дзевятым класе...

– Добра?

Цяпер стаў горш Але троек амаль няма Мне вучоба лёгка даецца. Варта паслухаць тлумачэнне настаўніка – і дома чытаць не трэба. Памяць добрая .. Была. . – Андрэй горка ўсміхнуўся

– Чаму была?

– Апошнім часам пачаў нюхаць усё часцей і часцей Арганізм патрабаваў Прывык. Бывала, у перапынку адбягу да прыбіральні, у шапку цiскану плямавыводніка – з сабою насіў, як лекі, нюхну, і ў клас. І таму вырубацца проста на ўроках стаў Сяджу і раптам заўважаю, як недзе ад дошкі, ад настаўніка, пачынае павольна рухацца да мяне чорны шар, падплывае да галавы – бух, і я адключаюся . Якая там памяць. Ад мяне ўжо нічога не залежала. Я не валодаў сабою. Памятаеце, як у анекдоце «Я паехала. – Едзь. А хто ты? – Твая крыша » І тады я зразумеў – гэта хвароба. Паспрабаваў кінуць – не магу Далёка зайшоў Таму лячыцца, можна сказаць, сам пайшоў Ніхто не прымушаў Пад прымусам сюды хіба што кончаныя дэбілы трапляюць, як тыя, што ў холе.. А токсікаў і выявіць амаль немагчыма і праз суд накіраваць нельга

Максім ведаў гэта Да таго ж бацькі аддаваць сваіх дзяцей у «дурку» – псіхбальніцу, пра якую ў горадзе йшла і сапраўды дурная слава, – не хацелі, «лячылі» дома, хто ўгаворамі, а хто папругай . Андрэй прымаркоціўся, думаючы пра нешта сваё, а Максім зразумеў, што настаў час пытаць, як жа дакаціўся ён да такога жыцця Але патрэбныя словы не знаходзіліся. Маўчанне зацягнулася, і ён спытаў у Андрэя·

– А ці шмат тут токсікаў?

Трое Разам са мною. І двое алкашоў. З трыццаці. Астатнія – дэбілы, якіх расстрэльваць трэба, а не гадаваць. Пабачылі б вы, што яны тут вытвараюць. Але. Вы пытайце лепш пра мяне Мне не сорамна ні пра што расказваць. Я не хачу, каб нехта паўтараў мае памылкі. Я спрабаваў гаварыць з хлопцамі з нашага дома сур'ёзна Дык яны смяюцца Для іх што пакурыць, што нюхнуць – адно· балдзёж і толькі Можа, вы напішаце, хтосьці пачытае і задумаецца..

– Ну што ж, расказвай тады з самага пачатку, – сказаў Максім, уражаны прадбачлівасцю Андрэя

...Маці развялася з бацькам, калі Андрэю было шэсць гадоў, а малодшым, двайнятам Воўку і Наташцы – па тры Аднак жылі яны не бедна, асабліва не разлічваючы на невялікія бацькавы аліменты Працавала маці ў кнігарні, намеснікам дырэктара. Быў якраз разгар кніжнага буму. Памятаеце, як ганяліся ў нас за кнігамі, якія чэргі выстройваліся за «класікай», за дэфіцытам? (Максім прыгадаў, як учора патэлефанаваў яму сябар і спытаў· «Як правільна пісаць – дэфіцыт ці дыфіцыт?» Максім сумеўся, але, да свайго сораму, так і не змог адказаць, бо не ведаў .) Андрэй, вядома, ніколі не задумваўся, як тое было, аднак заробку маці хапала і на прыгожую вопратку і на прысмакі. Дзецям яна ні ў чым не адмаўляла. Цукеркі, цацкі, джынсікі, маечкі фірмовыя усяго ў іх ставала І вось у сёмым класе Андрэю захацелася займець мапед. Стаў прасіць маці, каб набыла. Яна – ніяк: каб разбіўся? Не, не – і не прасі. Тады ён прыстрашыў· калі не купіш – уцяку з дому І ўцёк. Пайшоў на вакзал, залез у нейкі таварняк і паехаў. Знялі яго ці то ў Жытоміры, ці то ў Жмерынцы – недзе на Украіне Завялі ў міліцэйскае аддзяленне, пасадзілі ў ізалятар старэнькі такі, кволенькі будынак непадалёку ад станцыі У камеры на ложку ляжаў нейкі мужчына. Стагнаў, курчыўся, як ад болю, як пабіты сабака На Андрэя ён нават і не зірнуў. Калі за сцяною затахкаў матацыкл – пад'ехаў і заглох, – ён падхапіўся, падскочыў да вакенца з рэдкімі кратамі і без шкла, скрыганўў у роспачы зубамі. Потым глянуў на Андрэя і загадаў·





– Ідзі сюды! Бачыш – матацыкл. Зараз злазіш да яго і... – ён зняў з сябе кашулю, ірвануў адзін рукаў, падаў Андрэю, – на вось, намочыш у бензіне. Не паслухаеш – задушу! Лезь, ты пралезеш. Дай, падсаджу... Ведаеш, дзе ў матацыкле бензін можна спусціць?

Андрэй, перапалоханы, кіўнуў.

– Тады лезь.

Азіраючыся на ўваход у аддзяленне, падбег Андрэй да матацыкла, адкрыў кранік, абліў рукаў бензінам. Ён мог бы цяпер уцячы. Але куды? Мужчына нецярплівa і груба ўцягнуў яго назад у камеру, прагна схапіў мокры рукаў і пачаў нюхаць яго. «Балдзёж, – шаптаў ён, – поўны балдзёж... Кайф. .» А потым падышоў да ложка, стомлена лёг на яго і быццам заснуў Шчаслівая ўсмешка блукала па ягоным твары. Пах бензіну стаяў у камеры, рукі Андрэя смярдзелі ім, але ён усё ж падышоў да мужчыны, узяў з ягоных рук анучку, панюхаў: фу! – брыдота-а. .

Назаўтра мужчына, а звалі яго Астап, зноў дачакаўся, калі пад'едзе міліцэйскі «матацыкал», і выправіў Андрэя па бензін з другім рукавом На гэты раз Астап не спяшаўся «балдзець». Ён паказваў Андрэю, як правільна трэба нюхаць, аж покуль той не «адключыўся» Праз пяць дзён па Андрэя прыехала маці. Да таго часу прайшоў ён поўны курс навучання і стаў спецам па лоўлі кайфу ад пароў бензіну.

– Але бензін я даўно не нюхаю, – сказаў Андрэй, – яшчэ вясною кінуў Як заўважыў, што сэрца пачало барахліць. Нюхаў, было, у пакінутым дзіцячым садку, і сэрца схапіла. Чую – спыняецца. Думаў, памру Калі адышоў трохі, абліў рэшткамі бензіну грыбкі, лаўкі, машынкі драўляныя і падпаліў Распісаўся ў тым, што завязваю. Але сэрца бензінам я моцна пасадзіў. Аднойчы маці давялося нават «хуткую» выклікаць.

– А ці здагадвалася яна пра што-небудзь, ці ведала?

– Вядома, не. Нават калі «хуткую» выклікала. І ўрачы нічога не западозрылі Сказалі – пераходны ўзрост..

Пра тое, як «лавіць кайф», Андрэй нікому не расказваў. Саромеўся, хаваўся ад усіх. Аднак летась на канікулах ягоныя аднакласнікі пабывалі «на аздараўленні» ў Башкірыі і адтуль прывезлі дзесяць спосабаў, як можна «балдзець» і без бензіну, больш простымі сродкамі· клей, таблеткі, плямавыводнік... Навучылі і яго, іншых у двары І цяпер у іх няма ніводнага хлопца, які б не паспрабаваў злавіць кайф, хоць бы ад «Мінуткі». Хто з цікаўнасці, хто – каб не палічылі трусам у кампаніі, а каго і прымусілі: злавілі, цэлафанавы пакет на галаву і – дыхай... І шмат каму спадабалася. Асабліва тым, хто «мульцікі» глядзець – галюцынаваць – навучыўся...

Дзякуючы такім вось аматарам «мульцікаў», Максім і набрыў на гэтую тэму. У прамым сэнсе набрыў. Неяк позна ўвечары вяртаўся ён дамоў Ліфт не працаваў І ён стаў падымацца пешкам. На пляцоўцы паміж трэцім і чацвёртым паверхамі натыкнуўся на трох хлапчукоў гадоў дванаццаці-чатырнаццаці. Двое сядзелі ля сцяны з бязглуздымі ўсмешкамі на тварах, а трэці бегаў на чатырох і гаўкаў, вішчаў па-сабачы . Побач ляжалі цэлафанавыя пакеты і выцiснутыя цюбікі з-пад «Мінуткі». Максім чуў раней, што моладзь «балдзее» гэткім чынам, аднак не верыў, покуль не пабачыў на свае вочы. Міліцыю ці «хуткую» ў той вечар ён выклікаць не стаў, толькі прасачыў за хлапчукамі. недзе праз гадзіну яны ачухаліся і пацягнуліся дамоў. Назаўтра ён пачаў названьваць – спачатку ў міліцыю, потым у наркалагічны дыспансер, потым у бальніцу «хуткай дапамогі», куды прывозілі атручаных дзяцей і дарослых, потым пабываў усюды, у тым ліку ў аддзяленні, дзе атручаных адкачвалі, і ў моргу. . Ён і не думаў, што гэта настолькі сур'ёзная з'ява. Фактаў, дзікіх і амаль сенсацыйных, набраўся цэлы блакнот. І вось апошнім месцам, якое ён наведаў, стала «дурка», дзе токсікаў лячылі...

Лячылі... Лячэнне было больш псіхалагічным, такім, каб запомнілася на ўсё жыццё і каб яшчэ трапляць сюды, на «ачышчэнне крыві ад шлакаў», нікому, пад пісталетам, не хацелася. Максім заўважыў, як затросся Андрэй, калі размова зайшла пра лячэнне, і адразу пераеў гутарку на іншае. Наогул, з Андрэем можна было гаварыць на любую тэму. Быў ён даволі начытаным, кемлівым, вольна, не шукаючы доўга слоў, апісваў і тлумачыў свае паводзіны, пачуцці. Да таго ж, па ўсім відаць, быў ён летуценнікам і рамантыкам. І таму Максім нікольki не здзівіўся, калі даведаўся, што Андрэй цікавіцца літаратурай, што любімы занятак ягоны – чытанне, што і сам ён спрабуе пісаць вершы. Друкаваліся яны некалі ў піянерскіх газетах. І стала зразумела, чаму гэтак лёгка аддаўся ён здабыванню ўяўнага задавальнення і шчасця, чаму амаль не супраціўляўся самапад-

ману, а наадварот – шукаў яго... Максім прыгадаў, што калі ўрэшце той наркаман, якога ён бачыў у міліцыі, «раскалоўся», то справу хуценька замялі, бо выявілася, што разам з ім «кайф лавілі» дзеткі самага высокага начальства, так званая «залатая моладзь», якая пісала вершыкі пад Бродскага і Хармса, якая малявала найавангарднейшыя карціны, ведала сучасную музыку і модна апраналася, і якой для поўнага шчасця не хапала шчасця ўяўнага...

– Мне ўчора Бог прысніўся, – сказаў раптам Андрэй. – Я яго не бачыў, але разумеў, што гэта ён – Бог. Ён гаварыў са мною. І я ўсё запомніў Прачнуўся, ляжу і, здаецца, на яве гэта было – вось-вось з палаты ён выйшаў крокі на калідоры чую. А я – быццам і не спаў.. Ён сказаў мне, што самагубства – самы лёгкі і просты шлях. Жыць цяжэй...

– Няўжо ты пра гэта думаў?

– Думаў. Час цягнецца тут марудна Пра што толькі не падумаеш за дзень. А ўжо за ноч

– Ты ж казаў, што сам сюды прыйшоў. Значыць, ёсць іншы шлях. Значыць, ёсць надзея ..

– Ёсць? Можа, была... Пакуль сюды не трапіў Ведаеце, чым жыццё тут, у бальніцы, адрозніваецца ад таго, што там, на вуліцы?

– ..

– Сваёй разумнасцю, зразумеласцю, сваёй вытлумачальнасцю і прадказальнасцю... Дурдом там, а не тут...

– Не буду з табою спрачацца. Але падумай: калі б было ўсё зразумела, вытлумачана і прадказальна – дык жыць было б нецікава.

Нецікава . Мне й так нецікава. Мне здаецца, што ў гэтым жыцці я ўсё ўжо ведаю, што наперадзе мяне не чакае нічога новага. Хіба можна назваць новым сям'ю, дзяцей... Мітусня. Усё гэта я ўжо бачыў на чужых прыкладах. Новае адно – смерць. Дакладней, нават не смерць, а тое, што за ёй... Мы нараджаемся не дзеля таго, каб жыць, а дзеля таго, каб памерці. Няўжо, каб чакаць смерці, трэба больш мужнасці чым пакончыць з жыццём?

– Ты спрачаешся з Богам?.. Думаю, гэта таму, што ад сапраўднага жыцця ты адарваўся. Жыў, як у сне Цяпер ты выздараўліваеш. Трэба вяртацца ў жыццё, а куды вяртацца? З мінулага ты вырас, уяўленне пра сучаснае страціў, а будучыні ў цябе і зусім не было...

– Я столькі разоў глядзеў у вочы смерці Альбо яна мне. . Кожны раз я мог не вярнуцца сюды. Удыхнуць яшчэ трошкі, яшчэ і яшчэ... Але вяртаўся. Навошта?

– Мне здаецца, я цябе разумею. Прабач за маю прыземленасць і, можа, прымітыўнасць. Але сам я некалі, прыблізна ў тваім узросце, ляжаў пару месяцаў у бальніцы. Вядома, нейкіх думак пра смерць не было, якраз наадварот... Але калі выпісалі, выйшаў з бацькам на вуліцу – шум, гвалт, крыкі, грукат вакол. І такім чужым мне ўсё гэта падалося. Стаю на прыпынку і думаю: як я буду жыць тут? Адвык. І захацелася вярнуцца назад, у бальніцу, у той спакой, цішыню, зразумеласць. . Нічога, выпішашся, выйдзеш, падхопіць цябе жыццё, панясе, і забудзеш ты ўсе свае гэтыя думкі... Ты футбол любіш?

– Люблю... У нас у двары быў стадыёнчык. Цэлымі вечарамі мы на ім мячык ганялі... І ніводнай гульні мінскага «Дынама» дома не прапускалі

– А ведаеш, як нашыя дынамаўцы ў Кубку чэмпіёнаў з «Рэалам» згулялі?

– У Кубку чэмпіёнаў? З «Рэалам»? Не..

– Выйгралі

– Выйгралі?

– Так. І заўтра гуляюць з «Міланам».

– У Мінску?

– Не, у Італіі, у Мілане, а ў Мінску – праз два тыдні будуць гуляць. Якраз ты выпішашся. Сходзім?

– Сходзім... – Максіму падалося, што Андрэй відочна ажыў, што твар ягоны заірдзеў, вочы загарэліся, з'явілася ў іх нейкая рашучасць... Бачна было, што Максім зачапіў за яшчэ жывую струнку. «Зноў у яблычка патрапіў, зноў у дзесятку. .» – падумаў ён і сказаў

– Тады білеты за мною. У сераду зранку чакай, я пазваню табе дамоў .. Ну, будзем развітвацца. Стукай у дзверы, няхай адчыняюць...

Максім схамянуўся. Новы аркуш так і не быў пачаты. Не было ні плана артыкула, ні загалоўка. А здаваць яго трэба заўтра. Рэдактар зацікавіўся, хоча ажывіць суботні нумар – падпіска на носе.

Максім задумаўся яшчэ на хвілю і пачаў «Дасье» псіхіятра-нарколага падлеткавага кабінета абласнога наркалагічнага дыспансера А. Л. Каралёвай, з якім мне давялося нядаўна пазнаёміцца, даволі аб'ёмнае Вось толькі некалькі запісаў з яго...»

– Вы просіце фактаў? – прамармытаў з усмешкай Максім сам сабе, – іх ёсць у мяне...

# ІРЖАВАЯ ШЫБКА Ў ВАКНЕ НА ГАРЫШЧЫ

*«Беспощаден кто-то к человеку»*
**І. Бунін**

Бруд, вакол бруд і брыдота, якую прыносіць у горад восеньскі дождж. Шэры дождж, што вісіць над горадам ужо трэці дзень, злізваючы фарбы з дрэваў і дамоў. Імжа залятае ў расчыненыя дзверы невялічкай кавярні, збіраецца ў чорную лужыну ля ўваходу. І кожны, хто зазірае ў гэты вузкі і доўгі, нібы труна, пад'езд, нясе свае сляды да стойкі бармена. Сляды высыхаюць, і на падлозе застаецца шэры бруд. Бруд, які прынёс з сабою ў горад дождж. Нудотны, абрыдлы, і схавацца ад яго можна толькі ў гэтай доўгай, нібы труна, кавярні..

Знаёмы бармен прыветна ўсміхнуўся Максіму і адразу замітусіўся над кубачкам – пачаў гатаваць каву. «Як звычайна?» – спытаў ён, і Максім кіўнуў у адказ: як звычайна. Бармен быў тыповым прадстаўніком свайго клану: тоўсты, самазадаволены і спрытны, як мангуст. Чаму як мангуст, а не як вавёрка? Ды таму, што нехта з заўсёднікаў назваў яго за вёрткасць Рыкі-Цікі-Таві. З гэтага імя прыжылася толькі першая частка – Рыкі. Займаў Рыкі сабою амаль увесь адгароджаны прылаўкам катушок, аднак не было яшчэ выпадку на Максімавай памяці, каб ён нешта зачапіў, перакуліў. Вось і цяпер, збалансаваўшы над плітою з пяском, ён падаў Максіму гатовую каву. Максім падзякаваў і сабраўся быў адысці да прыстолка ля сцяны, але Рыкі перапыніў яго:

– Зірні вунь туды, – прашаптаў ён Максіму па-змоўніцку, як старому знаёмцу, і паказаў у левы ад уваходу куток. Максім глянуў – там стаяў, паклаўшы галаву на прыстолак, нейкі хлопец. Падобна, што спаў. Ці проста «адключыўся» п'яны. – Дзве гадзіны так стаіць, – зноў зашаптаў бармен, – узяў сто каньяку, выпіў і стаіць. Я тройчы да яго падыходзіў. Дастае "дваццатку" – баксаў – суе ў руку і спіць. Глядзі...

Рыкі падышоў да хлопца, штурхнуў яго ў плячо і сказаў:

– Уставай, уставай, стары, тут не месца...

Хлопец падняў галаву, правёў затуманенымі вачыма па кавярні, дастаў з кішэні блісчасты партманет, выцягнуў зялёную паперку, падаў бармену і зноў апусціў галаву на прыстолак.

– Ну, бачыў? спытаў Рыкі, вярнуўшыся да Максіма – Не ведаю, што і рабіць... Шкада хлопца Міліцыя зойдзе, навяжацца – ачысціць і бакі намне. Макс, будзь сябрам, выведзі яго куды ад мяне. Нутром чую – клопату не абяруся з ім. Адвядзі ў парк і кінь там на лаўцы – хай ачухаецца на свежым паветры...

Максім зірнуў на хлопца: было ў ім нешта сімпатычнае яму. Не выдаваў ён на простага п'яніцу ці загуляўшага без дай прычыны бізнесмена. Штосьці, пэўна, здарылася ў чалавека, і ён змагаецца са сваім смуткам ці тугою... Няшчаснае каханне? Максім паглядаў на хлопца, і яму было шкода яго і адначасна цікава. што ж выбіла яго з

жыццёвае каляіны? У такія моманты Максім ненавідзеў у сабе журналіста, але нічога зрабіць не мог.

– Ну як, дапаможаш? – перапытаў Рыкі.

Вольны час у Максіма быў, і ён падумаў: «Спытаю ў хлопца адрас і завязу дамоў на таксоўцы Кінь назад – напередзе знойдзеш. можа й мне хто калі дапаможа. .»

– Помні маю дабрыню, – сказаў ён бармену і падышоў да хлопца. Той падняў на яго зусім не п'яныя, але нейкія асалавелыя, зацягнутыя туманам, вочы і на прапанову выйсці адказаў: пайшлі.

На нагах трымаўся хлопец даволі цвёрда і не дазволіў Максіму падхапіць яго пад руку «Нешта здарылася? – спытаў Максім, асцярожна зазірнуўшы незнаёмцу ў вочы. «Здарылася...» – хіснуў у адказ галавою хлопец. «Дзе ты жывеш?» – спытаў Максім «Я не мясцовы», – адказаў хлопец.

Дождж суцішыўся, амаль перастаў, здрабнеў Лёгкі воглы пыл, што вісеў у паветры, цяжка нават было назваць дажджом. Людзі хадзілі без парасонаў. І Максім вырашыў пайсці з незнаёмцам у парк, як і раіў бармен. Ля пляцу Перамогі яны звярнулі налева, да дзіцячага парку.

– У мяне цягнік у дзве гадзіны, – сказаў хлопец, колькі цяпер часу?

Максім зірнуў·

– Чатыры без дзесяці.

– Спазніўся. – прашаптаў хлопец. – Так і ведаў

Шырока расплюшчанымі вачыма незнаёмец паглядаў некуды наперад, далёка за ўваходную арку ў парк, за рэчку, за Дом афіцэраў на ўзгорку, і Максіму падалося, што ён цяпер не бачыць нічога таго, што акаляе яго, не заўважае і Максіма побач; што позірк хлопцаў па-ранейшаму блукае недзе ў ім самім і ніяк не можа выбрацца «наверх», у рэальнае жыццё

Яны йшлі павольна, нібы прагульваючыся, і Максім бессаромна агледзеў хлопца. Апрануты ён быў у звычайны «джэнтльменскі» набор – чорная скураная куртка, чорныя ж джынсы, белыя красоўкі Усё фірмовае, з валютак. На рукі нацягнуты – што асабліва здзівіла Максіма – чорныя лайкавыя пальчаткі, на якія быў яшчэ не сезон ранавата. Твар хлопца быў звычайны, незапамінальны Вылучыць на ім штосьці, акрамя моднага трохдзённага шчаціння, было немагчыма. Убачыў такога – і тут жа забыў: проста прыгожы хлопец, больш нічога і не скажаш. Нібы сышоў ён з нейкага плаката замежнага ці пластыкавага пакета

Селі на лаўку на набярэжнай непадалёку ад помніка задуменнаму, разглядваючаму будучыню, Горкаму. Хлопец дастаў пачак цыгарэтаў, зразумела – «Мальбара», прапанаваў Максіму закурыць. Максім не адмовіўся, хоць паліў рэдка.

– Наступны цягнік, калі я не памыляюся, у сем, – сказаў хлопец.

– А куды табе?

– У бок Масквы

Максім бачыў: хлопец зусім не п'яны. Ён, відочна, быў нечым моцна ўзрушаны. Адсюль гэтыя няўпэўненыя рухі, дрыжанне цыгарэты ў губах. І гэтыя зацятасць, туга і скруха. Яму падалося нават, што ў вачах у хлопца блішчаць слёзы... Максім пазнаваў у незнаёмцу сябе: моцна ўзрушаны, ён таксама не ўзбуджаўся, а патухаў. Меланхолік перамагаў у ім халерыка І замест звыклай іншым залішняй рухавасці на яго находзілі задумлівасць, запаволенасць, сум, перасіліць якія ён падоўгу ніяк не мог. Усялякія роспыты ў гэткім стане, ведаў Максім, маглі толькі раззлаваць хлопца. І ён моўчкі паліў – не зацягваўся, не глытаў дым, а адно набіраў яго ў рот, трохі прытрымліваў і выпускаў кволым струмянём Хлопец жа наадварот – на ўсе лёгкія ўсмоктваўся ў цыгарэту і зглыбоку, цяжка выдыхаў дым праз нос.

– Прыгожы ў вас горад, – сказаў незнаёмец, пазіраючы далёка наперад, за свіслацкі плёс, – прыгожы...

Максім маўчаў, чакаў працягу З сябе самога ён разумеў· хлопец паступова вяртаецца ў жыццё І баяўся словам ці рухам адпалохаць, парушыць гэтае вяртанне. Далей будзе жаданне выгаварыцца – прагназаваў ён, ведаючы сябе.

– Сто разоў збіраўся сюды прыехаць, ды ўсё адкладваў. І вось прыехаў – а радасці няма Няма і не будзе .. прамовіў хлопец і спытаў· – Ты працуеш тут ці вучышся?

– Працую.

– Кім, калі не сакрэт?





– Журналістам.

– Сам бог цябе мне паслаў Заўтра, не – сёння ўвечары, дай веры, увесь ваш горад будзе гаварыць пра мяне .. Не верыш? Тады слухай... Мне губляць няма чаго. Але спачатку дай слова, што не менш чымсьці год пра тое, што пачуеш, нідзе і нікому расказваць не будзеш.

– Слова журналіста.

– Ха-ха-ха... – нехаця, з'едліва засмяяўся хлопец – Ну і хай сабе. слова журналіста, дык слова журналіста – ха-ха-ха .

Незнаёмец запаліў новую цыгарэту, пільна ўгледзеўся ў шпіль вайсковага будынку за мастом, і пачаў свой расповед...

Віктар, назавем яго так, прыехаў у Мінск позднім ранкам. Пару гадзінаў паблукаў па горадзе і, калі да прызначанага яму часу заставалася хвілінаў пяцьдзесят, увайшоў у вывучаны на плане да кожнага кусточка і цалкам пазнавальны дворык. У трэцім пад'ездзе цаглянага чатырохпавярховіка падняўся на апошні паверх, адчыніў незамкнёныя дзверы на гарышчы. Ступіў крок за невысокі парог, і твар ягоны апляло ліпкае, агіднае павуціне. Кругі разбегліся па твары, як мішэнь. Павук мякка лёпнуўся за каўнер і адразу ж незадаволена заварушыўся там – халодны і брыдкі. . Віктар гідліва вылаяўся здарылася якраз тое, чаго не хацеў ён, чаго баяўся, згаджаючыся «працаваць» на гарышчы Калі ён чуў гэтае слова, яго перасмыкала ад аднаго ўспаміну з дзяцінства. Было то ў дзедавай вёсцы, куды штолета прыязджаў ён на канікулы. Самым цікавым у вясковай хаце яму падалося гарышча. Ён любіў залазіць на яго і шныпарыць там. Чаго толькі на ім не было! Якіх толькі цікавых яму і непатрэбных дарослым рэчаў ён там не знаходзіў! З уваходу адразу кідалася ў вочы бабуліна самапрадка з падобным да карабельнага штурвала колам, побач ляжалі разабраныя ў дошкі кросны, і чаўнакі іхнія былі яму чоўнамі для «марскога бою», далей стаяла дзедава прычындалле – ён некалі трымаў пчолаў, – з якога Віця ведаў і пазнаваў толькі дымар ды зграбны, нібы фехтавальны, шлем з маскай – сітар. У куце стаяла некалькі скрыняў, кублаў і куфраў, у адным з якіх ён знайшоў два бабуліныя медалі «мацярынства» – за выгадаваных дзяцей. Медалі ён цішком знёс і прагуляў хлопцам у «чыку» За скрынямі Віця знайшоў стары газавы ліхтар, які прадаў вясковым сябрукам, што якраз выкапалі ў лесе «зямлянку», а грошы прайграў... Аднак галоўным багаццем для яго на гарышчы былі старыя кнігі і часопісы Ён прыладжваўся ля маленькага вакенца ў франтоне і не вакенца нават, а проста незашклёнае дзіркі – і гартаў іх, чытаў, адкладваў самыя цікавыя – дарэвалюцыйныя, – каб забраць сабе ў горад. Але ўсё добрае, звязанае з гарышчам, перакрэсліў адзін выпадак. І вінавата ў гэтым якраз павуціне, што так і старалася кожны раз перакрыжаваць сабою твар. Аднойчы, выціраючы, скочваючы яго з павек, шчок, вуснаў, Віця неўпрыкмет забрыў у далёкі куток гарышча, дзе дах падчас дажджоў працякаў, і. праваліўся ўніз, у хату, скрозь столь. Здаецца, толькі быў на гарышчы, і вось – імгненны жах, палёт-падзенне, і ён стаіць абадраны, у пыле і смецці, на падлозе.. Ні апамятацца, ні спалохацца па-сапраўднаму ён не паспеў: душа яшчэ там, на гарышчы, а ён ужо тут. І толькі потым спалох нагнаў яго і ён заплакаў. На грукат і крык прыбеглі з агароду дзед і маці Доўга супакойвалі яго і караць не сталі Аднак з таго часу пасяліўся ў ім страх перад гарышчам, няўпэўненасць перад кожным наступным крокам, боязь праваліцца. Больш на гарышча ён не лазіў, хоць пра пакінутыя там кнігі і часопісы спачатку шкадаваў, а потым з'явіліся ў яго іншыя інтарэсы...

І цяпер, толькі мазнула яму па твары павуціне, як з'явілася тая дрыготка ў нагах, што бывае на вышыні, як адчуў ён – уяўную ці сапраўдную? – нетрываласць, нават гнуткасць столі пад нагамі. . Лёгка ступаючы, Віктар асцярожна пайшоў да вакна, якое цьмяна свяцілася метрах у дзесяці ад уваходу на гарышча і, нібы далёкі ліхтар, спачатку не асвятляла дарогу, а толькі сляпіла вочы. І тут выявілася яшчэ адна прыкрасць. вясковае гарышча было сухім, чыстым, засыпаным жоўтым пілавіннем, гэтае ж – было загаджана галубамі. Здаўна. Тоўстым крохкім слоем пакрываў шэры памёт падлогу, бэлькі, нейкія прадметы, што, пэўна, павыносілі жыхары з кватэр. Як ні абачліва йшоў Віктар, аднак аступіўся, падкаўзнуўся і ўпаў на руку, ледзь не вывіхнуўшы яе Гэтае імклівае падзенне нагадала той «палёт» у дзяцінстве, і яму стала яшчэ больш брыдка і пагана. І неспакойна на душы.

Віктару падалося, што да вакна ён дабіраўся доўга, бясконца доўга. Нарэшце яно.

Старая, некалі пафарбаваная ў сіні колер рама. Іржавыя, мутныя ад дажджоў і пылу, шыбкі. За імі амаль нічога не відаць. Расплываецца зяленіва дрэваў і ледзь-ледзь угадваецца патрэбны яму пад'езд суседняга дома. Правую ніжнюю шыбку давядзецца выбіваць. Інакш нічога не ўбачыш. Выбіваць? Навошта. Лепш лёгенька, нячутна выціснуць.. Але і выціскаць не давялося. Віктар адагнуў-адгарнуў іржавыя цвікі, падкалупнуў нажом шкліну, і шыбка павольна, як накрыўка паштовае скрынкі, адчынілася, лягла на рукі – вынялася. Стала віднейі Віктар агледзеўся. Адразу ж убачыў прытуленую да кроквы вінтоўку Снайперская, з аптычным прыцэлам, шматзарадная Віктар узяў яе – цудоўная рэч, заказная, ручной работы. Шкада будзе пакідаць такую тут Віктар ціхенька адагнаў затвор – патрон ужо быў там. Абслуга што трэба. Вызірнуў у вакно. Месца падбіралі таксама знаўцы. Суседні пад'езд – як на талерачцы Хоць і было да яго метраў восемдзесят. Ці нават больш. З вышыні адлегласці здаюцца карацейшымі. Віктар паклаў вінтоўку на падстаўку-штатыў, што прадугледжана стаяла перад вакном, і прыпаў да акуляра. Навёў «крыжык» на дрэва ля ўваходу, знайшоў на ім плямінку ад спілаванага сука, прыцэліўся. Уявіў там свайго «кліента» – пераноссе, лоб .. Прашаптаў, як звычайна ў такія моманты: «Шча цябе ўкусіць аса...» і «націснуў» курок... Віктар адставіў вінтоўку ўбок, зірнуў на гадзіннік: да часу «ікс» заставалася больш за трыццаць хвілінаў. Ранавата ён прыйшоў, рызыкоўна. Але лепш прыйсці рана, чымсьці позна. Бо ягоны «кліент» не педантычны немец – можа прыехаць дамоў і раней.

Віктар выбраў месца сушэй, чысцей і прысеў. Хацелася запаліць, але ён стрымаў сябе. Ніякіх слядоў (нават попелу цыгарэтнага) ягонага знаходжання тут лепш не пакідаць. Досыць ім і вінтоўкі, што застанецца тут... Гэта быў не першы «заказ», які ён выконваў. «Дасць Бог – і не апошні...» – падумаў Віктар і жахнуўся: нейк асабліва востра і нават балюча ўспрынялося слова «апошні»... Як кілер ён меў ужо немалы вопыт. Умеў валодаць сабою і ніколі не распускаў нервы. А тут – гарышча, павуціннe паўплывала, ці што – пасяліўся ў ім нейкі невытлумачальны неспакой, прагнаць які ён не мог. У чэкіста павінна быць гарачае сэрца і халодная галава – казаў Дзяржынскі. У кілера і сэрца, як – што ні кажы і ў таго ж чэкіста, павінна быць халодным. Ніякіх эмоцый Справа перш за ўсё. Тут, як нідзе, трэба быць прафесіяналам, бо памыліцца нельга ні разу – Віктар думаў пра гэтыя прапісныя ісціны, каб супакоіць сябе, зняць незразумелае хваляванне, што не пакідала яго з таго часу, як ступіў ён на гарышча... Віктар зноў прыгадаў дзедаву вёску. Гэта там хлопцы далі яму ўпершыню ў жыцці патрымаць зброю Сапраўдную паляўнічую стрэльбу. Цяжкую і прыемную ў руках. Дазволілі і выстраліць. У шклянку, пастаўленую на пень крокаў за трыццаць, ён тады так і не патрапіў. Але шчасце валодання зброяй яму запомнілася І таму назаўтра ж з суседам Валеркам, бацька якога быў паляўнічым і можна было ў яго неўпрыкмет «здабываць» порах і шрот, яны зрабілі сабе самапалы. Той, хто хоць аднойчы страляў з самапала, ведае, як цяжка з яго патрапіць у нешта. Яны ж з Валеркам напрактыкаваліся з першага стрэлу разбіваць пляшку ў дзесяці метраў. Там, у вёсцы, Віця ўпершыню страляў і ў жывую істоту. Маці загадала Валерку ўтапіць кошку. «Навошта тапіць, – прапанаваў яму Віця, – давай лепш заб'ём з самапалаў». Яны пайшлі на ўскраек лесу, прывязалі кошку да дрэва, каб не збегла, і пачалі страляць. Перш здалёку, потым з некалькіх крокаў «Жывучы, як кот», – кажуць часам пра чалавека. Віця тады ўпэўніўся, што каты і сапраўды жывучыя. Кошка спачатку ірвалася ўцячы, а потым, пасля трох-чатырох трапных стрэлаў, упала на бок, сцякаючы крывёю. Але была яна яшчэ жывою – мяўкала. Яны дабівалі яе ў неймавернай злосці, амаль упрытык да поўсці прыстаўляючы рулі самапалаў, а яна ўсё мяўкала і мяўкала... І тады Валерка ўзяў гэты крывавы камяк за хвост размахнуўся і кінуў у недалёкую канаву. Пры замаху кошчына кроў, нібы кулямётная чарга ў кіно, кроплямі пранізала-выпацкала Віцяву светлую кашулю. Маці потым жахалася і перапытвала: як ты мог гэтак раскваcіць свой нос, што кроў падала не зверху, а з боку на бок. І кашулю выкінула.

Восенню Віця запісаўся ў секцыю па кулявой стральбе. Трэнеры яго хвалілі, вазілі на розныя спаборніцтвы. Стаў ён чэмпіёнам Расіі, майстрам спорту, але большага не дабіўся, бо быў момант, калі ад лёгкіх грошай, што плацілі яму за перамогі, за званне, гадоў у васемнаццаць запіў. Спорт кінуў. І не вярнуўся потым, калі ачомаўся і «завязаў». Аднак час ад часу заходзіў у цір да свайго былога трэнера пастраляць, каб не страціць форму. Ды і рукі памяталі і прасілі прыемнае халоднасці прыклада, а ўказальны палец аж балеў ад «настальгіі» па курку. Аднойчы трэнер канфідэнцыяльна адвёў яго ўбок і





прапанаваў вельмі грашовую і зусім нерызыкоўную працу: «Усё абставяць без цябе, – казаў ён, – ты толькі пад'едзеш, націснеш на «сабачку», і атрымаеш потым грошы...» Віктар патрэніраваўся трохі ўціры. Страляў у каляровыя партрэты з вокладак часопісаў. Шчоўк – і дзірка. . Гарбачоў, Шэварнадзе, міс СССР, Сталоне... Гарбачову цаляў – біў у пачатак плямкі на ілбе, Сталоне – у мясістыя грудзі. Прывучаў сябе да думкі: якая розніца, што і хто там наперадзе – чалавек ці партрэт... «Заданне» і праўда аказалася простым: шчоўк – і дзірка. У ілбе «Заказчык» застаўся задаволеным. Як і наступныя. Пра людзей, якіх адпраўляў ён у рай ці ў пекла, Віктар не думаў. Іх не было, не існавала для яго. Да «таго», а тым больш – пасля.

...Заставалася пятнаццаць хвілінаў. Віктар вызірнуў у вакно. З невысокага будынка, які стаяў у лагчыне, амаль нічога не было відаць, акрамя сценаў і вокнаў некалькіх бліжэйшых дамоў Аднак ранкам ён паспеў упэўніцца, што горад, у які ён прыехаў, – прыгожы. Сучасны, савецкі, але ад расейскай правінцыі ўсё ж адрозны. Асабліва ў цэнтры, дзе захавалася трохі старых кварталаў. Ён шмат разоў парываўся прыехаць сюды. Але адкладваў, адкладваў на потым з-за нейкіх справаў, і так і не сабраўся. Ён не быў тут дагэтуль ні разу, не меў тут ні сваякоў ні знаёмых, і гэта, урэшце, паўплывала на тое, што менавіта яму «даручылі» прыбраць аднаго з мясцовых «бізнесменаў», што набраў крэдытаў, а вяртаць іх не думаў нават пасля некалькіх «апошніх» папярэджанняў. Тыя, хто пасылаў Віктара, падзівіліся, што ў двухмільённым горадзе, не такім ужо і далёкім ад ягонае радзімы, няма ў яго знаёмых, але паверылі і даверылі... І толькі тады Віктар прызнаўся сабе, што не выпадкова і не з экскурсійных альбо рамантычных меркаванняў цягнуў яго да сябе апошнім часам гэты горад. Два гады таму, пасля выканання аднаго дужа складанага даручэння ў горадзе К., ён адпачываў пару тыдняў на поўдні, у Сочы. Там ён выпадкова – аступіўся на пляжы і стаў на руку – пазнаёміўся з дзяўчынаю з гэтага гораду І не проста пазнаёміўся, а закахаўся Ён звычайна не дазваляў сабе расплывацца ў пачуццях. жанчын, калі трэба было, купляў пачкамі і лічыў іх за ніжэйшых істот, а тут нагнуўся, каб папрасіць прабачэння, зірнуў у вочы – і затрымцела душа, забілася часта сэрца. Адчуў ён, не – зразумеў, што сустрэў тую адзіную, якая можа стаць самым блізкім яму чалавекам, стаць ягонаю жонкаю. Толькі яна, больш ніхто і ніколі.

Віктар прыгадаў іх шпацыры па вячэрнім, начным Сочы, у якім і сапраўды – такія цёмныя ночы! Занятыя, агаломшаныя, замглёныя адно адным, яны забываліся пра ўсялякую небяспеку Дзіўна, але ніхто ні разу не прычапіўся да іх. Хоць і была ў Віктара пры сабе надзейная абарона – пісталет ТТ пад пахаю, – ён вельмі не хацеў бы нарвацца на нікчэмную бойку Аднак п'яныя і, галоўнае, «чорныя» абміналі іх, нібы здалёк адчувалі ягоную моц і ўпэўненасць у сабе Адчувала гэтую ўпэўненасць і Марына. Так, яе звалі Марына... Віктар прыплюшчыў вочы, каб прыгадаць яе. Твар сцёрся з памяці, засталіся агульныя рысы, але памятаў Віктар іншае: усім целам памятаў ён дотык яе пругкага стану, памятаў салодкасць сябе ў ёй, памятаў паслухмяныя ягоным вуснам – яе вусны, шыю, грудзі . Грудзі... Віктар зморшчыў твар, моцна сціснуў павекі, каб прагнаць пачуцці, што наплылі на яго, запаланілі душу, аплялі сваім павуціннем... Яны развіталіся з надзеяй на хуткую сустрэчу. Таму і рваўся ён у гэты горад, каб... каб забраць яе адсюль, завезці да сябе, растлумачыць ёй усё і жыць, проста жыць... Што б ні здарылася з ім потым, нармалёвае жыццё ёй і дзецям – дзецям! – ён ужо забяспечыў...

Але паездка зрывалася і зрывалася. Час ішоў, ляцеў імкліва. Вясна змяніла зіму, восень – лета. Марына, пэўна, пра яго даўно забыла: у жанчын кароткая памяць. А пасля гэтай «экскурсіі» яна будзе страчана для яго назаўсёды Бо не хутка зможа ён зноў вярнуцца сюды, каб забраць яе з сабою. Колькі разоў парываўся ён сёння падысці да тэлефона-аўтамата і набраць ейны нумар Запомнены назаўсёды нумар – ён даўно не запісваў і спадзяваўся толькі на сваю не прапітую цалкам і трэніраваную памяць. І ён пазваніў бы, калі б прыехаў... да яе, а не «на дзела»...

«На дзела...» – прыгадаў Віктар і зірнуў на гадзіннік. Заставалася чатыры хвіліны Віктар устаў і яму падалося, што ён пачуў, быццам да патрэбнага пад'езда пад'язджае машына. Пачуць ён не мог, але інтуіцыя яго не падманула: да пад'езда і праўда мякка, бязгучна каціўся шэра-сярэбраны «мерседэс». Той, якога ён і чакаў Віктар узяў вінтоўку, паклаў на падстаўку, навёў на дзірку ў вакне, якую займала раней іржавая шыбка, зірнуў у акуляр: машына, бліснуўшы люстранымі вокнамі, спынілася. Пярэднія дзверы раскінуліся, як ногі самадайкі, у бакі, з іх выскачылі двое рухавых і статных

малайцоў, і адразу ж расчыніліся заднія З бліжэйшых да Віктара дзвярэй выйшла жанчына. Нешта знаёмае мільганула ў ейнай постаці, у тым, як яна левай рукою адгарнула валасы за спіну, агаліла вуха... Віктар злавіў жанчыну ў акуляры і... пазнаў: то была... Марына... Яго Марына.

Марына абыходзіла машыну, а Віктар трымаў яе на прыцэле і вёў, вёў да ўваходных дзвярэй, забыўшыся на ўсё . Яшчэ хвіля – і Марына, услед за мужам ( за мужам ці хахалем?), схаваецца ў пад'ездзе.. «Што я раблю?..» – падумаў Віктар і націснуў курок. Галава Марыны адхіснулася, быццам яна зноў хацела паправіць свае валасы – свае прыгожыя, духмяныя валасы, рассыпаныя па плячах, – потым нейкая сіла пацягнула яе назад, уніз, да прыступак, і яна страшна, безабаронна, упала спінай на асфальт. Віктар пачуў, як звонка покнуў аб ягоную цвёрдасць яе чэрап...

З пад'езда выскачыў «кліент», якога ледзь не выпусціў Віктар, падхапіў галаву Марыны на калені, прыціснуў да сябе Ён нешта крычаў, але Віктар не чуў Ён крычаў і паказваў скрываўленаю рукою ахоўнікам вакенца на гарышчы, за якім быў Віктар. Ахоўнікі таксама пазіралі сюды. «Як бараны», – падумаў Віктар і навёў «крыжык» прыцэлу на лоб «кліента», на першую зморшчыну, што прагнулася між бровамі, прыгадаў заўсёднае: «Шча цябе ўкусіць аса...», і выстраліў. Мужчына, не выпускаючы з рук галаву Марыны, заваліўся на спіну, да прыступак. З чорнай плямінкі на лбе вызірнула чорная кроў, нясмела аббегла вока, нос, прыпынілася ля вуснаў і імкліва саскочыла на белы каўнер кашулі ..

Целаахоўнікі «кліента» апрытомнелі і разам ірванулі з усіх ног да дома, з гарышча якога страляў Віктар. Гэтыя рэзкія рухі абудзілі і Віктара, ён адкінуў вінтоўку – хруснула пад ёй тая вынятая шыбка – дробнымі крокамі падбег да дзвярэй і, пераскокваючы праз пяцьшэсць прыступак, у пару хвіляў аказаўся ўнізе, на першым паверсе. З'арыентаваўся і схаваўся за лесвічным пралётам. Амаль адразу ж у пад'езд уварваліся целаахоўнікі і панесліся наверх, на гарышча. Віктар выйшаў з-пад сходаў, павольна расчыніў дзверы – у двары нікога не было. І ён спакойна, няспешна пакрочыў да блізкай вуліцы Доўга блукаў па мокрым, шэрым горадзе, пакуль не забрыў у тую вузкую, нібы труна, кавярню...

Хлопец зірнуў на гадзіннік:

– Палова на сёмую. Мне пара... Як тут да вакзала дабрацца?

– На метро. Два прыпынкі ўсяго, – адказаў Максім. «Багатая, аднак, фантазія ў хлопца», – думаў ён, каб хоць неяк супакоіць сябе Працсей было зараз не верыць незнаёмцу, не ўспрымаць усур'ёз ягоны расповед. Лічыць яго не надзвычайнай шчырасцю, выкліканай негаданым паваротам лёсу, нечаканай развязкай, а нейкім шызоідным трызненнем – паклёпам на самога сябе. З перапою ..

Хлопец дакурыў цыгарэту, дастаў яшчэ адну Апошнюю. Скамечыў пачак і кінуў у сметніцу. Дакладна, як у баскетбольны кошык. Не, на хворага вар'ята-фантазёра ён усё ж падобны не быў. Звычайны знешне хлопец. Звычайны? Наёмны забойца – халодны кілер? Не можа гэтага быць... Колькі разоў Максім ужо сутыкаўся з тым, што знешнасць – падманлівая. Асабліва ў маладых. Гэта ў старэйшых пражытыя гады вымалёўваюць на твары, пакідаюць у паходцы, рухах – рысы характару, па якіх можна пэўна сказаць, добры то чалавек ці кепскі А прыгажун-маладзён можа быць і цнатлівым пай-хлопчыкам, і адпетым нягоднікам...

Хлопец сціснуў рукою лоб, прашаптаў засмяглымі вуснамі: «Ніколі сабе гэтага не дарую. » – і выцяў кулаком па лаўцы Падняўся, пастаяў, гледзячы пад ногі, потым – удалеч, тымі ж затуманенымі вачыма, якія не бачылі, пэўна, нічога і нікога, акрамя самога сябе. І раптам спытаў·

– Дык дзе метро? Там?..

– Там, – паказаў Максім.

– Ну глядзі, журналіст, трымай слова. – Ён усміхнуўся. Выйшла крыва і горка. – Хоць да заўтра – трымай. А цяпер – бывай .. – Ён чамусьці ўзяў Максімаву руку, паціснуў, потым павярнуўся і шпарка пакрочыў да метро.

Увечары выпуск навінаў дыктар пачаў з пачварнага і невытлумачальнага пакуль, як ён сказаў, факту: забойства дырэктара сумеснага прадпрыемства Н. і ягонае жонкі Марыны. Таму, хто паведаміць нешта пра забойцу, абяцаліся вялікія грошы. Але Максім ужо не слухаў дыктара. У вушах ягоных стаялі апошнія словы незнаёмца: «Ніколі сабе гэтага не дарую...»



# Антанэн АРТО

## ЁН



*Тэатр – ..*
*тыгель агню і плоці, дзе*
*анатамічна,*
*у шоргаце касцей, членаў і*
*частак словаў*
*пераствараюцца целы і*
*паўстае фізічна*
*і ў натуральнай велічыні*
*міфічнае дзеянне: стварэнне*
*цела.*

*Пра Яго*

# ЮНАК

## КАПЕРНІК ТЭАТРА

## ТЭАТР І НАВУКА

### Ліст да рэктараў еўрапейскіх універсітэтаў

## ПРА САМАГУБСТВА

## *Пра Яго*

***4.9.1896*** *– у Марсэлі нарадзіўся вялікі французскі рэжысёр і тэарэтык тэатра Антанэн Арто, які выключна высока ўзняў узровень авангарднага тэатра. Відавочны ўплыў творчасці Арто зведалі такія майстры сучаснай рэжысуры, як паляк Ежы Гратоўскі, англічанін Пітэр Брук, француз Марыс Бэжар, італьянец Эўджэнія Барба ды многія іншыя. Арто цікава вызначыўся яшчэ як актор, драматург, сцэнограф, паэт, мастак. Вечны пошук самавыяўлення і сутнасці жыцця й свету быў ягонай існасцю. Вось што сказаў пра яго знакаміты французскі рэжысёр Жан-Луі Баро: «Любы чалавек, адораны багатым уяўленнем, «пераходзіць на другі бок». Ён выходзіць за межы ўласнага круга і робіць гэта свядома, што дазваляе яму вяртацца «на кругі свае». Арто не пераставаў пакідаць гэты круг... Арто быў надзвычай прыгожы, але яго спапяляў унутраны агонь. Дзіця, якое спальвала самога сябе».*

***1901*** *першы прыступ хваробы (верагодна: менінгіту).*

***1914*** *– заканчвае каледж Сакрэ-Кэр.*

***1915*** *– з-за лячэння галаўных боляў у санаторыі прызвычайваецца да наркотыкаў.*

***1916*** *– прызваны ў войска, у пяхоту, але праз 9 месяцаў камісуецца па інваліднасці.*

***1916–1920*** *– лечыцца ў клініцы ў Швейцарыі.*

***1920*** *– пасяляецца ў Парыжы, жадаючы прысвяціць сябе літаратуры.*

***1921*** *– пачынае пісаць тэатральныя рэцэнзіі для часопіса «Л'ер нувэль» («Новая эра».)*

***1922*** *– выступае як актор, піша артыкул «Марыс Мэтэрлінк», у якім праглядваюцца асновы ягонай будучай тэорыі тэатра.*

***1923*** *– выступае як рэдактар тэатральнага выдання «Більбока», як актор у трупе «Камедыя Елісейскіх Палёў», выпускае ў свет зборнік вершаў «Нябесны трыктрак» (фр. «trictrac» – папулярная гульня). Абвастрэнне хваробы.*

***1924, восень*** *– смерць бацькі. Знаёмства з сюррэалістамі.*

***1925*** *– удзельнічае ў другім выпуску «Рэвалюцыя сюррэалізму», рэдагуе трэці, які ж сам пераважна і піша.*

*Стварае свой першы драматургічны вопыт – міні-п'есу «Крывавы фантан», пародыю на драму Армана Салякру «Шкляны шар», але ў выніку п'еса набывае рысы самастойнага твора.*

***1926*** *– адкрыццё ў Парыжы «Тэатра Альфрэда Жары» (разам з Рожэ Вітракам і Рабэрам Аронам). Ініцыятыва назваць тэатр імем Жары зыходзіць ад Арто, які надзвычай высока цаніў свайго папярэдніка.*

*Публікацыя маніфеста тэатра ў часопісе «Нувэль Рэвю Франсэз» («Новы французскі часопіс») (надалей НФЧ– А.А.).*

*Пакідае групу сюррэалістаў. Паводле другой версіі, Арто адтуль выключаюць.*

***1927*** *– публікацыя «Маніфеста тэатра, які праваліўся».*

# ЮНАК

## *Крывяны фантан*

ЮНАК. Я кахаю цябе, і ўсё цудоўна.

ДЗЯЎЧЫНА *(голас напружаны)*. Ты кахаеш мяне, і ўсё цудоўна.

ЮНАК *(на тон ніжэй)*. Я кахаю цябе, і ўсё цудоўна.

ДЗЯЎЧЫНА *(яшчэ на тон ніжэй)*. Ты кахаеш мяне, і ўсё цудоўна.

ЮНАК *(раптам спыняе яе)*. Я цябе кахаю. *(Маўчыць.)* Устань насупраць мяне.

ДЗЯЎЧЫНА *(тая ж гульня, устае насупраць яго)*. Вось.

ЮНАК *(захоплена, пранізліва)*. Я кахаю цябе, я вялікі, я светлы, я моцны...

ДЗЯЎЧЫНА *(таксама пранізліва)*. Мы кахаем адно аднаго.

ЮНАК. Мы моцныя. Ах, як выдатна зладжаны свет!

*Маўчанне. Чуваць, быццам круціцца велізарнае кола – творца ветру. Ураган разносіць маладых людзей у розныя бакі. У гэты момант відаць, як наштурхоўваюцца адно на адно два нябесныя свяцілы, відаць ногі жывое істоты, што падаюць разам з ступакамі, рукамі, фрызурамі, маскамі, каланадамі, порцікамі, саборамі, загагулінамі. Усё гэта падае больш марудна, чым калі б яно падала ў беспаветранай прасторы. Пасля адзін за адным падаюць тры скарпіёны і, нарэшце, варопаўка і скарабей – гэты ўжо падае з маруднасцю проста адчайнай, ванітаваць нават хочацца ад гэтай маруднасці.*

ЮНАК *(крычыць з усяе сілы)*. Неба звар'яцела. *(Глядзіць на неба.)* Хадзем хутчэй. *(Штурхае Дзяўчыну перад сабою.)*

*Уваходзіць РЫЦАР у велізарных даспехах. За ім ідзе КАРМІЛІЦА. З-за велізарных цыцак, якія яна змушана падтрымліваць абедзвюма рукамі, ёй нават дыхаць цяжка.*

РЫЦАР Пакінь свае грудзі ў спакоі. Дай мне твае пакункі.

КАРМІЛІЦА *(пранізліва крычыць)*. А-а-а!

РЫЦАР. Дурная! Што на цябе найшло?

КАРМІЛІЦА. Нашая дачка там, з ім.

РЫЦАР. Ды няма ніякай дачкі, цішэй!

КАРМІЛІЦА. Кажу табе, што яны цалуюцца.

РЫЦАР. Дык, па-твойму, я павінен з глузду з'ехаць, раз яны цалуюцца?

КАРМІЛІЦА. Казірод.

РЫЦАР. Матрона.

КАРМІЛІЦА *(запускае рукі на дно сваіх кішэняў, гэткіх самых вялізных, як яе цыцкі)*. Сутэнёр. *(Кідае яму пакункі.)*

РЫЦАР. Есці..

*К а р м і л і ц а ўцякае.*

*(Дастае з кожнага пакунка кавалак швейцарскага сыру Раптам закашляўся і давіцца. З набітым ротам.)* Ік. Ік. Падай мне свае цыцкі. Падай мне свае цыцкі. Куды яна ўцякла? *(Уцякае сам.)*

*Вяртаецца ЮНАК.*

ЮНАК. Я ўбачыў, я даведаўся, я зразумеў. Тут народны пляц, святар, халодны шавец, зеляніна, цвінтар царквы, ліхтар бардэля, шалі правасуддзя. Я не магу болей!

*На сцэну выходзяць, бы цені, СВЯТАР, ВАРТАЎНІК, ГАСПАДЫНЯ публічнага дому, СУДДЗЯ, ЗЯЛЕНІЎШЧЫЦА.*

Я яе згубіў, аддайце яе мне.

УСЕ *(на розныя галасы)*. Каго, каго, каго?

ЮНАК. Маю жонку.

# КАПЕРНІК ТЭАТРА

Паэт, акцёр і мастак, Антанэн Арто найбольш вядомы як тэарэтык мастацтва і стваральнік знакамітага «тэатра жорсткасці». Гэта, магчыма, найбуйнейшая постаць, якую вылучыў на далягляд сучаснага еўрапейскага мыслення авангардны тэатр. Паводле Мераба Мамардашвілі, «такія душы можна было б назваць пакутнікамі думкі ці пакутнікамі духа. У XX стагоддзі было некалькі такіх душ. На мой погляд, у нейкім сэнсе Арто можна паставіць у адзін шэраг з Ніцшэ».

Што да мяне, дык я б далучыў да гэтай пары яшчэ і Ван Гога. І рэч не толькі ў падабенстве лёсаў: адзінота, бясконцыя няўдачы і пакуты, вар'ятня, пасмяротнае абвяшчэнне геніем. Зместам творчасці і наканаваннем кожнага з іх сталася рашучая пераацэнка каштоўнасцяў еўрапейскай цывілізацыі – адпаведна, у філасофіі, жывапісе і тэатральным мастацтве. Шмат агульнага маюць нават іхнія стылі пісьма: пагарда да бяскроўнай, высушанай формуламі акадэмічнасці, неверагодна шырокае асацыятыўнае поле, бязлітасная шчырасць думкі. А галоўнае, калі знаёмішся з іхнімі творамі – адчуваеш балючы апёк, ачышчальны шок не ў лепшых закутках уласнага духу, а за ім – дзівоснае разняволенне і здольнасць спраўдзіць, нарэшце, сваё няўцямнае наканаванне.

Здаецца, кожны твор Арто – гэта спроба ўсеабдымнага, татальнага ў сваёй шчырасці ўчынку. Мастацтва, на ягоную думку, чаго-небудзь вартае толькі тады, калі мастак не шкадуе свайго розуму, а таксама крыві і плоці дзеля метафізічнае і эстэтычнае рэвалюцыі ў самім чалавеку ды наўкола яго. Мастацтва патрабуе ад творцы самаахвярнасці, бо «калі я паэт ці акцёр, то не дзеля таго, каб пісаць або дэкламаваць вершы, але каб пражыць іх».

Пасля некалькіх гадоў удзелу ў сюррэалістычным руху Арто пакінуў ягоныя шэрагі і нават выдаў маніфест супраць сюррэалістаў: тым (прынамсі, напачатку) было дастаткова рэвалюцыі ў сістэме мастацкага мыслення, тымчасам як Арто імкнуўся змяніць само жыццё, ператварыўшы яго ў магічны рытуал. Бо сапраўдная творчасць, паводле яго, павінна быць не адмаўленнем ад удзелу ў рэчаіснасці і ўцёкамі з яе ў гульню бессэнсоўнымі словамі, але невычэрпнай крыніцай для самога матэрыяльнага свету. У «Лістах з Радэзу» ён кажа аб гэтым так: «Я хачу, каб паэмы Франсуа Віёна, Шарля Бадлера, Эдгара По ці Жэрара дэ Нерваля спраўдзіліся, і жыццё, нарэшце, выйшла на волю з кніг, часопісаў, тэатраў для набажэнстваў, дзе яно захоплена ў палон і ўкрыжавана».

Адной з галоўных прычын «задушлівай атмасферы, у якой мы жывём без надзеі на апеляцыю або ўцёкі», Арто называе

***1928*** *— пастаноўкі «Тэатрам Альфрэда Жары» спектакляў «Падзел пад паўднёвым сонцам» паводле 3-га акта ад найменнай п'есы П. Кладэля і «Сон, ці Гульня мары» паводле аднайменнай п'есы А. Стрындберга.*

*Чытае ў Сарбоне лекцыю «Мастацтва і Смерць».*

***1929*** *— «Тэатр Альфрэда Жары» памірае.*

***1929—1930*** *— паездкі ў Ніцу і Берлін на кіназдымкі.*

***1931*** *— на каланіяльнай выстаўцы ў Парыжы глядзіць прадстаўленне трупы фальклорнага тэатра з вострава Балі (Інданэзія, тагачасная нідэрландская калонія), якое літаральна перапватрыла Арто: рэжысёр убачыў у ім элементы свайго будучага тэатра.*

*Чытае ў Сарбоне «Мізансцэна і метафізіка».*

***1932*** *— публікацыя «Мізансцэны і метафізікі» (НФЧ).*

*Публікацыя Першага маніфеста Тэатра жорсткасці (НФЧ).*

***1933*** *— чытае ў Сарбоне лекцыю «Тэатр і чума».*

*Публікацыя «Тэатра і чумы» (НФЧ).*

***1935*** *— пастаноўка спектакля «Чэнчэ» («Сям'я Чэнчэ») паводле п'есы П.Б. Шэлі і хронікі Стэндаля.*

***1936*** *— паездка ў Мексіку. Чытае лекцыі ў сталічным універсітэце, піша серыю артыкулаў для мексіканскага часопіса.*

***1937*** *— ананімная публікацыя «Новых адкрыццяў Быцця».*

*Паездка ў Ірландыю. Высланы з краіны, накіраваны ў Гаўр у ціхамірнай кашулі, памяшчаецца ў*

ВАРТАЎНІК *(з тоўстаю пысай).* Вашу жонку?.. Ды вы жартаўнік!

ЮНАК. Жартаўнік? Можа, яна твая жонка?

ВАРТАЎНІК *(ляпае сябе па лобе).* Можа й так! *(Хутка выходзіць.)*

СВЯТАР *(адыходзіць ад астатніх, праводзіць рукою па шыі Юнака, нібыта ў спавядальні).* На якую частку яе цела вы спасылаецеся найчасцей?

ЮНАК. На Бога.

СВЯТАР *(збянтэжаны, пачынае размаўляць са швейцарскім акцэнтам).* Але гэта не робіцца больш. Мы не чуем гэта вухам. Трэба запытацца аб гэтым у вулканаў і землятрусаў. Наш брат насычаецца ў спавядальні маленькімі подласцямі людзей. І ўсё гэта, гэта ўсё жыццё!..

ЮНАК *(збянтэжаны).* Праўда... Гэта жыццё... Ну што ж, усё праходзіць.

СВЯТАР *(захоўваючы швейцарскі акцэнт).* Так, так.

*У гэтае імгненне на сцэну раптам апускаецца ноч. Зямля скаланаецца. Грукоча пярун, маланкі зіхацяць, вымалёўваюцца зігзагі, ва ўсіх накірунках. У гэтых зігзагах бачныя ўсе персанажы. яны ўцякаюць, замінаюць адно аднаму, падаюць на зямлю, зноў падымаюцца і бягуць, што ўтрапёныя.*

*Раптам чыясьці велізарная рука хапае за валасы гаспадыню публічнага дому, валасы загараюцца, і шэвелюра ў полымі разрастаецца на вачах.*

ЗВЫШНАТУРАЛЬНЫ ГОЛАС. Сука, паглядзі на сваё цела!

*Цела Гаспадыні публічнага дому пад ашклянелымі гарсэтам і спадніцаю паўстае перад усімі зусім голым і брыдзюшчым.*

ГАСПАДЫНЯ ПУБЛІЧНАГА ДОМУ Адпусці мяне, Божа. *(Кусае Госпада Бога за запясце.)*

*Сцэна — у велізарным фантане крыві. Успыхвае маланка, зіхаціць даўжэй за папярэднія, і відаць Святара — той жагнаецца. Аднаўляецца святло — усе персанажы мёртвыя, трупы іх раскінутыя на зямлі ва ўсе бакі. Застаюцца адно Юнак*

пашану да ўсяго напісанага, сфармуляванага ці намаляванага, – да ўсяго, што займела кананізаваную форму і знайшло ў ёй сваю смерць («Пакончыць з шэдэўрамі»). Калі апрача культурнай эліты ніхто не цікавіцца сучасным мастацтвам, літаратурай, тэатрам – гэта сведчыць, што яны канаюць у сваіх жорстка зафіксаваных формах, якія ўжо даўно ігнаруюць патрабаванні часу.

У «Лістах аб мове» Арто адзначае, што мы перажываем эпоху зруйнавання ўсіх былых каштоўнасцяў, калі жыццё распадаецца ля самога свайго падмурку. У маральным або сацыяльным плане гэта праяўляецца ў пачварным выбуху першасных жаданняў і вызваленні найбольш нізкіх інстынктаў. Мастацтва ж, і ў тым ліку тэатр, не зважае на маральны кіпень, дзе тонуць чалавечыя душы, – і таму справядліва, што публіка адварочваецца ад тэатра, які адасобіўся ад «патэтычнай і міфічнай рэчаіснасці». Арто кідае сучаснаму тэатру папроку жахлівым браку ўяўлення. Сапраўдная мэта тэатра – ствараць Міфы, на якія магла бы абаперціся наша шалёная эпоха, ствараць нейкую метафізічную прастору, больш трывалую і жыццядайную за саму «рэчаіснасць» (якую Арто ў прадмове да «Манаха» называе «экскрэментам духа»).

Культуролагі мяркуюць, што тэатр нарадзіўся як паступовая секулярызацыя рэлігійных цырымоній і рытуалаў. Цяпер, калі для заходняй цывілізацыі ўжо не засталося нічога святога, тэатр таксама страціў апошнія рэшткі сваёй магічнай ці літургічнай сутнасці, патануў у натуралізме і псіхалагізме, яшчэ больш трывіяльных і дробных за самое жыццё. Арто – магчыма, першы тэарэ-





*і Гаспадыня публічнага дому. Яны жаруць адно аднаго вачыма.*

*(Падае ў абдымкі Юнака. З уздыхам ачомваецца ад мацнейшага любоўнага спазму.)* Распавядзіце, як гэта з вамі здарылася.

*Юнак закрывае твар рукамі. Вяртаецца КАРМІЛІЦА. Пад пахаю яна нясе, бы які пакет, ДЗЯЎЧЫНУ. Тая мёртвая. Яна выпадае з рук Карміліцы на зямлю, разбіваецца, робіцца плоская, што ладка. У Карміліцы больш няма цыцак. І яна зусім плоская Тут уваходзіць РЫЦАР, кідаецца на Карміліцу і жудасна трасе яе.*

РЫЦАР *(люта).* Куды ты іх дзела? Дай мне мой швейцарскі сыр.

КАРМІЛІЦА *(какетліва).* Вось. *(Зрывае сваю адзежу.)*

ЮНАК *(хоча ўцячы, але дранцвее, што лялька, павісае ў паветры, гаворыць, бы вястун).* Не рабі зла маме.

РЫЦАР Праклятая. *(Закрывае ад страху вочы пакрывалам.)*

*Безліч скарпіёнаў выносяць знізу адзежу Карміліцы і пачынаюць множыцца ў гэтай адзежы. Адзежа поўніцца целам, тое пульхне, трэскаецца, шклянее і зіхаціць, бы сонца. Юнак і Гаспадыня публічнага дому ўцякаюць як трэпанаваныя.*

ДЗЯЎЧЫНА *(падымаючыся, аслепленая).* Дзева Марыя! Ах, гэта тое, што ён шукаў.

Пераклаў з французскай
Алесь АСТАШОНАК.

*псіхіятрычную лякарню ў Сотвіль-ле-Руане.*

***1938*** *— публікацыя зборніка «Тэатр і ягоны двайнік» — адной з галоўных кніг па тэорыі тэатра ў XX стагоддзі.*

***1938—1943*** *— знаходзіцца ў лякарнях.*

***1945*** *— публікацыя «У краіне Тахарумарас» (паводле мексіканскага падарожжа).*

***1946*** *— выбаўлены з лякарні ў Родэ.*

*Публікацыя «Лісты з Родэ».*

*Вяртаецца ў Парыж. Зноў трапляе ў лякарню.*

***1947*** *— выступ у Тэатры Старой Галубятні.*

*Піша эсэ «Ван Гог — самазабіты грамадствам».*

*Выстава малюнкаў Арто ў галерэі П'ер.*

*Публікацыя «Вяртанне Арто».*

*Запісвае на стужку выступ «Пакончыць з пракляццем Бога».*

***1948, студзень*** *— эсэ «Ван Гог — самазабіты грамадствам», атрымлівае прэмію Сэн-Бёва.*

*Сакавік — смерць непрызнанага і прызнанага генія Антанэна Арто.*

*«Арто быў вялікім паэтам тэатра, — скажа праз чвэрць стагоддзя вялікі рэфарматар сучаснага тэатра Гратоўскі, — дакладней, паэтам ягоных мажлівасцяў, менавіта тэатра, а не драматычнай літаратуры. Ён веставаў тэатру нейкі найважнейшы сэнс, прадугадваючы новае, магчымае ўвасабленне. Ён разглядзеў ягоныя туманныя далягляды».*

**Падрыхтаваў**
**Алесь АСТАШОНАК.**

тык і практык тэатра (потым будуць Ежы Гратоўскі, Пітэр Брук ды інш.), хто адчуў патрэбу ў новай сакралізацыі сцэнічнага дзейства і вяртанні праз яго да першавытокаў чалавечага духа. Ён верыць, што тэатр у сваім найвышэйшым праяўленні здольны ўздзейнічаць на «выгляд і формаўтварэнне рэчаў і цел», а ў рэшце рэшт – ачысціць цывілізацыю ад усіх яе шлакаў, матэрыяльных і духоўных, у своеасаблівым «акце экзарцызму, што неабходны нам, каб заклясці нашых дэманаў».

Дзеля гэтага трэба, перадусім, «пакончыць з ідэяй шэдэўраў, прызначаных для гэтак званай эліты, шэдэўраў, якія не разумее натоўп». Прычым пад «элітай» Арто фактычна разумее не толькі найбольш духоўна развітую частку грамадства, але і канстытуцыйную вяршыню кожнага чалавека – ягоны розум: у тым стане маральнага змардавання, які апанаваў усіх нас, «прымусіць метафізіку ўвайсці ў душы можна толькі праз скуру». Адзінае, што рэальна ўздзейнічае на чалавека або натоўп, падкрэслівае Арто, – гэта жорсткасць: «Прасякнуты ідэяй, што натоўп здольны штосьці разумець толькі праз эмоцыі і што бессэнсоўна, як гэта адбываецца ў традыцыйным псіхалагічным тэатры, спадзявацца на розум натоўпу, Тэатр Жорсткасці мае намер звярнуцца да пастаноўкі масавых відовішчаў <...>, закрануць надзённыя трывогі мас – трывогі нашмат больш пільныя і вострыя, чымсьці турботы якога-кольвек асобнага індывіда» («Тэатр і жорсткасць»). Калі высокае мастацтва хоча ізноў стацца патрэбным народу, яно павінна закранаць чалавечую істоту не менш глыбока і балюча, чым

# ЦЫТАТНІК

**Ад часін «Паэтыкі» Арыстоцеля сцэна разглядалася як матэрыяльнае ўвасабленне тэкста п'есы. Гэты латэнтны платанізм, зітаваны з ідэалогіяй гегемоніі Тэкста і Маўлення, пакінуў адбітак на ўсёй эвалюцыі заходняга тэатра, аж да сцэнічных адкрыццяў XX стагоддзя, адным з палкіх вестуноў якіх быў Антанэн Арто.**

**Патрыс Паві**

**Арто наўпрост кажа, што «тэатр ёсць хваробай», разумеючы пад гэтым, што сучасны тэатр павінен мець справу з «небяспечным і тыповым абшарам бесчалавечнага», выцiснутым у нашу падсвядомасць. <...> Але ён нездарма называе свой тэатр алхімічным: рыхтык алхімічная аперацыя па вытварэнні золата, тэатр жорсткасці мусіць «працэджваць і ўзганяць матэрыю» духа, узнімаючы яе да найвышэйшага градуса свабоды. Вось тады і ствараецца магчымасць – на ўзроўні калектыўнага бессвядомага – «павяргаць гледача ў магічныя трансы».**

**Сяргей Ісаеў**

**Арто, жадаючы знішчыць тыповую раней для еўрапейскага тэатра перавагу прагаворваемай мовы і пастаноўкі, якая не ўлічвала цела, спыніўся на палове шляху: ён звяртаецца да канструявання «прылады», якая ізноў станецца мовай, сістэмай знакаў, граматыкай жэстаў і «іерогліфаў». <...> Прымусіць цела загаварыць лексікай і сінтаксісам мімікі, песнапеваў, танцаў, як гэта адбываецца, прыкладам, у японскім тэатры Но,– зусім не значыць выратаваць яго ад зніштажэння, бо цела робіцца «цалкам» празрыстым, скура і плоць трымаюцца на шкілеце нябачнага і нерухомага духа.**

**Жан-Франсуа Льётар**

**Моладзь заўжды будзе збірацца пад гэтым загартаваным штандарам – Арто.**

**Андрэ Брэтон**

**Малюнкі Антанэна Арто – гэта крыкі, гэта імгненні барацьбы за пасмяротнае жыццё, народжаныя ў гушчары пакутаў. Яны выяўляюць намаганні мастака «перастварыць цела вакол музычнага шкілету душы». <...> Арто адпрэчвае партрэт у якасці партрэта. Паводле яго, «адзіны Ван Гог быў здольны выцягнуць з чалавечай галавы такі партрэт, які з'яўляў бы сабой слуп дыму ад выбуху сэрца. Уласнага сэрца». Сапраўдны твор заўсёды здзяйсняюць на самім сабе: ён непарыўна злучае мастака і мадэль.**

**Мішэль Эленбержэ**

**У тэатры жорсткасці Арто глядач змяшчаецца ў сярэдзіне, а відовішча атачае яго з усіх бакоў. Глядач, такім чынам, ужо не здольны канстытуяваць сваё відовішча, забяспечыць**

# ТЭАТР І НАВУКА

Сапраўдны тэатр мне заўсёды здаваўся выкананнем нейкага жудаснага і небяспечнага дзеяння, у якім, да таго ж, знікаюць нават паняцці тэатра і спектакля,

гэтаксама як уяўленне пра ўсялякую навуку, усялякую рэлігію ды ўсялякае мастацтва.

Дзеянне, пра якое кажу, мае за мэту сапраўдную фізічную і арганічную трансфармацыю чалавечага цела.

Навошта?

Таму што тэатр – зусім не твой парад на сцэне, дзе прыхавана і сімвалічна разгортваюць які-небудзь міф,

але сапраўды тыгель агню і плоці, дзе анатамічна,

у шоргаце касцей, членаў і частак словаў

пераствараюцца целы і паўстае фізічна

і ў натуральнай велічыні міфічнае дзеянне: стварэнне цела.

Калі добра мяне зразумеюць, то здолеюць убачыць у гэтым акт сапраўднага першапачатку – хаця тое ўсім нават здавалася б недарэчным і смешным з пункту гледжання звычайнага жыцця.

Бо ніхто ў нашую эпоху не можа даць веры, што цела могуць трансфармаваць не толькі бег часу і смерць.

Дык вось, я кажу ізноў: смерць – гэта выдуманы стан, які існуе толькі для ведзьміных панчохаў, для ўсіх гэтых гуру небыцця, якія атрымоўваюць прыбытак і ўжо колькі стагоддзяў харчуюцца з яго

І дзякуючы таму жывуць нібыта спяваюць.

Па-за ўсім гэтым цела чалавека ёсць бессмяротным.

# ЛІСТ
## да рэктараў еўрапейскіх універсітэтаў

Пане рэктар!

У цесным катуху, які вы завяце «Мысленнем», промні духа гніюць, быццам салома.

Досыць гульняў з мовай, сінтаксічных хітрыкаў, жанглёрства фармулёўкамі: прыйшоў час вынайсці велічны Закон Сэрца –Закон, які мае быць не звычайным законам і турмой, але ж павадыром Духа, заблукаўшага ва ўласным лабірынце Далей за ўсё, чаго магла б калі-небудзь крануцца навука – там, дзе ніткі розуму ірвуцца аб аблокі,– існуе гэты лабірынт, цэнтр сыходжання ўсіх сілаў быцця, апошніх атожылкаў Духа. Наш Дух блукае ў гэтым лабірынце рухомых і заўжды недарэчных сценаў, па-за ўсімі вядомымі формамі думкі, падпільноўваючы свае найбольш патаемныя і нечаканыя крокі – тыя, што выдаюць на адкрыццё, на подых ветру аднекуль, ці не з нябёсаў

Аднак парода продкаў атухла. Еўропа застывае і паволі ператвараецца ў мумію пад бінтамі сваіх межаў, заводаў, судоў, універсітэтаў. Замарожаны Дух трэскае спаміж каменных масніцын, з якіх на ім ладзяць падлогу І вінаватыя ў гэтым вашы сплясненыя сістэмы, ваша логіка два на два чатыры, вінаватыя ў гэтым вы Рэктары, трапіўшыя ў сіло сілагізмаў. Вы вырабляеце інжынераў, суддзяў, дактароў, якія не зважаюць на сапраўдныя таямніцы цела і касмічныя законы быцця; невідушчых ілжэ-навукоўцаў, якія няздольныя нічога ўбачыць па той бок зямлі, філосафаў, якія пнуцца перабудаваць Дух. Нават найменшая дзея спантаннай творчасці ёсць больш

**«каханне, злачынства, вайна або вар'яцтва».**

**Арто марыць аб тэатры, які не могуць абагнаць падзеі рэчаіснасці, які ўзвышаўся б над нетрываласцю часу: «Мы хацелі б стварыць з тэатра рэальнасць, якой сапраўды можна было б даць веры,– рэальнасць, якая ўрывалася б у сэрца і пачуцці тым праўдзівым і балючым апёкам, што прыносіць з сабой усялякае сапраўднае адчуванне». Дзеля гэтага тэатр павінен стацца не менш анархічным, крывапжэрным, вар'яцкім, злачынным, чым нашыя сны. Трэба, каб глядач быў прымушаны паставіць пад сумненне не толькі вонкавы невыразны свет, у якім ён штодзённа жыве, але і пачварны складнік уласнай душы, убачыў іншымі вачыма рэальнасць і «ўласнае паэтычнае месца ўнутры яе – сярод сноў ды іншых падзей».**

**Тэатральная сцэна ўяўляецца Арто, магчыма, адзінай на свеце суверэннай прасторай чалавечага існавання, дзе чалавек вызваляецца ад удзелу ў сусветным спектаклі, пастаўленым на гэтай планеце Богам, і бярэ на сябе самога адказнасць за ўсё, што там адбываецца. Унутры гэтак званай рэальнасці мы застаемся персанажамі не лепшага сну Вышэйшай Істоты, абудзіцца ж да ўласнага існавання нам павінен дапамагчы тэатр – і тэатр, безумоўна, жорсткі: «Калі я жыву, я не адчуваю, што жыву. Але ж калі я іграю – тады толькі і адчуваю, што існую. І што можа перашкодзіць мне паверыць у сон тэатра, калі я веру ў сон рэчаіснасці?.. Але тэатр падобны да вялікага стану бадзёрай свядомасці, бо тут я сам кірую ўсялякай лёсаўтваральнай выпадковасцю» («Тэатр Серафіма»). Загана традыцыйнага псіхалагічнага тэатра, паводле Арто, палягае менавіта ў тым, што ён пазбаўлены гэтых дэміургічных здольнасцяў.**

**І тут ідэі Арто выяўляюць сваю сугучнасць атэістычнаму экзістэнцыялізму Ж.- П. Сартра, для якога сцэна «тэатра жорсткасці» сталася адным з прыкладаў утворанай чалавекам шчыліны ў быцці, вакна ў «нішто», у пазаісны свет, непадуладны законам прыроды (артыкул «Міф і рэальнасць тэатра»). Паводле Сартра, толькі чалавек на гэтым свеце нясе ў сабе зерне свабоды, толькі ён мае неакрэсленую будучыню і, няздольны быць адным і тым жа, павінен бесперапынна выбіраць самога сябе, імправізаваць, бясконца мяняць ролі і маскі. Акцёр на сцэне «тэатра жорсткасці» – прыклад свабоднага, не санкцыянаванага ніякай вышэйшай інстанцыяй або ўласным мінулым, чалавечага існавання.**

**Сцэна Арто – гэта нейкая метафізічная прастора, дзе чалавек мае магчымасць не толькі «адваяваць» у Бога свой лёс, але нават перастварыць уласнае цела. Нашую няздольнасць памысліць экзістэнцыяльныя межы ўласнага існавання – нараджэнне і смерць, – Арто перажывае як «абкрадзенасць», прычым злодзеем з'яўляецца Бог: ён выкрадае ў чалавека ягонае цела, ягоныя нараджэнне і смерць, ягоную мову, якія ўцягваюцца ў працэс рэпрэзентацыі, замяшчэння, адлюстравання, падмены, двайніцтва. Кожны чалавек – толькі персанаж сусветнай гісторыі, якім іграе перад самім сабою – нараджаецца, гаворыць, памірае – Бог: «Я мяркую, што заўсёды ў апошнюю перадсмяротную хвіліну ў чалавеку з'яўляецца нехта іншы, каб пазбавіць яго жыцця» («Ван Гог: самазабіты грамадствам»).**

**Каб выкараскацца з гэтай**

**сябе аб'ектам свайго ўласнага зроку. Тут няма больш ні гледача, ні відовішча – ёсць свята. Усе рубяжы, што разрываюць класічную тэатральнасць (прадстаўляемы – прадстаўляючы, азначаемы – азначаючы, аўтар – пастаноўшчык, акцёры – гледачы, сцэна – зала, тэкст – інтэрпрэтацыя і г.д.), былі нейкімі этыка-метафізічнымі забабонамі, нейкімі зморшчынамі, выскаламі, сімптомамі жаху перад небяспекай свята. У прасторы свята жорсткасці, якую раскрывае парушэнне ўсіх забаронаў, здымаюцца рампы-парэнчы перад «абсалютнай небяспекай, што не мае дна». <...>**

**Тэатр Жорсткасці – гэта не толькі відовішча без гледача, але і прамова без слухача. Тут варта прыгадаць Ніцшэ, паводле якога «ў чалавека, што знаходзіцца ў стане дыянісічнай узбуджанасці, няма слухачоў – гэтаксама, як і ў аргіястычнага натоўпа: слухача, на якога разлічвае эпічны апавядальнік і, увогуле, апаланічны мастак. Гэта, хутчэй, у прыродзе дыянісічнага мастацтва – што яму няма справы да слухача».**

**Жак Дэрыда**

**Для Арто істотна унікальная сутнасць спектакля: ён непрадказуемы штовечар. Тэатр падпарадкоўваецца ціску ўсіх абставінаў і ператвараецца ў дзеянне, у якім выпадак набывае ўсе свае правы. Гаворка ідзе, такім чынам, аб тым, каб разглядаць тэатральную пастаноўку як неўзнаўляльны факт. Цырымонія ці паўтор саступаюць месца унікальнай прыгодзе кожнага вечара.**

**Жан-Поль Сартр**

складаным і патаемным светам, чымсьці якая-кольвечы метафізіка.

Адчапіцесь жа ад нас, панове: вы ўсяго толькі узурпатары. Па якім праве вы ўзяліся накіроўваць свядомасць і выпісваць дыпломы Духа?

Пра Дух вы не ведаеце нічога, вы не заўважаеце ягоных найбольш утоеных, найбольш істотных адгалінаванняў, тых выкапнёвых адбіткаў, што гэтак блізкія да нашых уласных вытокаў, тых слядоў, што зрэдку нам шчасціць знайсці ў найцямнейшых пакладах нашага мозга.

Нават ад імя вашай логікі мы кажам вам: Жыццё смуродзіць, панове. Зірніце на вашыя твары, паглядзіце на вашу прадукцыю. Скрозь сіта вашых дыпломаў праходзіць змарнелая, згубленая моладзь. Свет паранены вамі, панове, і для гэтага свету тым нават лепей, але хай жа б ён крыху менш зважаў на вучоную галаву чалавецтва.

# ПРА САМАГУБСТВА

Перад тым як забіваць сябе, я прашу, каб мяне пераканалі ў маім існаванні: я хацеў бы быць упэўнены ў тым, што памру. Жыццё мне ўяўляецца адно толькі згодай на бачную зразумеласць рэчаў і на іхняе злучэнне духам. Я ўжо не адчуваю сябе неадольным скрыжаваннем рэчаў; смерць ачуньвае, адасабляючы нас ад прыроды, але што калі я ўжо толькі рэшта болю, праз якую рэчы не паміраюць?

Калі я заб'ю сябе, то не дзеля таго, каб сябе знішчыць, але каб сябе аднавіць: самазабойства толькі мае дапамагчы мне шалёна адваяваць сябе, нястрымна ўварвацца ва ўласнае існаванне, апярэдзіць няўпэўнены зрух Бога. Самазабойствам я наноў праектую сябе ў прыроду, я ўпершыню надаю рэчам форму маёй уласнай волі Я вызваляю сябе ад умовы мець гэтыя органы, што так няўдала прыладжаны да майго «я», і жыццё для мяне ўжо не будзе нейкай абсурднай выпадковасцю, дзе нельга думаць іншае ад таго, аб чым мне дазволена думаць. Такім чынам я абіраю ўласнае мысленне і накірунак для сваіх дзеяў, імкненняў, сваёй рэчаіснасці. Я змяшчаю сябе паміж пачварнасцю і прыгажосцю, паміж ліхам і дабром Я раблюся нібыта падвешаным, без аніякага нахілу, нейтральным, раблюся здабычай раўнавагі добрых і благіх памкненняў.

Паколькі жыццё само па сабе нічога не вырашае, яно не мае нічога ад існавання па выбары, згодзе, уласным рашэнні.

Жыццё – толькі шэраг жаданняў і супрацьлеглых сілаў, маленькіх супярэчнасцяў, якія да чаго-небудзь прыводзяць або знікаюць у залежнасці ад абставінаў гнюснай выпадковасці. Ліха закладзена ў кожным з нас няроўна – як геній, як вар'яцтва. Дабро, як і ліха,– вынік абставінаў і больш ці менш моцных дрожджаў.

На маю думку, агідна быць створаным і жыць, калі адчуваеш сябе нават у найменшых праявах, у найменш асэнсаваных момантах свайго існавання няўмольна прадвызначаным. У рэшце рэштаў, мы адно толькі дрэвы, і зусім верагодна, што на якім-небудзь заломе дрэва майго радаводу пазначана, што ў зададзены дзень я заб ю сябе.

Нават сама ідэя свабоды самагубства валіцца, нібы падсечанае дрэва. Я не ствараю ні часу, ні месца майго самазабойства. Я нават не выналходжу сам гэты намер – дык ці адчую я што-небудзь, калі мае карані абарвуцца?

Магчыма, у гэты момант маё існаванне растворыцца,

**Адныя кажуць пра ягоную творчасць: гэта не творчасць, таму што ён шызафрэнік; другія пярэчаць ім: гэта літаратура, таму ён не шызафрэнік. У абодвух выпадках мае месца інфантыльнае і рэакцыйнае ўяўленне аб шызафрэніі і неўратычна-таварнае ўяўленне аб літаратуры... Арто ўяўляе сабой знішчажэнне псіхіятрыі менавіта таму, што ён шызафрэнік, а не таму, што ён такім не з'яўляецца. Арто ёсць завяршэннем літаратуры менавіта таму, што ён шызафрэнік, а не таму, што ён такім не з'яўляецца. Ён, Арто-шыз, даўным-даўно прабіў сцяну азначаючага...**

**Жыль Дэлёз, Фелікс Гватары**

**Бядой Арто было тое, што яго хвароба, параноя, адрознівалася ад хваробы века. Цывілізацыя хворая на шызафрэнію, г.зн. на адрыў розуму ад пачуцця, душы ад цела. Грамадства не хацела дараваць Арто тое, што ён быў хворы інакш.**

**Ежы Гратоўскі**

**Гаротны Арто ўжо сядзеў у вар'ятні, а на вуліцы Парыжа ўвайшлі прывіды яго ўласных прадказанняў і прадбачанняў. Так што альбо вы разыгрываеце ўсё ў сваім уяўленні і тым самым утаймоўваеце пэўныя сілы, альбо гэтыя сілы, кроў і жорсткасць будуць не ў тэатры, а ў рэальнасці.**

**Мераб Мамардашвілі**

**«мембраны» і адрадзіцца да ўласнага жыцця, неабходна звярнуцца да пярэдадня скрадзенага Богам нараджэння, да сваёй сцвярджальнай жыццёвай сілы, і пярэдадзень гэты ёсць пярэдаднем прадстаўлення (прадстаўніцтва) і заходняй цывілізацыі ўвогуле. Як і Ніцшэ, Арто хоча пакончыць з перамальніцкім статусам мастацтва, з арыстоцелеўскай эстэтыкай, бо «мастацтва – гэта не імітацыя жыцця, але жыццё – гэта перайманне нейкага трансцэндэнтнага прынцыпу, з якім нас ізноў злучае мастацтва». І менавіта тэатр павінен стацца першапачатковым месцам гэтага разбурэння перамальнасці; бо болей, чым якое-кольвек іншае мастацтва, псіхалагічны і логацэнтрычны еўрапейскі тэатр быў апанаваны ідэяй адлюстравання і ўзнаўлення, што высмоктваюць саматоеснасць артыста і пастаноўкі.**

**Тэатр жорсткасці не ёсць нейкім прадстаўленнем. Гэта само жыццё – у той меры, у якой яно непадуладна разуменню, фіксацыі і перайманню. Тэатральная ідэя павінна пранізваць і аднаўляць кожную часцінку існавання і плоці акцёра (наколькі магчыма – і гледача) праз, свайго кшталту, перавыхаванне органаў: органы для Арто – гэта прадстаўнікі цела, агенты Бога-злодзея. Ідэю «цела без органаў» потым развілі ў творы «Ка-піталізм і шызафрэнія» Ж. Дэлёз і Ф. Гватары, скарыстоўваючы яе побач з «машынай жаданняў» і «рызомай» у якасці мадэлі суб'екта, адрознага ад картэзіянскага і буржуазнага «cogito ergo sum». Крызіс сучаснай цывілізацыі яны таксама тлумачаць агульнай стратай самаідэнтычнасці, паразітаваннем на ўжо гатовых формах рэчаіснасці і культуры.**

**Адзначым, што богаборац Арто, парадаксальным чынам, выступае супраць рэпрэзентацыі поруч з царквою, якой ва ўсе часы не падабалася, што акцёр прадстаўляе на сцэне іншых людзей і праз гэта страчвае саматоеснасць уласнай душы.**

**Вельмі важнае пытанне – стаўленне Арто да слова ў тэатры. Паводле яго, трэба аднавіць сцэну (пастаноўку) ва ўсіх яе правах, большасць якіх узурпаваў драматургічны тэкст. Сапраўдная тэатральнасць ёсць чымсьці супрацьлеглым літаратуры, тэкставаму тэатру, дыялогам і ўвогуле апавядальнасці. Сучасны тэатразнаўца П. Паві следам за Арто канстатуе, што еўрапейскі тэатр на працягу доўгага часу, ад Арыстоцеля да пачатку нашага стагоддзя, быў пераважна логацэнтрычным: галоўным зместам гэтага мастацтва былі перадача і ўспрыманне літаратурнага тэкста, а ўсё, што нельга прамовіць (чаго няма ў дыялогах), – апынулася дзесьці на заднім плане. Арто адным з першых узняў паўстанне «цела» п'есы (г.зн. спектакля) супраць яе «душы» (драматургічнага тэксту). Вышэйшым арганізатарам сэнсу тэатральнай падзеі ён абвясціў не задуму драматурга (у сусветным плане – Бога), а сцэну і ўсё, што можна з яе зрабіць падчас пастаноўкі. П. Паві назваў гэта «капернікавым пераваротам» тэатра.**

**У тэксце «Тэатр і культура» Арто кажа: «Разбурыць мову, каб крануцца жыцця,– гэта і значыць займацца тэатрам». Вызваленне ад дыктатуры драматургічнага тэксту непазбежна вядзе да знішчэння мяжы паміж сцэнай і залай, акцёрам і гледачом (што і засведчыў далейшы вопыт авангарднага тэатра).**

**Прызначэнне тэатра – не па-**

аднак – калі яно застанецца суцэльным – як змогуць адгукнуцца мае зруйнаваныя органы, якімі немагчымымі органамі заўважу я гэты разрыў?

Я адчуваю на сабе подых смерці нібы нейкі струмень, нібы вокамгненны кідок маланкі, магутнасць якога я нават не магу сабе ўявіць. Смерць мроіцца мне асалодай, віхруючымі лабірынтамі І дзе ж там, сярод іх, думка пра маё існаванне?

Але вось, знянацку, пан-Бог – нібы ўдар кулаком, нібы ўзмах касой святла. Я свядома развітаўся з жыццём, я наважыўся перажыць уласны лёс!

Ён, гэты Бог, авалодаў мной ажно да абсурду; ён прытрымліваў маё жыццё ў пустэчы адмаўленняў і бязлітасных выракаў ад сябе самога, ён вынішчыў ува мне нават найменшыя памкненні свядомага, прачулага жыцця. Ён прымусіў мяне быць нейкім аўтаматам, які спраўна дзейнічаў, але ўсё ж такі аказаўся здольным адчуць разрыў сваёй падсвядомасці.

І вось тады я захацеў давесці, што жыву, захацеў уз'яднацца са звонкай сапраўднасцю рэчаў і зламаць няўхільнасць уласнага лёсу.

А гэты Бог, што кажа ён?

Я не адчуваў жыцця; колазварот усялякай духоўнай ідэі паўставаў перада мной быццам перасохлая рака. Жыццё не было для мяне мэтай, не было формай яно было шэрагам разважанняў. Развагі, што марна беглі па коле, і развагі, што не беглі, а былі ўва мне нібыта нейкія «комплексы пачуццяў», якія мая воля няздольная была зафіксаваць.

Нават каб дайсці да стану самагубства, мне неабходна было дачакацца вяртання майго «я», мне патрэбна свабодная гульня ўсіх складнікаў майго існавання Бог увагнаў мяне ў роспач, нібыта ў сузор'е тупікоў, чые промні сыходзяцца на мне Я не магу ні памерці, ні жыць, ні нават жадаць памерці ці жыць. І ўсе людзі да мяне падобныя.

### ДРЫГОТКА

Здавалася, ужо немагчыма нічога паправіць:
Мяне раздзіралі жах, туга і адчай,
І меліся яны панаваць
Над усёй жывой рэштай маёй душы.
Бог схаваўся тады ад мяне
Я бачыў толькі нейкую бездань,
У якую выцякаў мой лёс,
І ляжаў там, нерухомы,

**ведамляць гледачам новыя звесткі аб рэчаіснасці, але запрашаць, нават прымушаць іх да саўдзелу ў перастварэнні яе нанова. Такім чынам мова сцэны вызваляецца ад неабходнасці быць зразумелай гледачам – прынамсі, на ўзроўні рацыянальнага мыслення. Глядач павінен атаясамліваць сябе не з персанажам, а з целам і голасам акцёра, якія не паддаюцца ніякаму раскадаванню, але ўвасабляюць падсвядомыя мары і жаданні. Арто верыць у творчую магутнасць цела і голасу, вызваленых ад тыраніі тэксту. Ён шукае «мову, ранейшую за словы». На сцэне тэатра жорсткасці словы павінны саступіць месца крыку акцёраў і, адпаведна, целы з дапамогай жэстаў ужо не распавядаюць нешта, але бязмоўна крычаць («Афектыўны атлетызм»).**

**Галоўная спадчына Антанэна Арто, як мне падаецца, – усёткі не тэатральныя пастаноўкі і тэорыі, а кнігі, дакладней – цудоўна распрацаваны стыль «шызапісьма» (але гаворка аб ім заслугоўвае асобнага артыкула). Гэты дзіўны чалавек, апантаны ідэяй творчасці, ператварыў у нейкі спектакль тэатра жорсткасці свой уласны лёс. Ягоныя кнігі не распавядаюць, яны крычаць. І вельмі шкада, што сярод беларускіх пісьменнікаў толькі адзінкі маглі б паўтарыць, пацвярджаючы лёсам, пякучыя словы Арто: «Мы павінны быць падобныя да зведаўшых пакаранне смерцю, якіх спальваюць, а яны ўсё працягваюць падаваць натоўпу знакі са сваіх вогнішчаў».**

**Юрась БАРЫСЕВІЧ**





Пакуль усё, што існавала ў часе,
Не ўсмактаў абсалют.

***

Хто хоць аднойчы ў глыбіні чарговых прыпадкаў нуды, на дне хай асобных мрояў, не зведаў смерць як нейкае дзівоснае і балючае адчуванне, якое ў прасторы духа не можа растварыцца ні ў чым? Вы мусіце ведаць гэты камяк тугі, што хвалямі падступае да горла і раздзьмувае вас, нібы пустую скуру, нейкім бязлітасным мехам. Туга набліжаецца і адбягае, з кожным разам усё мацнейшая, усё больш цяжкая і сціскаючая. Гэта само нашае цела, расцягнутае з апошніх сіл і прымушанае, тым не менш, пашырацца яшчэ далей. Гэта нешта накшталт банькі, якую прыставілі да душы, і боль ад якой дабягае, нібы серная кіслата ў крыві, да апошніх ускраін адчувальнасці. І душа не мае нават чым сябе дабіць. Бо гэтае расцягванне само па сабе – мана. Смерць не задавальняецца нагэтулькі проста. Гэтае раздзьмуванне ў фізічнай прасторы дае нам перакулены вобраз таго сціскання, што павінна апанаваць духам ва ўсім жывым целе наўсцяж.

***

Я вывучаў майстэрства гадзіншчыка душы і занатоўваў толькі боль няўдалых спробаў яе пераналадзіць.

Маё існаванне страціла дно. Тыя, хто лічыў мяне здольным адчуваць усепаглынальны, прыгожы боль, адчуваць тугу ва ўсім целе, тугу як мешаніну памкненняў, як кіпень раздробленых сілаў, а не як нейкі падвешаны стан

– які працінаюць бязладныя спусташальныя імпульсы, што нараджаюцца пры параўнанні маіх магчымасцяў з бездання расчыненага абсалюту

(пры параўнанні маіх сіл з неабсяжнай прасторай),

калі няма больш нічога апроч бязмежнай прорвы, здранцвення і холаду,–

усе тыя, хто не верыць, што яшчэ я жывы, хто мяркуе, што я дэградаваў да апошняй ступені, хто ўпэўнены, што мяне назаўжды агарнулі раз'юшаны вэрхал і лютая цемрадзь, з якой я змагаўся, –

згубіліся ў поцемках чалавека.

### ПОСТСКРЫПТУМ

Хто я?
Адкуль я прыйшоў?
Я Антанэн Арто
і варта мне гэта прамовіць
як я ўмею гэта прамовіць
адразу ж
Вы ўбачыце як маё цяперашняе цела
разляціцца аскепкамі
і як збярэцца
з дзесяці тысячаў агульнавядомых абліччаў
новае цела
у якім вы не зможаце
ужо ніколі
на мяне пазабыцца.

**Пераклаў з французскай**
**Юрась БАРЫСЕВІЧ.**

ЯНЫ | Казімеж БРАКАНЕЦКІ

# СШЫТКІ АДЗІНАГА

*(урыўкі)*

## I

### 1

Сум мяне ахоплівае, як успомню Год, уяўлю наступныя, калі будуць даступнымі мне толькі дробінкі праўды, урыўкі сэнсу, у той час як прагнем усё ведаць, зразумець, а вопыт з нетрываласцю наклікае трывогу, што за гэтай нашай працаю крохкай ды ўтомнай – праглядваюцца будні гадоў, запоўненых ахвярнасцю і мітуснёю дзеля таго толькі, каб яшчэ глыбей вярнуцца ў небыццё. Ах, нашмат лепшая сучаснасць, інтуітыўнае ўваходжанне ў адчуванне таго, што Ёсць, адкрытасць на прыбой хвілі Аднак тады імгненна паўстаюць перад табою цэлыя тысячагоддзі, дамагаючыся веры, калі я, так як і яны, абдораныя чалавечай пакутлівасцю, раптам губляюся ў тым, што знаходжуся сярод непазнавальнасці, ніколі не будучы застрахаваным ад уварвання бяссэнсавых Пустэч.

### 2

Іншы раз бачу я дзеі з далёкага мінулага. Учора паказалася мне жанчына з дзіцём на руках, якая роспачна сядзела ля руіны свайго дома. Некуды аддаляліся вершнікі, а думкі мае зліваліся з пакутамі гэтай, памерлай вякамі назад, жанчыны, цалкам займаючы мяне імкненнем зразумець яе і сваю чалавечую бяздольнасць.

### 3

Магілы на жыдоўскім могільніку ў сонечны поўдзень. Попахі і пахі ад заняпалай урадлівай зямлі, чарвякі ў трэшчынах, спякота над набрынялай лістотаю. Натоўп паўкруглых помнікаў з паабіватымі габрайскімі літарамі. Пашчэрбленых і застрэмленых у траўе, пахіленыя і расколатыя нагадваюць яны дзе-нідзе кулакі магутнага старажытнага бога. Твары без вачэй і таемнасць слова, і бяздонне выцякаючай слязы. Пакінутыя труны распадаюцца ў белых вятрах Еўропы, спазнаўшай крэматорыі.

### 4

Ніадкуль паратунку. Падхопліваецца замець, усё бліжэй майго рассвечанага акна. Тры Каралі ўжо згарэлі, зматлашылі і малога чырвонага Ісуса Канец эры чаканняў і тайніцаў, канец эры, у якой чалавечае зло дасягнула самасвядомасці, канец у рэшце рэшт веры ў гісторыю.

### 5

Чакаючы ласкі, магчыма жыць. Унутры свету лінія жыцця адсоўвае іншыя, не могучы засланіць тую праўду, якою ёсць я сам. Уночы чуў я, калі маё сэрца ў сне дакранулася зямлі

### 6

Маё разуменне і адчуванне болю чалавечае гісторыі, пакутаў асобы, прыводзяць да





пярэчання ўсякім аўтарытэтам (рэлігійным і свецкім) аўтарытарным. Жыццё ўяўляе сабою рэальнасць, а тое, што незразумелае ў ім, і ёсць чалавечым. Дух безасабовы, таму і вяртаюся я ў маю свабоду, бо сутнасць яе ў прыводжанні трансцэндэнцыі ў прысутнасць, і толькі тады адкрываю для сябе веліч жыцця.

### 7

Вандраванні лясамі і лугамі ўздоўж ракі Ваданг Казюля і вавёрка, перастук з дзятлам, затым – дарогаю, што побач нейкіх раскопак; гурты коней (першы з боку прадчуў мяне, калі стаў я і глядзеў), пахі ручаіны ў полі, яшчэ чысцюткай: бераг утоптаны каровамі, водарасці ў безупыннай зрушнасці плыні, водар ад зёлак у сонцы Затым – сцяжына цераз букавы лес; на лаўцы дзяўчына побач з хлопцам, надта маладыя абое, яго галава, чамусьці раптам павелічэлая, ляжыць у яе на каленях. Потым нейкая закаханая пара ў пажылым узросце, яна колерна разадзетая смяецца рэдкімі, вялікімі зубамі, ён жа з застылым, доўгім і дурным тварам Трымаюцца абеaccording неяк ненатуральна, таму ідуць няздручна і цяжка. Адно аднаму належаць. Святло зверху размывае іх матэрыяльнасць, знікаюць за павароткаю. Нялёгка выказаць тугу за прыгажосцю і ўстойлівасцю. Ці паспадзявацца наогул на здзяйсненне? А мо жыццё не болей чымсьці пастка? Саладосцю цела? Усе будуць збаўлены.

### 8

Жыццё сапраўднае і Бог сапраўдны, хаця і непрысутны. Жыццё ёсць ува мне (да часу, да пары), Бог жа – не (толькі да пары?) Аўтэнтычнае жыццё кліча ў трансцэндэнтнасць як неабходную ўмову пацвярджэння чалавечае адказнасці за жыццё і свет Нават за нябыт, які лягчэй зразумець, чымсьці чалавечае, расліннае ці звярынае існаванне

Распяты Ісус: лёс Бога трагічны. Толькі такім чынам я ў стане спазнаць сваю смяротнасць як канчальны адыход, пакінутасць, калі і сам Госпад аддадзены ў ахвяру чалавечаму знішчэнню. Перверсійная, цямнотная, тлумна-больная гісторыя ўзыходжання рэлігіі цераз натоўп на вышыні неспакойнага сумлення

### 9

У шэсцьдзесят трэцім годзе Пампей увайшоў у іерусалімскі храм і ўбачыў, што ў самым святым месцы яго пуста, няма Бога Адкрыць Бога ў фігуратыўным выглядзе – гэта ведаць, што Бог цялесны, абмежаваны, з паняццямі, і што ягоныя законы, іх дзеянне магчыма прадбачыць па-зямному, нягледзячы, мабыць, на некаторую нават магічнасць. Розніца паміж законамі рымскімі і жыдоўскімі – гэта анталагічная розніца Жыдоўскі Бог быў Жывым Богам, дзеючым у гісторыі, Бог Рыма – гэта разнастайная фіктыўныя багі, якімі карысталіся ўлады дзеля прапаганды. Жыды ведалі, што найвялікая моц у Бога-асобы, хоць і нябачнага.

Рыльке марыў пра Бога ўсёразумеючага, спрактыкаванага, племяннога, прысутнага ў якасці продка цывілізацыі, а самую веру ён не прымаў, лічачы яе прымусам у зносінах з Богам. «Існуе любоў і толькі любоў». Жыды, арабы, іншыя народы Амерыкі ці бо Усходу ведалі Бога ў якасці свайго продка. У нашу сучаснасць Бог знаходзіцца па-за намі, нябачны і чужы. Рыльке жадаў – а характэрнае гэта германскаму рамантычнаму менталітэту – як толькі можа жадаць таго чалавек, што паспытаў нябыту і вяртаецца да чалавека як амаральнай істоты, патэнцыяльна боскай значыць, хоць без стыгмата, пацвярджэння, што ён – аўтэнтычны Бог. Раз не магу я вярнуцца ў веру продкаў у жывога Бога, у дзяціную веру, дык пачуваюся неабавязаным пераймаць непрысутнага Стваральніка: у творчасці і ў знішчальнасці

Прадчуванне Бога можна праектаваць у будучыню, дыслакуючы яго ў фінальным пункце сусветных падзей, як рабіў тое Шардэн або Жыд, які ў апошніх сваіх запісах занатоўваў: Бог стварае чалавека, каб ён стварыў Яго; Бог – гэта мэта чалавека; Бог узвысіў хаос да ўзроўню чалавека, каб чалавек узвысіўся пасля аж да самога Бога.

Ва ўсім гэтым не хапае кантакту чалавека-асобы з Богам, таксама рэлігійнай практыкі, г.зн. асабістае адказнасці за прынятае рашэнне

### 10

Волевыяўленне Пераможца атрымае крыху з прыхаванае манны і белы каменьчык

атрымае, а на каменьчыку тым будзе напісанае новае яму імя, якое ніхто не ведацьме, акрамя таго, хто яго атрымае.

У кожнага, нават у прайдзісветнага злыдзеня, не знікае тая перакананасць, што ў праўдзівае яго душы ёсць нейкае чыстае, неапаганенае месца, след добрых думак ды пачуццяў І гэта так. Але ці тыя, глыбока прыхаваныя, праявы чалавечнасці магчыма адшукаць, калі канкрэтныя ўчынкі чалавека пярэчаць гэтаму? Гэта таму той белы каменьчык з новым імем, і таму татальная метамарфоза застанецца вышэйшым клічам і надзеяй чалавека. Назаўсёды застаўся вобраз збаўленага разбойніка на крыжы! Так вось каратаецца чарговы марны або непатрэбна пражыты дзень. Таму толькі эсхаталогія лучыць вядомыя з невядомымі маральныя перспектывы і час, вечнае з будзённым патэнцыяльнае са здзейсненым. Не абстрактная эсхаталогія, надуманная, тэалагічная, а рэальная, штодзённая, цяжказразумелая, неапазнавальная без пастаянна пільнай экзістэнцыяльнай уявы.

Паэзія – гэта ўваскрашэнне ў Схове!

**11**

Weil: той, у каго няма Бога, не можа адчуць Яго адсутнасці. Веда пра Бога – гэта адначасна містычная веда, негатыўная і цалкам сучасная, прасеяная ўстрывожаным розумам скептыка ў дваццатым стагоддзі Яе палкая стараннасць нарастае разам з адмаўленнем жыцця, а патрэбнасць у яе зніштажэнні нарастае разам з дэманізацыяй матэрыялістычных і грамадскіх сілаў. Weil дапускае, што ўяўленне ўжо ў сваіх пачатках ёсць нечым дрэнным, перашкодным у спагадзе. Яна забываецца – або так хоча – у тым, што ўяўленне можа быць памосцем у трансцэндэнтнасць, бо ўвасабляе рэчаіснасць створаную альбо мінулую, ачышчае яе, і таму прыдае ёй велічыню лёсу, неабходную метафізічнасць. Метафізічнай ёсць толькі рэальнасць, камунікацыя ў абсягах прамінання! Калі паэт сведкам жыцця, дык у чым жа страх? Уяўленне можа належыць матэрыяльнай катэгорыі Ачышчаць жыццё з выпадковасці

**12**

Прыступ смерці пару гадамі назад уяўляў сабою нешта вонкавае і жорсткае. Адбыўся з вантробаў майго пакалечанага ды неўратычнага жыцця, якое пакутавала ад манатоннага болю і аўтаагрэсіі Такая смерць лічыцца негатыўным здарэннем, прычына якому ў адсутнасці любові чалавека да самога сябе

**13**

Бог Айцец і Ісус Сын, убачаныя ў аспекце смерці, з'явіліся б самым высокім уяўленнем пра чалавека Захаду, знакаміта ўсведамляючага ўласную смяротнасць і выключнасць. Разам жа: Айцец і Сын уяўляюць сабою запярэчанне паміранню Хрысціянства грунтуецца на ідэі ўваскрашэння, без якога любоў да Бога была б ашуканствам. Маці Божая, Божамаці ад непамятных часоў атаясамліваецца з наступам смерці хтанічнай, цалкавітай. Перамога ў хрысціянстве Айца-Сына над Маці – гэта перамога індывідуальнага, гераічнага, асабовага існавання насупраць законам Прыроды, гэта перамога ўваскрашэння асобы над векавечным вяртаннем цела-маці-прыроды-смерці. Жыдоўскі Бог ніколі не мог быць распятым, укрыжованым, каб пасля сімвалічна ды рэальна «спажывалі» Яго як ахвяраванне божае Таму жыды адкінулі гэтае аб'яўленне Ісуса і Паўла.

**14**

Гэта праўда, што, калі хочаш верыць, адкінуўшы традыцыйныя хрысціянскія ўяўленні (догмы пра Страшны Суд, першасны грэх, Хрыстовае ўваскрашэнне), адхіліўшы таксама Царкву як зямную ўстанову, звычайныя рэлігійна-патрыятычныя роздумы ды забабоны, трэба тады паўстаць перад Ісусам Хрыстом і прыняць яго навуку пра братэрства дзеючае праз святасць, бо паверыць у Хрыста – гэта паверыць ва ўласнае пакліканне нават ва ўбостве і абсурдзе, калі ўсё зводзіцца да звароту «прагну» і «не пакідай мяне».

**15**

Тое, што дагэтуляшні Бог памёр, тое, што я чалавек, – дае прычыну дзеля моцных пачуццяў, раптоўных, бы ўдар крыві ў мазгі Хацелася б адшукаць гэты новы пункт





гледжання, ад якога пачалася б іншай зямля, бацькаўшчына, іншы я, свет, гарачасць пажаданняў ды здзяйсненняў Вопыт ад уласнае нікчэмнасці і магутнасці – гэта падман натуры, якая гібее, перастраўляе, адступае і наступае, спакушае.

**16**

Праўда – гэта існаванне. Вызвалі яе і сябе, уедліва вызвалі, вызвалі сваю фізічнасць, выкажы таемныя моцы, дазволь жыць і памерці свайму целу, якое думае. Не ўступай яму «я» на прасторах смяротнасці, не адкідай сябе, бо адвярнуцца ад цябе людзі і свет як сутнасць пераменаў. Кінь падзелы на Бога, духа, матэрыю; безвыніковыя яны і лішнія. Не падзяляй, не памнажай, не абмяжоўвай Увайдзі ва ўнутранае святло, каб атрымаць магчымасць лепей выказаць вонкавую рэальнасць. Будзь адухоўлены, а не псіхалагізаваны Думаючае цела ў плыні пераменаў.

**17**

Паэзія – гэта фізічны боль, практыка, у якой праўда будзе болем, і няхай толькі верне яна свету рэальнасць, а думкам свабоду, а дзеянню маральны скутак, гэтак жа палітычны і духоўны. Няхай пакіне мяне хаос і зніштажэнне, няхай не буду я агрэсіўным, няхай адыдзе ад мяне прэч усё зло мінулага і цяперашняга свету, якое надта прыцягвае мяне, бо без яго не ўмею ўжо жыць.

**18**

Адно несумненнае: Бог на гэтым свеце як Санкцыя непатрэбен мне і не прыдатны як апраўданне майго існавання. Яго магло б зусім не быць. Маё этычнае развіццё не абумоўленае надзеяй на поўнае здзяйсненне, таму што ў жыцці няма ўлоўнага развіцця душы, але толькі ўніканне ў штораз складанейшыя і драматычныя пажаданні цела-асобы. Метафізічнае цела – гэта малы зямны Бог, які трансцэндэнтуе сваю пакорлівасць. У самім мяне дагнівае астатак рэлігійнасці, гэтак жа маўлення і спадчыннасці трывогі, якую сам нашу і якая не дае мне паспрабаваць новых спосабаў у пазнанні рэчаіснасці. Што можна адкрыць. толькі сябе, сваю пагаджальнасць з жыццём альбо несціханы манерны бунт? Новую якасць духоўнага жыцця, дзякуючы культу «Я»? Чалавека без велічы і ўпэўненасці, чалавека пытаючага пра дарогу, пакінутага на збочыне тымі, што ўсё ўжо ведаюць? Тымі, хто будзе ўкрыжоўваць, і тымі, хто будзе самім крыжам?

Маё маўленне – гэта мая рэлігія. І гэта смерць чыніць тое, што я шалёна вяртаюся пад дзверы і стукаю ў іх, хоць ведаю, што гэтымі дзвярыма ёсць толькі маўленне майго слабога цела, якое ўночы пранізліва ясна думае Цёмнае свяціла цела.

**19**

Кожная мая думка ёсць прыхаванаю думкаю пра смерць. Нязменна. Паасобны чалавек і грамадства – гэта не разнастайнасць суадносінаў паміж панам і рабом, тут не існуе дыялектыка свабоды, але рэсентыменты· сапраўдныя пакуты і ўяўныя, разам з іх гістарычнымі паслядоўнасцямі. Пакутую, значыць існую – закон пакалечаных народаў, іх тоесамасць. Я выключэнне, значыць маю права прыносіць пакуты іншым, людзям або народам. Комплексы юдэяхрысціянскай дыялектыкі зводзяцца да ўзроўню палітыкі. Мэд: Здаецца, што чалавечы род наогул шмат мацней прывязваецца да той культуровай ідэнтычнасці, якую прыняў цераз пакуты, чымсьці да тае, якая лучыцца з прыемнасцяй і раскошаю. Прыклад грэкаў і рымлянаў, адсунутых у цень. Хаця Праметэй таксама пакутаваў за людзей і дзеля іх, як і Пакутуючы Слуга Ізраілю або ў рэшце рэшт Ісус. Усвядомленне рабства (суб'ектыўнага і аб'ектыўнага, у дачыненнях з жыццём, багамі, іншымі людзьмі, структурамі) запачаткоўвае цалкам іншую рэлігійную звычаёвасць, моцна насычаную імкненнем у будучыню, зразумела, лепшую. Вызвольная хада чалавецтва – ад першаснага граху ў Аркадыю будучыні – гэта паварот у трактоўцы асобы (душа ў якасці ўнутранай патрэбы збаўлення) і цывілізацыі (царква як зямное ўтварэнне).

Надзвычай моцна пераацэньваецца ўплыў грэкаў на еўрапейскую цывілізацыю. Яе, еўрапейскую цывілізацыю, утварылі і працягвалі – несумненна – жыды. Германскі рэсентымент, у выніку якога дайшло да зніштажэння еўрапейскіх жыдоў, быў вынікам прыхаванай перакананасці ў сваёй уласнай, болей «жыдоўскай» місіі· немцы, баючыся гісторыі, якую самі абагаўлялі, пачынаючы ад Фіхта, Канта, Гегеля, хацелі такім чынам самі сябе забіць, таму што не ўдалася ім ідэалізацыя Грэцыі (і Германіі) і таму

заставалася ім адно: сцерці жыдоў на попел як народ, які нагадваў пра сакральныя памеры гісторыі. У выніку з'явілася гэта негацыяй цывілізацыі і рэлігіі. Скок у бок негатыўнага абсалюту – парабіліся варварамі. Такім чынам гітлерызм і камунізм закончылі нігілістычны і праметэйскі шлях гістарычнага чалавецтва.

Ці знаходзіліся доказы любові да Бога? Сустракаюся з доказамі любові чалавека да чалавека і да Бога. Не Бог, але і так не чалавек вырашае пра жыццё і смерць. Ключ да кожнае рэлігіі ў тым, як растлумачвае яна і перамагае чалавечыя пакуты і смерць. Такіх ведаў ніколі не могуць даць чалавеку ідэалагічныя рэлігіі. Любоў чалавека да Бога – гэта рэлігійная любоў чалавека да чалавека.

**20**

Свет гэты рэчаісны. У аднолькавай ступені фармуе прынцып відавочнасці, як і невідавочнасці, тайніцы і ведаў. Ён не матэрыяльны ані спірытуалістычны. Гэты свет жывы і рэчаісны.

Фаербах: Бог ёсць чалавек, чалавек ёсць Бог. Чалавек ёсць Бог і Збавіцель чалавеку. Шэлер: Чалавек ёсць малітва жыцця. Хайдэгер: Чалавек ёсць Пастыр Быцця. Штырнэр: Фаербахаўскае вызваленне па сваёй сутнасці замяняе «Бога па-за намі» – «Богам у нас саміх», а індывідуум і Чалавек – гэта не тое самае, і таму трэба даканаць Бога і Чалавека дзеля Адзінага. Далей Маркс – ні адзінка, ні Бог, толькі гегелеўскі працэс, які робіцца аб'ектыўным і дыялектычным гістарычным матэрыялізмам. Ніцшэ: хрысціянства – гэта платанізм для народа, пакутніцтва і рэсентымент слабых; трэба людзей моцных, звышчалавекаў. Далей: богачалавечнасць у рускіх (Салаўёў...). Фрэйд – Бог, які не ўва мне, не акрамя мяне, ён з мяне, экстатычны дэтэрмінізм прагнасці да жыцця і смерці. Сартр, Камю, Калакоўскі. Думка пра Бога не як пра Першапрычыну, не як пра Найвышэйшае Сумленне, Санкцыю, але як пра Будучыню, якая Ствараецца. Бог – гэта не Бог як асоба, прынамсі той, якому моляцца еўрапейцы. Такога Бога няма, таму што няма ўжо індывідуальнага шляху ў трансцэндэнцыю. Справа не ў абміранні нутранога напалу, але ў нечым глыбейшым: вера не стварае міжчалавечых каштоўнасцяў. Самастойных, без патрыятычных або іншых пачуццёвых дамешак. У кожнага свая пустэча, якой ён моліцца і якая маўчыць. Голыя сцены душы – аздобленыя, нацыянальныя, ганарыстыя ды з шолахам банкнотаў касцёлы.

Усё ж жудасць гэта: збавіць самога сябе!

## II

**1**

Усе гэтыя дні, стому, ашаломленасць, скандалы, крыўдаванні, упадак духа, узлёт надзеі, пачуцці братэрства, творчую напружанасць, экзістэнцыяльную падвінчанасць мушу я пераствыраць у выратавальную жыццю праўду, у дзейсныя пачынанні і думку. Гэткаму дзеянню, стваральнаму, патрэбны прынцыпы адначасна універсальныя і адзінкавыя, якія дагэтуль прадвызначалі рэлігійныя або рацыяналістычныя паводзіны. Чаму не ў змозе я выхапіць з руіны патрушчаных аўтарытэтаў гэткую спадчыну і гэткую менавіта будучыню, на якіх не ўгледзеў бы адбітак свайго недаверу, скепт'''насці, крытыцызму, немагчымасці паверыць, адчуць спагаду ў несціханай прагнасці Божага, праўды большае, чымсьці быдлячае існаванне ў будзённасці?

Жыццё заўсёды суадносіцца з жыццём, як чалавек з другім чалавекам, і гэта самая пэўная трансцэндэнтнасць: пераўзысці самога сябе, сваю задаволенасць, сваю роспач, разам з тым спадзеючыся, што ў сувязі чалавека са светам, паміж абаімі людзьмі, народзіцца болей поўны сэнс (каштоўнасць) існавання, чымсьці ўсяго толькі ўпартая воля ўстойлівай працягласці, чымсьці толькі згода на акаляючую цемру неспазнавальнасці. Надзвычай цяжка жыць адно ў часе, але нічога іншага нельга ўявіць сабе; лягчэй, дарэчы, нябыт, чымсьці вечнасць, зло, чымсьці дабро, роспач, чымсьці шчасце.

**2**

Пазбавіўшыся вонкавай зняволенасці, надалей адчуваю магутную ўнутраную зняволенасць як вынік пачуцця краху даступных мне пазнавальных і эмацыянальных маштабаў, пачуцця нетрываласці дагэтуляшніх анталагічных прынцыпаў, пачуцця краху рацыяналістычных і рэлігійных міфаў Праблема не ў тым, ці верыць у Бога, ці ў Розум, у аб'яўленне ці ў тэхніку ды ідэалогію, бо ж без зменeнага розуму не адбудзецца адраджэнне і рэлігійнага жыцця, без зменeнай рэлігіі не адбудзецца перамена і штодзённага розуму, практычнага розуму. Ідэалагічная гісторыя закончылася на нашых вачах, вызваляючы незакончаную калісьці нацыянальную рэвалюцыю ва Усходняй Еўропе. У Польшчы жывем у крэдыт, не прыгледзеўшыся глыбей уласнай нацыянальнай традыцыі, і цывілізацыйнай, уласных трагедыі і банкруцтва. Надта лёгка адчуваем драму існавання, занадта лёгка, каб угледзець свае заганы і наканаванасць у раптоўна хуткай цывілізацыйнай ды этычнай хадзе. Ужо позна нам, можа быць, дабіцца нацыянальнага, культурна-цывілізацыйнага зруху Незваротна рухаецца кола лёсу малых народаў на ўзмежжу Еўропы, жорстка асуджаных вялікасцю азіяцкай Расіі. Ну і што мы? Хвалімся пабоямі, сантыментамі, драмамі з усяго XIX і XX стагоддзяў, і з папярэдніх, хвалімся махлярствамі, ілюзорнымі каштоўнасцямі, у рэшце рэшт аніколі не праверанымі, такімі як: талерантнасць, дэмакратыя, несупынная работа над самім сабою, над нацыяй, над інструментам, пазбягаючы метафізічнай адказнасці і велічы ў вяках. Тайніца існавання нам недаступная?

**3**

Сняцца мне начамі тыя дні, калі будуць, урэшце, распушчаны ўсе партыі і ліквідаваны ўсякія сувязі, сістэмы ўціску і дурноты, несправядлівасці, махлярства і ліпнай дзейнасці Жыццё загнівае ў кватэрах, установах, у нечакана вульгарнай кансумпцыйнасці, у вырастаючых касцёлах, з якіх уцякаюць багатыя ксяндзы, – ад хрысціянскага жыцця ўцякаюць, ад людзей у аўтамашынах замежных марак, купаючыся ў патрыятычнай рыторыцы, балбочучы пустазвонна. Рэлігійная тандэтнасць і палітычная тандэтнасць. Наша спадчына і дзяцінства! Унутры і навонкі: жывучыя нянавісці і даўнія эсхаталогіі без этычнае яснасці, без ачышчэння. Гэта так, я нездаволены сабою. Жыццё гэтае халтурнае, прытворнае і агіднае! Невыносна часта дакранаюся я да амплітуды настрояў: ад эйфарыі да дэпрэсіі, ад агрэсіі да згоды на такое, недастатковае тут, жыццё ў краіне, якая мне бацькаўшчынай, духоўнай і фізічнай. Сённяшняй ноччу заплакаў я ў сне над кожным жыццём (чалавечым і звярыным), якое мусіць скончыцца смерцю. Гэтак жа і на яве, калі ідзеш, едзеш, наведваеш родную Вармію, сустракаеш дзяўчат, старых, п'яных і хворых. Неба, якое імкнецца табе ў зрэнку вока. Вычэрпваеш бачныя хвіліны А куды падзелася аўтанамічная вонкавасць? Непазнатнасць свету стамляе.

**4**

Пішу вершы, бо ненавіджу, бо не хачу ненавідзець, бо хачу нешта выратаваць, дабіцца адкуплення, бо бачу адходы жыцця, фрагменты велічы, кавалкі мяса, якое роспачна кліча да сябе тую гістарычную і тую экзістэнцыяльную ўпэўненасць, бо хачу схапіцца са светам цэлым, бяссэнсавай, містыфікаванай гісторыяй, злачынствамі разбойнымі, махлярствамі, войнамі. Пішу, бо не ведаю, бо хачу ведаць, бо баюся ўласнага зла, яго актыўнага ўяўлення, бо нванітна абрыдлі мне сервілізм, прапаганда, чэрнь тратуарная, бо няўпэўнены я ў Богу, у рацыі, у дзяржаве, бо ўпэўнены я ў болі, у зняверанасці, у крыку, бо хачу ўпэўніцца ў самавызначальнасці дабра і свабоды.

Той, каго паніжаеш, стамляе. Стамляе і краіна. Моцна адчуваю недарэмнасць, хаос і часовасць, яшчэ болей узмоцненае ад стану заняпадаючай Польшчы. Няшчасная свабода? Аніколі! Трэба вырашэнняў, датычных не толькі гэтае краіны, а ўсяе еўрапейскай традыцыі. Новай крытычнай філасофіі, грамадскай і культуровай, людзей вольных.

**5**

Супраціў гэтаму, каб будзённасць зніштажала любоў, узмацняла нянавісць. Вельмі лёгка любіць тое, чаго няма, што не існуе. Гэтак жа лёгка адчуваць пагарду да іншага чалавека, рабіцца абыякавым. Шлюбны стан – гэта шлях, на якім любоў застаецца крыху ззаду, хоць і намагаецца не адставаць, зазірнуць табе ў вочы, угледзець усяго цябе, а дзякуючы гэтаму каб і ты зноўку змог убачыць усю выключнасць, выбранасць каханага табою чалавека. Адняць любоў у закаханых, пачуццё бяспечнасці і ўзаемнае павагі, – гэта заняць пазіцыю смерці. Адняць бацькаўшчыну ў любячых яе людзей, перадаць яе дзяржаве, уладам, – гэта таксама заняць пазіцыю смерці.

### 6

Як жа велічным і прыцягальным можа стацца зло ў грамадскіх маштабах, калі няма іншага выйсця ў тых псіхалагічна-грамадскіх умовах, у якіх ты апынуўся, а ў самім табе ўсё яшчэ існуюць нейкія ірацыянальныя перакананні, што ўзніклі ад тае няпэўнасці, ці жыццё тваё не ідзе ў пустапаш. Бяздольнасць спараджае благіх людзей, натоўпы іх, што рухаюцца ў прывідным адзінстве ірацыянальнай нянавісці. Хворая зненавіджанасць самога сябе мусіць знішчожыць аб'ект, якім пагарджаеш і якому зайздросціш. Гэта ўжо не той ты, які быў упачатку. Гэта ты ўжо нехта іншы – жыд, цыган, атэіст, пратэстант, камуніст, ліберал, масон. Вырашэнне дае выкаранёнае тваё «Я» і ўзводзіць новую моц у выглядзе нігілістычнага «Мы». Пачуццё трагізму жыцця не прыводзіць да жывёльнасці і сервілізму. Толькі бяздольнасць стварае нядобрых, злых людзей (можа быць яна ўяўнай); людзей, якія ўцякаюць ад духоўнае рэчаіснасці.

### 7

Здаецца нечым надзвычайна ашаламляльным менавіта, што з мяне той, а не іншы чалавек, што так і не інакш сфармаваўся я, што сустрэў у жыцці тых і толькі тых людзей, і што ёсць у мяне сям'я. . Калі кахаўся, прыходзіла да мяне тая думка, што замагільнае жыццё і няясныя спадзяванні на яго зусім бяссэнсавыя, калі мецца на ўвазе смерць як нешта настолькі вялікае і магутнае, што прападае ад яе ўсякі вопыт (калі не забываць, што збаўленне – гэта таксама вопыт) Ніколі і нішто не бывае бесперапынна тым самым, чым было, і такім назаўсёды адзіным, тым болей у тым скурчы, у параксізме пачуццяў малітвы. Жывем не памятаючы, што адышлі ў цень нябыту цэлыя народы і эпохі. І самі мы губляем эмоцыі, пераконанасці, гады. Што ні момант, заўсёды канчатковасць.

Пабыўшы трохі ў Торуні. Два незвычайныя касцёлы, іх ашаламляльнае нутро Першнаперш містычнае распяцце і ўкрыжаваны на дрэве жыцця Ісус. Чорны гатычны Хрыстос, аблічча якога мучыла мяне і не давала душэўнага спакою аж да світання, калі не могучы заснуць у тым гатэлічку ўцяміў, што ўжо не хачу я так далей жыць: вечная прага да веры, вечная ўпэўненасць у тым, што адкупішся пакутамі.

Ці магчыма бязмежна любіць Бога і быць вольным? Магчыма. Бог – гэта любоў і свабода адначасна, хоць вельмі можа быць, што Бога зусім няма. Яго існаванне – гэта для мяне другарадная справа. Важнейшым лічу спосаб жыцця з Богам або без Бога, лёс чалавечае адзінкі і цэлых грамадскіх групаў, таксама нацыянальных, у гісторыі ў імя Бога або і без гэтага імя. Шукаючы апоры ў Богу, людзі замучылі дакладна столькі людзей, колькі замучылі, выступаючы супраць Бога. Бог у дзеючым чалавеку – гэта выбраны Бог, племянны, цывілізацыйны. Гэта фактычна бажко, ідал. Большасць людзей верыць у ідала, не ў Бога, а самы значны з ідалаў уяўляе сабою туманец, нацыянальны забабон, падман, кліч іншых на суд, дазволенасць забіваць, абдурваць. Сапраўдны Бог ёсць у самім табе або яго ўвогуле няма. Сапраўдны Бог ёсць адзінкаю або адсутнічае ён, што цалкам дастаткова ўказвае на драматычнасць таго чалавека, які рэлігійна і этычна ўражлівы Заўсёды сам-насам з уласным жыццём, яго каштоўнасцямі, перакананнямі. Не прымаю я Бога выбраных народаў, звышчалавекаў, Бога жывых і памёрлых: пераможанага Бога.

### 8

Першае, што авалодала мною, гэта адчуванне гідасці ўперамешку са сполахам. Гідлівасць матэрыяй і целам, прыродай і канчатковасцю, агіда, якая корміцца ненаеднасцю жыццём, полам, сэнсам, шчасцем. І тая ненасычанасць: жахлівая роспач па прычыне неабходнасці памерці, знікнення радасных станаў, адмятання ад сябе няшчасця Пакутліва адчуваю брак у блізкіх мне людзей рэлігійных адносінаў з іх боку да мяне і не толькі, хаця песімізм гэты мой цалкам рэлігійны, выклікае спачуванні да ўсяго жывога і мёртвага... Ды, як часта я тым самым дагаджаю самому сабе, вось рыдаючы ў адзіноце. Ці надыдзе калі гэткі час і пара, што не будзе ўва мне адчування ашуканасці?

Смяццё ў галаве: калі іду вуліцаю, калі ляжу на падлозе свайго пакоя, працую, тады аказваецца як быццам смяццё часоў: ашматкі гутарак, успамінаў, памятных запісаў ахвяраў таталітарных сістэмаў, містычныя запісы Рамантыкаў, прыгожыя твары, рэсентыменты, Бог, папа рымскі, Міцкевіч, Міхнік, Валенса, Мілаш, Ват, мая маці ў слязах, якая ў старыя гады ўспомніла нейкія свае забытыя беларускія малітвы; цытаты, карціны, сентэнцыі, страх, прыніжанасць, агрэсіўнасць, захапленне, супакой...





Гэтая чалавечая веліч, якая прымушае да пошукаў праўды ў этыцы, на шляху, па якім ідзе чалавек да сябе і да іншых, непрымальная грамадскім і рэлігійным таталістам Адчуванне святасці, якая ахвяроўвае жыццём або годнасцю. Толькі Ісус не дае мне спакою. Яго ныя веліч і шаленства, дзікасць і пакута. Жахам і, адначасна, дзіўным спакоем пранізваюць мяне словы Ісуса, распятага на крыжы: Госпадзі не адступайся ад мяне! Калі верыць гэтым словам, дык толькі так: сказаны яны ў роспачы канчальнай, сам-насам з трагедыяй чалавецтва. Не трэба жыцця векавечнага, несмяротнасці, суду і кары, пекла і раю. Як жа хочацца ведаць Напэўна, што чалавечая этыка без абсалютных санкцыяў не пераменіцца ў варварства, і што чалавек – які ён ёсць без аніякіх ілюзій, але і адважны на быццё, – застаецца адзіным трансцэндэнтным рухам, што выходзіць навонкі сябе па праўду і любоў

Дзякуючы, аднак, няведанню магчыма жыць. Скажы, што гэта такое, чым ты якраз жывеш, хвалюешся, адкуль у цябе столькі сумненняў, хістанняў, драмаў, тугі. Сам перад сабою разыгрываеш уласную пустку. Глянь, які смешны Сартр, прыхаванае Хайдэгерам зло, драбноцце спакус у Жыда, літаратурнасць у Жэнэ, горычная ашалеласць у Чыярана... Так, культура шмат схоўвае, замоўчвае Колькі намучылася сама сабою Еўропа. Колькі захапляліся гульнёю, махлярствам, фіктыўнасцю літаратура і філасофія. Гэта помнікі і магільні чалавецтву, якое вечна валачэцца той самай дарогаю людскога болю. І таму гэта святло адтуль свеціцца, маральнае святло, хаця добра не вядома, хто яго ў сапраўднасці запаліў. Пустка, маё нутро, няўладжаныя пажаданні, шчасная выпадковасць, фанабэрыі, выключныя пакуты ды ў рэшце рэшт уся спадчына ўсяго чалавецтва, якая раз-пораз выяўляецца ў маладым чалавеку

Мне нецікава з людзьмі. Няма ў мяне жадання гутарыць з імі. Што мы адзін аднаму скажам? Неўзабаве, аднак, кажу сам сабе: апамятайся! Літуюся над сабою, і над іншымі, бо баюся прамарнаваць жыццё, дастаць хваробу, пастарэць, уяўляю ўласнае падла ніжэй травы і цішэй вады, лахмоцце ад упарахнелай крыві, жылаў, валасоў Паніжае мяне тое маё міжвольнае думанне, падатлівасць падсвядомай уяве тлену, калі тым часам намагаюся супрацівіцца гвалту лёгкадумнай ірацыянальнасці Гэта не цяпер, гэта яшчэ ў дзяцінстве нешта раскалола мяне, і зараз, вось, адгукаецца тое.

### 9

Непрысутнасць Бога ў свеце, зло і пакуты – такога абсурду аніякая рэлігія не вытрымлівае. Смерць асобы і знікненне ўсіх людзей – усё тое магло быць растлумачаным драмаю Ісуса Хрыста, таму што распяцце Чалавека-Бога не дапускае папрокаў і ўсякага падабенства з іншымі рэлігіямі свету Няўжо хрысціянства трэба лічыць адзінай аб'яўленай рэлігіяй? Не магу я з гэтым пагадзіцца; баюся Ісуса, столькі жахлівых і пустых смерцяў навокал, цяпер і ў гісторыі, а ягоная смерць зусім не растлумачвае іх, хутчэй за ўсё абмінае сваёй увагай, пакідае незаўважанымі

«Ператварэнне» Кафкі як сімвалічнае ўяўленне чалавека аголенага з трансцэндэнцыі. Ператварэнне ў адваротнасць. Не ў анёла, але ў быдляціну. Чыстая праблема думкі, застылай у каменнай масе, мярцвечыне, крышталі, экскрэментах. Матэрыялізацыя эсхаталогіі.

У працэсе паэтычнай дасведчанасці з'яўляюцца моманты адназначна вонкавай інспірацыі. Паэт ацішае сваё свядомае «я» і паддаецца нечаму кшталтам медыума, якое можна вызначыць як экзістэнцыяльную ўвагу, часова пустой канцэнтрацыяй, пасля чаго чэрпае ён энергію з усяе сутнасці чалавека На гэтым полі сустрэчы экзістэнцыяльнай увагі з канцэнтраваным светам (знікае падзел на псіхіку і матэрыю) суб'ект увасаблення стаецца рэлігійным чалавекам, г.зн. набывае ўпэўненасці ў рэальна існуючым Абсалюце. Гэтае пазнанне, якое інтэгруе веды з інтуіцыяй, памяць з уяўленнем, уражлівасць на зло з ачышчальным жыццю трансцэндэнтным паказнікам, упісваецца ў ператварэнне паэта, дзякуючы чаму можа схіліць яго да прыняцця абсалютнае адказнасці за слова рамантычным жэстам новавяртання або гэтак жа ўжыццяўленнем рэлігійнага падпарадкавання сваёй творчасці і жыцця Богу, Адзінай Праўдзе, Ачышчэнню. У гэтым працэсе нявечнае пераўтвараецца ў непазбежнае, а вечнае – у стала прысутнае.

«Ператварэнне» Кафкі можна палічыць супраціўным увасабленню з жыццём, яскравым пазбаўленнем трансцэндэнцыі, рэлігійнай выпатрашанасцю, але, разам з тым, які знак бунту супраць гнілому, гаснучаму свету. У цемнаце жывіннага цела бліскае індывідуальнае святло ад небездумнага сумлення.

III

21

*Чалавек сатане падобны... а таму, што паводле сябе ён, гэта значыць, паводле чалавека* – Аўгустын Маркс: .. *ды карані чалавека ў самім чалавеку.* У гэтых двух сентэнцыях ключ дзеля зразумення духоўнае прыгоды чалавека Захаду. А самае дзіўнае тут у тым, што нейкім чынам усё зводзіцца да аднае крыніцы. Інтуітыўна ведаю я пра гэта, як і гэтак жа ведаем пра адвечнае кранёўе зла. Тое, што напаўняе гэту крыніцу, магчыма вызначыць як спалучаючыя сябе Міф і Утопія, ад чаго праблема часу, значыць і гісторыі (увасобленага Бога або ўвасобленай зямное шчаслівасці, якую рэалізуе каста выбраных, выбраны грамадскі клас, партыя), лічыцца галоўнай у разуменні ўсяго таго бяздоння Тое, што выпадковае і гістарычнае, напр цела Ісуса Хрыста (Сын Божы) або з'явішча часу і эпохі, стаецца дэтэрмінаваным вераю-пазнаннем выбраных, і ўжо вядома, што будзе далей: збавенне або смерць, абсалют або язычства, спальванне на агнішчы і наварочванне сілком на веру, пачуццё місіі ў тых, каму даверана тайніца. Кожная ўжыццёўленая чалавечая рэлігія аказваецца ў рэшце рэшт палітычнай магіяй у руках затоеных атэістаў!

22

У невялікай Іерусалімскай капліцы ўкрыжаваны Ісус задыхаецца ў атачэнні ўсяляк пакрыўленых злыдняў. Памаляваныя барочныя, выгібістыя, фігуры. У гэтай цеснаце, што аж выпірае Распяцце навонкі, гудзіць лямант старэчаў, спевы і прычыты. Старая ў чорным адзенні, што прыкіпела ля ўваходу, гаворыць сама з сабою, усё пазіраючы на вулічны брук, над якім, у сонечны красавік, падымае вецер хмары колкага пяску.

У касцёле святога Ваўрэна, што з драўлянай вежаю, з якое гэта некалі прыглядаўся бітве сам Напалеон, чуваць уладны голас ксяндза да дзяцей, што забываюцца быць паважлівымі ў святую імшу. У тоне яго голасу адчуваецца нейкая ваяўнічасць, што нагадвае ў думках крыжацкія часы ў пару хрысціянізацыі колішніх тут прусаў. Вера, бы той верабей, фыркнула на жалезны крыж поблізу

Меў я сон, у які чуў Бога: распавядаў ён мне пра веру і паэзію, пра іх тоесамую фінальнасць. Я Яго не бачыў, але з саладосцяй адчуваў і голас і ўсёабдымную блізкасць Ягоную. Прачнуўшыся, каб запісаць пачутае ад Яго, нічагуткі ўжо не памятаў На працягу ўсяго дня намагаўся я быць гатовым для прыняцця перажыванняў (добрых і нядобрых), сродкамі якіх кантактуе з намі неспасцiглае жыццё. Мушу ўвесь змяніцца я ўнутры самога сябе, дзякуючы паэзіі. да самюткае паўнаты і адказнасці за слова, учынак, жыццё.

Размаітасць лёсу, яго мова, задыханая, цяжкая і сырая, або зноўку празрыстая, сонечная, шматгалосая, ціхая іншы раз, глухая, або гуллівая ды рэханосная. Пазязюльчынаму куе час, дзятламі стукацiць прастора. Маштабы бездарожжыцы на папаратнікавым шырокалісці, заплаканы позірк вожыка. Паляўніцкія старыя вышкі, сляды дзікоў, рознаколерная зелень бярозавае лістоты, альшынніку, соснаў і хвояў, дубоў. Лес розны. то сухі і вынішчаны, брудны, то вырытае дзікамі каранёўе дубоў, то сасновік з лёгкім подыхам бязмежнае пагодлівасці. Міготкае і паркае паветра лета. Нечаканы прылёт страхаў: раптоўная адзінота і анямеласць рэальнасцяў. Кароткахвілінная роспач. І пасля, бы ў нейкае збавенне, далятае карканне пары старых крукоў.

23

Дакранаўся я невыказнага экстатычна: рыхтуючыся пісаць і пішучы, калі адчуваў сваё адзінства з нейкім прапрынцыпам рэчаіснасці як непазбежным Дабром, у станах ініцыяцыі з прыродаю, у любоўі, роспачы. Звечарэла, а ўсё іду шашою побач дрэў і палёў, што прасціраюцца за мястэчкам. Нясмелы дождждык, нізка над зямлёю бурыя і цёмныя хмары. Іншы раз апускаецца каторая з іх долу або нешта паказвае абшарпаным пальцам на небакраі. Нарэшце супакоенасць, згода на гэткі, а не іншы час, на гэтае ж цела. Вера ў самога сябе. Трэба мне сталай трансцэндэнтнай акцэптацыі, аднак жа яе праявы выклікаюць ува мне супрацiў, хоць і прыносяць жа суцяшэнне. Западозранасць мая ў тым, што мае спробы ў будаванні рэлігійнага светагляду не больш чымсьці заменнае дзеянне ў становішчы палітычнага і грамадскага крызісу. Тым не менш рэлігійнасць – гэта мой біялагічны стан, не інтэлектуальны, бо жа ж інтэлект мой надта





скептычны, а цела маё рэлігійнае, г.зн. у ціску чакання вышэйшае ласкі, ад якое пераўтварылася б у несмяротнае. Цела мудрэй за мяне, яно дае раду абараняцца ад небыцця.

24

Як пазбегчы міфалагізацыі гісторыі, як запыніць хаду гісторыі, якая раба можа ўвесці ў захапленне, даць асалоду рэлігійнаму фанатыку Хрыстос прыдаў сэнсоўнасці руху еўрапейскай гісторыі, увасабляючыся і прадвяшчаючы другое сашэсце Гегель узвысіў і абсалютызаваў дзяржаву як самарэалізацыю аб'ектыўнага духа, тым самым пракладваючы шлях таталітарызмам. Дзевятнаццатае стагоддзе, можа быць, толькі цяпер канчаецца ў Еўропе, і разам з ім абагоўленая гісторыя. Час ужо і пара перастаць верыць у яе!

25

Усё сумняваюся несціхана Ва ўсякім выпадку, адкідаючы Бога як асобу, прытрымліваюся (дзеля чаго?) паняцця Трансцэндэнцыі, якая вяжацца з пытаннем сэнсу. Жыць жыццём неабдураным· у канкрэтнай краіне, у мясціне роднай ды ў часе, без прыхарошванняў, без ідэалізацыі, і вучыцца творча жыць тут і цяпер, пераадольваючы налёты слабасці. Набожлівасць у партыйных і каталіцкіх газетах. Аднастайнасць каштоўнасцяў, духоўных.

Адно бясспрэчнае, гэта тое, што Бог – мой жа экзістэнцыяльны нябыт, што пранізвае мяне, і называю тое духам, трансцэндэнцыяй, пусткай, ненаеднасцю, непрыступнасцю. У рэшце рэшт бракуе веры – іначай· рашучасці, заўсёды хістаюся над прорваю, запыняюся перад рызыкай.

Веры трэба нечага большага, чымсьці пазнання, патрабуе яна ўдзелу Небяспека ў тым, аднак, што вера можа зрабіцца самастойнай, калі не сутыкаецца з Богам; можа тады пераўтварыцца ў шаленства, у інквізіцыю, у ідэалогію, стацца фальшывай вераю Важны тут самастойны чалавек, свабодны менавіта дзякуючы веры, а не самастойная вера, што пужае мяне, карае, палохае пеклам, засланяецца нудотаю догмаў рытуалаў. Найпершая патрэба ў чалавеку – гэта патрэба метафізічнай упэўненасці.

26

Здзіўленне і пярэпалах жыццём і светам. Станы прагнасці і пусткі Братэрства і роспачы, бунту і згоды Вось мае станы ласкі. Вось станы мае неўрозы

Пішучы вершы, безупынна адчуваю ўласную смерць. Свет існуе, толькі існуе, хоць жыццё на ім адзінае. Хаджу і ўважліва асочваю вонкавасць. Адзін узмах чыесьці далоні, чалавечая фігура ў сонцы, гарачыя каханнем грудзі жанчыны, наструненае ў маразечу ранішняе святло, – усенька існуе ў вонкавым і псіхічным часе як пранізлівая патрэба вечкавечнасці. Выліваецца на мяне воблака свету. Хаджу адурманены ды кідаю ў неба галоснымі. Заўсёдна далей я знаходжуся, і глыбей, чым іншыя за мяне. З'явіўся я на свет як пачуццё, а смерць, што чакае, патрабуе ад мяне светапогляду Ізаляваны і супольны, уласны і чужы, спачуваючы і бязлітасны, жывы і памерлы. Я ёсць.

Паэзія дала мне незалежнасць ад Бога, у паэзіі прычына таго, што Яго ўсё шукаю ў рэчаіснасці і да Яго вяртаюся неспатолены, з жыццём у руках. Паэзія часамі паглыбляецца ў тую тайніцу, што Бог уяўляе сабою адзін са шматлікіх этапаў праўды, якой нікому не дадзена сцярпець. Паэзія як адкупленне жыцця, адкуль і бярэцца яе рэлігійнае прызнанне без розніцы на запаветы светапогляду. Паэзія метафізічнай канкрэтыкі – саматрансцэндэнтнай рэальнасці Паэзія ёсць цела метафізічнае.

Няхай так будзе да канца жыцця майго, але жыццё гэта маё, выбранае мною, якому прыдам сваю назву, атаясамлю яго, авалодаю ім, і скажу: гэта цела маё, гэта мой гнеў і нязгода, гэта я, гэта ты, гэта кола святла, вось межы розуму, вось валадарства. Паўстань ды ідзі, вядзі рэальнасць, ляпі яе, асмяшай, абурай, пазбаўляй махлярства, але выказвай лахманства і бляск свайго ды іншых жыццяў, гэтага свету, гэтай вялікай і адзінай, непаўторнай выхаваўча-працоўнай калоніі, якую мус зразумець, каб не паддацца ёй. Паўстань ды ідзі. Ідзі палыхаючы! Твая смагавітасць і пярэпалах – гэта шчырасць ашалелага ад патрэбы рэальнасці звяругі! Твая патрэба бяспекі, любові – гэта тваё, па-першабытнаму некранутае, старонняе, дзяцінства людскага Бога. Адшукай мову і памяць, тую ўяўную мову, якая ўся з праўды, адшукай мову, што акунулася

ў плянь штодзённасці, у будні, у глыбіні бацькаўшчыны, Бога і Сатаны, у фурыю і стогны плачу, у тое, што на сутоку цела і сну, роскашы і нянавісці Адшукай мову, што падпальвае слова!

**27**

Яшчэ і яшчэ ты з гадамі павінен выбіраць новы змест перажыванню, павінен пражыць жыццё сваё праўдаю і вераю. Не хачу рытарычных падзелаў. Натуральная містыка, пантэізм перад абліччам пагразу бліжэючых светаў? Няма магчымасці апісаць рэчаіснасць, яе толькі ствараюць. Эпохі ўзвышаюцца безгалоса. Вельмі шмат крыві ў жылах традыцыі, вельмі шмат махлярства ў паказных праявах авангарду. Колькі спусташэнняў ад ідэалагічных і рэлігійных утопіяў Махлярства як стрыжань будняў таталітарных ідэалогіяў. Ідэакратыя як асяроддзе ашуканства і гвалту

Болі жывата і болі галавы, зрэдчас уедлівыя, пранізваючыя нутро холадам; болі разбягаюцца ў мноства скурчаў Валачоба або шпацыр у глыб лясоў, у якіх апусцелыя вёскі, хаціны ў руіне, завалы, узведзеныя немцамі будыніны, абочыны, люстра вады, дачныя хаткі, аўтамашыны, лясныя і азёрныя ветрыкі, мая Вармія, крук ганяецца па небе за мышаловам, казёл з чароўнымі рогамі ўладна крочыць сцяжынаю, якою ўчора ішоў я, думаючы, што ніхто тут важней за мяне, а воддаль: бронзавая і велічна маўклівая магутнеча імхоў. Галытва ўперамен з багаццем, думка побач з бяздумнасцю Уцёкі, імклівыя, бы смерць. Мой народ пакідае ўсё, што служыць працы і надзеі, мой народ, мая зямля, мая адзіная планета з замкнутай прыгажосцю

**28**

Адзіны трансцэндэнтны і важны суб'ект жыцця – гэта чалавек, які ў садружнасці са светам перажывае, кляне, пакланяецца, пераўтварае, дамагаецца тлумачэнняў, у рэшце рэшт гіне. Закончаны саматрансцэндэнтны свет? Так, але этычнага, г.зн. свабоднага чалавека Чалавек, які глядзіць на свет, не думае пра Бога, ён сам стваральнік свету.

Існасць маёй свабоды – гэта быць чалавечным. Мне не абысці традыцыі, як і не абысці сумлення Але выбар мэты ў маіх усё ж руках. І шлях да яе Пакутую ад таго, што не веру ўжо ў т.зв. Вялікае Абы-што. Бясплоднасць небыцця абязвольвае мяне, не хочацца псіхічнага смецця

**29**

Калі чую ў імшу эўхарыстычныя словы (*гэта цела маё; гэта кроў мая...*), пачынаю ўспрымаць іх у літаральным сэнсе. Трапляю тады ў шок: адчуванні канібальства і, разам з тым, паважлівасці да таго, што адбываецца ля алтара Млеўкасць і раптоўная слабасць. Не магу маліцца ў касцёле Патрацію я сувязь з тымі людзмі Мушу пакінуць гэтае месца. Не ў ім Бог прысутны. Містычнае баляванне, звышкаштоўнасць чалавека, зніштажальнае гэтаму цывілізацыйнае ўспрыняцце Уся наша культура змяшчаецца ў тым глытанні ежыва, Бога, каб стацца гэтак жа чыстым, мацавітым і несмяротным. Уласна кажучы, з'ядалі некалі цела ворага, каб авалодаць ягонай мацатою Гэтак жа жахлівы, чужацкі, Бог быў асвойтаны, прынятьі, з'едзены ў імя вышэйшае ідэнтыфікацыі з ім і з яго магутнасцю Гэта тут трэба шукаць пачаткаў веды Тут пачаткі трагедыі і пачаткі асобы чалавека.

Мазоліць мне не тое, ці ёсць Бог на свеце а ці не Другараднае гэта мне Мушу жыць як трэба, па-сапраўднаму, рэлігійна, дапускаючы неіснаванне Бога У тым і павінна палягаць мая сумленнасць у дачыненнях з самім сабою і цэлым светам. Па праўдзе кажучы, маральнай дылемаю для мяне ўяўляецца гістарычная смерць (эфект насілля) і немагчымасць спазнання самога сябе ды блізкіх. Можа быць, яшчэ таму не шукаю Бога, што абмежаваны я, або таму, што я вечны?

Загадка Weil: практыкаванне пусткі, пакуты, недахопу Існуе такі пункт у спіралі болю, ад якога ўсё, што было пусткаю, пераўтвараецца ў апраўданую пакуту: распяты Хрыстос. Таго і прытрымлівалася яна, ненавідзячы Грамадскага Звера, іначай Дзяржаву і Царкву. Практыкаванне пусткі надта лёгка пераўтвараецца таксама ў філасофскую неабходнасць, якая спараджае тую аддаленасць паміж чыстым Богам і зняверанымі чалавекам ды прыродаю Нянавісць да ўласнага «Я» – гэта рухавік у Weil, яе неўратычная моцная закамплексаванасць. Яна святая дваццатага стагоддзя, будучы вялікага таленту пісьменніцай, агольвае змрочную тхлань свае псіхікі, робячы тое з мазахістычнай





задаволенасцю. *Быць падобнай Богу, але ўкрыжаванаму Богу.* Вялікая заслуга яе ў тым, што дацэньвае яна атэізм як этап, на працягу якога паняцце Бога ачышчаецца, а таксама зразумела яна, што вера ў якасці суцяшэння – сапраўдная перашкода гэтаму Яе імкненне быць асабіста нешчаслівай выклікае агіду; яе намаганні ўспамагчы іншых вельмі спрытныя Дзіўна, але і яна пайшла следам за Паскалем: лепей урэшце верыць, бо нічога гэта не каштуе У дадатак была яна пазбаўлена здольнасці фізічна кахаць іншага чалавека. На цела глядзела з жахам. Жудасная ў ёй самаафірмацыя шляхам зніштажэння Ніцшэ закляйміў хрысціянства як веру рабоў Weil, адкрываючы ў самой сябе раба, узышла на шлях да хрысціянства. Два розныя светы!

**ПАЛЯКІ**

Хто такі ведае лепш за нас нашы заганы
дзякуючы якім не пагразлі мы ў варварстве
так характэрным старым нікчэмным нацыям
што такі лепш ведае за нас нашы несталыя горы і нізіны
хто ўпоперак знікаючага ў туманах кантыненту
хто такі ведае лепш выпаласканую з каралеўстваў
і выплаканую бацькаўшчыну у якой палякі
ненавідзелі палякаў
паслужліва і спорна працуючы дзеля чужое культуры
Хто такі ведае лепш за нас хваробы памяці і траўмы
каго пакінулі так калі фабрыкавалі Еўропу
каму гэта нагаварылі столькі высакародных махлярстваў
хто вырас вышэй нас істэрыяй цямнотнасцю і жорсткасцю
у дачыненнях з блізкімі і бліжэйшасцю
хто так моцна верыць не верачы
хто праявіў столькі патрыятызму ў засваенні лацінскіх
і расійскіх класікаў
А ўсё ж адчуваю гэта дастойны век-вечны вецер
калі знаходжуся ў пошуме малапольскага музею
пад заядла пасшыванымі сцягамі
з-пад Кірхольма і Воршы
чуючы ад непрылюднай зямлі танцавальны грукат жалеззем
вакол старых і новых межаў
Ды ўздрыгваю адчуваючы што вырастае з мяне чорная рука
каб прыцягнуць мінулае бы смерць цераз прастрэленую галаву
і адчуваю чырвонымі пятамі што спухлі на расе
што адзін тут стаю
а воля жыць пераўтварае мой твар у полымя

*(Са зборніка «Ідэі», 1991.)*

**Пераклаў з польскай**
**Сакрат ЯНОВІЧ.**

***Казімеж Браканецкі нар. у 1952 г. у Барчэве, былая ўсходняя Прусія. З 1954 г. жыве ў Альштыне. Маці паходзіць з Беларусі, з Талудзі. Бацька з Мазовіі.***

***Пасля заканчэння універсітэцкай адукацыі працуе ў альштынскім Бюро мастацкіх выставаў, і адначасна – ён галоўны рэдактар паўгадовага літаратурна-мастацкага і грамадска-палітычнага часопіса «Барусія» (Borussia – даўняя лацінская назва Прусіі). Выдаў 9 кніг, сярод якіх, адна з апошніх, – «Сшыткі Адзінага», урыўкі з якой і публікуем.***

***Самая цікавая літаратурная творчасць у сучаснай Польшчы наглядаецца па-за яе сталіцаю, што пазітыўна сведчыць пра цэласнае культурна-інтэлектуальнае развіццё гэтай краіны, ейны еўрапейскі воблік. Браканецкі належыць да ліку самых адметных паэтаў новага пакалення, якое прыйшло ў літаратуру ў васьмідзесятыя гады. Яго цікавасць да Беларусі – гэта зацікаўленне каранямі маткі. На старонках аб'ёмістай «Барусіі» штораз часцей з'яўляюцца публікацыі, прысвечаныя беларускай літаратуры. Найперш тае яе часткі, якая ўзнікла і набывае моцы ў сучаснай Польшчы, у Беластоцкім краі.***

**С.Я.**

